# Маладосць

**Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны ілюстраваны часопіс**

**(692) ЛІПЕНЬ, 2011**

**Выдаецца з 1953 года**

Галоўны рэдактар

**Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**

**7**



**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова**
**«Літаратура і Мастацтва», г. Мінск**

## У НУМАРЫ:



***Льготная падпіска для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Ведамасны льготны індэкс — 00731; падпісная цана на 1 месяц — 13 244 руб.***
***Індывідуальная падпіска. Індэкс — 74957. Цана на 1 месяц — 9470 руб.***
***Ведамасная падпіска. Індэкс — 749572. Цана на 1 месяц — 16 694 руб.***
***Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў. Індэкс — 00592. Цана на 1 месяц — 6710 руб.***

Дызайн вокладкі *Веранікі ШНІП,* фота на вокладцы *Кастуся Дробава*
Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютарная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Кацярына ГОЛУБ*

Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.
Пры передруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.

Юрыдычны адрас: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 07.07.2011. Фармат 84×108 1/16. Папера газетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 15,12.
Ул.-выд. арк. 13,53. Тыраж 2403 экз. Заказ 1762. Кошт нумара ў розніцу 11 000 руб.
Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.


**maladost@bk.ru** **http://maladosc.livejournal.com**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь; грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»; рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»**

*Алесь ЕМЯЛЬЯНАЎ*

# СЦЯГ НЯБЁС МАРМУРОВА-СІНІ



***Алесь Емяльянаў-Шыловіч нарадзіўся ў 1987 годзе ў Крычаве, жыве ў Мінску. Вучыцца на біялагічным факультэце БДУ. Друкаваўся ў літаратурных часопісах і газеце «Літаратура і мастацтва».***

* * *

***Вользе Г.***

недасмажанаю яечняй
сонца з талеркі аблокаў
распаўзаецца па заснежаных дахах
у грудзях маіх тваё сэрца
звонам калядным заб'ецца
ты са мною і не са мною
маўчыш
вочы ўтаропіўшы долу
пачую капытны пошчак —
паляванне сучаснага Стаха
абвастрае чуццё
хутка паеду дахам
як назваць пачуццё
што па жылах пульсуе
кіпячай смалы гарачэй
для цябе я не болей чым сябра
ты побач яшчэ?
вяртаю сэрца

## АДЛІГА

***Аксане Спрынчан***

ці то дождж
ці то снег
замест цукру
у каву
сакавіка
кладзём
ты мне
я табе
крочыш побач
па шакаладных плітках бруку
глядзіш на мяне
растаем

разам са снегам
расстаемся
але ж застаемся
разам
ці то ў дождж
ці то ў снег

сакавік нас вітае
адлігай

* * *

баязлівасць можа доўжыцца бясконца
і хавацца па закуццях і завулках,
набірацца й раз'ядаць, нібыта стронцый,
а ў нутры тады так роспачна і мулка;

ды занурана маўчаць —
не лепей выйсце, —
б'е па скронях цішыня
ў сто дваццаць герцаў,
даравання папрашу не для карысці…
засталося толькі ўжыць
тут рыфму «сэрца»…

## НАРАДЖЭННЕ ВЯСНЫ

Сцяг нябёс мармурова-сіні,
ліхтары, як пялёсткі цыній,
а цябе на паненку клініць —
так з'яўляецца шчасце;

вырынае душа з палонкі,
думкі-вобразы мкнуцца вонкі,
адчуваеш сябе малёнкам —
так з'яўляецца воля;

толькі штосьці свярбіць і коле —
мо замала ў паветры солі?
мо са шчасцем не ўвяжаш волю? —
так з'яўляюцца вершы.

## ВЕЦЕР

*Сяргею Верацілу*

колер нябёсаў брудна-ліловы
Вецер
сняжынкі вуснамі ловіць
Вецер
нервам іграе голым
напружваючы пабялянае горла —
стогне хрыпіць захлынаецца слінай
вые крычыць рагоча ўсхліпвае
словы глытае й выкідае ў сусвет
Вецер —
найпершы сучасны паэт

## БАЛАДА ВАР'ЯЦКАГА ГРАМАДСКАГА ТРАНСПАРТУ

У вар'яцкім транспарце,
нібы ў каўчэгу Ноя, —
адчуваеш сябе адным
са шматногіх стварэнняў,
і прытомнасць губляеш
ад перавышку гною,
да таго ж яшчэ — красавіцкая параноя
давяршае карціну
транспартнага здурэння;
і ступіць кудысьці — наіўная спроба,
калі б быў больш пластычным —
выслізнуў бы праз фортку,
але ехаць трэба — нічога не зробіш,
хоць і не Лаакаон, але ж аўтобус,
як анаконда, выцісне ўсе вантробы,
і на заканчэнне —
мажорным акордам —
камізэлькі блакітныя
з палоскаю жоўтай.



Дзяніс МАСЕЙКА

# АБРАЗКІ



***Дзяніс Масейка нарадзіўся ў 1989 годзе ў Мазыры. Вучыўся ў Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце. Працаваў менеджарам па продажах, страхавым агентам, спецыялістам па знешнеэканамічнай дзейнасці. Піша не толькі прозу, але і вершы, драматургічныя творы.***

## КРОПКА

Мы знаходзіліся на кухні. Я піў зялёную гарбату, яна паліла. Я размясціўся спінай да сонца, а яна сядзела насупраць і, мружачыся ад яркага святла, дарэмна спрабавала разгледзець выраз майго твару.

— Ну і? — пачала яна.

Я маўчаў.

— Я думала, што ў цябе размова.

— Усё правільна, — нарэшце я перапыніў сваё маўчанне.

Яна глыбока зацягнулася, выпусціла струмень дыму і пачала разглядаць манікюр на правай руцэ. Я ўзяў кубак, зрабіў два глыткі.

— Думаю, нам варта прытармазіць ці цалкам спыніцца.

— Чаму? — яе вочы зрабіліся сумнымі і задуменнымі. Той позірк, які раней пранізваў мяне да глыбіні душы, аказаўся толькі крывадушнай маскай, якая дазваляла ёй дамагчыся задавальнення свайму самалюбству і эгаізму.

— Спрабаваў пераканаць сябе, — працягваў я, — што людзі з часам мяняюцца. Але гэты свет працуе па сваіх строгіх правілах, якія не так проста парушыць. Гэта ўсё было глупствам з самага пачатку. А ў будучым гэта можа ператварыцца ў яшчэ большае глупства. І я гэтага не хачу. Больш за тое, не збіраюся гэтага чакаць.

— Але хіба нам дрэнна разам?

— Тут няма ніякіх «але». Няма і не можа быць у прынцыпе.

Мае словы абарваліся цішынёй. На сцяне цікаў гадзіннік, за акном гулі машыны, шапацела лісце на дрэвах. У кутку вуркатаў халадзільнік. Яна апусціла галаву.

— Я цябе ненавіджу, — прашаптала яна скрозь слёзы. — Ненавіджу...

— Што ж, гэтае права застаецца за табой. Іншага не чакаў.

Хвілін пяць мы сядзелі моўчкі. Яна плакала, я піў другі кубак гарбаты. Ведаў, што за гэтымі слязьмі няма

нічога, акрамя закранутага самалюбства. Яна зноў прыпаліла цыгарэту. Я паглядзеў на градуснік за акном. Дваццаць сем градусаў спёкі.

— Ідзі, — прамовіла яна ціха і суха.

Я дапіў гарбату і пайшоў абувацца. За ўвесь гэты час яна не вымавіла ані слова.

Калі выйшаў на вуліцу, то адчуў невыказную лёгкасць. Упершыню за доўгі час я паступіў сапраўды правільна. Дастаў навушнікі, уключыў плэер і накіраваўся прэч ад гэтага дома.

Але я ведаў, што гэта яшчэ не канец. Бо параненае самалюбства пачне шукаць помсты. А мне напляваць. Я быў занадта шчаслівы, каб думаць пра такія дробязі.

## БАКАРДЗІ

Слухаю джаз. П’ю Бакардзі. Гэта я. А канкрэтней гэта тое, што называецца ЖЫЦЦЁМ. Рэчы, якія змешваюць з «марозам па скуры» і падаюць нам з лёдам і парасонікам для актэйляў. Але з Бакардзі ўсё не так. Гэта ж Бакардзі! Ніхто табе не выгукае, што жыццё дрэнь, і не тыкае парасонікам пад нос. Гэта ўсё роўна, што змешваць Будвайзер з Джэк Дэніелзам. Падобны «Ёрш на чужы матыў» — успаміны пра ўнітаз у промнях узыходзячага сонца.

Рамантыка…

Ведаеце што, сустрэў нядаўна прыяцеля. Ён так узрадаваўся. Разгаварыліся пра жыццё. Як жа тут не пагаварыць?

— Я ў банк менеджарам уладкаваўся, — кажа.

— Угу...

— Гавару, што ў банк менеджарам уладкаваўся.

— Угу...

— У банк, такі будынак — там яшчэ грошай заўсёды шмат пад замкамі.

— Угу...

— У БАНК, НЯБОГА, КАЖУ, УЛАДКАВАЎСЯ. УСТАНОВА ТАКАЯ, СУЧЫН ТЫ СЫН. ТАМ ЯШЧЭ ГРОШАЙ ШМАТ ПАД СКЛАДАНЫМІ ЗАМКАМІ.

На наступны дзень ён сядзеў у кавярні і піў «Дзікую індычку» (якая бязглуздая назва для пітва), пра штосьці размаўляў з выпадковым чалавекам.

Калі чалавек п’яны — выглядае ён брыдка. Калі ж чалавек моцна п’яны — гэта поўная мярзота.

Бакардзі — прамая дарога да поўнай Мярзоты.

Свет круціцца дзякуючы таму, што хтосьці лічыцца з яго правіламі. Нехта спадзяецца іх абысці. Хтосьці і абыходзіць. А нехта змешвае Будвайзер і Джэк Дэніелз. І ўсе яны круцяць свет. А ў гэты час які-небудзь занядбалы менеджар п’е Бакардзі і абыякава назірае за ўсім і ўсімі…

## ЦІСА

Яна ляжала на траве ля возера і разглядала празрыстыя аблокі, якія зрэдку закрывалі сонца, а вецер у такія моманты падаваўся больш свежым. Побач з дзяўчынай туліўся маленькі касетнік, з дынамікаў якога зачаравана і меланхалічна выцякаў па кроплі, па ноце лянівы джазавы матыў. Ці то «Саммер уінд», ці то «Біін

грын» — цяпер ужо і не ўспомніць. Непадалёк зелянеў стогадовы дуб, які сваім ценем цягнуўся да вады, але так і не здолеў падабрацца да яе. Ён лавіў кожны павеў гуллівага чэрвеньскага ветру, спадзеючыся, што, магчыма, хоць ён зможа неяк дрэву дапамагчы. Па другі бок ад Цісы раслі некалькі акацый і язмінавы хмызняк, які адорваў водарам усіх, хто адважваўся парушыць адзіноту гэтага месца. Адзіноту шчаслівую і выключную ўжо саму па сабе. Такое здараецца толькі аднойчы. І Ціса ведала гэта.

Дзяўчына ўстала і страсянула наліплыя на сукенку травінкі. Яна глядзела на возера — а возера на яе. Яны ўсміхаліся і радаваліся адно аднаму. Вецер варушыў валасы прыгажуні. Яна была шчаслівая. Залiваючыся шчырым смехам, яна басанож пабегла да возера. І вецер таксама нёсся побач, насвістваючы мелодыю, падслуханую ў касетніка.

Дзяўчына бегла. Вадзяныя пырскі разносіліся ва ўсе бакі, паблісквaючы на паўдзённым сонцы і асляпляючы стракоз, якія праляталі міма. Ціса спатыкнулася, цупнулася на калені, але тут жа падхапілася і пабегла далей. Пасярэдзіне неглыбокага возера яна спынілася і на поўныя грудзі ўдыхала лета, удыхала радасць і шчасце. На поўныя грудзі яна ўдыхала жыццё.

## РАНІЦА Ў ЛЕСЕ

— Прывітанне, Медзведзяня.
— Прывітанне, Жабянятка.
— Пойдзем са мной гуляць.
— Прабач, Жабянятка, не магу. Ты ж ведаеш, як я цябе ненавіджу.
— Ну і добра, нічога страшнага. Мяне ад цябе таксама ледзь не ванітуе.
— А навошта тады клікаеш?
— Хацеў яшчэ раз пачуць, як ты мяне ненавідзіш.
— Дык вось у чым справа?..

Хлопцы развіталіся ды пайшлі кожны сваёй дарогай. І толькі ціхае рэха ўсё яшчэ разносілася па лесе ў пошуках спакою.

РЭ-ХА… Рэ-ха… рэ-ха…



*Алесь* ДУБРОЎСКІ-САРОЧАНКАЎ

# КІМЕРЫЙСКІЯ КРАЯВІДЫ



**Алесь Дуброўскі-Сарочанкаў нарадзіўся ў 1976 годзе ў Навагрудку. Скончыў філалагічны факультэт БДУ, магістратуру і аспірантуру на кафедры тэорыі літаратуры. Кандыдат філалагічных навук, дацэнт. Выкладае на кафедры стылістыкі і літаратурнага рэдагавання Інстытута журналістыкі БДУ. Аўтар зборнікаў паэзіі «Паміж небам і багнаю», «Эстэтыка маўчання».**

## 1. КРЫМСКАЯ СІМФОНІЯ

*Я ж уношу в свое странствие странствий*
*Лучшее из наваждений земли.*
М. Валошын. Кімерыйская вясна

*Нет в мире радости светлее, чем печаль!*
М. Валошын. Аблічча

Неба вячэрняе ў водбліcках лавы —
той, што бясконца даўно Кара-Даг
выплюхнуў на кімерыйскія[1] травы.
Нізкія горы спрадвечнае Кафы[2]
нават не мараць аспрэчыць прасцяг.
Мора — празрыстая радасць быцця.
Неба — празрыстасць Боскай самоты.
Маладзіка праплывае ладдзя
значна хутчэй за бясконцую ноту
крымскай сімфоніі. І гарызонт —
там, дзе Эўксінскі зліваецца Понт[3]
з небам, — са стрыманай кажа пяшчотай:
«Вось яна — радасць адвечнай самоты!»

## 2. ФЕАДАСІЙСКІ ЗАЛІЎ

*Калі глядзець на ўсходняе ўзбярэжжа Феадасійскага заліва з яго заходняга краю, нельга ўбачыць кропку, дзе суша змяняецца морам.*

Быццам гіпербала, што бясконца імкнецца
і не можа зліцца з воссю абсцыс,
гэты бераг заўжды застаецца mezzo[4]
паміж сушай і морам. Магчыма, мыс,
што завецца Чаўда[5], — гэта ўяўная кропка:
толькі на карце… І думка свярбіць,
што час, як прастора, гэтак жа нетаропка
паводзіць сябе, і можа быць,
што грэкі, гуны, арда, генуэзцы
ўсё яшчэ недзе ля мыса Ільі[6],

а па ім па вузкай звілістай сцежцы
Аванэс, сын Геворга[7], ідзе; караблі
сузіраючы, прадчувае пейзаж, дзе будзе
Грэцыя ці Італія: мудры армянін
нікому не скажа аб адкрытым цудзе —
пра ўяўнасць меж і бясконцасць хвілін.

**3. ЛІСІНАЯ БУХТА**

Горы Лісінае бухты[8] маюць лісіную хітрасць:
лёгка падняцца, ды цяжка потым сысці.
Ці гэта проста мясцовая ўяўная сціпласць:
— Горы? — Толькі пагорак!.. Паверыў? — Плаці!

Ці гэта проста хлусня славутае «голае праўды»,
бо галізна — гэта спосаб схаваць адзенне ўнутры.
Праўда — «in vino», і, мусіць, з таго вінаграду,
што паспявае пад доглядам гэтай гары.

Той, хто аднойчы ўзляцеў, поўзаць ужо не можа.
Гэтыя горныя сцежкі калісьці магмай былі.
Вунь Кара-Даг, ён вулкан, і даруй яму, Божа,
што ён не згодзіцца стаць проста жменькай зямлі.

**4. АЛЧАК**

*Мыс Алчак (цюрк. «нізкі, подлы») у Судакскай бухце знакаміты россыпамі кальцыту і яго жыламі ў горнай пародзе. Знаходзілі тут і золата.*

Здалёку змрочны Меганом глядзіць
з другога боку крэпасць[9] пільна сочыць.
Уцёкі немагчымыя ні ноччу,
ні ўдзень, крый божа. Застаецца кпіць
з турыстаў, слепячы расой кальцыту
ў сухой траве:
— Хапай алмаз і квіта!

І ў мора выцягнуты твой абрыс
дарэмна ў нас пра ўцёкі будзіць мары:
не ўцёкшы ад сябе, мы ўжо ўладарым,
як ты, як кожны кімерыйскі мыс,
над бухтамі сваімі ў гордай пене.
Заўжды *такое* ўцёкаў заканчэнне.

## 5. НОВЫ СВЕТ

Крымскай сасны бансай
на фоне Царскага пляжа.
Ці гэта праўда рай?
Спытай — магчыма, адкажа.

У залатую пару
князь, Гедыміна нашчадак,
тут наліваў цару
пеністы сок вінаграду[10]...

Толькі каралавы рыф[11]
ведаў, хто́ тут адзіны
князь, і цар, і каліф —
на вечнасць, не на гадзіну.

## 6. КІМЕРЫЙСКІЯ РАЗВАЛІНЫ

Чым больш палац падобны да руінаў,
тым больш чаруе ён.
Мячэць Бейбарса, вежа Канстанціна,
турэцкі бастыён[12]…

Мурам пасуе старасці аздоба
і разбурэння цень.
Мы ім перадалі сваю хваробу:
змястоўнасць іх расце,
калі іх цела ўжо губляе сілы.
Загадкавае ўздзеянне магілы!..

## 7. ФЕАДОСІЯ

Фантаны, у якіх няма вады[13]
(навошта, калі ёсць тысячагоддзі?),
прыцягваюць вандроўнікаў сюды
маўклівым духам тых, хто іх узводзіў, —
такі вось «спірытызм наадварот»…
І спяць руіны консульскага замка,
і берагі заліва — проста рамка
для вечнага пейзажа мудрых вод.

## 8. ЗВАРОТ ДА МОРА

Кажуць, вада мае самую лепшую памяць.
Мора хавае тысячагоддзяў улоў.

Вось чаму хвалі твае нас заўжды гэтак вабяць:
мыў у іх ногі той час, калі й нас не было.

Слухай мой голас, як слухаеш месяц і зоркі:
хутка яшчэ сотня тысяч гадоў праміне,
ты будзеш юнае сярод здрахлелых пагоркаў,
так што запомні… проста запомні мяне.

## 9. ЭПІЛОГ

***(элегічны двуверш)***

Кіну манетку ў ваду, каб вярнуцца на бераг эўксінскі
слухаць маўчанне тваё, о кімерыйскі прасцяг!

---

[1] Кімерыя — усходні Крым.

[2] Кафа — Феадосія.

[3] Эўксінскі Понт — Чорнае мора. Спачатку грэкі называлі яго *Аксінскі Понт* («негасціннае мора»), потым гэтая назва змянілася на *Эўксінскі Понт* («гасціннае мора»).

[4] Mezzo — «сярэдні» (іт.).

[5] Чаўда — усходні ўваходны мыс Феадасійскага заліва.

[6] Мыс Святога Ільі побач з Феадосіяй — заходні край Феадасійскага заліва.

[7] Аванэс, сын Геворга, — І. Айвазоўскі. Жыў у Феадосіі. Мала працаваў на адкрытым паветры і амаль заўсёды пісаў пейзажы ў майстэрні па памяці, аддаючы перавагу імправізацыі.

[8] Лісіная бухта — заліў паміж горнымі масівамі Кара-Даг і Меганом.

[9] Генуэзская крэпасць у Судаку.

[10] У 1912 г. Мікалай II наведаў у Парадызе (старая назва Новага Свету, азначае «рай»), што пад Судаком, князя Л. С. Галіцына і ягоны завод шампанскіх він. У сувязі з гэтым і Царскі пляж атрымаў сваю назву. Галіцыны — нашчадкі вялікага князя літоўскага Гедыміна.

[11] Гара Сокал, самы высокі ў Еўропе каралавы рыф.

[12] Развалiны мячэці султана Бейбарса, самай старажытнай на Крымскім паўвостраве, у горадзе Стары Крым; вежа Канстанціна і побач з ёю рэшткі турэцкага бастыёна — гісторыка-архітэктурныя помнікі ў Феадосіі.

[13] Маюцца на ўвазе старажытныя фантаны, якія раней былі крыніцамі пітной вады.



Юрась НЕРАТОК

# ТЭРАПІЯ*

## *Глабалісцкая фантазія*

* * *

— Ну як працуецца, Андрэй Уладзіміравіч? — тон пытання ўтрымліваў намёк, што адказ не мае значэння.

— Плацяць мала, пан дырэктар! — весела адказаў Грыніч.

— Па-трэцяе, я не дырэктар. Па-другое, не пан. І па-першае: табе ёсць за што плаціць? — каварна пацікавіўся Яўгеній Фёдаравіч.

— Дык жыць жа неяк трэба. І работа ў нас, самі ведаеце, якая… — злёгку разгубіўся ардынатар.

— Агульны дыягназ: жыць мы будзем, пакуль не памром, — падбадзёрыў галоўны ўрач. — А праца ў нас цікавая і грамадству карысная.

Затым рэзка вышмаргнуў лісткі.

— Хто пісаў?

— Пацыент Тышкевіч з чацвёртага аддзялення. Пятнаццатая палата. Дзверы прачыніў, каб з калідора святло ішло, і піша. Сам стары ўжо — пад пяцьдзясят, — а асвятленне ноччу толькі дзяжурнае. Ну і я, каб ён, значыцца, рэжым не парушаў і зрок не псаваў…

Пяцідзесяцішасцігадовы Жалруневіч праігнараваў маладзёжную ацэнку ўзросту хворага.

— Кажаш, калі забіраў, то ён пісаў?

— Нават санітара давялося паклікаць. Лёху Наварава.

— Ну?

— Не, не буяніў. Я толькі клікнуў, ён адразу ж і аддаў.

— Ясна, гэта ж Навараў: яго задаволіць толькі чыстая перамога…

Жалруневіч машынальна паляпаў па прэзентаваным блоку «Вінстана». Праверак ён не баяўся, бо сам цішком пакурваў, а кантрольная палоска сарвана, і чэк, які прадбачліва пакінуў наведвальнік, валяўся побач.

— Сам хоць чытаў?

— Ну так, трошкі. У яго почырк неахайны.

— Якія ўражанні?

Гэтым разам Грыніч быў падрыхтаваны.

— Валянцін э-э… Уладзіміравіч Тышкевіч быў дастаўлены сюды на карэктурнае лячэнне пасля неадэкватных паводзін на вучоным савеце. На абследаванне даў пісьмовую згоду. Да гэтага працаваў у Інстытуце мікрабіялогіі, загадваў лабараторыяй, захапляўся эсперанта. Здаецца, накіраванне да нас было альтэрнатывай адхіленню ад навуковай і выкладчыцкай дзейнасці. «Парцянку» нашу на месцы

* Заканчэнне. Пачатак № 6 г. г.

таксама падпісаў з маху. Паводзіць сябе ў асноўным нармальна. Прызначаны наступныя прэпараты…

— Не гані, як у вас гавораць, — спыніў Яўгеній Фёдаравіч. — Мы за гэтую «парцянку» столькі юрыстам заплацілі, што нам з табой на год паўнацэннага адпачынку хапіла б. І давай без фамільярнасцей!

Жалруневіч палічыў, што ўкарот зроблены, глыбока ўздыхнуў і прадоўжыў:

— Я памятаю многіх нашых пацыентаў — і былых, і сягонняшніх, і, павер мне, будучых. І Тышкевіча, само сабой, ведаю. Як табе тэкст, пытаюся? Спадабаўся? Ды сядзь ты, сядзь! Чаю давай закіпяцім!

Жалруневіч шчоўкнуў па клавішы электрачайніка.

Грыніч сеў у крэсла.

— Тэкст, можна сказаць, ніякі. Я такую пургу і ў нэце больш за тры абзацы не чытаю. Я яго раскусіў. Пацыент зацыкліўся на тым, што кланаванне дапускае імгненную па гістарычных мерках змену цывілізацый. Канцэпцыя ў яго наступная: у час сусветнага прыроднага катаклізму, глыбокага эканамічнага або палітычнага крызісу, сусветнай рэвалюцыі або вайны вучонымі, якія збрэндзілі ад уласнай геніяльнасці, выпускаецца ў свет жыццепрыстасаваны клон у якасці выратавальніка, салдата, працоўнай сілы. І пакуль чалавецтва спрабуе хоць неяк захавацца, клоны асвойваюць жыццёвую прастору і перамагаюць знясіленых гомасапіенсаў. Дробяць чалавечую супольнасць, перарываюць сувязь пакаленняў, заганяюць у рэзервацыі… Я гэтых фанфікаў і начытаўся, і нагледзеўся!

Грыніч грэбліва махнуў рукой.

— Ён так і сцвярджае, што кланаванне здольна радыкальна змяніць расклад сіл на планеце?

— Ну, я так здагадваюся… — Андрэй трохі разгубіўся. — А што ж яшчэ?

— Кланаванне фактычна з’яўляецца вегетатыўным спосабам размнажэння. Калі вы, шаноўны, у медыцынскай установе вучыліся, то тэрміны павінны супастаўляць. Расліны так спакон веку размнажаюцца. Ну і чаго мы дасягнулі? Круглых чырвоных цвёрдых памідораў без смаку? Тое ж будзе і з жывёламі, і з людзьмі: негатыўныя пабочныя эфекты перакрыюць рэальную карысць, устойлівая аднастайнасць геннага набору не дазволіць аператыўна прыстасавацца да змяненняў. Каліфы на час, карацей… А словы «адкарэктаваная генная структура» ён не ўжываў?

— Не чуў, ён увогуле стараецца маўчаць. Ды што нам яго маразматычныя прыдумкі? Стандартны выпадак, ёсць схема, зацверджаная Мінздравам…

— Стоп-стоп-стоп, Андрэй! Я твой Мінздраў. Занясі ў палату Тышкевіча паперу і ручку. Пакладзі на падаконнік, але паведамі, што гэта толькі для яго. Каб астатнія не чапалі. — Жалруневіч зноў пераключыўся: — А то ў мяне дзесяць гадоў таму выпадак быў: змайстраваў былы аэрадынамік папяровы самалёцік, прабраўся на дах і сігануў. Прыгожа, га? Вось толькі паляцеў уніз, а не ўверх — знак у разліках параблытаў… А соплі на шыбе другога паверха завіслі — тут і аэрадынаміка, і кібенiматыка, і закон сусветнага цягацення дакладна спрацавалі!

Галоўны ўрач падміргнуў.

Ардынатар адрэагаваў не здзіўленнем — сарказмам.

— Значыцца, Яўгеній Фёдаравіч, вас гэтая беліберда зацікавіла?

— Не ў гэтым справа, ардынатар Грыніч. Мы працуем са складанымі людзьмі, якія часам здаюцца нам забаўнымі або незразумелымі. Але сярод іх трапляюцца такія, каму мы… Як у Бібліі… Нявартыя, каб ногі памыць. І некаторыя з іх пры

больш удалых абставінах і пэўнай карэкцыі паводзін маглі б і Нобелеўскімі лаўрэатамі стаць, і дзяржавай кіраваць. Няхай піша. Лічы, што такая тэрапія. Здымі карбідон і трыседзіл. Не глушы псіхіку антыдэпрэсантамі, хіба што сам папросіць. Вітамінаў дабаў. І мне на подпіс!

— Само сабой…

— Ты ўвагу звернеш: маўляў, Тышкевіч, — цярпліва патлумачыў Жалруневіч. — Я вам давяраю. Дагары нагамі дакумент падсунеце — так і падпішу. І вінаваты не буду… На будучае, Андрэй Уладзіміравіч: калі падобную пісаніну, — галоўны патрос ліісткамі пацыента, — на разгляд перадаеш, указвай у асобнай запісцы: што, хто, дзе, пры якіх абставінах. А каб ты не ўспрыняў нашу гутарку негатыўна, хачу расказаць анекдот. Любіш анекдоты?

Андрэй дыпламатычна прамаўчаў.

— Ну не любіш, тады грабі адсюль, Андрэй Уладзіміравіч, працуй… І запрасі да мяне Святлану Аляксандраўну. Чайнік закіпеў. А ты вазьмі рукапіс, набяры тэкст, раздрукуй і перадай Тышкевічу. У вольны ад асноўных абавязкаў час, каб па порнасайтах за казённы кошт не лазіў…

— Яўгеній Фёдаравіч, у ардынатарскай інтэрнэт не падключаны, якія порнасайты!

— Вось я і кажу: ніякіх. Лічы, што гэта, — Жалруневіч паляпаў па рукапісе, — асабістая просьба. Свабодны!

Ардынатар прычыніў дзверы кабінета, рассеяна кіўнуў, нават машынальна падміргнуў агульнай сімпатулі Юльцы і раптам усвядоміў, што званне заслужанага ўрача Рэспублікі проста так не прысвойваецца.

— Грабу, фазер…

## АВАНТУРА

### Пленум

Пачаў спікер Карл, які адказваў за парадак падчас Пленума.

— Сын мэбляра насмеліўся з’явіцца перад элітай Алатаніі ў адзенні без махроў?!

— Мой бацька, як ты заўважыў, — мэбляр, а не швейнік…

— На *гэты* выпадак ты быў *павінен* заказаць махры.

— Шаноўны Пленум у абрэзках яркай тканіны бачыць праблему, дзеля якой сабраўся? — тон Тэнзілера быў насмешлівым.

Па прэзідыуме пранёсся гул.

— Мы можам спаслацца на непавагу да прынятай цырымоніі і не разглядаць тваю прапанову.

— Менавіта так вы б і зрабілі, каб не ўказанне караля.

— Менавіта *так* мы і зробім! — абурыўся спікер.

— Тады я наступным разам начаплю махры, і Філіп Мудры загадае сабраць Пленум зноў, каб усё ж разабрацца ў сутнасці авантуры.

Спрэчка магла зацягнуцца, калі б акадэмік Артур, якога ў кулуарах клікалі Вялікагаловым за разважлівасць, не прапанаваў зрабіць перапынак, за час якога мадэльеры павінны выбраць адпаведны касцюм для Тэнзілера.

* * *

— Усе твае папярэднія авантуры былі няўдалымі. Давядзецца пастарацца, каб мы хоць трохі табе паверылі!

— Я тут менавіта для таго. А тое, што спрабаваў зрабіць раней, перарывалася не па маёй віне. Я выбіраў самы хуткі і самы смелы шлях. Хіба смеласць не адна з лепшых якасцей алатанца? Можа, варта адразу пачаць разглядаць сутнасць праекта, чым аналізаваць тое, што даўно за спінай, як пыл, што асеў на дарозе? Сонца не паспее перайсці ад гэтага акна да таго, — Тэнзілер паказаў пальцамі на суседнія мазаічныя вокны, — калі я завяршу даклад.

Гэта была дзёрзкасць у адносінах да спікера. Аднак пасля сваркі з-за формы адзення яна ўспрымалася як звядзенне асабістых рахункаў.

Адчуў гэта і вопытны Карл. Ён стрымана кіўнуў і тым самым даў зразумець, што Пленум гатовы выслухаць авантурыста.

Тэнзілер гаварыў натхнёна і вобразна, хоць і не зусім зразумела, а часам яўна словаблудзіў. І толькі правіла Пленума «не перабіваць выступоўцу» разам з распараджэннем караля «разгледзець прапанову непрадузята» прымушала вучоных і міністраў слухаць. Але ўсё часцей яны пазіралі на акенца, з якога павінен быў бліснуць прамень, які перарве нахабны маналог.

Прамень бліснуў, спікер Карл ляснуў журналам-даведнікам па стале — даў зразумець, што час, адведзены для тлумачэння сутнасці авантуры, скончыўся. Першымі задавалі пытанні, як звычайна, артадоксы.

— Ты згодны, што зверху Зямля абмежавана небам, як яйка шкарлупінай, а знутры падаграваецца вечным вогнішчам, як сэрцам, што награвае кроў. Дык чаму ты не згодны, што звонку яна абмываецца бяскрайнім, як кропля, акіянам?

— Ёсць гістарычныя сведчанні…

— У так званых гістарычных сведчаннях указана, што Зямля цвёрдая, як арэх, а вадой заліта толькі яе ўвагнутая паверхня, што як чаша ўтрымлівае ваду. Можа, табе варта перайсці з касты авантурыстаў у Групу Нязгодных? Або табе даражэйшыя пропісі Чэра Бузестала, чым Улажэнне імперыі?

У Групу Нязгодных Тэнзілеру не хацелася. Канешне, там можна было гаварыць і думаць пра што заўгодна, а ўрад нават здымаў з членаў Групы клопат аб прытулку і харчаванні. Але згодна з Улажэннем іх колькасць не павінна была расці, а павелічэнне непазбежна вяло да «падраўнення», якое рэалізавалася кожны Строгі Месяц, у Свята Віны. Чэра Бузестала не любілі і самі Нязгодныя, аднак кароль чамусьці міла-ваў яго, калі той трапляў пад «падраўненне», і нават неаднаразова з ім гутарыў.

— Мне смешна ад таго, што кажуць Нязгодныя, нават калі я ім веру. Не варта гаварыць толькі дзеля таго, каб рухаць языком. Я авантурыст, і мая справа — здзяйсняць.

Рэveранс быў прыняты на мяжы паблажлівасці і недаверу. Аднак замінка дала час вучоным, таму пытанні пасыпаліся так, што хітрамудры Тэнзілер, які выдатна валодаў рыторыкай, логікай, інсінуацыяй і казуістыкай, ледзь спраўляўся.

— І таму ты прапануеш праверыць, ці праўду яны кажуць, што, апроч Вялікай Алатаніі, існуюць іншыя дзяржавы, магчыма, не менш велічныя, і іх можа дасягнуць просты авантурыст, нават такі безаглядны і эрудзіраваны, як ты?

— Я прапаную зняць галовы з валадароў гэтых дзяржаў, іхнія кароны пакласці пад ногі Філіпу, скарбы аддаць у казну, а падданых увесці ў касту рабоў Алатаніі.

— Навошта ў Алатаніі столькі рабоў? На тую рабскую працу, якую неабходна выконваць для грамадства, іх дастаткова і цяпер. І заўсёды ёсць прыток з ніжэйшай касты стомленых валацуг!

— Нашы рабы змогуць выконваць тую ж работу, што і непрывілеяваныя алатанцы. Яны будуць землякробамі, жывёлаводамі, рамеснікамі, будаўнікамі…

— Згодна з Улажэннем ні земляроб, ні рамеснік не можа быць рабом! Яны — свабодныя работнікі, якія прадаюць свой розум і працу.

— Улажэнне створана толькі для падданых Алатаніі.

— Але падданымі пазначаны тыя, хто пражывае. Як толькі рабы ступяць на зямлю, яны адразу ж стануць тут пражываць. І такім чынам…

— Ніякім чынам! — перабіў авантурыст, чаго не было на памяці ні ў каго з удзельнікаў Пленума. — Яны ад пачатку будуць не *жыць* у Алатаніі, а *існаваць*. І пераход з касты ў касту для іх таксама будзе немагчымым, бо мы адразу назавём іх інакш, чым нашых рабоў. Напрыклад, лішэнцамі або мігрантамі…

Тэнзілер адчуў, што зала прыціхла, і скеміў, што ўжыў тэрмін, які прымянялі Нязгодныя.

Аднак ён столькі адточваў уласныя ідэі на алатанцах розных саслоўяў, што не разгубіўся і гэтым разам.

— Сярод лішэнцаў будуць і жанчыны, якіх вы зможаце прывесці ў прыемны зроку выгляд і без ганьбы выкарыстоўваць іх нараўне з жонкамі, замест таго, каб наведваць куртызанак!

Самазадаволены шум у зале пацвердзіў разлік Тэнзілера на тое, што за вобласцю абстрактных роздумаў інстынкты чорнага, шэрага і белага свету — асноўных саслоўяў Алатаніі — аднолькавыя.

Аднак на гэты раз Пленум не ўхваліў авантуру. Фармалісты, якія аказаліся ў большасці, палічылі, што іх згода можа трактавацца як падтрымка поглядаў Нязгодных.

**Філіп-Усётрымальнік**

Кароль Алатаніі Філіп-Усётрымальнік, якога ў народзе называлі Уладар—Усяго—Пад Небам—Існага, нарэшце ўвайшоў у асабістыя пакоі і, нахіліўшы галаву, дазволіў груму-пасцельніку зняць абрыдлую за дзень карону.

Ён толькі што распусціў Пленум, які збіраў для ацэнкі прапановы авантурыста Тэнзілера, сына мэбляра Тэнты.

Тэнзілер тройчы трапляў пад суд, але суддзі кожны раз не маглі знайсці патрэбнага запавету ва Улажэнні і перадавалі яго пад уладу Філіпа. Манарх, які меў сярод эпітэтаў характарыстыкі «Цярплівы», «Міласэрны», «Справядлівы» і падобныя, заўсёды мілаваў авантурыста з фармулёўкай «Віна законам не азначана, шкода нязначная, не караць». А далей рабіў прыпіску: «Пашырыць Улажэнне згодна з прэцэдэнтам».

Улажэнне з-за такіх тэнзілераў-авантурыстаў павялічылася ўжо да трохсот абагульненых запаветаў або прыблізна да сарака далоняў тэксту — аб'ёму, які вусна не здольны быў засвоіць мозг звычайнага падданага. А з неразумення законаў вынікае страх перад імі, што вядзе да беззаконня.

Філіп на аспіднай дошцы заточаным грыфелем зафіксаваў апошнюю думку для перадачы на ацэнку філосафам і юрыстам.

Зрэшты, пры пагалоўным навучанні падданых чытанню дадзены аб’ём запамінаецца калі не поўнасцю, то ў той ступені, што дазволіць выконваць, а пры наяўнасці абстрактнага розуму — адчуваць межы і дух закона.

Кароль зрабіў чарговую адзнаку на аспідзе: «Усеагульнае навучанне падданых чытанню? — на Савет вучоных».

Аднак цяпер трэба было думаць не пра гэта. Пленум абсмяяў дзёрзкага Тэнзілера і не падтрымаў ягоны план. Філіп і сам у дзяцінстве чытаў казкі пра тое, што некалі Зямля была неабсяжнай, але ніколі шчыра не верыў гэтаму. Навука, за выключэннем разрозненай Групы Нязгодных, адназначна сцвярджала, што планета — гэта агромністая кropля, якая ляціць у пустаце вакол Сонца, Алатанія — лёгкая пясчынка на гэтай кроплі. У тым, што Зямля круглая і вадзяністая, не было сумневу і ў дзяцей: усім даводзілася бачыць, як яна пакідае размыты і сінявата круг на Месяцы.

І ўсё ж у прапанаванай авантуры было нешта спакуснае; частка ідэй перасякалася з тым, што кароль чуў ад Нязгодных, асноўная сутнасць прамоў была відавочнай лухтой або дыктавалася непамернымі амбіцыямі, якія яны дэманстравалі, каб уступіць у Групу ці прасунуцца ў ёй. А пасля былі вымушаны падтрымліваць уласнае крэда або аргументавана адракацца ад яго, тым самым рызыкуючы быць выгнанымі з Групы за няўстойлівасць перакананняў. Такія выпадкі за доўгі тэрмін праўлення Філіпа былі адзінкавымі: прытулак, ежа і грамадскі статус аказваліся даражэй за прынцыпы.

«Адправіць авантурыста ў плаванне? Так, на краі каралеўства ёсць востраў Фрус, што толькі фармальна прызнае карону Філіпа. І цячэнні, дочкі Вялікага Акіяна, не зносяць яго ад Алатаніі… Значыць, і Фрус — частка Алатаніі. Але ж за ім толькі бязбрэжная вада! Ці ўсё ж ёсць іншыя пясчынкі, што плаваюць, як і Алатанія, у бязмежнасці? Іх, зразумела, немагчыма далучыць, аднак калі там ёсць нейкія істоты, якіх можна перавезці, або каштоўнасці, якія можна даставіць, то гэта дадало б вагі Кароне.

Няхай плыве. Рашэнне Пленумам прынята асцярожнае. Вучоныя будуць аспрэчваць яго між сабой, а калі шпіёны дадуць інфармацыю, што расклад сіл змяніўся, я зноў дам указанне сабрацца і паведамлю папярэдні вердыкт. Дарэчы, нядрэнна даведацца, хто цяпер паклаў у амфару для галасавання галінку з карой — падтрымаў Тэнзілера. Сярод іх, пэўна, знойдзецца лідар, які будзе рады служыць Кароне».

Павекі пачалі заплюшчвацца, але Філіп ведаў, што сон караля без жонак — сімптом слабасці. Ён шчоўкнуў пальцам па меднай трубе — і грум з паклонам прынёс спіс з характарыстыкамі. Кароль доўга глядзеў на імёны і выбраў, нарэшце, дзвюх: самую нахабную і самую наіўную. І папярэдзіў, што чакае іх менавіта ў гэтых якасцях.

Затым успомніў галоўнае: праз тры дні — Свята Віны. Яно праводзілася ў Алатаніі кожную другую поўню, таму адзін Месяц лічыўся Лёгкім, другі — Строгім. У Свята Віны Усётрымальнік павінен быў ахвяраваць выпадковых падданых з шэрага і чорнага саслоўяў, а таксама азначаных — тых, на кім ляжала смяротная віна, — з усіх саслоўяў. Выпадковыя вызначаліся даносамі, пры недахопе — выбаркай. На Тэнзілера даносаў не было. Чорнае саслоўе не мела права і не ўмела складаць даносы, белае — баялася трапіць у апалу да караля, а сярод шэрага авантурыст быў надта папулярны. «Так, трэба яго адпраўляць куды заўгодна!»

Філіп з палёгкай уздыхнуў і падпісаў вердыкт на смяротную кару сарака падданых, у тым ліку — двух лішніх Нязгодных. Зноў шчоўкнуў па трубе і папрасіў замяніць жонак, якія пачалі рыхтавацца да ўзыходжання ў каралеўскія пасцелі. Цяпер грум павінен быў прывесці самую гаваркую і самую маўклівую. Кароль папярэдзіў, што чакае іх менавіта ў гэтых якасцях, а патрывожаным і нявыкарыстаным жонкам загадаў перадаць у кампенсацыю дарагія падарункі.

## Авантурыст Тэнзілер

Авантурыст нічым не рызыкаваў, калі ішоў на Пленум. Нічым, апроч самога жыцця, якое ўспрымаў прэсным і нават няўежным, калі ў ім не хапала смяротнай небяспекі ад чарговай аферы, якую падчас з-за невырашальнасці, недарэчнасці і рызыкі не магла не толькі адобрыць, а нават і ўспрыняць свядомасць алатанца.

Народжаны ў сям'і рамесніка, Тэнзілер заўсёды з зайздрасцю пазіраў на высокія клабукі святароў, малінавыя мантыі вучоных і гафрэ-плацці вяльмож. Выбраннікам ад нараджэння зайздросціла большасць простых алатанцаў. Аднак праца мэбляра складалася не толькі з габлявання-пілоўкі дошак, падбору-ўстаноўкі фурнітуры ў прапахлай пілавіннем і лакам майстэрні. Тэнта меў доступ у лепшыя дамы, калі рабіў замеры, рыхтаваў дызайн-праект, а таксама пры ўсталяванні мэблі і дапрацоўцы яе на месцы. Мэбляру не забаранялася браць з сабой сына ў якасці вучня, каб перадаць рамяство пераемніку. Праўда, у дамах асабліва высокапастаўленых — толькі да дванаццаці гадоў. Дакладней, да таго ўзросту, калі дзіця здолее падняць адной рукой і пакласці на плячо алебарду.

Тэнзілера ніколі не вабіла ні рамяство бацькі, ні вялікія барышы, якія той часам атрымліваў. Хлопчык заўважаў: два-тры дукаты, якія бацька асцярожна прымаў у гладкія, як шліфаваная дошка, далоні, прыносіў пану лакей. І здагадваўся, што ў багатых сапраўдныя грошы захоўваюцца не загорнутыя ў анучу ў гліняным гаршку, як у бацькі, а ў вялікіх куфрах, каваных жалезам. І на замках.

Юны Тэнзілер рана ўсвядоміў, што, нягледзячы на напышлівасць і фанабэрыю, фразы і думкі вяльмож, па сутнасці, не надта адрозніваліся ад простанародных. Пампезнасць, манернасць, вычварнасць і амбіцыйнасць разам з адзеннем і грымам, якім не карысталіся простыя людзі, узносілі любую іх прамову на ўзровень анямелай пашаны натоўпу.

У звычайных абставінах, калі ўладары апускаліся да будзённасці, праніклівы розум хлопчыка заўважаў дэталі: напудраны нос святара, чырвоны, як у апошняга буркулая; набраклыя, як у сівой прачкі, вены на непрыкрытай карункавай манжэтай руцэ графіні; лысіна з-пад неахайна надзетага парыка акадэміка, які працуе над чарговым трактатам і апантана калупаецца ў вушной ракавіне…

Улажэнне, што з'яўлялася асноўным законам Алатаніі, дазваляла толькі эвалюцыйную змену сацыяльнага становішча. Нават пры пераходзе ў суседні вышэйшы клас касты, што ў выпадку з Тэнзілерам азначала б магчымасць лічыцца купцом, гэта павінна было даказвацца двума пакаленнямі. Сын рамесніка жаніўся на дачцэ купца, але іх дзеці па статусе былі рамеснікамі. Яны, у адрозненне ад свайго бацькі, мелі права гандляваць, але не маглі насіць адзення светлых тонаў: блакітнага, ружовага, жоўтага. Купцам дазвалялася насіць светлыя тканіны, але больш тонкі матэрыял для пашыўкі маглі выкарыстоўваць толькі ўрачы. Настаўнікам таксама дазвалялася насіць тонкую тканіну, але не больш за два асноўныя адценні ў касцюме… Нават Група Нязгодных павінна была адзеннем выяўляць сваю прыналежнасць.

Менш за ўсіх абмежаванняў мелі авантурысты. Вядома, іх маглі пакараць за капіраванне форменнага адзення і за выкарыстанне атрыбутаў белага саслоўя. Аднак галоўным іх адрозненнем была непаўторнасць спалучэнняў элементаў адзення і абутку шэрага саслоўя.

…Адзінае, што ў нейкай меры ўдалося пераняць сыну мэбляра Тэнты ад бацькі: паслядоўнасць, дакладнасць, цярплівасць. Тым самым знешне абгрунтоўваць разумнасць пачынаў, якія перапаўнялі ягоны мозг. Ён навучыўся аб'ядноўваць дробныя

задумкі ў буйныя, буйныя — у глабальныя; прывык да прыкрага пачуцця адмовы ад ідэй, якія не могуць рэалізавацца; развіў талент паднесці іх так, каб яны ўсё ж атрымалі шанец на здзяйсненне. Народ Алатаніі заўсёды скептычна і разам з тым з сімпатыяй ставіўся да авантурыстаў, але Тэнзілеру была непатрэбна ацэнка народа — ён прагнуў ацэнкі ўладароў, а яшчэ лепш — гісторыі.

Першую сур'ёзную авантуру Тэнзілер пракруціў, калі яму споўніўся дваццаць адзін год. Ён сабраў рамеснікаў і наёмных работнікаў, спакусіў іх магчымасцю стаць спецыялістамі ды добра зарабіць і стварыў арцель. Праўдамі і няпраўдамі яны раздабылі інструменты і адправіліся майстраваць мост ад мацерыка да вострава Фрус. Прыкладам і аналагам авантурысту былі невялікія масты і акведукі, пабудаваныя на прэсных рэчках Алатаніі. Праз год з рэшткамі арцелі Тэнзілер вярнуўся ў сталіцу. З трыццаці сямі чалавек ацалела васямнаццаць: двух не зберaглі ад драпежных звяроў, двое загінулі ў бойках паміж сабой, васьмярых забілі воіны Фруса, якія напалі раптоўна, астатнія недзе згубіліся, а можа, і ўцяклі. Сам Тэнзілер у час нападу фрусінцаў утрымліваў пад вадой цэнтральную стойку, на якую каромыслам ціснулі шасцёра. Адчуўшы, што стойка падае (дрэва было набрынялым і прасмоленым), авантурыст зразумеў, што яе па невядомых прычынах адпусцілі. Ён сарваў з твару паветранаборнік, зроблены з пузыра акулы, секануў вяроўку з грузам, якім быў камень, і ўзляцеў з васьміметровай глыбіні. А калі ўбачыў фрусінцаў, што плылі хутчэй бегу, і іх вострыя бляшаныя дугі, што паляцелі, як маланкі, развітаўся з жыццём. Але яго ніхто не чапаў — быццам бы яго і не было. Тэнзілер даплыў да берага, затым бег, бо не мог абараніць людзей, за чый лёс ён паручыўся… Пасля моўчкі стаяў, пакуль міма яго праходзілі пераможцы-фрусінцы, якія секлі паветра бляшанымі дугамі. Яны нават не рызыкнулі (або не захацелі?) звярнуць увагу на авантурыста з Вялікай Алатаніі. Астатнія работнікі Тэнзілера выратаваліся толькі дзякуючы пагранічнаму кардону, на які не сталі нападаць фрусінцы.

У далейшым губернатар Фруса Моран прабачыўся перад Філіпам і патлумачыў, што пакараў мостабудаўнікоў за самаўпраўства, бо авантурыст не меў ахоўнай граматы караля. А знішчыў тое, што паспелі пабудаваць таму, што стойкі былі пастаўлены так часта, што маглі разбурыць цвердзь, якая пад вадой злучае Вялікую Алатанію і губернатарства Фрус. Філіп недалюбліваў Морана па шматлікіх прычынах. У адрозненне ад астатніх, прызначаных каралём, Морана губернатарам выбрала насельніцтва вострава, што ён тлумачыў невыкаранявальнымі перажыткамі простага народа. Моран меў баяздольную армію і, хоць пастаянна заяўляў, што яна служыць Вялікай Армадзе Алатаніі, пад рознымі спасылкамі не дазваляў Філіпу паставіць на чале яе намеснікаў караля. А часам яны загадкава знікалі па дарозе… І ўрэшце Фрус быў зусім не прыстасаванай для жыцця зямлёй. Там амаль нічога ядомага не расло, асноўным харчаваннем фрусінцаў была рыба і кальмары, чым яны і плацілі падатак алатанцам, якім гэтыя прадукты ўжо надакучылі. А гарыстая мясцовасць не дазваляла нават выявіць усіх жыхароў пры чарговым перапісе, таму даводзілася давярацца звесткам губернатара. Аднак фармальна Моран, як заўсёды, быў правы.

Вінаваты быў Тэнзілер, які спрабаваў здзейсніць непрадуманы і не ўзгоднены ні з кім праект. Супраць яго выставілі шэсць асноўных абвінавачванняў. І ўсё ж ідэя дабірацца на Фрус не на лодцы-хістанцы, а ў паланціне, які нясуць па цвярдыні моста, была такой прываблівай, што кароль сам зачараваўся ёю. Гэта заўважылі адвакаты, якія не знайшлі ў дзеяннях Тэнзілера супярэчнасцей Улажэнню.

Другі праект, які збіраўся ажыццявіць авантурыст, заключаўся ў тым, каб зрабіць брукаваныя вуліцы сталіцы з яшмавіка — каштоўнага каменю. Залежы яшма-

віка знаходзіліся на другім краі дзяржавы, і было зразумела, што цяпер ахвотнікаў паехаць з ім без грошай не адшукаць. Да таго ж для апрацоўкі патрабаваўся карунд. Трэба мець грошы, шмат грошай. Але багатыя не рызыкавалі даваць іх для сумніўнай справы, якой з'яўлялася любая прапанова любога авантурыста. Тады Тэнзілер, які лічыўся неблагім псіхолагам, правёў акцыю, якую па падказцы Нязгодных назваў латарэяй: выклаў на стол дваццаць шкатулак, у адной з якіх ляжалі пяць дукатаў, і прапанаваў дваццаці сынам высокапастаўленых і забяспечаных заплаціць па адным дукаце за магчымасць выйграць пяць. Затым прапанаваў выйграць за тры дукаты пятнаццаць. Затым за дзевяць — сорак пяць… Наступным днём правёў тры латарэі з рознымі сумамі… У яго мелася ўжо больш як тысяча дукатаў, іх бы з лішкам хапіла на авантуру, але наляцелі фінансавыя чыноўнікі.

Грошы былі перададзены ў казну, а Улажэнне папоўнілася яшчэ адным запаветам.

Тэнзілер зразумеў, што грошы трэба браць адтуль, дзе іх шмат, — з казны. А яшчэ лепш — «адкрытая кішэня». Так ён абазначыў формулу фінансавання праектаў: па абгрунтаванай патрэбнасці. Для гэтага неабходна было толькі граматна аформіць ідэю і талкова яе растлумачыць. Дзяржава, што брала з падданых падаткі на ўласнае ўтрыманне, дэкларавала функцыю размеркавання, уладкавання і здзяйснення агульных праектаў. Таму любая авантура, у тым ліку і стратная, пры пэўнай яе яркасці і выразнасці садзейнічала ідэі клопату дзяржавы пра перспектыву.

Гэтым разам аватурыст прапанаваў зрабіць шмат вялікіх лодак, сабраць іх у адну флатылію і адправіць у Акіян з арыенцірам на зорку Хелу. Ён не засмучаўся з-за таго, што Пленум пакуль не падтрымаў авантуру, а спакойна складаў смету-каштарыс: на вока, але рэальна. Бо ведаў, што наступны за Пленумам больш дэталёвы разгляд — на Канвенце, дзе збяруцца фінансісты і юрысты, — будзе значна сур'ёзнейшым. Хоць таксама — у пэўнай ступені смяхотным. І да Сінода трэба падрыхтавацца грунтоўна — неабходна арганічна састыкаваць будучыя авантуры са Свяшчэнным Пісаннем. І саслоўям, канешне, у агульных маляўнічых рысах давесці. Таму з Чэрам Бузесталам, адным з лідараў Групы Нязгодных усё ж варта параіцца. У якасці воінаў флатыліі Тэнзілер планаваў узяць фрусінцаў. Яны хоць і абняславілі яго авантуру, затое ўразілі спрактыкаванасцю, рашучасцю і дысцыплінаванасцю.

Мост паміж Вялікай Алатаніяй і Фрусам цяпер будавалі рамеснікі і рабы за кошт дзяржавы. І экспедыцыю на распрацоўку радовішчаў яшмавіка Філіп ужо адправіў.

**Разбор**

Жалруневіч дачытаў, звыкла адсунуў рукапіс. Зноў узяў у рукі лісток, які прыклаў Грыніч.

*Галоўнаму ўрачу ПНД Жалруневічу Я. Ф.*

СУПРАВАДЗІЛАЎКА

*Гэты тэкст перададзены праз ардынатара Грыніча пацыентам Тышкевічам асабіста Вам для азнаямлення. Па сутнасці — тая ж бязглуздзіца, што і папярэдні, але сувязь з папярэднім не праглядваецца. Шмат лагічных неадпаведнасцей, хоць напісана старанна.*

*З павагай Грыніч А. У.*

Думаць Яўгеній Фёдаравіч мог над праблемнымі, спрэчнымі пытаннямі. Тут было ўсё зразумела. Ён выйшаў з кабінета, спусціўся на адзін паверх, каб зайсці ў палату да Тышкевіча, але сустрэў таго ў калідоры.

Доктар і пацыент нейкі час глядзелі адзін на аднаго, пакуль Тышкевіч дагодліва не кіўнуў, а Жалруневіч у адказ не ўсміхнуўся.

Затым Яўгеній Фёдаравіч абняў Валянціна Уладзіміравіча за плячо і павёў у кабінет.

Пасля гутаркі галоўны ўрач асабіста правёў пацыента да сталоўкі, а затым паклікаў ардынатара Грыніча.

— Як справы ў нашага падапечнага Тышкевіча?

— Ну вы ж самі з ім толькі што…

— Канешне-канешне, ён жа мне ўсё, як на споведзі, расказаў… — здзекліва вымавіў Жалруневіч. — Ты свае папярэднія вывады паведамі.

Ардынатар паглядзеў на галоўнага ўрача; той мігнуў, як падбадзёрыў: давай, маўляў.

— Наш кліент, Яўгеній Фёдаравіч. Папярэдне: іпахандрычная шызафрэнія.

Жалруневіч знарочыста захоплена ўскінуў правае брыво.

Грыніч ведаў шэфа, таму абгрунтоўваць дыягназ не стаў.

— Запомні правіла чатырох «А». Аўтызм, афект, амбівалентнасць, асацыятыўнасць. Без гэтых ярка выяўленых адзнак, прычым разам узятых і больш-менш устойлівых, усе мы — шызафрэнікі. Помніш, песня такая была, — Жалруневіч прачысціў горла адкашліваннем і праспяваў: — «А шызафрэнікі там вяжуць венікі, а параноікі малююць нолікі, ну а тыя з іх, хто нервовыя, спяць глыбокім сном, як здаровыя!»

Калі б Жалруневіч хаця б прытворна пакланіўся «публіцы», Грыніч бы заапладзіраваў і даў бы-такі ўласную аргументацыю па праславутых чатырох «А».

Аднак Яўгеній Фёдаравіч падняў далонь.

— Андрэй, я адпускаю Тышкевіча на выхадныя. Не дамой, само сабой. Тут да яго стрыечная сястра прыехала, а з ёй — муж. І неяк так яны хітра згаварыліся, што трэба было б Валянціна Уладзіміравіча на працатэрапію адправіць, каб мышцы не атрафіраваліся. Да гэтага самага мужа. Фундамент там нейкі заліваць ці плот гарадзіць… Рэабілітацыя соцыумам, карацей.

Грыніч упёрся вачыма ў Жалруневіча: ён ведаў, што гэта забаронена, і першаадказчык — ён, лечачы ўрач.

— Не пераглядзіш пакуль, Андруша, не сілься. Хабару я за гэта не браў. І ўвогуле не бяру. Пісьмовага загаду ад мяне не дачакаешся! — галоўны ўрач нібы прачытаў думкі ардынатара. — Працатэрапія, я ж сказаў. Ты чытаў яго сачыненне?

Андрэй кіўнуў.

— Дзе Кані і Ромпі? Дзе Тутмондыя? Чаму Тэнзілер і Філіп, Алатанія і Фрус? Як разумееш?

— Адстой, — кінуў ардынатар.

— Адстой у цябе ў мазгах, таму што ты ўчора да трох ночы па горадзе бадзяўся, свет ценяў сабой палохаў! А ў вучоных гэта называецца «канцэпцыя».

— Зразумеў я яго канцэпцыю, Яўгеній Фёдаравіч! Постграмадства, феадальнае, сучаснае — канфлікт! Тыповы іпахондрык.

Жалруневіч адкрыў бы рот, калі б меў звычку такім чынам выказваць здзіўленне. Праігнараваў нават «іпахондрыка».

— Значыць, ты ўпэўнены, што Тэнзілер, як і Ромпі, не стане героем рамана?

— Вядома, не, — Андрэй адчуў, што шэф абмяк, і дазволіў расслабіцца сабе. — Я прысяду, можна? А кава ў вас знойдзецца? Каб седатыўны эфект зняць…

Жалруневіч уважліва зірнуў на Грыніча: ці не надта зарваўся малады? І адказаў, як звычайна, жартоўна:

— Мгу. Дакладней, эмгэу. Ты зразумеў, чаму ён перастаў пісаць пра Тутмондыю і пачаў пісаць пра Алатанію? Ідзі чайнік налі. Не даверху толькі, закіпае доўга.

Ардынатар зняў з падстаўкі электрачайнік і выйшаў.

Жалруневіч змоўк і здзейсніў рытуал тытунякурэння.

* * *

— Дык чаму з Тутмондыі на Алатанію?

— Я ж казаў. Феадальны лад разглядае…

— Ні халеры ён не разглядае! Ён рухаецца! Я яго спытаў: а што будзе з Ромпі, Кані, як усялякія малуцілы сябе будуць паводзіць? Адказвае: мне гэта ўжо нецікава, няхай развіваюць іншыя. Як па логіцы сюжэта, то стары Кані на эскападу не пойдзе — яму лепш сядзець у чадзе фунгаў і разважаць пра слаўнае мінулае антраў; Ромпі возьме з сабой Банегу і Лерту; Конвін данясе фрэмдам пра ўцёкі юнага гвіданта; Канклаў знішчыць Араганту, Канкета, Фроці, а заадно — Балайлу і Віргу за правакацыю да рэвалюцыі… Другі, аптымістычны варыянт: моладзь разам са старым Кані будзе ісці праз балоты, пакуль той не памрэ. Ромпі загадае несці труп старога далей, а кожны ўзыход Сонца будзе сам-насам «раіцца» з памерлым продкам. Урэшце яны сустрэнуцца з вольнымі і дзікімі курганнікамі-мантэтамі і даведаюцца, што тыя не могуць размаўляць доўгімі фразамі, затое вельмі даверлівыя. Ромпі падманам і подласцю пераможа двух курганнікаў-асілкаў, але шматразовым, пераканаўчым і аднаскладовым «Так! Так! Так і трэба!» пераканае памежнае племя, а затым і ўвесь дзікі народ у законнасці перамогі. Капацыту-важака курганнікаў ён зрыне з дапамогай «індзя» — ціхага агню, які даў яму Кані… Ты разумееш, пра што я кажу?!

— Эскапада — уцёкі, мальбанула — злачынец, фунгі — грыбы, гентэстры — старэйшыны… Мне здаецца, што на такія глюкі толькі малалеткі западаюць.

— А, інтэрнэт падключыў, эсперанта асвоіў! — ажывіўся Жалруневіч. — Малалеткі на глюкі западаюць, а табе — здаецца.

І тут жа супакоіўся:

— Паглядзі за акно. Якая восень! Тужлівая пара, як загадаў нам жыць паэт. А то перад гэтым чатыры верасні адпалалі не горш за жніўні!

Яўгеній Фёдаравіч падклаў руку пад падбароддзе і задуменна ўтаропіўся ў акно. Туды ж глядзеў і Андрэй Грыніч. Ён чакаў, пакуль шэф або задасць больш-менш канкрэтнае пытанне, або адпусціць. Хоць і кавы папіць няшкодна — у ардынатарскай скончылася, а бегчы ніхто не хоча.

— Ды Бог з ім, з эсперанта, хоць без яго Вавілонскага стаўпа не стварылі б. Дакладней, яго таму і не стварылі: сто барбосаў — не зграя, сто муляроў — не будтрэст… Я пра Тышкевіча. Што ты зразумеў, Андрэй, скажы нармальнымі словамі!

— Муць гэта ўсё, Яўгеній Фёдаравіч. Наш пацыент рэальнасць з вымыслам не падзяляе.

Жалруневіч даволі своечасова шчоўкнуў па клавішы перапоўненага чайніка: энергія ўзроставага і кіраўнічага пратэсту зраўнялася з энергіяй двухкілаватнага монстра і нармалізавалася.

— А ведаеш, што ён скажа пра Алатанію?

Пытанне чакалася, але адказ гатовы не быў: сапраўды ўчора ў цікавай кампаніі дапазна «быкавалі» па горадзе; дзякуй Богу, што не папаліся. Грыніч раўнадушна паціснуў плячыма.

— Тэнзілер загіне. У любым выпадку. Наткнецца на рыф, патоне разам з флатыліяй падчас шторму… Скончацца запасы ежы або прэснай вады — і толькі пустыя судны з заснулымі мерцвякамі будуць упрыгожваць бязмежныя хвалі да таго часу, пакуль чарговы шторм не апусціць іх на дно…

— А аптымістычнае развіццё?

— Малайчына, Андрэй, сочыш за думкай. Ацані версію: Тэнзілер з ацалелымі пасля шматмесячнага пераходу матросамі-фрусінцамі патрапіць на астравок, утрая меншы Фруса. На гэтым востраве дзевяць з дзесяці парадзіх нараджаюць дзяўчатак. Далей сам дадумаеш?

Грыніч паспеў насыпаць па лыжачцы грануляванай кавы сабе і шэфу і ўкінуў цукар у абодва кубкі.

— Вы хочаце сказаць, калі ён вернецца, то будзе пісаць пра нешта іншае?

— Не, Андрэй Уладзіміравіч. Я проста спадзяюся, што наш, дакладней, твой пацыент, паўтараю: твой фармальна і фактычна, вернецца ў час і без прыгод… Калі не — табе і дзядзька з КДК не дапаможа!

Грыніч прыадкрыў рот, але тут жа ўзняў кубак, каб апраўдаць класічную прыкмету ашаломленасці. І яшчэ дапамагла «школа» начальніка:

— Яўгеній Фёдаравіч, а якія адносіны мае кандыдат біялагічных навук да будаўніцтва фундаментаў і платоў?

Але настаўнік ведаў і «сто першы прыём»:

— А ты сам, Андруша, з мамкі кім вылазіў: школьнікам, студэнтам або адразу ардынатарам? — і паблажліва патлумачыў: — Ён у маладыя гады тры працоўных семестры правёў у будатрадах.

— І як вы лічыце: няхай едзе?

— Канешне, Андрэй Уладзіміравіч. Калі баішся, падстрахуйся заявай хворага і распіскай родзічаў. Вернецца — у сметніцу выкінеш, здарыцца нешта — не праўда, дык палова праўды за табой будзе. Ён усё ж у закрытай установе знаходзіцца, з непрывычкі насамрэч звіхнуцца можна…

— А чаму ён дадому не просіцца? У яго ж, здаецца, жонка ёсць і сын дарослы.

— Таму, што разумны чалавек. Я ягонай жонцы патэлефанаваў, а яна так спакойна адказвае: «Сказаў, каб не хваляваліся: на сваіх нагах пайшоў, гэтак жа і вярнуся».

Смела…

— У тым і фокус, — уздыхнуў Жалруневіч. — Дурнем мы яго зрабіць можам, а вылечыць — не.

Яўгеній Фёдаравіч вырашыў, што «дзелавых» размоў дастаткова і загаварыў нязмушана:

— Мне анекдот паказальны адзін пацыент сягоння расказаў: «Выпісваецца хворы з установы кшталту нашай. Пагардліва глядзіць на ўрача і вымаўляе: "І гэтая нікчэмнасць сцвярджае, што здолела МЯНЕ вылечыць ад комплексу непаўнавартасці?!"»

**Працатэрапія**

Валянцін Уладзіміравіч адклаў цяслярскую сякерку, якой майстраваў апалубку, і скінуў старую скуранку з разагрэтага цела.

— Прастудзішся, Валік! — клопат пра швагра ішоў ад уладальніка ўчастка Сяргея Клімчука.

— Не бяры да галавы, сваяк, — адазваўся Тышкевіч. — У мяне выдатная тэрмарэгуляцыя.

— Вось ты вучоны чалавек, — Клімчук выцягнуў з каленнай кішэнькі зморшчаны пачак «Вінстана», — а што гэта табе дало?

— А табе? — сустрэчнае пытанне было зададзена раней, чым скончылася папярэдняе. — Усе мы прыблізна аднолькава пачынаем і прыблізна аднолькава заканчваем. Бутэрброд, дзе знізу — улонне маці, зверху — вечка труны, а начынка — наша жыццё.

— Ну ты не спрашчай, Валянцін! Калі ў курсе, я ў гэтых пытаннях на ўзроўні раджа-ёгі арыентуюся.

— Таму і паехаў з табой…

— Раскажы, як яно там, у дыспансеры?

— Звычайная справа: моладзь пакутуе ад непадзеленага кахання, сярэднія камплексуюць, сталыя спрабуюць нешта зрабіць, старыя радуюцца любой увазе.

— А ты сам асабіста?

— Цярплю пакуль. Жалруневіч — даволі свядомы камандзір. Незразумела нават, як у пару ўсеагульнага кіраўнічага маразму здолеў застацца і на пасадзе, і чалавекам. Відаць, месца мёдам не намазана… Хоць часам здаецца, што ён звар’яцеў не менш, чым мы, ягоныя пацыенты.

— Гэта Наташа падгаварыла цябе на выхадныя ўкрасці. Сам разумееш, што свет за суботу-нядзелю мы не перавернем.

— Дзякую. А свет і без нас перавернуць і нам не скажуць.

— Жалруневіч гаварыў, што ты там літаратурку нейкую пісаць пачаў. Даволі цікавую… Можа, і мне пачытаць дасі?

— Жалруневіч фантастыкай усё жыццё захапляецца. Ён яшчэ ранніх Стругацкіх і Шыціка ўзахлёб чытаў. А ты, Сярога, напэўна, пасля «Буквара» і «Раджа-ёгі» толькі «Прэс-бол» у рукі браў. Табе гэта трэба?

— Ну, мяне так ужо зусім не варта… — у голасе гаспадара ўчастка пачуліся папераджальныя ноткі.

— Прабач, сваяк, там складана напісана. Толькі ў дыспансеры такое і дазволена. Ты ж па жыцці заняты больш справай, а не словам. У прынцыпе, я так зразумеў, да любога тэксту, апроч прымітыўнага, пэўная адаптацыя патрэбна. Нават калі даць сённяшні выпуск навін людзям, што жылі трыццаць гадоў таму, яны б з рэек з’ехалі. А ў будучае перасяліцца прасцей, чым у мінулае… Так створаны чалавек: яму веды лягчэй набываць, чым ад іх пазбаўляцца.

— «Набываць веды»? «Спасцігаць ісціну» — так высакародней гучыць, а, Валянцін?

— Эмацыйныя нюансы. Памятаеш, у «даперабудовачныя» часіны можна было проста купіць, а можна было «дастаць», — Валянцін Уладзіміравіч паддаўся-такі на правакацыю сваяка. — Мы не здольны стварыць штосьці ўнікальнае. Наша доля — камбінацыі вядомага: ці зразумелыя, ці няўцямныя з перспектывай усведамлення сучасным або будучым розумам…

Суседскі хлопец, якога маці паслала да Клімчука за тэлескапічнай лесвіцай

самапальнай канструкцыі, прыпыніўся за спінамі мужчын і не рашаўся іх перарваць. Перашкаджаў кантраст знешняга выгляду з тэмамі размовы.

Зрэшты, яго заўважыў Клімчук. І адразу ж пераключыўся на бытавы тон:

— Мікітка? Здароў нанаалігарх! Уладкаваўся куды-небудзь на працу або сібарытствуеш?

— ПМК, дзядзька Валодзя. **П**акуль **м**амка **к**орміць.

— Ну правільна, якая ж ты маці, калі сына да пенсіі не пракорміш? — весела адрэагаваў Клімчук. — Да тваёй пенсіі, Мікіціч, улічы. А як што не так — пытаннем у лоб: навошта нарадзілі, я ж не прасіў!

Гаспадар палічыў, што далейшая жартоўная мараль успрымецца занудствам і зноў пераключыўся:

— Трэба што ці пакурыць прыйшоў?

Мікітка, якога сёлета выгналі з уступнага экзамена за выкарыстанне мабільніка і які здолеў паспяхова «адкасіць» ад войска, быў не супраць заадно стрэльнуць цыгарэтку ў дзядзькі Сярожы.

Яны пайшлі ў гараж, а вярнуўся Клімчук з новай тэмай.

— Што ты думаеш пра сённяшні сусветны крызіс?

Тышкевіч не пераключаў мысліцельны апарат ў халасты рэжым, таму адказаў практычна адразу:

— Гэта вайна. Знішчаецца біямаса асноўнай канкурэнтнай расы — еўрапейцаў. А працягласць будзе залежаць ад насычэння ахвярамі, якімі будуць забіты, заўчасна памерлыя, дэградзіраваныя, ненароджаныя…

— А на маю думку, бяда ў тым, што з эканомікі выпаў фактар «бульда»…

— Як ты сказаў?

— Помніш, народны выраз: «дэбет—крэдыт, сальда—бульда»? Індывідуум, чый «ай-к'ю» адрозніваецца ад нуля, выкіне лішняе слова з гэтых чатырох. І памылішца: у гэтым бязглуздым тэрміне зашыфраваны чалавечы фактар. Любая фінансавая афера паспяхова праходзіць пры наяўнасці пэўнага пакета дакументаў — папяровых або электронных — і ніхто не правярае чалавечыя якасці кандыдатыў на растрату, крадзеж, калапс… Мо думаеш, жартую?

— Думаю, памыляешся, — непаразуменне, іронія, здзіўленне, усведамленне і фарміраванне канцэпцыі прамільгнулі ў вачах Тышкевіча шматколернымі плямамі бензіну на вадзе. — Усе, як адзін, завалілі б непрадузяты і грунтоўны псіхатэст. Шчыры і разумны чалавек не можа гарантаваць нічога. Абсалютна нічога…

— Кавы пап'ём? — Сяргей напружвацца не збіраўся.

— Пайшлі, а то, сам разумееш, у клініцы — адзін намёк на каву. Больш белай атруты, чым карычневай чумы.

— Малака і ўласна кавы? — удакладніў Клімчук.

Тышкевіч паківаў і ўсміхнуўся.

Абодва падняліся і пайшлі ў будачку, якую Клімчук змайстраваў яшчэ ўвесну.

— А чаго мацнейшага?

— Не, Сярога, нам жа яшчэ працаваць.

— А мы без фанатызму!

— І Грынічу абяцаў…

— Гэта маладому сынку, ці што?

— Гэта лечачаму ўрачу, ці што, — паправіў Тышкевіч. — Талковы хлопец, толькі не даспеў пакуль: жыццё ў аб'ёме не бачыць. Хоць, на шчасце, здаецца, ён далёка не ўсё вырашае.

**Прыём у галоўнага ўрача**

— Ну і як нашы справы? — пацікавіўся ў наступнага Яўгеній Фёдаравіч, не падымаючы галавы, бо шукаў у верхняй шуфлядцы рэланіум.

— Нашы справы — швах! — павольна адказаў пацыент.

Жалруневіч усё ж ламануў ячэйку з матрыцы, аднак таблетку даставаць не стаў, а ўскінуў вочы.

— А, Тышкевіч! Прабачце, Валянцін Уладзіміравіч, вам жа на палову адзінаццатай прызначана?

— Перада мной двое з маёй палаты запісаны. Толя Ерамеенка ўсё роўна сам не пойдзе, а Багрова Жэню тэрмінова на жаўтуху правяраюць. Хоць што там правяраць… Так што пасля нашай рэгламентаванай бяседы атрымаеце законны тайм-аўт.

— Ну што вы, які з вамі рэгламент! — галоўны ўрач усміхнуўся, але адразу падціснуў вусны і адвёў позірк убок. — Зрэшты, спачатку па справе: абследаванне падыходзіць да завяршэння; хутчэй за ўсё, будзеце выпісаны з эпікрызам, які поўнасцю вас задаволіць…

Ад увагі Жалруневіча не ўхілілася знарочыста бязглуздая ўхмылка Тышкевіча.

— Разумею. Само знаходжанне ў нашай установе ў абывацельскім асяродку лічыцца канчатковым і беспаваротным дыягназам. І ўсё ж, і ўсё ж… Куды падацца думаеце?

Валянцін Уладзіміравіч пранікнёна зірнуў на галоўнага ўрача і зноў усміхнуўся.

— Арганізую клуб «Для тых, хто старэ». Прыём членаў — з сарака гадоў. Праз дзесяць гадоў прысвойваецца статус члена-карэспандэнта, праз пятнаццаць — сапраўднага, праз дваццаць — можна пераводзіць у заснавальнікі, праз дваццаць пяць, калі не памёр, — у ганаровыя. Натуральна, пры станоўчых паводзінах і з улікам градацыі стажу ад узросту.

— Клімчук навучыў адкос прадэманстраваць? — Жалруневіч ва ўпор зірнуў на Тышкевіча. — А вось пашлю-ка я вас (не сам, канешне) на сусветную будоўлю стагоддзя!

Тут пахаладзеў Валянцін Уладзіміравіч. У мінулай размове з галоўным урачом ён празмерна канкрэтна выказаўся пра планетную навуковую задумку.

Сапраўды, сваяк Сяргей (усё ж выпілі!) пераконваў, што лепш «закасіць», і спасылаўся на непрадказальнасць развіцця сусветнага крызісу і беспакаранасць любых неагрэсіўных дзеянняў ва ўмовах стацыянара.

Жалруневіч адчуў, што чарговы раз перамог.

Ён выцягнуў таблетачку, праглынуў, запіў вадой з графіна і прадоўжыў, як нічога не было:

— А мяне ў свой клуб возьмеце?

— Вы ў мяне праз паўгода станеце лордам, — з палёгкай уздыхнуў Валянцін Уладзіміравіч.

Уздыхнуў і Яўгеній Фёдаравіч.

— А давайце проста пагаворым. Быў у мяне гадоў дваццаць таму пацыент з прозвішчам Сеніцкі. Сцвярджаў, што таксама з акадэміі. Лабараторыя рэлятыўнай механікі, наколькі памятаю. Не чулі пра такога?

— Чуў. Гадоў дзесяць таму знік без звестак…

— Я тады працаваў з Дубкіным, ён цяпер у Ізраілі, перапісваемся па інтэрнэце, гасцяваў у яго два разы…

Жалруневіч задумаўся, ці варта спавядацца: урэшце перад ім пацыент. Не, не варта.

— Карацей, туды яму і дарога, Сеніцкаму.

— Я не ведаў, што ён да вас трапляў. Па ўзросце — ён тады ці ў інстытуце вучыўся, ці аспірантам быў.

— У тым якраз праблема — ва ўзросце. Калі ён да мяне трапіў, яму было — як табе цяпер. — Яўгеній Фёдаравіч не заўважыў, як перайшоў на «ты».

Тышкевіч быў спакойны, як пітон, што заглынуў дзясятак яшчарак-ігуан.

— Заспакаяльнае на ноч бралі?

Валянцін Уладзіміравіч кіўнуў.

— Ну вядома, нарката! — Жалруневіч падміргнуў, шчоўкнуў сябе пальцам па горле і зноў пасур'ёзнеў: — Храпуны дасталі?

— Не толькі.

— Абяцаю, што пра той факт, што вы ў нас знаходзіліся, дакументальнага сведчання не будзе. Маёй улады хопіць.

* * *

«Тайм-аўта» не было. Яны праседзелі гадзіну, абменьваючыся сілагізмамі. Пагаварылі пра клімат планеты, кланаванне, эканамічны крызіс, нанатэхналогіі і адронны калайдар, пакуль санітары не ўпіхнулі ў кабінет Толю Ерамеенку, рукі якога скотчам былі прыматаны да таліі. Чырвоная дамашняя кашуля закрывала ўсё, апроч ваяўнічых канечнасцей, прыкутых да цела бліскучастымі неанаручнікамі. Толя быў у адных шкарпэтках — відаць, шлёпанцы згубіў недзе па дарозе.

— Вы тут усе псіхі, апроч мяне! — роў Толя. — І ты, доктар, і ты пісьменнік чортаў! Вызваліце неадкладна, мне трэба з'ездзіць у горад з адным чалавекам перагаварыць!

— Перагаворыш другім разам. А не заткнешся — намордік надзену! — прыкрыкнуў Лёха Навараў, барэц з політэхнічнага, які падпрацоўваў санітарам з-за ранняй жаніцьбы.

## ЕЎРОПА. СІМПОЗІУМ

Эльдар Койснер традыцыйным бразганнем званочка заклікаў сімпозіум да працы.

— Увага, спадары! Сённяшняе пасяджэнне прысвечана абмеркаванню рашэнняў саміта кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў планеты. Мы павінны разумець, што нам не ўдасца змяніць ход гісторыі; наша задача — карэктаваць яго. Еўропа па-ранейшаму з'яўляецца мацерыком, здольным аб'яднаць свет. — Эльдар папераджальна падняў далонь у бок вечнага спрачальніка — лідара лейбарыстаў Алекса Тэлуста. — Ведаю, спадар Тэлуст, што мы размяшчаемся ў Афрыцы, а асноўная частка Еўропы — на дне Сусветнага акіяна. Але яна была, ёсць і будзе галоўнай тэрыторыяй планеты. Дзе мы — там Еўропа! Восем мацерыкоў і шэсць буйных астраўных дзяржаў злучаны ў агульную структуру. Астаюцца Тутмондыя і Алатанія. Там развіццё цывілізацыі адбываецца з абрывам гістарычнай памяці. Тутмондыя, як вам вядома, шматок Аўстраліі, у якім узялі верх кланаваныя гіганцкія павіяны з адкарэктаванай геннай

структурай, што выштурхнулі ў рэзервацыі эралітаў, сваіх стваральнікаў. Павіяны не валодаюць чалавечым досведам у заваяванні і засяленні тэрыторый, а таксама ў вынаходніцтве зброі, хоць людзі там, несумненна, захаваліся. Алатанія — расталая Антарктыда — сабрала людзей са сцёртай гістарычнай памяццю і сціральнікаў гэтай памяці. Гэта колішнія антыглабалісты і «зялёныя», якім удалося не толькі выратавацца, але і ажывіць былы лядовы мацярык. Там, па нашых звестках, можа знаходзіцца толькі невялікая група людзей, якія валодаюць праўдай пра цывілізацыі, і, магчыма, пэўныя асобіны, якія маюць неабходныя ўнутраныя стымулы ў асваенні новых тэрыторый. Мы пакуль толькі аднаўляем неабходны ваенны патэнцыял, але тым не менш радыёсувязь надзейная ва ўсіх напрамках; эксперыментальныя мадэлі першых танкаў паспяхова прайшлі выпрабаванні; тры крэйсеры з’ехалі са стапеляў; пра космас, самі разумееце, размова пакуль не ідзе; ракеты «Зямля-Паветра» яшчэ праектуюцца. Затое агнястрэльная зброя дастаткова надзейная.

Гістарычны досвед чалавецтва паказвае, што для паспяховага развіцця неабходна пакончыць з варожымі цывілізацыямі або падпарадкаваць іх, каб паспяхова развіваць сваю. І яшчэ: я прашу кельнераў патушыць свечкі ў зале. Мы нарэшце ўключым электралямпачкі!

Койснер урачыста змоўк і ўзняў галаву.

Кельнеры разбегліся па радах і задзьмулі свечкі. Адзін з ахоўнікаў Койснера падышоў да сцяны і ўключыў рубільнік.

Удзельнікі сімпозіума прыжмурыліся ад святла, якое яны чакалі сем месяцаў.

— А цяпер, спадарства, выступайце па дадзенай тэме адпаведна з рэгламентам. Выкажыцеся яшчэ, спадар Тэлуст, паспееце!

**Разбор**

— Іпахондрыя, кажаш? Не, тыповая кататонія. Дакладней, можа трапіць да нас як другасны кататонік. Дзе абламаўся першы раз — не скажу, не ведаю. А цяпер у яго адна праблема — мы з табой. Пагадзіся, статус загадчыка лабараторыі і састарэлага псіха — не адно і тое ж, — Жалруневіч ненадоўга задумаўся. — І расце нават у нашых умовах, сабака, калі ўвесь гэты час не касіў пад зайца. Чытаў жа яго «Сімпозіум»?

Грыніч паківаў: маўляў, чаго там чытаць?

— Мне падалося, што пісаў ён не вельмі шчыра. Каструбавата неяк. Тым не менш: бачыш прагрэс? Ва ўсіх трох урыўках ён асноўную частку ўдзяляе афіцыйнаму пасяджэнню, але ў двух папярэдніх эпізодах даводзіць іх хаця б да нейкага лагічнага канца, а ў апошнім нават пытанні пакідае несфармуляванымі, хоць у выступленні Койснера ўсё прадвызначана. А сюжэта ўвогуле няма. Здаецца, мы яму надакучылі. Што скажаш, Андрэй Уладзіміравіч? Па маім разуменні, заўтранька ўсё вырашым і выпішам.

Ардынатар праігнараваў няяснасць апошняй фразы.

— Скажу проста. Нам яго здалі з Акадэміі навук. За зрыў пасяджэння рэзкім выступленнем. Папрасілі праверыць. Што мы направяралі, калі вы перашкаджаеце мне яго абследваць? — Грыніч учора злёгку пасварыўся з медсястрой Юлькай, якую прымяраў у часовыя спадарожніцы жыцця, і таму быў злёгку раздражнёны. — А як магчымы суіцыдальны сіндром?

— Ён паспяхова пераадолеў гэты перыяд, цяпер у яго іншая задача — самарэалізацыя. Калі прыходзіць усведамленне, што ты не вечны, шкада часу. Не будзем адбіраць яго ў Тышкевіча. Ты сам курыш, Андрэй?

— Бывае.

— Зачыняй кабінет, пакурым.

Жалруневіч узняўся, прачыніў акно і ўключыў кандыцыянер.

* * *

— Ты не разумееш спецыфікі нашай работы, Андрэй. Мы пра ўсіх усё павінны ведаць. Яны ў Акадэміі адно аднаго з'ядаюць замест вячэры. Ён разнёс той сход ушчэнт: дасціпна і аргументавана. А яны, раздзьмутыя ад фанабэрыі, прызнацца ў гэтым не маглі. Таму пасяджэнне і перарвалі, што спланаваны ход парушыўся. А Тышкевіча да нас сплавілі. А ён усяго толькі графін разбіў. І хутчэй за ўсё — ненаўмысна: яго нейкі спрытнюга-падхалім з трыбуны пачаў выпіхваць — дык хапаўся за што патрапіць… У цябе нешта асабістае? — Жалруневіч адчуваў суразмоўцу не горш, чым разважаў. — Пайду на скідку: канчатковы дыягназ — абследаваны, адхіленняў не выяўлена. Ну, само сабой, карту агульных захворванняў: хто пасля сарака не мае хаця б трох хранічных дыягназаў, у тым ліку — адзін смяротны, той не жыў, а за чужыя спіны хаваўся. Зробіш?

Грыніч паглядзеў на галоўнага ўрача — чакаў афіцыйных тлумачэнняў.

— Бачу, што вагаешся. Ёсць кампрамісны варыянт — ён тут увогуле не абследваўся. Перачытай клятву Гіпакрата і пераканайся, што ўсе яе пункты датычаць хворых, — Яўгеній Фёдаравіч вылучыў апошняе слова, — людзей. А Тышкевіч здаровы. Зрэшты, усе дакументы можаш трымаць гатовымі да ўзнаўлення. Я раскажу, як.

Пасаж быў такім нечаканым, а вочы начальніка так успыхнулі, што ардынатару захацелася выклікаць санітараў. Аднак гэта было яшчэ не ўсё.

— Я тут па сваіх сувязях дагаварыўся, што Тышкевіч будзе ўключаны ў штат лабараторыі па рабоце з калайдарам. Паедзе паўнамоцна ад Рэспублікі.

Тут ужо Андрэй Уладзіміравіч здзівіўся па звычцы.

— А як жа Акадэмія згоду дасць? Яны ж яго — да нас, а цяпер — у Еўропу?

— Вырашыцца ўсё і ў Акадэміі. Папрасілі праверыць — мы праверылі. А цяпер ён ім патрэбны? Вось так…

— Яўгеній Фёдаравіч, вы ж самі казалі, што калайдар — туфта сусветнага маштабу? І Тышкевіч так мяркуе…

— Туфта — калайдар, а зборышча разумных галоў у адным месцы — гэта сотні адкрыццяў. — Жалруневіч па-народнаму забываў, што назву калайдару дала рэзанансная часціца — адрон. — Пры ўмове, што імі не будуць камандаваць трохзвілінныя асобіны. А гэта наўрад: вынік атрымаць трэба, хоць бы пабочны.

— Тышкевіч — мікрабіёлаг. Бактэрыі, так разумею, вірусы, споры. Пры чым тут калайдар з паскаральнікамі элементарных часціц і стварэннем мадэлі Сусвету?

— Ды гэтыя паскаральнікі пры кожнай нармальнай Акадэміі ёсць! А ўжо Францыя-Швейцарыя, даўжэй-карацей — дэталі. Хутчэй па Тышкевічавых запісках створыш мадэль Сусвету, чым па тупіковым лабірынце, у які столькі грошай убухаюць, што згаладалая Афрыка ад атлусцення лячылася б беспрабудна! А спецыяльнасць выдатная — мікраарганізмы ў любых умовах выжываюць. Не ўсюды ж абсалютны нуль… А біямімікрыя, а нанатэхналогіі? Уяві, лепшыя галовы сучаснасці сабраліся ў адным месцы; яны вызвалены ад клопатаў і бытавухі… Ён і ў нас

за два тыдні белетрыстам амаль стаў! Я, стары грэшнік, закінуў яго «Рэзервацыю» на літаратурны сайт — працягу патрабуюць! Праўда, ёсць і негатыўныя водгукі: маўляў, развярнуўся, нагрузіў, нейкія характары абазначыў, а не развіў. «Песня пра байца без пачатку і канца…» Але гэта тое ж самае, што патрабаваць працягу, так? Хоць сам пішы… Можа, ты даб'еш, Андруша?

— Ну, я ў прынцыпе пісаў вершы ў школе, калі закахаўся ў настаўніцу…

— Во-во, давай! І настаўніцы будзе прыемна. А я табе правёў па бухгалтэрыі надбаўку за складанасць і напружанасць работы. Круці-вярці, ён жа ўсё намеціў, а ты будзь лернерам, вучнем, — вывярніся навыварат!

— А можа, сцэнарый лепш напісаць? Тады і ідэі Тышкевіча ўключыць можна.

— Ну, ты малады, табе і вырашаць. А нашаму генію час і справай заняцца.

Яўгеній Фёдаравіч уздыхнуў і завяршыў:

— Яшчэ і дысертацыю абароніш па Тышкевічу, калі раптам вернецца.

**Гіпотэза**

Тышкевіч дабіраўся на маршрутцы з ПНД дадому. Галоўны ўрач выдаў-такі яму бальнічны ліст «па агульным захворванні». Хоць і паабяцаў, што па асабістых сувязях дамовіўся, каб заднім чыслом можна было аформіць адпачынак за свой кошт.

З магнітолы кіроўцы неслася зухаватая рэтра-песня Высоцкага «Чуткі»: «Можа, чулі? Пад зямлёй будуюць горад! На выпадак, кажуць, ядзернай вайны…»

«А і сапраўды ў час халоднай вайны ўсе буйныя гарады падрылі…»

Сусветны эканамічны крызіс, глабальнае пацяпленне і адронны калайдар утварылі нерухомы трохкутнік, на перасячэнні бісектрыс якога ляжала рашэнне.

Валянцін Уладзіміравіч прабачыўся перад суседкай, паставіў на калені сумку, выцягнуў спісаны лісток і на зваротным баку паперы пачаў страчыць, не звяртаючы ўвагу на штуршкі падвескі «Газелі»:

## ПАЧАТАК АПАКАЛІПСІСА

Чэр Бузестал выдатна ўсведамляў непрымірымы падзел у Групе Нязгодных, якая налічвала паўтары тысячы чалавек у імперыі, што іменавалася Алатаніяй. Чэр быў у Групе чацвёртай асобай пасля прэзідэнта, прэм'ера і адказнага сакратара і разумеў, што чалавечым дзецям ісціну трэба даводзіць мовай, даступнай разумнаму. Няхай нават яе аспрэчаць дзевяць з дзесяці. Адначасова ён ведаў, што ісціну нельга выкладаць наўпрост. А вось у выглядзе гіпотэзы яе прапанаваць можна. Зрэшты, у любым выпадку людзі скажуць яе, каб скарыстаць для надзённых патрэб.

Аднак для сябе Чэр Бузестал быў вымушаны накідаць тэзісы праекта па змене цывілізацыі, каб затым планамерна іх развіць, зарэтушаваць і пераказаць непадуладнай часу алегорыяй.

«Калі кліматычны крызіс пачаў рэальна пагражаць планеце, уладары свету — палітыкі, фінансісты, святары, вучоныя — аб'ядналіся. Кожны збіраўся ратаваць сваю шкуру і сваё семя, а разам з тым — эліту, здольную аднавіць цывілізацыю пры любым катаклізме. Тым, над кім яны стаялі і клопат пра каго анансавалі, было наканавана стаць ахвярамі пасля выкарыстання іх працы. Падчас нефармальных сустрэч было прынята рашэнне, якое не агучыў ніводзін з мільёна рупараў інфармацыі:

будаваць жытлы-сховішчы, дзе можна пяць-сем, а то і пяцьдзясят-семдзесят гадоў адносна камфортна адседзецца ў выпадку катастрофы. Для гэтага патрабаваліся знешнія ўмовы. Арганізацыя сусветнага крызісу, несумненна, спрыяла гэтаму. Перш за ўсё: зрабіць таннейшай рабочую сілу і, як вынік, панізіць кошт чалавечага жыцця. Наступнае: сакрэтнасць, якую ва ўмовах глабальнасці забяспечыць падпарадкаванне ўладам сродкаў масавай інфармацыі і актывізацыя работы спецслужб. Далей: сусветны навуковы праект, здольны захапіць нясталы розум і нейтралізаваць саматужных іронікаў і скептыкаў. Гэтаму праекту наканавана стаць легальнай лейкай для сусветных фінансаў, а яго рэальная задача — пабудова падземных сховішчаў, забяспечаных інфраструктурай не толькі для пражывання, але і для захавання дасягненняў цывілізацыі, для рэпрадукцыі чалавечага роду, выхавання новых пакаленняў, выратавання палітычнай, фінансавай і навуковай эліты. Менавіта з гэтых сховішчаў наканавана адрадзіцца чалавецтву. Сродкі і працоўныя рэсурсы фарміруюцца ад дзеяння крызісу, ім жа забяспечваецца сакрэтнасць. Агульнапрынятая норма рассакрэчвання — два пакаленні — роўнадастатковая як для таго, каб арганізатары натуральным чынам памерлі або адышлі ад спраў, так і для апраўдання, як мінімум — пэўнага тлумачэння сітуацыі, у якой прымалася рашэнне. Для фона неабходна арганізаваць яшчэ некалькі другасных праектаў, у тым ліку — авантурна-навуковых і псеўда- і блізрэлігійных. Таксама трэба ініцыяваць рух у “болевых кропках”, як унутры дзяржаў, так і паміж краінамі-суседзямі — перманентныя ўспышкі па адмоўных сумарных выніках павінны пераўзысці сусветную вайну. Пад падставай дбайнай прапрацоўкі шляхоў усеагульнага выратавання для развіцця дэпрэсійных настрояў на навукова-папулярных каналах належыць паказаць карціну бедстваў, вывесці варыянт карты свету пасля катастрофы, падзяліць мацерыкі на зоны, якія будзе неабходна ўзнавіць. Развіццё тэмы спародзіць браджэнне ў грамадстве і прывядзе да сацыяльных узрушэнняў, следствам якіх і будзе рэальны крызіс. Свет раздробніцца — ім можна будзе ўладарыць…»

«Газель» прытармазіла — уязджалі ў горад.

Валянцін Уладзіміравіч уклаў лісткі ў сумку. Заўтра або паслязаўтра ён іх абавязкова парве. Калі пераканаецца, што Жалруневіч не падмануў.



*Наста КУДАСАВА*

# НОТА ЛЕПШАЯ



***Наста Кудасава нарадзілася ў 1984 годзе ў Рагачове. Скончыла філалагічны факультэт БДУ і магістратуру пры ім. Друкавалася ў газеце «ЛіМ», часопісе «Маладосць». Аўтар зборніка вершаў «Лісце маіх рук».***

* * *

Горад усіх чужых
Збудаваў мне сцэну.
Мой камертон — уздых
Гэтых моцных сценаў.

Горад чужых адных,
Адкажы, навошта
Носіш так часта сны
І не носіш пошту?

Не адпускаеш жыць,
Даючы так поўна,
Горад такіх чужых
Чалавечых чоўнаў…

Сам сабе цар і мур —
Бездакорны горад!
Дар мой, скажы, чаму
Ты мне стаў на горла?

* * *

Уласнай каінскай рукою
сябе адрэзаць ад спакою,
закатаваць сябе да болю
непрадказальнасцю сваёю,
і ў гэтай ярасці бязбожнай
забыць, што трэба, а што можна,
каб выліцца дажджом адчайным
і зноў здабыць сваё маўчанне…

* * *

Люты мне латы шые,
Люты — маё золата!
Выцягваю ў неба шыю,

Ратуючыся ад холаду,
І холад выходзіць вонкі —
Стаю, быццам баба снежная…
Вось-вось… і пачну старонку!
Вясновую — новую — лепшую!

## НОТЫ

— Нота лепшая —

Калыхала Лея немаўля,
пеставала сонейка ў далонях…
Слухала пранікліва зямля,
як пяяла праведнае ўлонне,
як сусвет, уздыхваючы ў такт
непадробнай мацярынскай ноце,
радаваўся так, што Сам Мастак
забываўся аб сваёй самоце…

— Нота 31 жніўня 2010 —

Нота Одзіна, нота адзіная —
Адзіноты маёй немата…
Буйнавокае сола савінае
Да сасны, да сястры, да куста…
А хацела ж і неба, і філіна
Да птушыных грудзей прытуляць,
Ды на ўзгорку застыла рабінаю —
Толькі неба цяпер і абняць...

## ДА ДНЯПРА

Дамы-дамавіны
цябе залепяць,
мой сумны, мой слынны
страцім-лебедзь...

І над паваротам
святой пекнаты
дамы-бегемоты
разявяць раты.

На хвалях шэдэўра
з мільёнаў паўтонаў
дамы-проста-зебры
паўстануць шаблонна.

На тлустых абедах
узрошчваць прагрэс
дамы-дамаседы
рассядуцца спрэс!

Няўмольна бяздомных
(у *свой* час!)
дамы-мажардомы
сажруць нас!

* * *

Можа, я буду Будам,
толькі — заўжды закаханым...
Будучыню забуду,
раны з грудзей дастану,
стану ўсміхацца кожным —
нават скажоным — тварам
(кожны з далоні Божай
выслізнуў у сансару),
выдалю ўсе жаданні.
толькі адно пакіну:
каб невымоўным раннем
зноў нарадзіць бы сына.
Буду і Будам, можа...
Толькі дазволь — закаханым...
Толькі дазволь, харошы мой...
Дар мой неспадзяваны!



*Кацярына ФЯДОТАВА*

# АПАВЯДАННІ



***Кацярына Фядотава нарадзілася ў 1984 годзе ў вёсцы Сапегі Сенненскага раёна. Скончыла Наваполацкае музычнае вучылішча па класе «дырыжыраванне» (народны хор). Была настаўніцай фальклорных спеваў у СШ № 5 г. Наваполацка. Цяпер працуе ў Палацы культуры ААТ «Нафтан» загадчыкам аддзела па арганізацыі мастацкай творчасці. Друкавалася ў штотыднёвіку «ЛіМ» і мясцовым друку.***

## АМНІСТЫЯ ДУШЫ

Я ведаю цябе… Ты ёсць тайна і сэнс майго жыцця. Ты ўся мая! І разам з тым цябе няма. Ты… Твае вочы гараць незямным агнём! Ты нават сама не разумееш, наколькі ты небяспечная! А я, я — дурны нябога, патрапіў на гэтыя твае штучкі!.. Танныя, прычым, штучкі, а патрапіў!..

Прападзі ты пропадам! Згары, знікні, не чапай мяне, адыдзіся! А-ды-дзі-ся-а-а-а!!!

Гэта было нейкай навалай. Адурманены вінным чэмерам, ён ляжаў у пустой кватэры. Ногі, рукі, галава, усё цела наліта каменным цяжарам. Ён не мог паварушыцца. Але галава была ясная. Думкі снавалі сюды-туды. З нейкай дзіўнай адчужанасцю, нібы збоку, ён глядзеў сам на сябе. Ён бачыў голае бруднае акно з аблупленай фарбай і з шыбамі, заседжанымі мухамі. Бачыў нейкую пляму на падлозе і паску святла. Праз замусоленыя шыбы прасачыўся маленькі праменьчык. Спачатку нясмела, быццам пытаючыся: «Ці можна зайсці?» — скокнуў на сцяну, потым пасмялеў і перабег на падлогу, а затым шмат такіх промняў уварвалася ў пакой і заліло яго яркім святлом.

Сцяпан прымружыў вейкі і прыкрыў вочы рукою. Галаву працяў дзікі боль. З вуснаў вырваўся стогн, але язык быў такі распухлы і цяжкі, што не варочаўся. Яшчэ колькі хвілін Сцяпан так і ляжаў. Промні сонца гулялі па ягоным твары, скакалі ўверх і ўніз, як бы здзекуючыся з чалавека, што ляжаў на падлозе і сачыў за імі праз прымружаныя вейкі. За акном гайдаліся галінкі, яны то закрывалі лісцем, то зноў прапускалі сонечнае святло. «Трэба неяк падняцца»,— гэтая думка ўжо не першы раз наведвала Сцяпана, але ён не меў моцы нават павярнуцца.

Пакой кватэры, дзе ляжаў Сцяпан, уяўляў сабой квадрат, абклеены бякла-зялёнымі шпалерамі, дзе-нідзе абадранымі і запэцканымі тлустымі плямамі. Замест стала — два зэдлікі з кавалкам кардону зверху… Дзвярны праём без дзвярэй. Вось і ўсё. Вочы Сцяпана знайшлі самаробны стол і з надзеяй зірнулі на яго, але акрамя пустой бутэлькі з-пад віна і акрайца хлеба на ім нічога не было.

Цягучую і доўгую цішыню пранізаў грукат у дзверы. Сцяпан, перацярпеўшы рэзкі боль, падняўся. Яго павяло ўбок, і, каб не сцяна, ён бы заваліўся, але апёршыся, пацягнуўся да дзвярэй. Не пытаючыся, хто там, адкрыў іх. Яму можна было і не ўставаць, бо на дзвярах не было замка, нават ручка трымалася на апошнім цвіку. Сцяпан проста пацягнуў за яе, і дзверы расчыніліся. На парозе стаяў амаль поўны адбітак гаспадара кватэры: аплылы твар, зарослы шчаціннем, быў як скамячаны блін. Вачэй не бачылася, яны зніклі, ператварыліся ў шчыліны. Толькі доўгі нос, з сіне-чырвонай картоплінай на канцы, меў адметнасць. На госцю былі ношаныя, падраныя чобаты, а замест шнуркоў уцягнута шпагаціна. Калісьці сінія джынсы і майка «adidas» цяпер мелі чорны колер. На галаве доўгія валасы, на патыліцы зацягнутыя ў хвост. Яны ўжо і не памяталі, калі іх мылі. Ад госця ішоў здушлівы і непрыемны пах. Пах тыднёвага «свята» і даўно не мытага цела.

Сцяпан, паглядзеўшы на госця, паплёўся ў пакой, а замест прывітання прамовіў:

— Ну ты і смярдзіш! Лета на двары, хоць бы ў лужыне якой памыўся! Свіння!

Госць не пакрыўдзіўся:

— Можна падумаць ты лепш пахнеш! Тожа мне знайшоўся Како Шанель…Ты мне лепш адкажы, галава баліць?

— Баліць, а што, ёсць чым вылечыць?

— Ну, пакуль няма, але Зінка абяцала рубель даць, калі з’ездзім на летнік да яе бацькі, там нешта зрабіць патрэбна.

— Дай закурыць, — Сцяпан скінуў кардоніну з зэдліка, разам з ёю скаціўся і хлеб. Ён падняў акрайчык і кінуў на акно.

— Сядай.

Сядзелі моўчкі, зацягваліся цыгарэтным дымам. Госць першы загаварыў:

— А можа, ну яго, той летнік… Там Фядосавіч з Пецькам кумекаюць, можа й нам што перападзе.

— Ага, перападзе, яны ўжо зашыліся недзе, знайдзі іх летам! Кожны куст — родны дом, — але Сцяпан вызірнуў у акно. Насупраць знаходзіўся гастраном — звычайнае месца іх сустрэч. Там было пуста.

— Я ж табе казаў, што назбіралі ўжо…

— І што за людзі, хоць бы раз прыйшлі ды паклікалі, — злосна цвыркнуў слінаю праз бяззубы рот «госць».

— Чакай, прыбягуць, — Сцяпан, сашчапіўшы рукі, глядзеў на мокры след ад сліны. Ад таго, што дзіка балела галава, разбірала злосць. Не гаворачы ні слова, ён падняўся і пайшоў да дзвярэй.

— Ты куды? — «госць» толькі галавой павёў, нават не крануўся з месца.

— Пайду падыхаю, ты ж смярдзіш, як…

— Ну, гэта гледзячы чыя, — весела зарагатаў «госць» і патэпаў за Сцяпанам.

Горад млеў. Было яшчэ толькі адзінаццаць гадзін, а на вуліцах нікога — усе пахаваліся ад дзённай спёкі. Нават сабакі, і тыя ляжалі высалапіўшы языкі ў цяньку.

Гарадок быў невялічкі і мала чым адрозніваўся ад вёскі. Новыя шматпавярховыя дамы чаргаваліся з вясковымі хатамі, дзе ў гародчыках раскашавалі кветкі. Дарога ўся ў выбоінах. У цэнтры горада размясцілася плошча з будынкам райвыканкама, школай і нядаўна пабудаванай царквой. На другім баку плошчы — парк з партрэтамі перадавікоў на шчытах і надпісам аблезлымі літарамі: «Ні ў якой іншай краіне праца не цэніцца так, як у нашай!» Які дурань пісаў тыя лозунгі — невядома. Але кіраўніцтва раёна і не думае мяняць іх — відаць, поўнасцю пагаджаецца.

На лаўках ля дамоў, у цяньку старых дрэў драмалі бабулькі. Ад спёкі не хацелася гаварыць нават ім. І ажыўляліся яны толькі тады, калі з'яўляўся хтосьці на вуліцы:

— Манька, а ці дзеўка Хведарава замужам?

— А чорт яе ведае, яна ўжо пяты раз замужам!

— Ты што?

— А што, цягаецца то з адным, то з другім. Во і гэтага жанаціка валачыла. Жонка бегае, шукае, а яны перакочваюцца ў кустах.

— Во бяда матцы…

— А што матцы… І матка такая ж! Адправіць свайго Хведара ў камандзіроўку, а сама да гэтага, як яго, Гваздова! Ледзь успомніла!

— Ай-яй-яй, што ж гэта робіцца… Канец свету!..

Пад'езд, ля якога сабраліся бабулі, выходзіў да крамы. Але акрамя чародкі курэй, што на чале з белым пеўнем спраўна выходжвалі па вуліцы, там нікога не бачылася. З пад'езда вынырнуў Сцяпан, а за ім «госць». Бабулькі адразу прымоўклі, пачалі нешта маляваць на пяску кіёчкамі і ўсім сваім выглядам паказваць, каб не заміналі — бо вельмі ж цікавая размова ў іх. Але, як на зло, Сцяпан і «госць», крутнуўшыся, селі на лаўку.

— Ну што, бабулькі, языкі ўжо сцясалі зранку, — рагатнуў «госць».

— А ты шчэ рыла не заліў? Як так? Ужо дванаццаць, а ты цвярозы! Цьфу!

— Ну-ну, не бузі, бабка, — «госць» ужо без гумару глянуў на старую.

Тая палічыла за лепшае змоўкнуць. Сцяпан, таўхануўшы «госця», звярнуўся да старой:

— Цётка Маша, пазыч рубель. Атрымаю палучку і аддам.

— Якую палучку? Ты ж не працуеш нідзе!

— Ну бацька прышле з вёскі грошай, а хочаш — адраблю. Паможы ты, галава як кацёл!

— Во, яно і бачна, што як кацёл — пустая… Здаровы малец, а працаваць нідзе не хочаш… Так усё… Гуляў, піў, а цяпер здохнеш дзе пад кустом, і закапаюць там жа, як сабаку шалудзівага!

«Госць» ужо яўна злаваў:

— Ты, бабка, бузу не падымай! Мы як хочам, так і жывём. А што не працуем, дык гэта часова. Пытанне рашаецца. Во паедзем у Маскву і заробім грошай, а ты як сядзела на гэтай лаўцы, так і загнешся…

— Ага, чакаюць вас у той Маскве! Там сваіх такіх хапае… — бабка цяжка ўстала і пашоргала ў пад'езд. Сяброўкі яе, прыціхлыя, сядзелі моўчкі і раз-пораз уздыхалі. На першым паверсе адчынілася акно, і баба Маша паклікала Сцяпана, той паплёўся да акна.

— На, Сцяпан, табе рубель. Зможаш — вернеш, а не, дык Бог з табою. Толькі гані ты гэтага патлатага ад сябе. Дурны ён і злы, не звязвайся з ім…

— Дзякуй, баба Маша, я вярну, абавязкова вярну, — Сцяпан ужо не чуў апошніх слоў старой і жвава, адкуль узялося, пакульгаў да крамы. За ім пацягнуўся і «госць».

Праз колькі часу, у парку, за партрэтамі перадавікоў яны паснулі прама на траве. На твары Сцяпана блукала ўсмешка.

Хто ён, адкуль, ведалі ўсе. Яшчэ год дзесяць таму Сцяпан быў звычайным чалавекам. Аднойчы летнім ранкам у двор дома заехаў грузавік. У кватэру засяляліся новыя жыльцы. З кабіны выскачыў малады хлопец і дзяўчына. Весела шчабечучы, яна пабегла ў пад'езд, а хлопец і шафёр пачалі выгружаць рэчы.

Сцяпан быў малады, падаваў надзеі. Пасля інстытута яго накіравалі сюды. Бацька з маці расстараліся на кватэру, здаецца, жыві… Яны і жылі. Але таленавіты хлопец хутка пайшоў угору. Аднаму дапамог — запрасілі на застолле, другому… І пайшло-паехала. Спачатку папярэджвалі, потым знялі з пасады, перавялі ў рабочыя, потым зусім турнулі… Кінула жонка… Не вытрымала сэрца ў маці… Пасля смерці маці пачаў хварэць і бацька, але ад сына не адрокся. Слаў лісты з просьбай прыехаць дадому, але Сцяпан разумеў, што нікуды ён не паедзе, моцна зацягнула гэта балота. Ды і што ён там будзе рабіць?.. У вёсачцы на пяць двароў…

Сцяпан плёўся па горадзе. Уважліва зазіраў у твары. Што шукаў ён? Пра што думаў? Дзень не склаўся зранку. Балела галава, а грошай — ні капейчыны, на «вэксаль» таксама ніхто ўжо не даваў. Сябры раз’ехаліся, пахаваліся ад дзённай спякоты. А Сцяпан не мог выседзець дома. Нешта гняло, не давала спакою, гнала некуды ісці, штосьці рабіць… А што — ён і сам не ведаў. Проста разумеў: калі застанецца дома, то здурнее. Кружылася галава, ад задухі сціскала грудзі і хацелася піць. А ён усё ішоў, не выбіраючы дарогі, усё шукаў…

Пошукі… Усё жыццё чалавечае ў пошуках няспынных і цяжкіх. Што шукае чалавек? Сэнс? Каханне? Боль? І чаму, чым разумнейшы чалавек, тым больш цяжкія пошукі? Здавалася, раз ведаеш, што шукаеш, то і знойдзеш хутка. Але не так усё проста. Нездарма кажуць, што дурням жывецца лягчэй…

Увагу Сцяпана прыцягнуў рэкламны шчыт. Ведаеце, такія шчыты цяпер паўсюдна. Сцяпан спыніўся, аблізаў засмяглыя вусны і ўгледзеўся ў яго так пільна, што забалелі вочы. Цяклі хвіліны, а ён усё не мог адарвацца ад выявы на шчыце. На ім усміхалася дзіўнай прыгажосці дзяўчына. У ніводнай зямной красуні ён не бачыў такіх вачэй — глыбокіх, з доўгімі чорнымі вейкамі, колеру спелых буякоў, пацягнутых пацінкай. Гэта былі вочы — казка, вочы — песня. Яны не адпускалі ад сябе. Страпянуўшыся, нібы скінуўшы ўтрапенне, Сцяпан прыхіліўся да камля старой ліпіны. Што было ў гэтых вачах? Таямніца, сусвет, наіўная шчырасць і грэшная спакуса? А мо вочы маці, вочы каханай ці чужыя вочы, што выпадкова выхопліваеш сярод тысяч іншых у натоўпе…

Сэрца білася ў грудзях. Шукаючы ратунку, Сцяпан пабег. Хутчэй, хутчэй ад гэтага позірку, ад навалы, ад горкіх думак, ад усяго таго, што змусіла першы раз за такі доўгі час асэнсаваць сваю нікчэмнасць, сваю згубленасць і непатрэбнасць ужо нікому.

Бег, бег і бег, здавалася, гэта адзіны ратунак, адзінае збаўленне. Выбіваючыся з сілы, ён прыпыніўся. Цяжка дыхаючы, азірнуўся. Вакол панавалі цішыня і спакой. Растрывожанае сэрца запаволіла рух і, нібы птушка ў руках, прытаілася.

Пакуль бег, Сцяпан апынуўся за горадам. Апошнія хаты на ўскрайку вокнамі пазіралі на поле, на стужку дарогі, абсаджаную зялёнымі маладзенькімі таполямі. У блакітным небе плылі вясёлыя белыя аблачынкі і нібы гаварылі яму: «Які ты дзіўны, небарака, давай з намі, хутчэй!» Ён і сапраўды выглядаў дзіўным тут, сярод гэткага хараства і спакою. Стаяў пасярод зялёнай пераспелай травы. Разгублены позірк шэрых вачэй, ды невыказныя пакуты і боль у іх. Ён падаваўся чужым у гэтым жыцці. Над галавою пырхалі мятлушкі, ажно заходзіліся, стракаталі ў траве конікі. Чалавек — уладар прыроды, разумнейшая істота на зямлі, якая стварыла штучны інтэлект, сёння нікому не патрэбна. Стаіць гэта істота адна, сярод прыгажосці і гармоніі ды адчувае сваю нікчэмнасць і разгубленасць. Ад гэтага можна памерці, ці патрэбна памерці…

Сон не сон, а нейкія абрыўкі. Колькі разоў за ноч ён прачынаўся… Праз разбітую шыбіну ў кватэру залятала начная прахалода, студзіла, прабіралася за плечы і праганяла рэшткі сну. Сцяпан уставаў, доўга піў ваду з-пад крана, і кадык на доўгай худой шыі хадзіў сюды-туды. Глядзеў на двор, на белае вока поўні і, урэшце, разумеў, чаму сабакі выюць на яе. Недзе глыбока ў душы нараджалася дзіўнае пачуццё жалю да сябе, да марна пражытых гадоў. Бо ён добра разумеў, што пастка зачыняецца…

Можа, мелася выйсце? Бо стоячы тады ў траве, павярні ён у іншы бок, і ўсё б было інача, а мо, так здавалася тады?

І яшчэ тыя буяковыя вочы. Цяпер шмат бы Сцяпан аддаў, каб ніколі не бачыць іх, або забыць…

У выбітую шыбіну лілося святло поўні. Прывідныя ценькія пасмы клаліся на падлогу. Раптам з доўгіх пасмаў пачало ўздымацца лёгкае воблачка. Яно ўсё шырылася, большала, і на Сцяпана спачатку зірнулі вочы: вялізныя, сінія, пацягнутыя пацінкай, буякова-дурнічныя вочы. Ён не спалохаўся, а больш здзівіўся. Між тым з'явіліся пышныя валасы, усмешлівы рот і ўсе абрысы цела. У наступную хвіліну Сцяпан бачыў яе ўсю. Яна сядзела на падаконніку і ўсміхалася.

— Хто ты? — перасмяглымі вуснамі прашаптаў Сцяпан.

— А ты як думаеш? — зазвінеў лёгкім званочкам голас.

— Не ведаю… Мне здаецца, я губляю розум…

— Калі бачыш мяне, то павер, што ты ўжо яго згубіў! Але гэта не самае дрэннае, што з табою магло здарыцца…

— Хто ты? — паўтарыў Сцяпан.

— Я — твая Душа…

— Гэта немагчыма…

— Чаму немагчыма, кожны мае Душу.

— Мая Душа не можа быць такой… такой…

— Якой такой? Прыгожай? А яна па-твойму павінна быць такой жа страшнай як і ты? Не ўжо, выбачай. Хочаш, паглядзі. Вунь у тым акне, бачыш? Гэта таксама Душа. І там, і там…

— Гэта ўсе, хто з'ехаў з глуздоў?

— Ну, чаму? Нехта проста мае звычку размаўляць з Душою.

— А я?

— А ты з'ехаў… Так-так, не крывіся. Ты лічыш, што мяне можна кожны дзень атручваць, а потым жыць спакойна?

— Ты не Душа, ты сумленне…

— О-не! Каб ты бачыў сваё сумленне, то памёр бы ад аднаго погляду.

— Дык навошта ты тут?

— Гэта ўжо не твайго розуму справа. Я таксама паднявольная — што загадалі, тое і раблю…

— Ты? Паднявольная? Ты, можа, адзіная свабодная з усяго, што ёсць на зямлі.

— Каб жа было так, — сумна ўздыхнула Душа, — вы ўсё ж шмат чаго не ведаеце, людзі. Я твая закладніца… Я не хачу сядзець у гэтым брудзе, а ты сядзіш, кожны дзень… Значыць, і я не магу цябе пакінуць.

— А калі мяне не стане? Не так жа доўга мне жыць, якіх-небудзь дваццаць — трыццаць год і ўсё, мяне не стане… Для цябе ж што такое дваццаць — трыццаць год? — пясчынка… Затое будзеш вольная.

— Ну, я магу і не чакаць тваёй смерці. Вунь колькі іх, бяздушных, жыве нават сярод тваіх знаёмых, і жывуць жа неяк…

— Дык чаму ж ты са мною?

— Мне так загадана. І павер, там, — яна падняла палец угору, — лепш ведаюць, што і як…

— У маёй Душы буяковыя вочы, — прашаптаў Сцяпан.

Душа азірнулася:

— Вунь бачыш, таксама Душа.

Сцяпан паглядзеў у той бок і ўбачыў пачварную старую з дзікімі злымі вачыма.

— Думаеш, чыя гэта Душа? Маладой прыгожай дзяўчыны… Вось і мяркуй цяпер.

— Як такое магчыма? — Сцяпан павярнуўся да суразмоўцы, але ў пакоі ўжо нікога не было.

— Што за насланнё? Адкуль здані? Ці я сапраўды хворы на галаву?

Над горадам ужо зачынаўся ранак. Першыя промні ружовілі дахі дамоў. Спачатку было ціха, а потым зазвінеў шматгалосы птушыны аркестр і выплыла сонца, і асляпіла промнямі чалавека.

— Як добра, што я маю такую Душу. У маёй Душы буяковыя вочы і валасы колеру пераспелай пшаніцы. Божа, якая яна прыгожая… Няўжо ўва мне жыве такая прыгажосць, а я штодня заліваў яе чэмерам… Які ж я дурань!..

Сцяпан снаўдаўся сюды-туды па кватэры, не мог знайсці спакою.

— А калі яна не прыйдзе сёння? Што буду рабіць? Я ж не вытрымаю… Трэба яе нечым прывабіць… Але чым?

Паглядзеўшы вакол сябе, ён нарэшце ўбачыў, як жыве, і жахнуўся…

— Немагчыма так жыць! Я не буду так жыць! Я не магу жыць у брудзе!..

Сцяпан кінуўся ў ванну, каб знайсці хоць якую анучыну, але акрамя прусакоў, што распаўзліся ў розныя бакі, там нічога не было. Не доўга думаючы, Сцяпан скінуў з сябе майку і, намачыўшы яе пад кранам, пачаў церці вокны, падлогу. Адціраў плямы да той пары, пакуль майка не ператварылася ў ашмёткі. Кінуў прыдзірлівым вокам і застаўся незадаволеным. І тут твар яго праясне́ў. Як быў у адных штанах — кінуўся на вуліцу. У пад'ездзе ледзь не збіў бабу Машу. Тая спуджана завойкала:

— Куды цябе чорт нясе? Не бачыш нічога!

А Сцяпан, не затрымліваючыся, пракрычаў:

— Рыхтуй слоік!

— Які слоік? — не зразумела старая, — зусім здурнеў са сваімі п'янкамі.

Сцяпан не чуў яе. Ён бег, не спыняючыся ні на хвіліну. Толькі мінуўшы гарадскую мяжу і апынуўшыся ў полі, супакоіўся. Пайшоў павольна, прыглядваючыся да зямлі. Ішоў ды рваў кветкі, акуратна клаў адну да другой рамонкі, ліловыя смолкі, блакітныя званочкі і ўсміхаўся, як дзіця. У пшаніцы знайшоў валошкі і ўсё збіраў ды збіраў, пакуль абярэмак кветак не пачаўваліцца з рук. Толькі пасля гэтага Сцяпан павярнуў у горад.

Напэўна, нічога больш дзіўнага ніхто ў гарадку не бачыў. Сцяпан нёс кветкі і шчасліва ўсміхаўся. Ніхто не затрымліваў яго, ніхто нічога не пытаў. Падышоўшы да дому, ён прысеў на лаўку і ўдыхнуў водар кветак. Так пахла сена і матчыны рукі, потым, калі падрос, так пахлі валасы дзяўчыны, якую кожны вечар цалаваў пад старою бярозаю. Гэта быў пах жыцця! Ад яго кружылася галава і хацелася спяваць.

Сцяпану прыгадаўся сон. Росны ранак, сонца яшчэ толькі-толькі выплыла над лесам… А ён ужо крочыць з бацькам па траве. Штаны прамоклі да ніткі ад расы, але ён не зважае. Яны ідуць з бацькам касіць. Паветра вакол крыштальнай чысціні, і ён

дыхае ім і не можа надыхацца, захліпаецца. Бацька спыняецца, ласкава глядзіць на цыбатага падлетка і гаворыць:

— Вось тут наш надзел. Папрацуем трошкі, сынок.

Яны касяць траву. Каса мякка зразае мокрыя сцябліны, і пасля іх застаюцца роўныя пракосы. Сцяпан не чуе стомы, а толькі лёгкасць і сілу ў плячах. Спыніўшыся, ён азірнуўся і ўбачыў маці. Тая хуткім крокам ідзе да іх, а ў руках — полудзень у хусціне і белы бітончык. Яна падыходзіць да яго, гладзіць мокрыя ад поту валасы і ціха гаворыць:

— Стаміўся, ідзі аддыхні, перакусі трошкі…

Адчынілася акно, і баба Маша з цікавасцю паглядзела на Сцяпана:

— Ты хоць ведаеш, які дзень сёння?

Сцяпан павярнуўся да яе і, не хаваючы ўсмешку, адказаў:

— Не ведаю…

— Сёння Купалле. Кожная зёлачка, сабраная сёння, мае вялікую сілу. Вунь колькі ты іх налупіў…

— А я і не ведаў. Ды і не сабе я…

— Ой, Сцяпан, нешта страшна мне за цябе… Ехаў бы ты да бацькі. Ён там ужо недзе ўсе вочы прагледзеў, пакуль ты тут гойсаеш.

— На, бабка, кветак, — Сцяпан аддзяліў колькі сцяблінак і падаў праз акно старой.

— Дзякуй, Сцёпа, — баба Маша паднесла кветачкі да твару і правяла імі па шчацэ.

— Дай пасудзіну якую, а то завянуць…

— А навошта ж нарваў столькі?

— Для Душы, бабка, для Душы…

Паставіўшы кветкі ў вядро з вадою, Сцяпан знайшоў недзе кавалак люстэрка і, шкрабаючы тупым лязом, сяк-так пагаліўся. Пазбіраў увесь хлам і вынес на сметнік. Дзверы адчыніліся, і ў кватэру зазірнула бабка Маша:

— Табе памагчы?

— Не, я ўжо сам…

— Што ж ты тут разваяваўся? Я слухала-слухала, не вытрымала, прыйшла.

— Сядай… У мяне, праўда, няма дзе раскашаваць, але зэдлік знайду.

Бабка села і ўважліва паглядзела на Сцяпана:

— Ты можа піць кінуў?

— Кінуў.

— Сам, ці завязаў хто?

— А гэтага, бабка, я не ведаю. Як так, дык і сам, а як падумаю, дык завязалі…

— Ты вось дурнішся, а я сур'ёзна пытаю. Мне ж шкада цябе, Сцёпа, і бацькі твайго шкада… І маткі…

— Ну, не трэба, — Сцяпанаў твар спахмурнеў, — не вернеш ужо нічога.

— Так, не вернеш… Ну я пайду… Калі што якое, дык ты заходзь.

— Добра, зайду.

Мінаў час, а Сцяпан сядзеў на зэдліку насупраць акна, глядзеў, як гусцее, чарнее змрок. На небе з'явіліся зоркі, а потым выплыла поўня. Колькі Сцяпан так прасядзеў, невядома. Раптам голас-званочак празвінеў:

— Гэта мне кветкі?

— Табе…

— Ты чаму дрыжыш, холадна?

— Не… я, можа, хвалююся…

— Я ведаю, ты чакаў мяне, — яна паўстала перад ім і ўсміхнулася, — я ўсё-ўсё ведаю: твае думкі, жаданні, памкненні… Бо мы з табою адно цэлае і тое, чаго хочаш ты, хачу і я.

— А як жа тады… Ты таксама хацела жыць так, як я жыў апошнія гады?

— Ты не разумееш, ты ж сам не хацеў так жыць. Не хацеў?

— Не, — Сцяпан адмоўна хітнуў галавой.

— Ты ж ведаеш, што ў жыцці не часта жаданні супадаюць з рэальнасцю… А твае жаданні зусім іншыя. Вось кветкі — гэта жаданне, а ўсё іншае — глупства. Сёння самая кароткая ноч, таму ў нас мала часу.

Сцяпан схіліў галаву і адчуў пах кветак.

— Чаму ты з’яўляешся толькі ноччу?

— Ноч — краіна таямніц. А таямнічасць уласціва жанчыне, а я ўсё ж жанчына. Ты не адказаў мне… Чаго цяпер хочаш?

— Ты ж ведаеш, — Сцяпан узняў галаву і сустрэў ейны позірк, — ты сама ўсё ведаеш, навошта пытаешся?

Яна правяла рукой па шчацэ, і зноў зазвінеў голас-званочак:

— Я ведаю, але павінна папярэдзіць цябе, калі мы пераступім гэтую мяжу, то буду зусім іншай… Зусім. І невядома, што станецца з табою.

— Мне ўсё роўна, — Сцяпан абхапіў яе за калені, — ты ж ведаеш, мяне не хвалюе, што будзе потым, няхай нават памру!

Душа засмяялася:

— Дзіўныя вы істоты, людзі. Смерць для вас — самае страшнае. Павер мне, ёсць рэчы страшнейшыя… і тое, што табе прыйдзецца перажыць…

— Няхай! Няхай так, мне ўсё роўна! Я не магу жыць без цябе…

— Ну што ж, я таксама не магу супрацьстаяць сваім жаданням. У мяне няма выйсця… Пайшлі.

— Куды?

— Куды? Туды, — яна паказала рукой на вуліцу, — ці ты думаеш, што ў гэтай кватэры нам будзе ўтульна? Калі ўжо пражываць апошнія хвіліны, то з музыкай…

Яна ўзяла яго за руку і павяла насустрач поўні і зоркам, у мяккую цяплынь летняй ночы.

І было шчасце… Бязмежнае шчасце і салодкі боль ад адчування яе блізкасці. Залаты аксаміт валос раскіданы па плячах, тонкія рукі, перасмяглыя вусны, крывава-чырвоныя ад пацалункаў, што дарылі вышэйшую асалоду… Спустошаны, прыціхлы ён прыціскаў яе да грудзей і чуў біццё свайго сэрца.

— Мне пара…

— Куды ты? Застанься, не пакідай мяне…

— Я ж папярэджвала, прабач… З першымі промнямі сонца ты ўсё зразумееш сам, а цяпер табе трэба вяртацца.

— Я не хачу!..

— Позна, — яна ціха ўсхліпнула і растварылася ў паўзмроку.

Сцяпан хацеў кінуцца за ёю, але сон звёў павекі. І як ні прaцiвіўся, але зрабіць нічога не змог.

Першае, што ён убачыў, расплюшчыўшы вочы, — гэта замусоленая сцяна кватэры. Адразу кальнула думка: «Няўжо гэта быў толькі сон?» І раптам над галавою страшны голас прасіпеў:

— Не-не, любы, гэта не сон. Гэта было і будзе яшчэ і яшчэ. Цяпер і днём, і ўве-

чары, і ноччу… Ідзі да мяне, любы, — дзве рукі, страшныя, з крывымі старэчымі пальцамі, цягнуліся да яго.

Сцяпан ускочыў і перад сабою ўбачыў жудасную старую, з сівымі лахманамі валасоў. Старэчы твар свяціўся дзікай радасцю, бяззубы рот усміхаўся, і з яго куточкаў сцякала сліна. Сцяпан зачапіўся за зэдлік і ледзь не заваліўся, а старая набліжалася:

— Ну, што ты, любы, нам жа было так добра ўчора?

— Хто ты? — нема закрычаў Сцяпан.

— Я? Няўжо не пазнаў? — твар старой раптам зрабіўся злым, і яна заверашчала, пырскаючы слінай:

— Я — твая Душа! Я тая, каго ты труціў столькі гадоў, тая, што з прыгажуні з блакітнымі вачыма ператварылася ў пачвару! Тая, што прасіла збавення, маліла адпусціць… А ты, ты слухаў? Не, ты працягваў сваё… І вось бачыш, што атрымалася? Я папярэджвала цябе ўчора, што ёсць рэчы страшнейшыя за смерць. Вось, атрымай, любы… Ідзі-ідзі да мяне, каханенькі, мы цяпер з табою неразлучныя.

— Не, не, не-е-е-е!!! — Сцяпан схапіў табурэт і з усёй сілы шпурнуў у старую. Зэдлік разбіў акно і вылецеў на вуліцу. А старая толькі засмяялася:

— Ты баронішся ад мяне гэтым? Ад сябе самога хаваешся за зэдлікам? Дурань! Ты больш не схаваешся нідзе! Ты будзеш жыць з гэтым! І смерць для цябе будзе збаўленнем! Але павер, табе яшчэ доўга яе чакаць, вельмі доўга, любы… А цяпер ідзі да мяне…

## МАЛЫ ВЯЛІКІ ЧАЛАВЕК

Нічога гэтай раніцай не парушыла спакой Карася. Роўненька ляжала газета побач з талеркай гарачай кашы, тая самая гарбата была ў тонкім кубку. А на плечыках вісела бездакорна адпрасаваная кашуля. Таксама ціха, быццам цень, жонка паставіла каля парога скураны партфель і начышчаныя да бляску чаравікі. Таму Карася не напалохаў ні вялізны чорны кот, што перабег дарогу, ні тое, што два разы вывальваліся з рук ключы — спачатку ад кватэры, а потым і ад машыны. Ён з важным выглядам сеў за руль аўто і пакаціў у кантору.

Карась быў бухгалтар. Ды не проста які-небудзь бухгалтарок, а *намеснік* галоўнага бухгалтара. Разам з гэтай пасадай Карась адразу атрымаў і хаду-паставу — быццам лом праглынуў — і перастаў заўважаць знаёмцаў. Вядома, калі тыя не былі вышэй яго па статусе. Пры сустрэчы з такімі Карась мізарнеў, так нізка нахіляў галаву, што тыя яго нават не заўважалі.

Але бухгалтарам Карась быў ад Бога. Го-о-о, каб жа хто ведаў, якую асалоду ён атрымліваў ад радкоў лічбаў, якія пад яго рукою маглі прымаць любыя аблічча: станавіцца ў шарэнгу, ці слупок, альбо яшчэ як.

Адзінае, чаго Карась не пераносіў — гэта непарадак. Калі хоць хто з падначаленых пераблытваў хоць адну лічбу — усё! Як кажуць: «Хавайся ў бульбу!» Што тут пачыналася! Твар Карася спачатку ружавеў, потым шарэў, затым увесь пакрываўся белымі плямамі і, нарэшце, станавіўся чырвоным. Падначаленыя з нямым жахам разбягаліся перад бурай і адседжваліся ў чужым аддзеле альбо ў прыбіральні. Аднойчы ён так напалохаў маладзенькую бухгалтарку Верачку, што тая забыла палову літар з алфавіта і цяпер, калі бачыла Карася, тыя літары, што засталіся ў памяці, таксама рассыпаліся.

Сёння нічога не парушыла плыні ягонага жыцця. Карась нават нешта бубніўспяваў сабе пад нос, хоць і не лічыў музыку чымсьці вартым асабістай увагі. Гладка паголены твар так уехаў у цвёрды каўнер кашулі, што падавалася, быццам галава на плячах трымаецца без шыі. Ружовыя вушы і шкельцы акуляраў…

Карась лічыў сябе прыгажуном. Кожны вечар ён глядзеўся ў люстэрка, старанна цёр пальцам па зубах, прыгладжваў валасы, трос жыватом, і ўсё яму ў сабе падабалася.

Раніцай, роўна без дваццаці хвілін восем, ён з'яўляўся на працу. За дзесяць год службы аніводнага разу не спазніўся ні на хвіліну. Роўна без дваццаці хвілін восем Карась быў на месцы.

Як звычайна, у канторы яшчэ нікога не было, толькі сюды-туды снавалі з мокрымі анучамі прыбіральшчыцы. Кабінет Карася быў вялікі, светлы і ідэальна чысты. Там мясціліся чатыры сталы, разам з Карасёвым, і на кожным з іх панаваў парадак. Усе паперы ляжалі роўненькімі стосамі, а папкі стаялі па сваіх месцах. Нават вазоны з кветкамі на вокнах былі на роўнай адлегласці адзін ад аднаго.

Карась павольна, не спяшаючыся, зняў паліто, акуратна расправіў яго на плечыках, потым доўга прыгладжваў валасы, бо адна пасма ўпарта не хацела ляжыцца як трэба, потым сеў за стол і пачаў чакаць. Карась, быццам павук ахвяру, чакаў прыходу падначаленых, і гора тым, хто не тое што спазняўся, а прыходзіў роўна ў восем.

Першай пераступіла парог Антаніна Іванаўна. Гэта была немаладая ўжо жанчына, якой да пенсіі засталося два гады. Яна лічылася самай дысцыплінаванай сярод усіх, бо ніколі не спазнялася і работу сваю ведала добра, а калі памылялася, то толькі ад дрэннага зроку. Была ветлівай з усімі і старалася дапамагаць каму чым можна. Напрыклад, заўсёды брала пад апеку Верачку, якая з-за няўважлівасці і празмернай пахоплівасці блытала лічбы, паперы, дні тыдня. Увогуле, усё, што толькі можна пераблытаць, чым даводзіла Карася да нервовых зрываў. Верачка прыходзіла раўнютка ў восем і ніяк не магла з'явіцца раней, хоць ты забі яе. Сёння яна заляцела ў кабінет, нібы рэактыўны самалёт, але Карась так зіркнуў на дзяўчыну, што Верачка ў тую ж хвіліну стала цішэй вады, ніжэй травы.

Роўна ў восем тры галавы нахіліліся над паперамі і замільгалі ў руках алоўкі, але чацвёрты стол пуставаў, і Карась раз-пораз злосна пазіраў на дзверы. Амаль тыдзень таму звольнілі з працы маладога спецыяліста, што працаваў у іх толькі месяц, але і за гэты тэрмін зразумелі, што далей з ім немагчыма. Дзіма, так яго клікалі, быў з пароды вечных студэнтаў: даўгалыгі, худы, нейкі неахайны і няшчасны. Ён штодня спазняўся, нягледзячы на гнеў Карася, заўсёды знікаў у самыя важныя моманты, падаваўся работнікам незразумелым і непатрэбным. Цэлы тыдзень Карась перакладваў працу студэнта на Антаніну Іванаўну ды Верачку, але тыя пачалі выказваць незадаволенасць. Сёння панядзелак, і Карась быў упэўнены, што менавіта сёння кагосьці павінны прыслаць, але… Цяжкі роздум перабілі мужчынскі гучны голас і жаночы вясёлы смех. Дзверы расчыніліся, і ў пакоі з'явіліся двое — незнаёмая жанчына і начальнік Карася. Той адразу выцягнуўся ў струнку і застыў у нямым чаканні.

— Добрай раніцы! Зачакаліся вы тут дапамогі? — галоўны быў у гуморы. Шырокі твар яго аж ільсніўся ад задавальнення. — Ну, тады прымайце папаўненне, замест вашага студэнта. Праходзьце, Ірына, калі ласка. Будзеш ты цяпер, Карась, адзін сярод дзяўчат змагацца. Глядзі, з'ядуць яны цябе аднаго! — і, зарагатаўшы, галоўны выйшаў з кабінета.

Карась толькі кісла ўсміхнуўся і сеў за стол. Зноў, нібы павук ахвяру, разглядваючы новенькую. А тая спакойна прайшла да вольнага стала і, падняўшы на Карася вялікія шэрыя вочы, спытала:

— Гэта мой стол?

— Ваш.

З гэтай самай хвіліны Карась яе ўзненавідзеў. Ейныя глыбокія вочы, прамы нос і тонкія вусны, Ірыніну свабоду ў рухах і ўсё, што было з ёю звязана. Аказалася, што новенькая добра ведае сваю працу, і гэта яшчэ больш злавала Карася. Разам з прыходам Ірыны ўвесь жаночы бок паступова пачаў вызваляцца з-пад Карасёвай улады. Перастала дрыжаць Верачка, яна расправіла свае плечы і ўжо не апускала вачэй, калі Карась кідаў на яе гнеўны погляд. З нейкай, ці не пагардай, паглядала на начальніка Антаніна Іванаўна. А гэта, апошняя, гэта Ірына дык і ўвогуле проста насміхалася над ім!

Дзень прамінуў дрэнна. Усё валілася з рук намесніка галоўнага бухгалтара. Ехаць дадому… Там парадак. Але, прыгадаўшы жончын погляд, усю яе нейкую спакутаваную і знікшую постаць, Карася ажно перасмыкнула. Не, толькі не дадому. Мужчына цяжка ўздыхнуў і падумаў, што варта яшчэ затрымацца на некалькі гадзін і аднаму ў цішыні ды самоце дапрацаваць штомесячную справаздачу, каб не займацца гэтым заўтра зранку.

Роўна ў пяць гадзін будынак, дзе працаваў Карась, зашумеў-загудзеў бы вулей і праз дваццаць хвілін апусцеў-аціх да наступнай раніцы. Карась задаволена крактануў і схіліўся над паперкамі, зноў набываючы прыемнае адчуванне ўстойлівасці і размеранасці. Мерна адлічваў хвіліны насценны гадзіннік, з-за вокан даносіўся манатонны гоман вялікага горада, а Карась жыў у складаным свеце лічбаў. Раптам востры слых Карася злавіў нейкі шум. Спачатку як быццам бразнулі дзверы, а потым хуткі цокат абцасікаў па каменных плітах падлогі далажыў яму, што менавіта сюды нехта спяшаецца. Бухгалтар напружана ўглядзеўся ў дзверы. А манатонна-паспешлівая мелодыя абцасікаў заціхла перад дзвярамі. Затым пачулася нейкае шапаценне і хтосьці паспрабаваў адамкнуць дзверы ключом, але, зразумеўшы, што яны адкрытыя, моцна штурхануў іх. Горшага Карась і ўявіць сабе не мог. Гэта была самаўпэўненая асоба, яго новая супрацоўніца. Ад нейкага змешанага пачуцця трывогі і гневу мужчына пакрыўся плямамі і ажно прыўзняўся ў крэсле. Відаць, выгляд ён меў сапраўды жудасны, бо жанчына ледзь не спатыкнулася ў парозе і на твары яе адбіўся страх.

— Вам дрэнна? — яна кінулася да яго і пачала паслабляць вузел гальштука. Ад такога нахабства ўсе словы, якія наважваліся зляцець з языка Карася, выпарыліся, ён толькі і мог бязгучна мыляць вуснамі, нібы та рыбіна.

— Ох, божа, божа, што ж я нарабіла! Я, напэўна, напалохала вас, прабачце мяне, калі ласка! — Ірына спрытна ўскочыла на стул і адчыніла акно, потым зноў падсела да Карася і, схапіўшы справаздачу, пачала ёй абмахваць начальніка. Гэтага ён вынесці ўжо не змог і, пырскаючы вакол сябе слінаю, заверашчаў дзікім голасам:

— Пакіньце мяне ў спакоі! І не смейце чапаць мае паперы! — ён вырваў у Ірыны з рук справаздачу. — І ўвогуле, што вы сабе дазваляеце? Якога чорта вы прыпёрліся сюды цяпер? Вам што, дня не было? Перашкаджаеце толькі працаваць!

Ірына моўчкі села за свой стол, дастала пачак цыгарэт і, не звяртаючы ўвагі на істэрыку Карася, моўчкі запаліла.

— Што вы сабе дазваляеце?! Тут нельга курыць!!! — здавалася, што Карась лопне ад злосці.

— А што ты мне зробіш? — Ірына з пагардай зірнула на Карася. — Што ўвогуле ты можаш рабіць, акрамя як складваць лічбы…

Карася быццам акацілі халоднай вадой. Ён ураз абмяк і змізарнеў. А Ірына жорстка рассякала словамі паветра:

— Каб жа ты толькі мог убачыць сябе збоку… Самаўпэўнены, надуты дурань, які далей свайго носа не бачыць!.. Ты замучыў увесь аддзел сваім самадурствам і хочаш, каб я скакала пад тваю дудку?

— Як вы смееце… Я ваш непасрэдны начальнік! — збялелымі вуснамі ледзь вымавіў Карась.

— Дурань ты, а не начальнік. — Ірына рэзка паднялася з месца і падышла да Карася так блізка, што ён пачуў, як прыемна пахне яе скура…

Гнеў, злосць, крыўда, дзікае жаданне і нянавісць зліліся ў адно. Карась, сам не разумеючы, што робіць, моцна тузануў Ірыну за руку і распластаў яе на стале. Рассыпаліся алоўкі і ручкі, у розныя бакі разляцеліся паперы. А Карась усім цяжарам цела наваліўся на жанчыну і пачаў рваць на ёй адзежу. Стараўся злавіць губамі яе вусны, але натыкаўся то на скроню, то на шчаку. Ірына змагалася адчайна, раздзіраючы ў кроў твар і шыю бухгалтара, але раптам абмякла і перастала супраціўляцца. Карась імгненна адчуў перамену і на хвіліну сумеўся, зразумеў увесь сорам свайго становішча, але Ірыну не адпусціў. Колькі хвілін яны, цяжка дыхаючы, глядзелі адно на аднаго, а потым ён выпусціў яе з абдымкаў і адышоўся да акна. Цяжка сапучы і прыкладваючы хусцінку да падрапанага твару, ён чакаў ад Ірыны ўдару або пляўка. Але яна маўчала… Напятая цішыня павісла ў пакоі.

Карась рэзка крутануўся і вылецеў з кабінета. Ужо на прыступках успомніў пра паліто, што засталося вісець на плечыках.

Вяртацца не было ніякай магчымасці, але і ісці дадому пешшу ў адной кашулі на пачатку сакавіка — таксама не выпадала. Ён, як злодзей, цішком вярнуўся ў будынак і, мінуўшы свой паверх, прысеў на лесвіцы. Калі ж яна выйдзе? Сэрца калацілася ў грудзях, трэсліся рукі. Нарэшце ён пачуў гук абцасаў. Бахгалтар ажно ўліп у сцяну ад страху, што Ірына яго заўважыць. Але русая галава прамільгнула ў адно імгненне. Тады ён асцярожна спусціўся і вярнуўся па паліто.

Праз якую хвіліну Карась ужо сядзеў у сваёй машыне. Ехаць дадому? Але зазваніў мабільнік, на экране высвецілася імя жонкі. Карась асцервянела адключыў тэлефон і націснуў на газ. Машына крутанулася і вылецела на галоўную дарогу, парушаючы ўсе правілы руху. Праз якую хвіліну ён убіўся ў нейкі незнаёмы двор і заглушыў матор.

Было ціха і цёмна. У альтанцы насупраць сядзела некалькі чалавек, напэўна моладзь… Яшчэ адна парачка тулілася на лаўцы, пад дрэвам. Карасю захацелася запаліць. Ён выйшаў з машыны і накіраваўся ў бок альтанкі, але не дайшоўшы метраў пяць, павярнуў да лаўкі. Парачка ўраз раздзялілася.

— Прабачце, вы выпадкова не курыце? — Карасю стала няёмка, што ён, дарослы чалавек, страляе цыгарэты ў падлеткаў.

— Выпадкова — курым, — адказала дзяўчына і працягнула цыгарэту. — Куры, дзядзя! — пасміхнулася яна.

Сеўшы ў машыну і зацягнуўшыся цыгарэтным дымам, Карасю крышку палягчала… Чаму ж тэлефанавала жонка? Ён набраў нумар і даволі доўга чакаў, ужо хацеў адключыцца, калі на тым баку пачулася:

— Алё.

— Што ты хацела?

— Я ўжо больш нічога не хачу, — у голасе жонкі ён упершыню ў жыцці пачуў выклік.

— У сэнсе?

— У прамым сэнсе, больш нічога ад цябе не хачу… Я сёння з'ехала да мамы і не вярнуся да цябе. Хопіць. Рэчы забяру пазней. Усяго добрага.

Каб неба ўпала на галаву Карася, эфект быў бы меншы. Ён, прыгаломшаны, сядзеў у машыне, цыгарэта сатлела і стала ўжо апякаць пальцы, але ён не адчуваў гэтага. Як яна пасмела не тое што сысці, а нават падумаць пра гэта! Яна! Няўдзячная сцерва! Ён выцягнуў яе з балота, знайшоў у нейкім вашывым інтэрнаце, адмыў, прыбраў, зрабіў жонкай, пусціў у сваю кватэру, дазволіў быць побач, а яна… Мярзотніца! Не, ён не дазволіць так з сабою гуляць! Ды што ж за дзень сёння такі?! Спачатку гэтая ўсё спаганіла, цяпер тут… Ён нарэшце заўважыў, што цыгарэта апякае пальцы, і шпурнуў фільтр праз аконца. Паехаць да цешчы і прыцягнуць назад жонку, каб больш не бегала, каб ведала, хто тут гаспадар? Але рашучасці хапіла на тое, каб завесці машыну. Праз хвіліну Карась астыў. Гнеў, які толькі што душыў яго, саступіў месца разважанням, маўляў, не так усё і дрэнна. Ну, што такое жонка? Яна даўно ўжо не цікавіла бухгалтара як жанчына. Была шэрай і незаўважнай, па кватэры хадзіла ценем, пагаварыць з ёй не было пра што… Яшчэ невядома, каму яна зрабіла горш, хто яшчэ будзе яе трываць такую… Больш няма дурняў! І, супакоены, Карась паехаў дадому. У пэўнай меры ён быў нават рад, што ўсё так атрымалася. Ні перад кім сёння не патрэбна апраўдвацца, ламацца і нешта выдумляць. Кватэра сустрэла яго цёмнымі праёмамі дзвярэй. Зайшоўшы ў вітальню, Карась, не ўключаючы святло, паставіў партфель з паперамі і пайшоў у залу, не распранаючыся бухнуўся на канапу, і праз хвіліну заснуў сном анёлка.

Раніца пабудзіла мужчыну незразумелай цішынёй. Не працаваў тэлевізар, не ляскала на кухні посудам жонка… Было так ціха, што закладвала вушы. Нават звычайнага вулічнага гвалту сёння не было чуваць. Падскочыўшы на канапе, Карась зіркнуў на гадзіннік і зразумеў, што праспаў. Ад нечаканасці ён спачатку не ведаў, што рабіць, а потым кінуўся па кватэры, разумеючы, што ўсё роўна не паспее. Пакуль мыў твар, чысціў зубы, складваў у партфель паперы, шукаў чыстыя шкарпэткі, прайшло яшчэ паўгадзіны. На злом галавы Карась выскачыў з пад'езда і ледзь не збіў з ног суседку, што вяла малога ў дзіцячы садок. Не звяртаючы на гэта ўвагі, бухгалтар ускочыў у машыну і ўставіў ключы, але ні з першага, ні з другога, ні, нават, з трэцяга разу машына не завялася. Мацюкаючыся, Карась выскачыў з машыны і панёсся да стаянкі таксовак. На працу намеснік галоўнага бухгалтара спазніўся на гадзіну.

Пад недаўменныя позіркі Верачкі і Антаніны Іванаўны Карась заляцеў у кабінет. Са змешаным пачуццём радасці і гневу заўважыў, што ЯЕ не было. Тут жа падумаў, што вось і ўсё — папалася! Цяпер ён ёй пакажа, хто тут сапраўдны гаспадар! Верачка спалохана цікавала за ім з-за стосу паперак, Антаніна Іванаўна спакойна перабірала папкі, але адчувалася, што яны нешта ведаюць… Нарэшце Антаніна Іванаўны адважылася і вельмі мякка, так, як ніколі раней з ім не гаварыла, прамовіла:

— Вячаслаў Паўлавіч, вас галоўны выклікаў…

Карась не здзівіўся такой навіне і самаўпэўнена адрэзаў:

— Выклікваў, яшчэ выклікае! Я не прагульваў, а па справах хадзіў! А дзе нашы кадры новыя швэндаюцца? Мусіць, спаць позна любяць… Ну нічога… я з імі разбяруся!

Верачка з ледзь прыхаванай радасцю тут жа паведаміла:

— Ірына Уладзіміраўна ўжо даўно прыйшла. Яе яшчэ раней чым вас галоўны выклікаў. Усё нешта трымае, ужо хутка паўтары гадзіны будзе.

У галаву Карасю быццам гарачай парай шыбанула. Ах, ты маленькая дрэнь! Ужо і тут мяне абскакала! Карась выскачыў з кабінета і панёсся быццам ашалелы. Трэба было бачыць твары Антаніны Іванаўны і Верачкі, якія чакалі: чым жа ўсё скончыцца.

Карась праскочыў паўз сакратаршу і рвануў дзверы ў кабінет да галоўнага, спадзеючыся застаць непрыстойную карціну. Але ўсё, што адбывалася там, аказалася даволі прыстойным. У кабінеце сабраліся ўсе загадчыкі аддзелаў і нешта актыўна абмяркоўвалі. Усе загадчыкі, акрамя яго. Замест Карася сядзела ЯНА. На ягоным заўсёдным месцы каля акна ў мяккім скураным крэсле, сядзела Ірына. Галоўны неяк дзіўна зірнуў на Вячаслава Паўлавіча і вымавіў:

— А вы можаце быць вольным. Раз спазніліся. Ірына Уладзіміраўна добра валодае сітуацыяй і потым вам пра ўсё даложыць. Можаце пакуль адпачыць, а то мне здаецца, што вам нездаровіцца. Выгляд у вас, прама скажам, дзіўны, — і пагрукатаў тупым канцом алоўка па шкляной паверхні стала.

Гэта быў канец. Унутраным пачуццём Карась гэта зразумеў. Другога шанцу ў яго ўжо не будзе. Моўчкі развярнуўшыся, бухгалтар ціха выкуліўся з кабінета.

Вуліца сустрэла яго вясновым ветрам і пырскамі рэдкага дажджу. Цясней захінуўшы крысо паліто, Карась бяздумна сышоў з ганка. Прамінуў невялічкі парк, альтанку з гаманкімі падлеткамі і выйшаў да ракі, што роўнай стужкай ахінала горад. Недалёка стаяла невялічкая акуратненькая цэркаўка. З самага нараджэння Карась ніколі не быў у царкве, акрамя аднаго разу, калі на Вялікдзень, яшчэ зусім малога, яго прывяла туды за руку бабуля. Мужчына амаль нічога не памятаў з таго наведвання, але цяпер успаміны ціха заварушыліся ў Карасёвай галаве. Ён падняў вочы да неба. Яно было шэрым, скрозь зацягнутым хмарамі. Здавалася, што яно вось-вось абваліцца на плечы, прыцісне да зямлі і раздавіць, раструшчыць, нібыта пясчынку. Чамусьці ў галаве ўзнікла недарэчная думка, што хутка лета. «Да чаго б гэта я?» — сумеўся Карась.

А неба ўсё ніжэла і ніжэла.



*Фелікс БАТОРЫН*

# ДАРОГА



***Фелікс Баторын нарадзіўся ў 1948 годзе ў Мінску. Скончыў Мінскі дзяржаўны медінстытут, працаваў урачом. Аўтар пяці паэтычных кніг. Перакладае з ідыш, нямецкай, рускай, польскай моў.***

* * *

З кранутых галін ападае раса.
Далёка на ўсходзе хмурын паласа
Ірдзее.
Цалюткую ночку за мараю бег,
Каб шлях свой пазначыць, не ставячы вех, —
І дзе я?

Разблытаць ніяк блытаніну слядоў
Начы безразважнай (ці многіх гадоў?)
Няможна.
Ва ўтульны спакой не вярнуцца. Таму
Стамлёнаму марамі сэрцу майму
Трывожна.

Стаю ў незнаёмай сутоннай глушы.
Што маю з сабою апроч я душы?
Нічога.
Хто можа сказаць, што чакае мяне
У той таямнічай, як лёс, старане?
— Дарога.

* * *

Дзе жыццё маё, дзе? У завулках вялізнага горада,
На праспектах, у парках яго, на мастах і ў вадзе,
На гадоў і на дзён ды гадзін шкумацінне распората,
Адначасна наўкол і паўсюль — і нібыта нідзе.

Яно шчыльна зліваецца з іншымі жыццямі й лёсамі
Летуценных падлеткаў, і сталых мужоў, і дзядуль,
Яно гэтак крычыць аб сабе, што амаль безгалосае,
Яно быццам нідзе, а папраўдзе — наўкол і паўсюль.

* * *

Калі мяне зябіць пад нуднай
халоднай імжой,
Мяне ты ўрачуеш.
Калі я спяваю бязмоўна, адною душой,
Ты спеў гэты чуеш.

Мінаецца ўсё — і ў жыцці, і самое жыццё.
Бясконцыя змены.
Ды ў зменлівым свеце маё да цябе пачуццё
Заўсёды нязменна.

* * *

Вядома Вам, мой суразмоўца, мабыць,
Што ў цэлым свеце вечны толькі рух?
Таму, відаць, трывожыць нас і вабіць
Рачная плынь, кружэнне завірух,
Асфальт шашы, жарства лясной сцяжыны,
Бясконцы Млечны Шлях над галавой
І нітачка дарожкі мурашынай,
За сажань прыхаваная травой.

* * *

Вечар плыве па траве, туманеючы,
Холад з прыполу расу высыпае.
Промень апошні мігціць на сасне яшчэ,
Поплаў пялёсткі згарнуў, засынае.

Бераг рачны хмызнякамі тапырыцца.
Плынь іх карэнне абмацвае слепа.
А за ракою ярчэе і шырыцца
Горад сузорны, што просіцца ў неба.

* * *

Косыя шэрыя пасмы дажджоў.
Косыя пасмы сухога прамення.
Я праз дажджы і праз сонца ішоў
Папераменна, папераменна.
І не заўсёды каля бальшакоў
Дах ёсць надзейны і ўтульныя сцены.
Так і вядзецца ад веку вякоў:
Папераменна, папераменна.

Дождж альбо сонца, а мусіш ісці.
Пэўна, на ўзроўні закладзена генным
Долі палосы прайсці ўсе ў жыцці
Папераменна, папераменна.

Дык не пацепвайся так пад дажджом,
Бо неўзабаве абсушыць праменне.
Там, за апошнім тваім рубяжом
Будзе, на жаль, ужо нeпераменна.

## СІНЯЯ ЗЯМЛЯ

Сутонне пахла збажыной,
Калі ты стрэлася са мной
На скрыжаванні трох дарог
і дзвюх эпох.
Вачэй адвесці я не змог
І выбраў тую з трох дарог
Што са спагадай да тваіх прыпала ног.

Якая сіняя зямля, якая цёмная вада,
Якая чырвань разлілася па аблоках!
Якая зыбкая смуга, якая зыркая слюда
У раўчуках, што прабягаюць па аблогах!

Бліжэлі мы штоміг, штокрок.
Паволі цёк з усходу змрок,
Ён пагасіць агністы захад не спяшаў.
Лягла ў маю руку твая,
І раптам тое ўбачыў я,
Чаго раней ніколі я не заўважаў.

Якая сіняя зямля, якая цёмная вада,
Якая чырвань разлілася па аблоках!
Якая зыбкая смуга, якая зыркая слюда
У раўчуках, што прабягаюць па аблогах!

*Алёна БЕЛАНОЖКА*

# ЧАМАДАН З КРАКАДЗІЛАВАЙ СКУРЫ

***Аповесць***



***Алёна Беланожка нарадзілася ў 1985 годзе ў Магілёве. Скончыла Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў. Друкавалася ў рэспубліканскіх газетах і часопісах. Працуе ў Магілёўскім гарадскім цэнтры культуры і вольнага часу.***

Аліна апынулася ў горадку Дружны а дзясятай гадзіне раніцы. Пад коламі яе новенькага аўтамабіля шаргатаў мокры кастрычніцкі асфальт і хлюпала гразь.

Гэтая паездка, якая павінна была прынесці масу прыемных уражанняў, не заладзілася ад пачатку. Спярша аказалася, што сіноптыкі, якія яшчэ ўчора паабяцалі пагоду на ўвесь тыдзень, за ноч перадумалі, і ад раніцы пайшоў часты і занадта восеньскі дождж, а радыёкропка радасна вяшчала: «Як і чакалася, сёння пахмурна і дажджліва!»

«“Як і чакалася…” Кім гэта чакалася? Калі чакалася? Учора імі яшчэ сонца прагназавалася, а выходзіць, што яны пад сонцам разумеюць вось гэтую слату? Шапіто!» — абуралася на «вешчуноў» Аліна, седзячы ў пустой цёмнай кватэры ды папіваючы ваду з-пад крана: у доме адключылі электрычнасць, таму ранішняя кава «праляцела». Таксама не адбыліся ні традыцыйны макіяж пад вясёлае цвірканне музычнага тэлеканала, ні ўкладка валасоў фенам, ні нават зарадка мабільнага тэлефона — таннай «перасовачкі», у выніку чаго Аліна пакінула кватэру з тварам, начыста пазбаўленым жыццярадаснасці.

Яе жытло аніяк не хацела апраўдваць гордае і ўтульнае слова «дом». Там ніколі не пахла ежай, а па чатырох пакоях, застаўленых моднай мэбляй, гуляла толькі рэха ды скразнякі. Гаспадыня з’яўлялася там не часта — яна ладзіла справы ў розных гарадах, таму часцей за ўсё начавала ў гатэлях, а сілкавалася ў кавярнях. Калі б хто і захацеў яе атруціць, то, пэўна, не змог бы: страўнік Аліны прызвычаіўся да такіх кулінарных недарэчнасцей, якія хатніх жанчын забіваюць альбо вынішчаюць у іх адчуванне смаку і прагі да жыцця.

Апошнім разам Аліна пераступіла парог кватэры месяц таму, каб выпусціць некалькі прусакоў і мышку — яна недзе пачула, што прусакі і мышы прыносяць у дом шчасце. Мышка на трэці дзень здохла ад голаду і смагі, а прусакі збеглі да суседзяў, якія не вельмі парадаваліся такому падазронаму шчасцю і тэрмінова вырашылі лёс прусачынай калоніі пры дапамозе крэйды «Машанька».

Вось і цяпер, правёўшы некалькі гадзін у дарозе, стомленая, Аліна забегла «да сябе» выключна дзеля таго,

каб глытнуць кавы і прыняць душ перад новай паездкай. Не атрымаўшы магчымасці зрабіць нават гэта, яна жудасна раззлавалася.

Каб хоць неяк прыўзняць узровень сератаніну ў арганізме, Аліна забегла ў магазін па шакаладку. Сумная, неакуратна нафарбаваная прадаўшчыца не змагла вярнуць лішак з буйной купюры. Тады Аліна згрэбла ў цялежку ўсё, што стаяла каля касы на латку ды абвясціла: «Лічыце!» — і выйшла з поўнымі рукамі шакаладак, ледзяшоў, жавальных гумак, пакецікаў з семкамі і прэзерватываў. У адказ на здзіўлены погляд адміністратара, які за ўсе дзесяць год працы ў гэтым месцы не бачыў, каб у восем гадзін раніцы пакупнік атаварваўся такой колькасцю рознай драбязы, Аліна сказала: «Гэта “гумда” сіротам Цэнтральнай Афрыкі! Наце і вам!» — і працягнула дзядзечку лядзяш. Дзядзечка застаўся стаяць на месцы і думаць, што азначае слова «гумда» і ці не аблаяла яго гэтая дзяўчына. Ён не ведаў, што на мове Аліміных абрэвіятур «гумда» — гэта «гуманітарная дапамога». Аліна штурханула нагой дзверы, выйшла ў вільготную раніцу і накіравалася да аўтамабіля.

Кіроўца з Аліны быў не надта добры: усяго два месяцы за рулём, прычым два абсалютна сухіх месяцы, так што да дажджу яна зусім не была падрыхтавана. Машыну заносіла на паваротах, ва ўсе бакі разляталіся мутныя пырскі, раптоўныя прахожыя асыпалі няўдалую стырнавую пажаданнямі: яны жадалі Аліне роўных рук, добрага зроку і доўгага жыцця.

Праўда, Аліна не чула пажаданняў. Яна ўключыла музыку на поўную моц і намагалася вярнуць свой звычайна прыўзняты настрой правераным сотні разоў метадам — гвалтоўным уздзеяннем «папсы» на слых. Бадзёрыя спевакі ды спявачкі не паспелі падрыхтавацца да прыходу восені і пяялі пра сонечныя лукамор’і. Аліна не была ў адпачынку два гады, і любы ўспамін пра лета ўздзейнічаў на яе так, як чырвоны плашч тарэадора на раз’ятранага быка. Праслухаўшы некалькі песень, Аліна грукнула кулаком па магнітоле. Магнітола, хоць і была якаснай і проціўдарнай, палічыла за лепшае адключыцца і больш не дражніць маладую гаспадыню.

— Ну чаму? Чаму ў мяне ўсе рамантычныя падарожжы пачынаюцца з аўралаў, патопаў, пажараў, снежных заносаў? Чаму, Арчыбальд? — злосна спыталася Аліна ў плюшавага звярка невядомай пароды, што лётаў з боку ў бок на лабавым шкле. Арчыбальд, які толькі-толькі даведаўся, што ён — Арчыбальд, маўчаў і працягваў гойдацца на тонкай нітачцы.

— Еду цягніком — абавязкова знойдзецца разумнік, які таргане стоп-кран. Еду аўтобусам — шына спусціць. Пайшла раз да хлопца на лыжах — лыжы зламала. Самалётам нават баюся спрабаваць, а то ў небе крылы адваляцца! Чаму мне да мужчын даводзіцца дабірацца з такімі цяжкасцямі? — працягвала свой жаласны маналог Аліна.

Арчыбальд падскочыў і павярнуўся да Аліны спінай. Аліна выпусціла руль, дзвюма рукамі рванула цацку і разам з прысоскай выкінула ў акно. Аўтамабіль вынесла на сустрэчную, наперадзе заблішчэлі фары. Аліна цудам паспела схапіць руль і ўхіліцца ад бетонамяшалкі, што ехала насустрач.

— Ну, вось! Засталося яшчэ дачакацца зайца! І бабу з пустымі вёдрамі! І чорнага ката! І каб яны ўсе разам вадзілі карагоды ўпоперак шашы! Ну, што за шапіто! — вызверылася Аліна. Яна верыла ў прыкметы.

Не паспела яна гэта вымавіць — як па заказе, з прыдарожных хмызоў выскачыў заяц і кінуўся пад колы машыны. Аліна ўдарыла па тармазах, звярнула на ўзбочыну дарогі і адкрыла «бардачок» — недзе там мусіў захоўвацца валідол. Валідол там, і сапраўды, знайшоўся, але за час летніх паездак у спёку таблеткі расталі і ўжо наўрад

ці змаглі б Аліне дапамагчы. У аптэчцы пад сядушкай яна адшукала толькі ёд ды сродак ад камароў, якія восенню засумавалі і загінулі ад дэпрэсіі.

— Так. Далей ехаць проста страшна. З такім раскладам я да Дружнага не дабяруся! — сказала Аліна, заплюшчыла вочы і пачала актыўна расціраць далонямі вушы: гэта дапамагала сканцэнтравацца, хоць і рабіла вушы чырвонымі, як колер светлай паўночнакарэйскай будучыні. Але ж абяцанні трэба выконваць, а яна паабяцала самой сабе, што менавіта сёння завітае ў госці да Дзімы. У яе насычаным графіку, што не змяшчаў часу нават на сон, з'явілася шчыліна, некалькі гадзін — вось іх Аліна і збіралася патраціць на сустрэчу, і ўпотай спадзявалася, што сустрэча стане ўсё ж рамантычнай, а не сяброўскай.

Аліна ведала, што Дзіма будзе не вельмі рады яе бачыць. Дакладней, будзе вельмі не рады. А яшчэ дакладней — ён Аліну проста не чакае. Больш за тое — ён нават не падазрае, што Аліна ведае, дзе ён жыве. Аліна любіла рабіць сюрпрызы, ад іх пакутавала ўсё яе знаёмае і малазнаёмае асяроддзе.

Нехта пагрукаў у шкло. Аліна расплюшчыла вочы.

Каля машыны стаяла сівая цыганка з люлькай у роце і ўскудлачаным дзіцём на руках. Аліна націснула кнопку, каб апусціць шкло, і закашлялася: у салоне запахла моцным «самасадам».

— Добрай раніцы, — павіталася Аліна, здзіўлена пазіраючы на цыганку, падобную да прывіду. — Штосьці здарылася? Адразу папярэджваю: варажыць мне не трэба, я і сама ўмею!

— Падвязі да Дружнага, маладая, я зусім старая, няма сілы ісці! — прамовіла цыганка ды высмактала з люлькі порцыю горкага дыму і выпусціла яе колцамі ўгару.

Аліна паспрабавала прыгадаць, што прадказваюць народныя прыкметы пра сустрэтых у дарозе цыганак з люлькамі і дзецьмі, але не змагла прыпомніць нічога благога: калісьці ў дзяцінстве яна жыла ў цыганскім раёне і сябравала з цыганятамі, а старая цыганка Земфіра прыносіла ёй малако з-пад чорнай каровы і прыгаворвала: «Расці, дзеванька, і нікога не бойся, акрамя самой сябе. Чалавек вораг толькі сам сабе…»

Дзіця, якому на выгляд было не болей чатырох гадкоў ад нараджэння, тужліва паглядзела на Аліну велізарнымі, пранізліва-карымі вачамі. Аліна падумала: «Цікава, гэта хлопчык ці дзяўчынка?» — і раптам заўважыла, што яно босае.

— Адкуль жа вы, бабуся, узяліся раніцай пасярод шашы, ды яшчэ з дзіцём? Тут жа на дваццаць кіламетраў навокал аніводнае жывой душы! — Аліна паспешліва адкрыла дзверцу машыны.

— Як жа ніводнай? Ты, ды я, ды дзіця. Ужо трое, — старая цыганка бадзёра забралася ў салон, выпусціўшы вялікае колца дыму. Дзіця закашлялася і заплакала.

— Што ж ваш унучак без абутку, не май на двары! — Аліна выруліла на трасу.

— Гэта ўнучка. Ступачкі выраслі, нічога не падыходзіць. Едзем у Дружны абутак набываць. Пазалаці ручку, а я ў далонь пагляджу, усю праўду раскажу.

— Складна гаворыце! — Аліна пацягнулася да нагруднай кішэні, выцягнула адтуль некалькі купюр і аддала іх старой. — Вось. На дабрачынныя патрэбы. Купіце ўнучцы боцікі, а варажыць не трэба.

Цыганка прыжмурыла вока і паглядзела ў акно, за якім было па-ранейшаму пахмурна.

— Як хочаш. Ты толькі едзь і не спяшайся. Што павінна адбыцца — тое ўсё роўна здарыцца, а чаго ніколі не будзе, за тым і гнацца не патрэбна. І наогул, ты едзеш не ў той бок! Ад непрыемнасцей бягуць, а ты заўсёды іх шукаеш.

Аліна разгубілася: якія такія непрыемнасці могуць чакаць яе ў Дружным? Да гэтае пары яна даволі паспяхова пазбягала буйных непрыемнасцей — часткова дзякуючы свайму светапогляду, часткова — «шостаму пачуццю», дадзенаму ад нараджэння, якое заўсёды падказвала ёй, куды не трэба накіроўвацца і чаму.

— Дазвольце, я сама вырашу, куды мне ехаць. Калі б я заўсёды слухала добразычліўцаў, то ніколі нікуды не даехала б, — сказала Аліна.

Дзяўчынка выдзерла попельніцу, з цікаўнасцю паглядзела на яе і пачала стукаць новай цацкай у шкло.

Аліна ўздыхнула, павярнула ключ і асцярожна рушыла наперад.

Да Арчыбальда, што зарыўся носам у прыдарожны пясок, пацягнулася мужчынская рука з залатым пярсцёнкам на ўказальным пальцы. Мужчына ў шэрым плашчы падняў цацку і доўгім позіркам правёў Алінін аўтамабіль, што, выпісваючы коламі сінусоіды, на вялікай хуткасці накіроўваўся за далягляд, проста цудам ухіліўшыся ад бетонамяшалкі.

Бетонамяшалка спынілася. Вадзіцель з цыгарэтай у зубах выйшаў з кабіны і дрыготкімі рукамі дастаў з карабка запалку, каб чыркнуць ёю і прыкурыць. Запалка зламалася. Ён раздражнёна шпурнуў яе і дастаў з карабка другую.

Чалавек у плашчы спагадліва працягнуў запальнічку:

— Спужаўся?

— В-вяд-дома! — заікаючыся, прамовіў вадзіцель і, нарэшце прыкурыўшы, глыбока зацягнуўся. — Купяць такія вось пстрычкі сабе дарагія машыны, а потым з-за іх аварыі на дарогах! Пазабіваў бы!

— Яна і мяне так падрэзала, што да гэтае пары валасы дыбарам стаяць! — сказаў чалавек у плашчы, развітаўся, сеў у сваю машыну, што стаяла воддаль, і пакаціў наўздагон за Алінай.

На ўскрайку Дружнага цыганка папрасіла спыніць аўтамабіль і, збіраючыся выходзіць, прагаварыла:

— Ты жартуеш з маладосцю, робіш рэверансы сталасці і думаеш, што ўсё ў тваіх руках. Калі маладосць і сталасць сустрэнуцца разам, ты нічога не зможаш вырашыць.

Аліна выхапіла з рук дзяўчынкі попельніцу і замяніла яе на шакаладку. Цыганка ўзяла дзяўчынку і нетаропка пайшла ўздоўж дарогі.

— Вось яшчэ! Буду я думаць, хто там калі і з кім сустрэнецца і што адбудзецца! Вельмі цікава пачынаецца дзень, — прамовіла Аліна і паддала газу.

Дружны сустрэў Аліну калдобінамі і глыбокімі лужынамі.

— Д'ябал! Тут самыя глыбокія лужыны ва ўсім свеце! Ім трэба даць назвы ў гонар знакамітых людзей і занесці ў спіс ЮНЕСКА! Лужына імя Сальвадора Далі! І людзі тут… зусім нядружныя, чаму гэты горад называецца «Дружны»? — чартыхалася Аліна, гледзячы на тое, як два жыхары гэтага цудоўнага месца спрабуюць развязаць бойку, але не могуць адшукаць для гэтага прыстойнай нагоды, а трэці жыхар не можа знайсці прычыну, каб памірыць сваіх таварышаў.

— Гэй, слаўныя воіны! Дзе тут вуліца Шаманоўскага? — спыталася Аліна, вызірнуўшы ў акно.

Усе трое на хвіліну задумаліся, а потым паказалі — кожны ў супрацьлеглы бок. Аліна кіўнула, але паехала ў бок, які ніхто не паказваў, і хутка выехала на патрэб-

ную вуліцу. Яна яшчэ крыху пакруцілася ў пошуках дома, дзе, мяркуючы па адрасе, запісаным на старой паштоўцы, дасланай не Аліне, мусіў жыць Дзіма. Нарэшце яна знайшла той самы дом і прыпаркавалася пад кустом бэзу. Можна было б скарыстацца дамафонам, аднак Аліна вырашыла вызначыць, у якой кватэры пражывае яе сябра, простым спосабам, што яшчэ не зжыў сябе на постсавецкай прасторы. Яна склала рукі рупарам і закрычала на ўвесь двор:

— Дзі-ма-а-а!

Ні ў адным акне не затрымцела нават фіранка.

— Мусіць, дужа ранні час для Дружнага. Усе спяць. Нічога, добрай раніцы, таварышы! — сказала Аліна і, пасігналіўшы, закрычала ізноў. — Дзі-ма-а-а! Мо-отуз!

Фортка ў акне трэцяга паверха з рыпам адчынілася, і чорнавалосая дзяўчына адказала Аліне такім жа гучным савецкім спосабам:

— Ён у ванна-а-ай!

— Тады адчыніце мне дзверы, будзьце ласкавая, я пазваню ў дамафон! — крыкнула Аліна, якая ўмомант вызначыла нумар кватэры. Дзяўчына ўзяла пакеты з «гумдай» і накіравалася ў пад'езд.

— Трымай, гэта табе гасцінцы, хацела купіць торт, але ў магазіне мне сказалі, што торты заўчорашнія, а прэзерватывы і шакаладкі — сённяшнія, і я вырашыла, што лепш узяць свежы тавар, чым заляжалы. Так што смакчы цукеркі, грызі семкі, атрымлівай асалоду ад жыцця! — выпаліла Аліна, скідаючы абутак у вітальні, і ўрачыста ўручыла «гумду» дзяўчыне.

— А вы хто? — разгублена спыталася дзяўчына.

— Мяне завуць Аліна. А ты, напэўна, Юля, Дзімава сястра? Я цябе бачыла на фота. Дужа прыгожая. Вы з Дзімам на адзін твар, ён таксама пекны, як паненка. Дарэчы, як яго здароўечка? Ён кожны тыдзень падхоплівае якуюсь бяду са страўнікам. Я тут набыла яму розных лекаў, у асноўным ад страўніка і ад галавы: дактары кажуць, што між імі — відавочная ўзаемасувязь! Трэба ж галавою думаць, што ты ўжываеш!

— Дзякуй, але Дзіму ўжо значна лепш.

— Хо-хо, ён убачыць мяне, і яму стане зусім хораша! Хаця не, пачакай… каб яго не хапіў паралюш ад шчасця, давай зробім так: я пайду ў кухню, а ты сустрэнь яго з ваннай і… падрыхтуй. Маральна. Ага? А я там сабе арганізую каву: дзве гадзіны ў дарозе, з такімі цяжкасцямі да вас дабіралася, столькі прыгод перажыла!

Юля не стала супрацiўляцца — яна зразумела па гучнасці голасу і непахіснасці інтанацый нечаканай госці, што супраціўленне добрых вынікаў не дасць. Яна проста пацікавілася:

— Добра, што мне сказаць Дзіму?

— Ат, ну, прыдумай што-небудзь, ты ж разумная дзяўчына. Скажы: цырк прыехаў! Шапіто з дастаўкай на дом!

Аліна накіравалася ў кухню, уключыла электрачайнік, перасунула адно з плеценых крэслаў бліжэй да акна, села «ў труакард» да ўвахода, з асалодай закінула зацеклыя ногі на падаконне і агледзелася.

Акно было ўбранае ў фіранкі, уздоўж і ўпоперак пакрытыя вышытымі трускалкамі і яблычкамі. На падаконні ў блакітных гаршэчках весела чэзлі кактусы — «сукуленцікі», як называла падобныя раслінкі Аліііна ўрач-тэрапеўт, неўтаймаваная аматарка рознага роду калючай расліннасці; яна і пацыентам прапісвала ў асноўным акупунктуру, таму яе кліенты стараліся выздараўліваць у самыя сціслыя тэрміны.

Сцяну ўпрыгожваў нацюрморт з выявамі фазанаў, вінаграду і яшчэ нейкіх прадуктаў, якія ў сырым выглядзе Аліна не магла ідэнтыфікаваць, таму што гатаваць умела толькі паўфабрыкатныя пельмені. На раздзелачным стале, побач з зялёнай хлебніцай, інкруставанай саломкай, блішчэў лазінкамі плецены кошык з духмянымі яблыкамі. Побач стаяў халадзільнік — «фрыдж», як Аліна называла, на англійскі ўзор, усе халадзільныя прыстасаванні. На халадзільніку маляўніча віселі магніты, прывезеныя са спякотных паўднёвых краін. Надпісы на магнітах запрашалі: «Прыязджайце ў Крым!», «Чакаем у Каіры!», «Вітаем на залатым узбярэжжы Анталіі!» Адзін магніт мацаваў да дзверкі «фрыджа» фотаздымак, на якім бацькі Дзімы і Юлі стаялі ў абдымачку і па шчыкалатку патаналі ў белым пяску, а за імі нясцерпна сінела адно з паўднёвых мораў ці нават сам Атлантычны акіян — разабрацца было немагчыма, бо водная прастора на ўсіх такіх здымках аднолькава сіняя.

Аліна зажмурылася і паспрабавала расслабіцца.

Перастаў шумець душ, бразнула зашчоўка, пачуліся крокі, а следам ціхі голас Юлі:

— Дзіма! Гэта ты замовіў шапіто з дастаўкай на дом?

— Э-э… што?

— Шапіто! Яно сядзіць у нашай кухні і дужа прасіла, каб ты не страціў прытомнасць пры сустрэчы з ім.

— Юля, ты нешта не тое з’ела зранку? Ці кіпцюры фарбавала і лаку нанюхалася? З табой усё добра?

— Са мной — так! Я атрымала поўны пакет шакаладак і прэзерватываў, і цяпер мне цікава, што шапіто прывезла табе ў падарунак!

Хвілінаю пазней Дзіма прыскакаў у кухню на адной назе, другой нагой ён аніяк не мог патрапіць у джынсы.

Аліна вырашыла не напружваць сябе радаснымі ўскрыкамі, прывітанкамі і пацалункамі, а проста сумна паглядзела на Дзіму і ціха паведаміла:

— Вітаю цябе, шаноўны аміга! Прабач, што я ў такой позе — адпачываю.

— Нічога страшнага, дагары нагамі табе нават… больш пасуе, — адказаў Дзіма.

Аліне не падабаліся двухсэнсоўныя кампліменты. Яна кінула ў бок Дзімы такі пагляд, што той адразу ж патрапіў нагою ў джынсы, хуценька зашпіліў іх і сеў на бліжэйшы табурэт.

— Ніколі — чуеш, ніколі! — не гавары слоў, якія прымусяць мяне чырванець, — выгукнула Аліна.

Дзіма кіўнуў:

— Добра. Толькі напомні мне, калі ласка, з якой мэтай ты сюды прыехала, у нашае каралеўства смутку і слаты?

— Як жа? Я ж цябе папярэджвала, што хачу пазнаёміцца з тваімі бацькамі! Вось, выдаўся вольны час, узяла і прыехала. Альбо ты хочаш сказаць, што не рады?

— Мама з татам на кірмашы! — падала голас з вітальні Юля.

— Шкада-шкадовая… Ну, нічога, раз ужо я выбралася да вас у гэткую непагадзь, то абавязкова іх дачакаюся! Вашыя бацькі заўсёды на кірмаш разам ходзяць? — спыталася Аліна, памацала «сукуленцік» і аблізнула ўколаты палец.

— Калі тата не ў рэйсе, то — так! Тата ў нас дальнабойшчык! — ізноў адказала Юля з вітальні, пасля выглянула з-за дзвярэй, працягнула руку да кошыка, узяла самы прыгожы яблык і дэманстратыўна надкусіла яго.

— Пра дальнабойшчыка ты не гаварыў, — паглядзела Аліна на Дзіму. — Збіраешся прадоўжыць сямейную традыцыю і пайсці па бацькавым следзе?

Дзіма прамаўчаў. Юля адказала замест яго:

— Не. Дзіма ў нас цікавая асоба. За «баранкаю» сядзець не хоча. Думае, што можа прынесці карысць чалавецтву іншым чынам. Якім менавіта — не ўдакладняе.

— Юля, ну хопіць ужо, што з табой сёння? — вызверыўся Дзіма і зрабіў спробу закрыць дзверы між кухняй і вітальняй, каб пакінуць Аліну і сябе сам-насам. Юля прытрымала дзверы каленем:

— А што — «хопіць»? Ну, што? Што я сказала не так? Мужчыны павінны зарабляць мужчынскай працай і выглядаць па-мужчынску, у нас заўсёды так было, толькі ты адзін падаўся ў менеджары ды чуб абстрыг набок, мне перад сябрамі і сяброўкамі сорамна, усе з мяне смяюцца, кажуць, што мой брат — гомік!

— Юля! — закрычаў Дзіма і запусціў у сястру магніцік з халадзільніка.

— Ага, магнітамі кідаешся, і ўніверсітэт кідаць збіраешся, у цябе будзе цяпер мянушка — «Кідалава!» — крыкнула Юля і знікла ў паўзмрочных нетрах кватэры.

— Кідаць універсітэт? — Аліна схапіла са стала чайную лыжачку і кінула яе ў Дзіму. — Я гляджу, у вас тут модна кідацца рознымі рэчамі, дык і я таксама дазволю сабе! Паслухай мяне! Невукі яшчэ ніколі не прыносілі карысці чалавецтву, яны станавіліся толькі гарматным мясам падчас войнаў і рэвалюцый! Ну, а мне невук зусім без патрэбы. З табой жа і пагаварыць не будзе пра што!

Дзіма нахіліўся, чайная лыжачка адрыкашэціла ад кафельнай сцяны і ўпала ў ракавіну. Юля пракрычала, заглушаючы тэлевізар:

— Ён нават не хоча запісвацца ў аўташколу — баіцца, што мы яго зробім «вадзілам»!

Дзіма зачыніў дзверы кухні на зашчапку.

Аліна паказытала гаршчок з «сукуленцікам» вялікім пальцам правай нагі, а левай зноў уключыла электрачайнік, што стаяў на стале:

— Вось як. Не хочаш у аўташколу? Ідзеш супраць волі бацькоў? А-я-яй, ганьба табе!

— Не, аміга міа, я вельмі паважаю сваіх бацькоў. Проста Юля хоча, каб у мяне з'явілася машына — яна б тады брала яе пакатацца.

— А чаму Юля сама не здасць на правы?

— Ды ўжо здала, але машыны ў дасягальнай будучыні яна не дачакаецца.

— Гэта яшчэ чаму?

— Бацька кажа, што жанчына за рулём — гэта смяротніца. Ён, калі даведаўся, што Юля запісалася ў аўташколу, два тыдні з ёй не размаўляў. І з мамай, бо тая грошы дала. А што ж рабіць, грошы цяпер не вернеш…

— Як я зразумела, ты хочаш зберагчы жыццё і здароўе сястрычкі, адмовіўшыся ад аўтамабіля? Дзіўны метад. Але ў нечым ты маеш рацыю, — Аліна ўспомніла, як дабіралася да Дружнага, і сэрца пахаладзела. — Мусіць, твой бацька мяркуе слушна. Я сама б ніколі не села за руль, калі б жыццё не прымусіла.

— Ты за рулём? — здзівіўся Дзіма.

— Вызірні ў акенца. Там б'е капытом мой жалезны конь!

Дзіма падышоў да акна, пасунуў трускалка-яблычную фіранку і прысвіснуў, кінуўшы пагляд на аўтамабіль Аліны:

— Ого, нішто сабе! Які велізарны! Як ты з ім упраўляешся?

— Я, даражэнькі, упраўляюся з цэлым прадзюсарскім цэнтрам, так што мой «буцэфал» — гэта кветачкі.

— «Буцэфал»? Гэта марка?

— Не-е, гэта мянушка.

Загрымелі металам ключы, у вітальню ўвайшлі Мотузы-старэйшыя і ўнеслі некалькі трубак шпалер, вядзерца з фарбай і кавун. Дзіма выбег з кухні і прашаптаў Юлі, што павісла на шыі ў маці:

— Ты б Алініны падарункі запхнула пад ложак, а то мала ці што…

Калі Дзімавы бацькі зайшлі ў кухню, Аліна прыбрала ногі з падаконня, устала, шырока ўсміхнулася два тыдні таму адбеленай усмешкай і гучна павіталася:

— Добрай раніцы!

Дзіма расквітнеў ад штучнай радасці і весела прамовіў:

— Тата-мама, знаёмцеся, гэта Аліна!

— Аліна? — здзівілася мама. — Пра Аліну ты нічога не казаў.

— Ён проста не ведаў, з чаго пачаць! — сказала Аліна і зняла з падножкі электрачайнік, што паспеў закіпець, і заліла растваральную каву ў кубачак, знойдзены ў шафцы над мыйкай.

— А вы даўно сябруеце? — спыталася мама.

— Хутка будзе год. Праўда, за гэты час бачыліся ўсяго тры разы, у асноўным перапісваемся па інтэрнэце. Але ж сяброўства вымяраецца не піва-гадзінамі, праведзенымі ў парку на парэнчах, вы не знаходзіце? Хочаце кавы?

Аліна ў любым памяшканні вельмі хутка асвойвалася і пачынала адчуваць сябе гаспадыняй: частыя пераезды прывучылі яе лічыць сваім жытлом любое месца, дзе ёсць спраўныя чайнік і санвузел.

— Так, мажліва… — адказала Дзімава маці адначасова на два пытанні і асцярожна апусцілася на стул, паправіўшы валасы, пафарбаваныя ў няпэўна-каштанавы колер дастаткова, каб забіць сівізну, але недастаткова, каб упрыгожыць жанчыну.

Аліна выцягнула з шафкі яшчэ два кубкі, абдала кіпнем і насыпала ў іх кававую субстанцыю — без дапамогі лыжачкі, на вока, адразу з бляшанкі. Гэта была не тая кава, якую трэба вымяраць лыжачкамі, каб цябе не назвалі марнатраўцай.

Маці Дзімы спыталася:

— А вы ў Дружным жывяце?

— Не, я з Мінска, хаця… ведаеце, дужа складана сказаць, дзе я жыву, прасцей — дзе я раз-пораз бываю. Сёння, напрыклад, прыехала з Гомеля. На мінулым тыдні была ў Маскве. А заўтра скокну на свайго «буцэфала» і накіруюся ў Кіеў.

— Прабачце… Буцэфал — гэта вашую каняшку так завуць? Верхавой яздой займаецеся? Спартсменка? — перапытаўся Дзімаў бацька і пашкроб патыліцу.

— Буцэфал — гэта мой аўтамабіль, — адказала Аліна і раптам успомніла, што пакінула ў багажніку самы галоўны рэквізіт вечара. — Я хутка вярнуся, літаральна хвілінку пачакайце, калі ласка!

— Ну, цяпер мы ўжо нікуды ад вас не падзенемся! — прамовіў бацька і сеў за стол побач з матуляй.

Аліна спусцілася ўніз, паставіла цагліну ў праёме дзвярэй пад'езда, каб тыя не зачыніліся, потым падышла да аўтамабіля, адкрыла багажнік і выграбла адтуль букет руж ды тры каробачкі.

У вітальні яна сутыкнулася з Дзімам, які стаяў з фенам у руках і глядзеў праз вялікае люстра некуды ўдалеч, нібы намагаўся спасцігнуць тайну чацвёртага вымярэння. Аліна прамуркатала:

— Ты нават не ўяўляеш сабе, як табе пашанцавала, што я сёння прыехала! Можаш лічыць, што ты выцягнуў шчаслівы білет!

Зноўку апынуўшыся ў кухні, дзе Мотузы-старэйшыя сядзелі, як стоды, Аліна ўручыла ружы матулі, а каробачкі — бацьку:

— Трымайце, калі ласка, кветкі і духі — гаспадыні, сувеніры — гаспадару, там кубінскія цыгары і два гальштукі ад Кардэна.

Маці ўстала, каб прыняць букет, са словамі:

— Дзякуй! Якая прыгажосць, у вас выдатны густ!

Аліна не стала казаць Дзімавай маме, што на самай справе выдатны густ не ў яе, а ў дзяўчыны-сакратаркі, якая ўчора ўручыла гэтыя ружы Аліне на прэзентацыі ў Гомелі. Аліна не любіла кветкі, таму па заканчэнні прэзентацыі букет быў засунуты ў багажнік, дзе і праляжаў да сённяшняга дня разам з таксама кімсьці падоранымі духамі, цыгарамі і гальштукамі, што валяліся там ці не паўгода — Аліна не курыла і гальштукі не насіла, бо задыхалася, калі нешта сціскала ёй шыю. Да вялікага гонару дзяўчыны-сакратаркі, ружы аказаліся свежыя і вытрымалі суткі ў багажніку, не страціўшы прывабнасці і водару.

Маці ўсунула нос у кветкі з пяшчотным выразам твару, бацька прынюхаўся да цыгар: ён дужа любіў добры тытунь.

— Якая раскоша! Сапраўдныя кубінскія? — спытаўся ён.

— Так, параходам адтуль да вас прыплылі! — адказала Аліна.

— Мусіць, дужа дарагія?

— Не думайце пра гэта.

— Які водар! Смаката смакоцкая! — захапляўся бацька.

— А гальштукі, ты паглядзі! Будзе табе ў чым хадзіць са мной на юбілеі да сябровак! — парадавалася маці. — А я новымі духамі пахвалюся. Французскія?

— Так! — кіўнула Аліна.

Яна ведала, што добрыя водары зачароўваюць людзей і робяць іх лагоднымі, таму нават сваіх сяброў і супрацоўнікаў часта радавала французскімі духамі ці індыйскімі алеямі. Спецыяльна падбірала супакойваючыя пахі, бо ведала, што, каб весці з ёй справы, людзям патрэбны жалезныя нервы і «кадэбэшная» вытрымка.

Аліна прысела на стул, абхапіла свой кубачак рукой, укінула ў яго кавалачак рафінаду і размяшала каву так, што лыжачка ніводнага разу не дакранулася да фаянсу. Потым Аліна прамовіла:

— А я да вас не проста так, а з сур'ёзнай просьбай.

— Прасіце, — сказала ў букет Дзімава маці.

— Я прашу рукі вашага сына, яна мне дужа патрэбна! — абвясціла Аліна і глытнула кавы.

Дзімавы бацькі прыселі, нібыта па іх нагах прайшлася газонакасілка.

— У вас будзе дзіця? — ціха спыталася мама, і на яе твары адбілася: «Не-не-не, ніякіх дзяцей, не-не-не, толькі не цяпер, я яшчэ дужа маладая, каб звацца бабуляй…»

— Не! — паспяшалася адказаць Аліна. — Рана яшчэ. Дзіме патрэбна давучыцца, а пасля — будзем глядзець. Толькі вы не хвалюйцеся, у яго ўсё будзе. Жыць пераедзе да мяне ў Мінск, калі трэба, я яго на тэлебачанне ўладкую, якую-небудзь перадачку весці!

Дзімава маці пацалавала залаты крыжык, які боўтаўся ў яе на шыі, а бацька сказаў:

— Ведаеце, паненачка, я крыху па-іншаму ўяўляў сватанне свайго сына. На вашым месцы мусіў быць я.

— Вось бачыце, як я вам спрасціла задачу! — усміхнулася Аліна.

— Дзіма! — крыкнуў бацька і накіраваўся з кухні ў вітальню, расплікваючы рэмень з армейскай зоркай на бляшцы.

З вітальні пачуліся некалькі пляскачоў і прыглушаная, таму неразборлівая размова, потым бацька вярнуўся і прысеў на стул.

— Ну, чаго ты там топчашся, хадзі сюды давай! — паклікаў ён, і праз дзве хвіліны ў кухню ўвайшоў, паціраючы мяккае месца, Дзіма з недасушанымі валасамі.

З вуліцы данесліся спевы.

— О, а я думала, што яны не паспеюць! — узрадавалася Аліна. — Ведаеце, у мяне зусім няма часу на рамантыку і хаджэнні пад маладзіком, таму для вашага сына — для цябе, Дзіма! — прагучыць прыгожая песня ў выкананні групы «Фармалін». Такія пекныя паненкі, і спяваюць выдатна.

— А чаму — «Фармалін»? — не зразумеў Дзіма.

— У іх па целе столькі пластыкі, што яны цяпер мусяць захавацца, як у фармаліне, яшчэ шмат гадоў пасля смерці. Толькі ты ім не гавары, што я так казала, а то пакрыўдзяцца: яны думаюць, што «фармалін» — гэта «прыгожая кветка» па-кітайску.

«Пекныя паненкі» зайгралі на гітары ды маракасах і заспявалі, праз некалькі хвілін сабраўшы вакол сябе нямала слухачоў, сярод якіх было некалькі пенсіянераўветэранаў, матулькі з каляскамі, водаправодчык і дзве дваровыя коткі.

— А пакуль дзяўчаты спяваюць, у мэтах эканоміі часу прапаную працягнуць нашыя перамовы, — працягвала Аліна.

— Якія перамовы? — не зразумеў Дзіма.

Маці паглядзела на сына і прашаптала:

— Пакуль ты перад сваім люстэркам сушыш зубы і губы, мы цябе… замуж выдаем!

Дзіма моўчкі сеў за стол.

— Вы кахаеце нашага хлопчыка? — спыталася матуля ў Аліны.

— Я люблю прыгожыя рэчы і прыгожых людзей. Дзіма прыгожы, увесь у матулю. І мужны — у бацьку. Ён вельмі ўпрыгожыць маё жыццё. А я ператвару яго жыццё ў сапраўдны феерверк!

— У сэнсе — Дзіма ўзляціць у неба з зарадам у дупе? — пацікавіўся бацька.

— Не, у сэнсе — ён не будзе ведаць смутку. Хаця, калі Дзіма адмовіцца, не выключаны і ваш варыянт развіцця падзей!

— А скажыце, часта вы за мяжой бываеце, у Еўропе?

— Часцей, чым дыхаю. Там у мяне шмат спраў. Можа, вам што-небудзь патрэбна? У мяне ёсць сябры ў нямецкіх і італьянскіх аўтасалонах… — як бы між іншым прамовіла Аліна і насыпала сабе ў кубак яшчэ адну порцыю кавы.

— Калі Дзіма адмовіцца, я сам падпалю бікфордаў шнур, — рэзюміраваў бацька і яшчэ раз панюхаў цыгары.

— Вось і добра. Дзякуй, дзяўчаты! — закрычала Аліна, якая адкрыла акно і ўпусціла ў кватэру восеньскую вільгаць. «Фармалін» пакланіўся і знік у тым жа невядомым напрамку, адкуль і з’явіўся на двары.

— Прабачце за такое недалікатнае пытанне… а колькі ж вам гадоў? — спыталася Дзімава маці.

— Чаму ж недалікатнае? Недалікатна пытацца ў чалавека, які хварэе на гемарой, ці не балюча яму сядзець, — сказала Аліна, і Дзімаў тата апусціў вочы. — Мне дваццаць пяць гадоў.

Маці склала рукі ў малітоўнай позе:

— А Дзімку ўсяго дваццаць, ён яшчэ такі маленькі!

— Нічога. Усе мы былі маладымі, гэта як насмарк — само праходзіць, — Дзімаў бацька ўзяў жонку за локаць.

— Ведаеце, калі б мне пяць гадоў таму прапанавалі тое, што я прапаноўваю Дзіму цяпер, я б, на мой сённяшні розум, не стала доўга разважаць і зберагла б шмат часу, здароўя і нерваў, — уздыхнула Аліна і паглядзела ў неба. Там вісела непраглядная кудлатая восеньская шэрань. Аліне зрабілася сумна і, нягледзячы на выпітую каву, захацелася спаць.

— А калі вяселле плануеце… вы? — звярнуўся Дзімаў бацька да Аліны.

— Праз два-тры тыдні, недзе каля таго, так, Дзіма? — перапыталася Аліна. Хлопец збянтэжыўся, паглядзеў на яе, зразумеў, што наконт феерверка яна не пажартавала, і ціха адказаў:

— Так…

— Цудоўна! — узрадавалася Аліна. — Я гляджу, вы рамонт вырашылі зрабіць?

— Так, — паспяшалася пахваліцца маці. — Вось, нават шпалеры набылі, клеіць збіраліся. Прыгожанькія, сама выбірала!

З вітальні, дзе Юля зашамацела шпалерамі, пачулася гучнае:

— Ма-ам! Я нешта не зразумела — а дзе шпалеры ў мой пакой? Гэта што за кацячы арнамент? Я не буду жыць у пакоі, дзе па сценах бегаюць кашакі! Мне ўжо не пяць гадоў!

Маці ўздыхнула:

— Вось і выраслі нашыя дзеці. Хто жэніцца, хто перастаў захапляцца коткамі ды называць іх «пупусёнкамі»… Нічога, Юлёк, мы гэтыя шпалеры сабе ў спальню паклеім!

Аліна дапіла каву і, шкадуючы, што кава была растваральнай і на ёй немажліва было паваражыць на будучы лёс, звыклым рухам перавярнула кубак на сподачак і сказала:

— Вы не перажывайце, у мяне ёсць добрыя знаёмцы, у іх выдатная кантора па дызайне інтэр’еру. Калі трэба, можна арганізаваць вам хуткі і вельмі якасны рамонт у сучаснай еўрапейскай стылістыцы. Я пакіну вам сваю візітоўку — тэлефануйце, калі што!

Дзімава маці хуценька ўзяла візітоўку і прапанавала:

— Давайце есці кавун! Мы яго так доўга шукалі, увесь кірмаш абышлі!

— Давайце! Дзіма, можа, у кантэксце таго, што тут адбываецца, ты ўсё ж такі пазнаёміш мяне са сваімі бацькамі? Нешта я не памятаю, каб ты называў іх імёны!

— Антаніна Пятроўна і Сямён Іванавіч, — адказала мама.

Сямён Іванавіч усадзіў з размаху нож у паласаты бок кавуна. Метал з храбусценнем разрэзаў тоўстую скуру, на стол пацёк ружовы сок. Антаніна Пятроўна хутка падставіла пад кавун паднос. Сямён Іванавіч выняў з ягады цёмна-ружовую духмяную скібу. Дзіма пацягнуў да яе руку, але бацька адвёў скібу ўбок, незадаволена паглядзеў на сына і аддаў першы кавалак кавуна Аліне.

Наступныя пятнаццаць хвілін прайшлі ў прыемным дыялогу пра мастацтва — дакладней, маналогу: Сямён Іванавіч і Антаніна Пятроўна не дужа разбіраліся ў нюансах паўночнага Адраджэння, а таксама — італьянскага і ўсходняга. Мадэрн з сюррэалізмам былі для іх таксама проста словамі, незнаёмымі, дзіўнымі, а таму палохаючымі. Такім чынам, вельмі хутка гутарка прыняла сямейна-побытавы характар: маці пачала расказваць самыя захапляльныя эпізоды з жыцця сынка, і з кожным новым эпізодам Дзіма рабіўся яшчэ больш пахмурным. Ён угрызаўся ў кавун, аддаўшы перавагу тактыцы «слухаю ды ем». Калі ж прагучала фраза:

«А вось сікацца Дзімка ў нас вельмі рана перастаў, з гэтым ніколі праблем не было!», Дзіма ціха сказаў:

— Гэты перыяд сваёй біяграфіі я зусім не памятаю.

— Ну, то я пастараюся не палохаць Дзіму, каб яго немаўлячы энурэз, крый Божа, не вярнуўся! — абвясціла Аліна. Яна паглядзела на гадзіннік, устала з-за стала і выцерла шчокі папяровай сурвэткай. — Трэба збірацца. Я хачу пазнаёміць Дзіму са сваімі сябрамі, яны нас будуць чакаць у Мінскай рэстарацыі. Мы мусім паспяшацца. Дзякуй за каву і кавун! Адпускаеце?

— Адпускаем! — паспяшалася адказаць маці. Яе да такой ступені расчулілі ўспаміны пра сынава дзяцінства, што яна была гатовая адпусціць сваю «крывінку» хоць на край свету, абы ён там, на краі свету, не забыўся гучна сказаць, якая ў яго пяшчотная і прыгожая матуля. — Сына, надзень белую сарочку і той касцюмчык, што табе цётка Марына падарыла на дзень першакурсніка, і гальштук не забудзься, добра?

— Ма-ам, я сам!

— Не, не сам, ты ў мяне не ўмееш гальштук завязваць і прасаваць штонікі! Я табе дапамагу! — Антаніна Пятроўна схапіла Дзіму за локаць і павяла ў спальню, дзе ў самым далёкім кутку новай шафы вісеў той самы касцюмчык, які Дзіма так і не апрануў на сябе ў дзень першакурсніка, бо не любіў пінжакі і штаны са «стрэлкамі».

Аліна засталася сам-насам з бацькам Дзімы. Той прыжмурыў левае вока, пільна паглядзеў на дзяўчыну і спытаўся:

— А хто вашы бацькі, мадамачка?

Аліна апусціла галаву і задумалася, ці трэба шчыра адказваць на такое далікатнае пытанне.

Яе заўсёды здзіўляла, навошта людзі імкнуцца даведацца пра радавод сваіх суразмоўцаў. «Выходзіць, што я нібы тое шчаня — чым больш медалёў прывезлі мае бацькі з выстаў, тым даражэй абыходжуся свайму патэнцыйнаму ўладальніку? — часта паўтарала яна сваім блізкім сябрам. — І нікому ні кроплі не цікава, што я з сябе ўяўляю як асоба, галоўнае — каб генафонд быў добры. А што такое — добры генафонд? Інтэлігент палічыць, што ў мяне добры генафонд, калі мае бацькі, бабулі і дзядулі — усе, як адзін, былі педагогамі, музыкамі і літаратарамі, пажадана рэпрэсіраванымі альбо збеглымі ад савецкай улады ў Парыж, а лепш — у Цюрых. І каб сярод іх аказаўся хаця б адзін расстраляны: гэта надае асаблівы статус. А вось селянін ад такога генафонду адмахнецца. Для яго добры генафонд — гэта трактарысты, камбайнеры і даяркі ў сёмым калене. Рабочы спытаецца, на якіх заводах мае сваякі пакінулі сваё здароўе ў абмен на працоўныя ордэны і дзесяціпрацэнтную надбаўку да пенсіі. І ўсе яны — інтэлігент, селянін, рабочы — у канцы абавязкова пацікавяцца, ці не было ў мяне сярод сваякоў яўрэяў? Нібыта няма больш жудаснай плямы на біяграфіі, чым сваяк-яўрэй, і гэта нават горш за сваяка-вар’ята ці сваяка-забойцу!»

— У мяне польскія, расійскія, беларускія і ўкраінскія карані. Быў і цыган адзін, — адказала Аліна на пытанне.

— Бач ты, які нацыянальны вінегрэт. А яўрэяў у вашым генеалагічным дрэве не было? — перапытаў Дзімаў бацька і захваляваўся.

— Магу напружыць памяць, можа, выцягну аднекуль і яўрэя, калі вам гэта сапраўды патрэбна…

— Не-не, не трэба. Цыгана хопіць. Проста цікава было б сустрэцца, паразмаўляць…

— Паразмаўляйце са мной, я перадам ім на словах, калі надарыцца выпадак. Шчыра кажучы, я даўно іх не бачыла. Нікога. Дужа многа працы, няма калі па свяяках з візітамі ветлівасці цягацца.

Дзімаў бацька ізноў зажмурыўся, зачыніў кухонныя дзверы, потым падышоў да Аліны і расцягнуў рэмень на джынсах. Аліна прыўзняла брыво. Бацька нахіліўся да яе вуха і напаўголасу прамовіў:

— Аліна… я вас папрашу. Па-мужчынску. Мамка над Дзімкам дужа трасецца, любіць, як дачку. Вось мы і маем што маем. Так што, калі мой абармот павядзе сябе не па-хлапечы… дасць слабіну ў чым-небудзь… Вы тады яго вось гэтым! — мужчына працягнуў Аліне рэмень. — Бляшка — армейская, сляды ад яе па два тыдні не сыходзяць! З імі, цяперашнімі хлопцамі, трэба як найстражэй, а то яны зусім разбэсціліся з гэтай сваёй тэорыяй пра белыя і сінія каўнерыкі… Кожны хоча насіць белы каўнерык. А сінія — каму? Вы яго трымайце там за адно месца. Хай звонку будзе белы, а па характары — сіні каўнерык. Добра?

Аліна выдыхнула і ўсміхнулася, уцягваючы рэмень у шлейкі сваіх клятчастых штонікаў:

— Я пастараюся. Звычайна чужых дзяцей я не б’ю, але калі вы так просіце, не магу адмовіць. Мяне не таўсціць гэтая зорка на жываце?

— Не, ні кропелькі!

— Ну, тады добра.

Нарэшце ў кухні з’явіўся Дзіма. Яму вельмі пасаваў строгі касцюм. За шырокімі Дзімавымі плячыма хавалася маці і раз-пораз здымала з гэтых плячэй нябачныя пылінкі. Дзіма быў падобны да фотамадэлі з вокладкі гламурнага часопіса.

— Якая прыгажосць! Апалон, сапраўдны Апалон! — пляснула ў далоні Аліна. — Касцюмчык, канешне, турэцкі, але для пачатку і такі падыдзе. Толькі вось, калі дазволіце, я гальштук па-іншаму завяжу. Цяпер у модзе вузел «Christensen», а тое, што вы разам стварылі, — гэта алюзія на «Прынца Альберта».

Рукі Аліны мякка залёталі вакол Дзімавай шыі, перавязваючы вузел на іншы. Калі гальштук прыняў належны выгляд, Аліна як след зацягнула яго пад белым каўнерыкам, і Дзіма закашляўся, бо ў яго перахапіла дых ад такой пяшчоты.

— Ну, вось. Зусім іншая справа, — задаволена прамовіла Аліна. — Стыляга. Але ж нам час ісці, а тое мае сябры пачнуць весяліцца без нашага ўдзелу!

У вітальні Юля падышла да брата і паклала ў кішэню яго штаноў пачак прэзерватываў.

— Прадалі сынка за духі ды гальштукі? — спыталася яна ў бацькоў.

— За цябе і столькі не даюць, — адказаў Сямён Іванавіч.

Ледзьве зачыніліся дзверы ліфта, Дзіма паглядзеў на Аліну тым позіркам, якім у фільмах звычайна ахвяры глядзяць на антыгероя, і спытаўся:

— Нашто ты прыехала? Што гэта за цырк?

— Шапіто. Толькі гэта не пра нас. Гэта афіцыйная прапанова рукі і сэрца. Ты ж сам казаў, што табе дужа падабаецца маё — «не ў брыво, а ў вока», ці як там…

— Але ж я не гэтае меў на ўвазе!

— Я не стралок, зразумела як зразумела.

— Дык ты што, сур’ёзна? Ты што, сапраўды мяне кахаеш?

— Ну-ну-ну. Ты добра ведаеш, што я не веру ў такую з’яву, як каханне.

— Чаму тады менавіта я… стаў ахвярай твайго неўтаймаванага жадання завесці сабе мужа?

— Ну, тут усё вельмі проста. Я выходджу ў свет, а ў свеце — усе па парах. Мадамы майго ўзросту даўно пабралі шлюб. Хто з кім. Абы хто мяне не задаволіць. Перш за ўсё, мне патрэбна, каб я з маім сужэнцам гарманічна выглядалі побач. І вось, я з маімі дызайнеркамі і стылістамі селі, перагледзелі некалькі соцень фотаздымкаў і сышліся на тым, што ты вельмі добра дапасуешся да мяне. Проста ідэальны малюнак з усіх пунктаў погляду. Па-другое, канешне, патрэбна, каб мой суджаны быў публічнай фігурай, але гэта робіцца дужа проста. Нават малпа можа быць тэлевядучай, калі над ёй працуе таленавітая каманда крэатыўшчыкаў. Я нармальна патлумачыла?

— Так, але…

— Ну ладна, ладна. Можаш крыху «паламацца», у першы раз усё-ткі. А я пакуль раскажу табе нашую праграму на сёння. Мы едзем у рэстаран, прадстаўляем цябе маёй творчай суполцы, і ты паказваеш усе свае навыкі моўнай актыўнасці і мужчынскай абаяльнасці. Я тут даведалася праз сваіх сакрэтных агентаў, што ў кампаніі сяброў ты бываеш дужа гаваркі, проста душа кампаніі. Дык вось: мае сябры — гэта твае сябры, проста расслабся і атрымлівай асалоду. Сёння ж і выберам дату вяселля. А таксама прыкінем, куды цябе ўладкаваць. Ёсць адзін цікавы праект у распрацоўцы…

Дзіма змоўк. Звычайна ў прысутнасці Аліны ён губляўся і перш, чым нешта сказаць, доўга ўзважваў кожнае слова ды выбудоўваў фразы ў галаве. Аліну гэта то раздражняла, то весяліла. Аднойчы, пасля доўгіх разважанняў, Дзіма выдаў: «Ты душыш мяне сваёй харызмай! Яна важыць усе сто тон!» Аліна прыгадала гэтыя словы, бо мела звычку доўга памятаць тое, што яе раззлавала. Увогуле, яна лічыла сябе мяккай і пяшчотнай.

— І вось што… забудзься пра тое, што на цябе ціснe мая харызма. Цяпер адзінае, што можа табе ціснуць, — гэта задужа шчыльныя плаўкі, а ўсё астатняе няхай цябе не хвалюе, — сказала Аліна, адкрываючы дзверы свайго «буцэфала». — Сядай.

— Цікава, на што ты разлічваеш, — хлопец спыніўся каля аўтамабіля і вагаўся: сесці ў салон ці збегчы ад нечаканай і бескампраміснай нявесты.

— Я разлічваю на тваю згоду, мой дарагі, бо гэта вельмі карысная здзелка, у тым ліку, і для цябе. Ты за проста так атрымліваеш цэлы стос бонусаў. Дакладней, не за проста так, а за сваю незвычайную прыгажосць. Ад цябе толькі трэба ўсміхацца фотакарам, калі мы будзем крочыць побач, а таксама рабіць тое, што прыдумаюць мае піяршчыкі.

— Э-э… я не хачу!

— Ну, не панікуй. Ніхто не збіраецца выстаўляць цябе дурнем. У цябе будзе вельмі пазітыўны і цалкам станоўчы вобраз. Давай, Мотуз, не аднеквайся. Разумею, першы раз — страшна, але чым раней мы гэта зробім, тым лепш для ўсіх. З узростам у людзей з'яўляюцца звычкі, ад якіх вельмі цяжка пазбавіцца, а змірыцца з імі бывае проста нерэальна! Таму трэба хутка жаніцца і выпрацоўваць звычкі разам, каб яны былі тоеснымі. Так мы зможам амаль без скандалаў ды крыўд прыцерціся адно да аднаго, — Аліна ўціснула Дзіму ў аўтамабіль, села побач, націснула на газ і пачала выруліваць з лужыны.

— Я… я яшчэ не скончыў універсітэт, нашто табе патрэбны муж без адукацыі, ты ж сама казала…

— Дыплом мы табе купім. Галоўнае ж не тое, што напісана ў дыпломе, а тое, як ты ўмееш карыстацца крыніцамі інфармацыі. Практыка. На каго ты вучышся?

— На менеджара.

— Выдатна. Купім табе дыплом і стосік спецыялізаванай літаратуры. Будзеш чытаць перад сном — глядзіш, і вывучышся, калі і праўда хочаш.

— Я не гатовы прачынацца з табой у адным ложку!

— Ат. Гэта не праблема. У маёй невялікай кватэрцы цэлых чатыры пакоі, будзем спаць у розных, пакуль ты да мяне не прывыкнеш. А як захочаш завесці сабе хамяка, мы яму таксама прызначым асобны пакой.

— Навошта мне хамяк?

— І праўда, хто за ім будзе глядзець! Я амаль не бываю дома. У мяне дужа многа спраў. І ў цябе будзе вельмі насычаны графік. Так што нават і не ведаю, калі мы зможам з табой апынуцца ў адным ложку. Бачыш — тваёй цнатлівай чысціні нішто не пагражае. Канешне, я не магу паклясціся на кулінарнай кнізе, што буду кожны дзень варыць табе рытуальны боршч. Магу толькі паабяцаць, што заўсёды буду з табой шчырая. Як цяпер. Ну, што за лужыны, іціць іх маць, трэба зноў ехаць і мыць машыну!

Аліна зразумела, што дарма выпіла столькі кавы, якую з прычыны тахікардыі ёй спажываць было ніяк няможна: рукі калаціліся, сэрца выскоквала з грудзей, перад вачыма мільгалі зялёныя зорачкі і адна чырвоная. «Альдэбаран», — падумала Аліна і пасміхнулася. Дзіма з хвіліну моўчкі назіраў за Алінай, а потым шумна ўздыхнуў і выдаў:

— У мяне ёсць дзяўчына, і мне з ёй добра!

— Ведаю-ведаю, — спакойна прамовіла Аліна. — Яе завуць Таня, яна добра спявае і пару гадоў таму нават заняла трэцяе месца на гарадскім конкурсе «Lady Metal Death»… ці нешта падобнае. Якія-небудзь яшчэ сацыяльныя прыкметы ў яе ёсць? Я не бачыла яе фота, не было часу паглядзець, хаця мае агенты ўжо вырылі ці не сотню здымкаў. Інтэрнэт — нашае шчасце і пракляцце, усё можна адшукаць.

— Мне з Таняй добра, і я не хачу рваць гэтыя адносіны.

— Ах, глядзі ж ты. Успомні, даражэнькі, што ты мне пісаў у лістах? «Я люблю цябе», «З табой адчуваю сябе шчаслівым…»

— Гэта проста словы!

— За словы трэба адказваць. А то мы спачатку перастанем адказваць за словы, потым за ўчынкі, а затым паўсюль настане агульны беспрасветны камунізм. Ты гэтага жадаеш?

— Я жадаю быць шчаслівым, аміга.

— Ну, вось і добра. Давай навучымся адказваць за свае словы, бо яны дужа дорага абыходзяцца публічным людзям. Я ж ведаю, я гэтым зарабляю. Мы з табою арганізуем шчаслівую сям'ю, а Таня лёгка можа стаць тваёй палюбоўніцай.

— Як гэта?

— Як, як… ну як жанчыны бываюць палюбоўніцамі? Табе працэс расказаць? Затое я буду ведаць, з кім ты спіш, апроч мяне… Ці проста — з кім ты спіш, бо не ўяўляю, калі мы з табой дабяромся да ложка.

Мокрая шэрая траса і напаўраспранутыя дрэвы, што абступалі яе шчыльным масівам, прабягалі паабапал аўтамабіля і знікалі ў вільготным шэрым паветры. Дружны падаваўся зыбкім мроівам, просценькім сном, што забываецца на другой хвіліне пасля абуджэння. Дзіма курыў, Аліна выстуквала на рулі рытм песенькі, якая гучала з калонак. Першая частка імпрэзы завяршылася больш-менш удала, і наперадзе была другая, вельмі сур'ёзная і цалкам непрадказальная: знаёмства Дзімы з калегамі па творчым цэху. Менавіта яны, у канчатковым выніку, павінны былі вынесці свой прыгавор, ці здатны Дзіма да работы ў шоу-бізнесе. Хаця, канешне, наўрад

ці гэта паўплывала б на рашэнне Аліны пакінуць Дзіму каля сябе: меркаванню калег Аліна давярала не канчаткова і не поўнасцю, бо добра ведала іх зменлівасць. Сярод іх было поўна абібокаў, алкаголікаў і свалаты, кожны з іх, узяты паасобку, мог бясконца скардзіцца на складаны лёс і на дзіва лёгка плесці інтрыгі супраць сваіх жа таварышаў. Аднак усе разам яны аказваліся незвычайна таленавітым арганізмам, які мог месяцамі нічога не рабіць, а потым «уключыцца», за двое сутак напісаць песню, за тыдзень зняць відэакліп, дамовіцца з тэлеканаламі і радыёстанцыямі пра ратацыі ў прайм-тайм, арганізаваць з дзясятак канцэртаў і на гэтым зарабіць столькі грошай, каб яшчэ некалькі тыдняў хадзіць па клубах і рэстаранах ды строіць дурня. «Дурнястроенне» было звычайным станам творчага цэху. Вяселлі і разводы, кароткія амурныя паходжанні, плагіят са стаяннем на каленях і вымольваннем даравання, выпіванне на брудэршафт, непрыстойныя прыпеўкі, світанні ў адным ложку з тым, у каго апоўначы ляцелі пракляцці і рэстаранны крышталь, — усё гэта зараджала іскрыстымі ідэямі, рыфмамі ды мелодыямі і мела назву «творчы працэс».

Дзіма ўяўляў сабе творчы працэс дужа туманна, і Аліна вырашыла пакуль не пасвячаць яго ў дэталі.

Праз пятнаццаць хвілін Аліна спыніла «буцэфала» каля густых зарасцей, усміхнулася і сказала:

— Кавун. Хутка вярнуся.

Вярнуцца хутка ў Аліны не атрымалася, бо не паспела яна зашпіліць маланку на штоніках, як нехта вялікі і дужы накінуў ёй на галаву пыльны смярдзючы мех, заціснуў рот і пацягнуў у глыбіню лесу, дзе запхнуў у аўтамабіль, што невыносна смярдзеў саляркай, і, не зважаючы на гучны лямант ахвяры, павёз прэч ад месца выкрадання.

У той жа самы час побач з Дзімам на сядзенне кіроўцы плюхнуўся чарнавокі мужчына, прышпіліў рэмень, заблакіраваў дзверы і павярнуў ключ.

— Э, ты хто такі? — закрычаў Дзіма.

— Хочаш, каб твая дама засталася жывенькай і адносна цэленькай, — маўчы і не супраціўляйся, а лепш усміхніся, бо наперадзе стаяць даішнікі, — сказаў мужчына і націснуў на газ.

Аліна зажмурылася ад промня святла, скіраванага ёй проста ў вочы, адкашлялася і прабурчэла:

— Хоць бы мех выпылілі, ці што…

Потым яна зрабіла крок наперад, таму што прывыкла заўсёды ісці на святло, і пачула мужчынскі хрыплы голас, які загадаў:

— Стаяць, мілая!

— Я вас не ведаю. Дакладней, вы мяне не ведаеце. Я зусім не мілая, — прамовіла Аліна і чмыхнула.

— Будзьце здаровенькай. Усе жанчыны мілыя да тае пары, як не пачнуць блытацца пад нагамі ў сур'ёзных мужчын і змешваць ім карты.

— Ну, што такога я зрабіла гэтым разам? — з цікавасцю папыталася Аліна. — У каго я скрала рыфму, хто не спіць начамі, хто абрынуўся ў дэпрэсію, хто складае план помсты? Ой, я ўся ў нецярпенні…

— Дзе грошы?

— Якія грошы? — Аліна адчула, як яе вочы робяцца круглымі. Звычайна яна ўмела сябе кантраляваць, але тут нічога не змагла зрабіць з арганізмам і праз некалькі хвілін стала падобная да бадзёрай савы.

— Вялікія грошы. Ты ведаеш, пра што я кажу.

— Нават не магу ўявіць!

— Не скажаш?

— Ну, як я магу сказаць тое, чаго не ведаю?

Мужчына засмяяўся і накіраваў святло ліхтарыка ўгару:

— Эх, дзяўчаты, дзяўчаты! Дзявочая памяць, разумею… То напруж гіпаталамус і давай мяняцца: ты мне скажаш, куды схавала грошы, а я табе аддам вось гэта!

Мужчына дастаў з кішэні Арчыбальда і сунуў цацку Аліне пад нос. Аліна абурылася:

— Што вы мне тыцкаеце ў твар гэтай забаўкай? Пакіньце сабе, мне іх дзясяткамі прыносяць у цэнтр! Я не бачыла вашых грошай!

— Маленькая злая дзяўчына. Чаму навокал так многа злых дзяўчат? Хм. Ну, добра, раз гэтая плюша табе не дарагая, то ў мяне ёсць аргумент, які цябе зацікавіць.

Мужчына выключыў ліхтарык і адчыніў дзверы. У дзверы ўкулілася знаёмая постаць у касцюме.

— Вось, твой сябар. Вы ехалі разам.

— Дзіма? — Аліна кінулася да хлопца і пачала выціраць рукавом яго скроні, па якіх цяклі тонкія струменьчыкі крыві. — Табе балюча?

— Раскажы мне, калі ласка, у двух словах, што тут адбываецца і чаму мяне толькі што білі два здаровыя мужыкі з-за нейкіх грошай. Хачу ўдзельнічаць у працэсе не толькі фізічна, так сказаць, у форме баксёрскай грушы, а яшчэ і ментальна-тэматычным чынам, — паспрабаваў аджартавацца Дзіма, які выглядаў вельмі разгубленым.

— Дзіма, клянуся — не ведаю, што тут за шапіто і чаго ад мяне хочуць!

Мужчына, што ўвесь гэты час моўчкі назіраў за такой пяшчотнай сустрэчай, падаў голас:

— Вось што, мілыя мае. Пакуль хто-небудзь з вас не ўспомніць, куды вы схавалі пяць мільёнаў еўра, будзеце сядзець тут. Вартоўня — утульная, цёплая. Падурэйце, у дочкі-мамкі пагуляйце са звярком, — мужчына кінуў Аліне Арчыбальда. — Я заўтра прыеду, у мяне, на жаль, няма часу адпачываць тут з вамі. Спадзяюся, што да заўтра часовая амнезія вас адпусціць. Вой, ледзьве не забыўся: здайце мне свае тэлефоны, піянеры, а то я вас ведаю — званіць сябрам пачнёце ці прасіць дапамогу аўдыторыі, гэта нам зусім не патрэбна! Знадворку вас сцерагуць, так што спрабаваць збегчы не раю. А я пакуль паспрабую дазваніцца да вашых калег — можа, нешта высветліцца і без вашага ўдзелу!

З гэтымі словамі мужчына схаваў у кішэню Алінін і Дзімаў мабільнікі і закрыў за сабой дзверы. На свіронкавы замок.

— Дзіма, даруй мне, калі ласка, я нават не магу здагадацца, хто б гэта мог быць! Можа, тут ёсць электрычнасць, трэба ўключыць святло: бачыш, вокны зачынены і дошкамі пазабіваны! — Аліна памацала далонямі па сценах у пошуках выключальніка, рубільніка ці проста чырвонай кнопкі, якая пры ўздзеянні пэўнай сілы магла б прымусіць загарэцца нешта, падобнае да лямпачкі.

— Знайшоў! — радасна ўскрыкнуў Дзіма. — Лямпа, як у бабулі маёй, нават запраўленая!

Затрымцеў агеньчык запальнічкі, дзынкнуў шкляны каўпак лямпы, і праз некалькі хвілін у цьмяным асвятленні палонныя змаглі разгледзець памяшканне, у якім ім належала правесці пэўную частку свайго жыцця, прычым правесці дужа дыскамфортна. У доміку была драўляная падлога, стол без абруса, спружынны ложак

і печ. Дзіма падышоў да ложка, асцярожна прысеў на яго і спытаўся, больш нават сам у сябе, чым у Аліны:

— Цікава, каму мог спатрэбіцца гэты дамок для рамантычных спатканняў, ды яшчэ з газай, па самае горлейка запоўненай палівам?

— Не ведаю. Можа, гэта жарт? Праз пару гадзін адчыняцца дзверы, і сюды ўваліцца кампанія маіх абармотаў з кветкамі, шампанскім і крыкамі: «Сурпрайз!»

— Калі гэта жарт, то дужа праўдападобны, бо білі мяне вельмі натуральна, каб толькі ныркі засталіся цэлымі, — Дзіма памацаў спіну і скрывіўся ад болю.

Аліне стала прыкра: Дзіму папсавалі настрой, а галоўнае — твар, бо з драпінамі і парай сінякоў першая фотасесія, запланаваная на сёння, магла адбыцца толькі пры наяўнасці добрага грымёра, а Аліміны грымёры ўсе да аднаго былі задзейнічаны на здымках. Яна ўздыхнула:

— Спадзяюся, што твая самая галоўная частка цела засталася некранутай.

— Што ты маеш на ўвазе?

— Тое, што робіць мужчыну мужчынам! Кадык, канешне.

— Не, кадык на месцы, — усміхнуўся Дзіма.

Аліна наблізілася да Дзімы, даследавала яго шыю — ёй падабаліся мужчынскія шыі, асабліва кадыкі і сонныя артэрыі, яна любіла казытаць іх пэндзлікамі і кусаць, але ў іншых абставінах.

Між бярвенняў пад самай столлю нешта бліснула.

— А ну, пасунься! — загадала Аліна, узлезла з нагамі на ложак і, падчапіўшы мох кіпцюрыкамі, выцягнула на свет бессаромнае вока маленькай скрытай відэакамеры.

Дзіма свіснуў.

— Не свішчы, грошай не будзе! Нас здымаюць. Ведаеш, што гэта азначае? Мы маглі «патрапіцца», прычым без права на рэабілітацыю. Неяк я пасля актыўнай ночы знайшла падобную прыладу ў сваім маскоўскім гасцінічным нумары, і ў мяне толькі коштам вялікіх намаганняў атрымалася пераканаць журналюг, што тое, што мы там з маім знаёмцам рабілі, — гэта новы напрамак гімнастыкі на стыку каланетыкі, ёгі і бабслею. Зуб даю — гэтая камера тут не адна. Давай шукаць!

Дзіма падняўся з ложка, прытрымліваючыся за правы бок, зазірнуў пад стол і адразу ж выцягнуў адтуль яшчэ аднаго «жучка». Пасля акуратнага і метадычнага пошуку па перыметры хацінкі было знойдзена яшчэ тры відэакамеры, два мікрафончыкі ды мышалоўка.

— Вось вылюдкі, мышэй забіваюць! — абурылася Аліна. Яна раззлавана пацягнула Арчыбальда за лапу.

Лапка адарвалася і павісла на чырвоным дроціку. Пачуліся кароткія гудкі. Дзіма выхапіў звярка з рук Аліны, шпурнуў у печ, а сам скочыў за ложак і пацягнуў Аліну следам. У печы пачуўся кароткі выбух, выпала юшка, домік зацягнула дымам.

— Ну, што за скнары! — пакрыўджана ўздыхнула Аліна, разганяючы дым. — Нават узрыўчаткі пашкадавалі, няўжо мой кошт — два медзякі? Далібог, крыўдна!

— Хутчэй за ўсё, нас проста хацелі папярэдзіць. Давай падумаем больш дэтальна, аміга, каму ты магла зрабіць выпадковую непрыемнасць.

***Працяг будзе***

Іван КАПЫЛОВІЧ

# «ЧАКАЮ СВЕТЛАЕ ГАДЗІНЫ...»



***Іван Капыловіч нарадзіўся ў 1944 годзе ў вёсцы Забалацце Мазырскага раёна. Скончыў аддзяленне журналістыкі БДУ. Аўтар зборнікаў апавяданняў і аповесцей.***

* * *

Каля агністай арабіны
Я прыпынюся, пастаю.
Яна маўчаць са мной любіла,
Святочным кожны дзень рабіла,
Красу наладзіўшы сваю.

Яна хінецца да любові,
Да ласкі, шчырасці, цяпла.
Яна хінецца да любога,
Хто знаць не хоча за сабою
Ні раўнадушнасці, ні зла.

Ужо начамі першы іней
Убеліць з ног да галавы.
Яе надзея не пакіне:
Не прападзе ў мароз, не згіне —
Вясной забродзіць сок жывы.

А халады — выпрабаванне,
Паслаў якое час і Бог.
Хапіла б толькі сіл, трывання,
Дажыць да мройнага світання
І на вясновы стаць парог.

* * *

Мой шлях зямны — выпрабаванні:
Пражыты кожны дзень і міг.
І халады, і спадзяванні,
І летуценныя світанні
Парою сцюжаў і адліг.

Мой спадарожнік — адзінота,
Яна са мною там і тут —
Парою сонца, часам слоты
І гэтым днём не без турботаў,
Не без надзеяў і пакут...

*Ян РАДВАН*

# РАДЗІВІЛІЯДА,*

## або ПРА ЖЫЦЦЁ І ДЗЕІ, СЛАЎНЫЯ ПОДЗВІГІ БЕССМЯРОТНАЙ ПАМЯЦІ НАЙСВЯТЛЕЙШАГА ПАНА Мікалая Радзівіла, князя ў Дубінках і Біржы Віленскага княства, а таксама наймацнейшага ваяводы войскаў Вялікага Княства Літоўскага

### *Кніга IV*

Што мне дадаць? Ён не дбаў пра выгоды свае, пра дастаткі —
Думаў пра ўсіх грамадзян[1]. Прыкладаючы ў час неспакою
Шмат намаганняў, аддаў сваё золата й срэбра на войска,
Кубкі літыя свае, з адмысловай аздобай падносы,
Келіхаў шмат, на якіх увасоблена мноства выяваў,
Посуд з прывабнымі кветкамі ды з інкрустацыяй гожай,
Мноства арабскіх аздобаў з каштоўным пляценнем, чаканкай
Аўгусту ты падарыў, твой жа стол быў і сціплы, і просты.
Быў ён з суседам прыветны, бясхітрасны з добрым слугою.
Як у Сатурнавым веку[2], ён прагны не быў да нажывы,
Хоць на дабро, хоць на зло — адвяргаў ён любыя мярзоты[3].
Сёння ж так многа паноў нам гатуюць паганую ежу,
Самі блукаючы ў цемры, і іншых са шляху збіваюць.
Славай святой Фемістокла ён шчыра ў душы захапляўся,
Двух шанаваў Сцыпіядаў, любіў Ганібала, каторы
Знішчыў лацінскую пыху; дый сам аднаўляў несупынна
Подзвігі продкаў сваіх. Нават самы ганебны зайздроснік
Будзе яго выхваляць за ваенныя й мірныя справы.
Хвалі падзей супраціўных ніколі яго не тапілі:
Дзёрзкай Масковіі край на сабе паспытаў яго сілу.
Тое ж адчулі і людзі з прыволжскага краю, бо бацька
Выправіў сына тады супраць ворага. Гэта, канешне,
Быў Хрыстафор, яго слаўны нашчадак з дзясніцай магутнай[4].
Сыне, ты гонар для бацькі, адвага цябе падганяе,

---

* *Працяг. Кніга чацвёртая, пачатак у № 6—12 м. г. № 1, 2, 3, 4, 5, 6 г. г.*

[1] Глоса: «Адвяргаючы прыватныя выгоды, падараваў каралю Аўгусту 800 мінаў срэбра». Міна — грэчаская мера вагі (пераважна каштоўных металаў) = 436,6 г.

[2] Паводле міфалагічных уяўленняў, пасля таго, як Сатурн быў зрынуты ягоным сынам Юпітэрам з нябеснага стальца, ён пачаў валадарыць у Лацыі; час яго кіравання лічыўся «залатым векам».

[3] Глоса: «Ненавіснік карысталюбства, самай вялікай ганьбы для любога сенатара».

[4] Хрыстафор (Крыштоф) Радзівіл Пярун (1547—1621), сын Мікалая Радзівіла Рудога. Яго сумесны з Ф. Кмітам-Чарнабыльскім ваенны рэйд да вярхоўяў Волгі ў 1581 годзе быў услаўлены ў лацінамоўнай паэме «Апісанне маскоўскага паходу... князя Хрыстафора Радзівіла» (Вільня, 1582) Францішка Градоўскага.

Берагам Волгі вядзі нас і рухайся смела наперад!
Князь быў рашучы і мужны, у бітвах прайшоў загартоўку,
Між хваляванняў вайны праяўляў ён цярпімасць у справах,
Край свой айчынны любіў; да вайскоўцаў заўжды справядлівы,
Нават пасля перамогі быў сціплы і стрыманы вельмі.
Ён паказаў сваю прагу да міру — бо толькі для міру
Скончыў вайну; несумненна, што ты правадыр найвялікшы,
Сам не ўступіў бы ў вайну, каб віхура вайны не ўзнялася.
Тою парою, калі мір трывала ўвайшоў у краіну,
Князь, тым не менш, клапаціўся й тады пра бяспеку Айчыны,
Быццам руплівы араты, які не чакае навалаў —
Нават пры добрым надвор'і прыспешвае многія справы:
Стукае сошнікам звонка ды плуг паварочвае жвава,
Нешта пячэ на агні, нешта каменем спрытным кляпае,
Потым усё акуратна складае ў належным парадку.
Што мне дадаць? Ён быў добрым для ўсіх і хацеў, каб любілі
Людзі яго. Ён нікому не шкодзіў, ды ўсім быў карысны.
Мноствам суровых законаў наўмысна падданых не ціснуў,
Шляхцічаў годных, ліцвінаў, не крыўдзіў гвалтоўным наездам:
Памятку працы бацькоў — іх зямлю — не прысвойваў ніколі.
Нат чужаземцы — і тыя — спагаду яго адчувалі.
Ён не любіў выхваляцца: як зранку румянае сонца
Красна ўздымаецца ў небе, і цені памалку знікаюць[1], —
Гэтак і мудрасць твая шлях да добрага плёну праклала.
Колькі ж марнейшыя вусны мае перад славай героя!
Мусіць, мне варта нарэшце, вялікі пралог учыніўшы,
Справы хвалебныя князя цяпер палічыць па парадку.
Муза, якая цяпер абудзілася, зноў панукае,
Дзе б я ні быў, дастаўляе свяшчэнныя лаўры, а з імі
Воды святой Гіянтэі, душу напаўняе натхненнем...
Каб не яна — я б абраў Гесіёда[2] катурны, падобна,
Князеву славу спяваць... Хто б хацеў яго справы засведчыць,
Меў бы прамераць спярша ўвесь пясок на кінфійскім[3] прыбрэжжы,
Потым — Карпатаў снягі і бясконцыя нівы Гаргараў.
Чутка — яна не абыдзе, не кіне стваральнікаў славы,
Вечнай хвалы дасягнуць намаганні вялікіх герояў.
Памяць пра ўсе дабрадзействы твае для Айчыны трывае,
Стаўшыся моцным шчытом ад таго, каб ты знік у стагоддзях.
Гэткай эпохі не будзе, якая б прызнала нязначным
Плён тваіх спраў, што чыніў ты і ноччу, і днём, плён задумаў,
Войнаў і бітваў... Твой плён будзе жыць разам з часам, не згіне!
Ты — быццам слуп трыумфальны, з чырвонага сечаны камня,
Быццам з пафійскага[4] ці з аматунцкага[5] літы метала,

---

[1] Глоса: «Сонца, чым вышэй, тым меншыя цені адкідае».

[2] Гесіёд — старажытнагрэчаскі паэт і рапсод; праславіўся дыдактычным эпасам «Працы і дні», а таксама генеалагічным эпасам «Тэагонія».

[3] Кінфійскім — лівійскім.

[4] Паф — прыморскі горад на паўднёвым захадзе Кіпра з храмам Венеры.

[5] Аматунт — горад на паўднёвым узбярэжжы Кіпра з храмам Венеры.

Выраб мастацтва Дэдала: на Капіталійскім узвышшы
Раптам аздоба ўзнялася... Навокал — шматлікая моладзь,
Прагне наперад, і слуп падмацоўвае сілай вайсковай.
Слуп аж да неба падняўся, між зор галаву размясціўшы;
Стойкім трываннем сваім ён паказвае вечную сілу,
Аўстрам сябе падстаўляе, маланак ліхіх не баіцца.
Гэткім вось чынам пражыў ужо семдзесят год ваявода,
Потым яшчэ два гады да ранейшых пражытых дабавіў[1].
З зайздрасцю моцнай глядзіць паднябесны палац на героя,
Дзівіцца, як ён з людзьмі здабывае свае перамогі.
Што ж, вось і дзень надышоў: для яго, Мікалая, найлепшы,
Самым журботным ён стаў для ліцвінаў, бо сёстры[2],
Цвёрдым фатальным пярстом адматаўшы апошнюю пражу,
Сцялі рашучай рукой з вераценца жыццёвую нітку.
Гора для ўсіх грамадзян і пакута для цэлага люду.
Мусіў быць доўгім твой век, Радзівіле, ды час неадступны
Лепшае ўсё забірае, і старасць, што вельмі заўчасна
Скроні твае пасівіла, так скупа адмерала часу
Крочыць табе па зямлі ў незлічоных тваіх дабрадзействах.
Нават у хуткіх аленяў, у дзікіх звяроў дый у птушак
Большым бывае жыццё — аднаму чалавечаму роду
Гэткі прызначаны лёс, недарэчны і несправядлівы[3].
О нетрывалыя жыцці людзей, о ліхія законы!
Ці ж нетрывалыя жыцці людзей, ды ці ж лёсы ліхія?
Можа, у плачах галосяць па нейкіх нязнаных героях?..
Жорсткія лёсы, бясспрэчна, дый жыцці кароткія, праўда...
Справа дайшла да апошняй мяжы: нават цнота, якую
Нельга было б не прызнаць, не змагла адсудзіць цябе ў лёсаў,
Вера святая, на жаль, не пазбавіла смерці заўчаснай.
Рукі скупыя цябе абхапілі, і смерць, што ляніва
Вострае джала купала ў крыві прастакоў з наракaннем,
Радасна тут скіравала свой дроцік у пэўным кірунку —
Проста ў яго, Радзівіла, і гэтага ўдару ні тытул,
Ні ўзнагароды, ні моц, ні кароль, ні герой не адхіліць.
Ён, як той лебедзь, канаў: пабляднеў і, заплюшчыўшы вочы,
Знік у салодкай гарачцы, і вось мармуровая шыя
Раптам апала, а з ёй і чало аслабела імгненна...
Вусны — балюча казаць! — што так часта здзіўлялі ў Сенаце
Многіх прысутных, цяпер пабляднелі ў смяротнай знямозе.
Позірк, такі трапяткі, князь узводзіць да Боскіх палацаў,
Неба высокага шыр азірае, каб скласці малітву
Ў словах апошніх за ўсіх — за народ, караля і Айчыну.

---

[1] Глоса: «Радзівіл пражыў 72 гады, памёр у 1584 г.»

[2] Сёстры — Паркі, тры багіні лёсу ў антычнай міфалогіі, адна з якіх прала нітку чалавечага жыцця, другая намотвала на верацяно, трэцяя перарэзвала.

[3] Глоса: «Жыццёвы шлях акрэслены невялікімі межамі».

***Пераклад з лацінскай і каментарыі***
***Жанны НЕКРАШЭВІЧ-КАРОТКАЙ***

Генадзь ЦЫХУН

# НОВЫ СЛОЎНІК І СТАРАЯ ПРАБЛЕМА НОРМЫ

***Піскуноў, Ф. А. Вялікі слоўнік беларускай мовы: арфаграфія, акцэнтуацыя, парадыгматыка. — Мінск : Тэхналогія, 2012. — 1208 с.***

Прынцыповае адрозненне гэтага слоўніка ад іншых сучасных слоўнікаў падобнага тыпу ў тым, што ён грунтуецца на прадстаўнічай электроннай базе, якая ўключае звыш 70 млн. словаўжыванняў з больш як 2 300 крыніц. Значны матэрыял, упершыню ўведзены ў шырокі ўжытак, дазваляе па-новаму глянуць на граматычную сістэму сучаснай беларускай мовы, яе ўпарадкаванне, а разам з тым і на тыя праблемы граматычнага апісання і арфаграфіі, якія выявіліся пры спробе прадставіць у сістэматызаваным выглядзе ўнікальны лексічны матэрыял. Слоўнік мае *рэпрэзентацыйны* характар, паколькі адлюстроўвае наяўны стан сучаснай мовы, а не з'яўляецца рэалізацыяй інтуітыўных крытэрыяў і суб'ектыўных уяўленняў пра тое, якой павінна быць беларуская літаратурная мова. Уяўленні пра лексічную нарматыўнасць вельмі спрэчныя. У гэтай сувязі прыпамінаюцца нядаўнія размовы сярод акадэмічных нармалізатараў пра ненарматыўны характар ужывання некаторых слоў у нашых класікаў — Янкі Купалы і Якуба Коласа, хаця ва ўсім свеце лексічны фонд фундатараў літаратурнай мовы аўтаматычна ўваходзіць у літаратурны лексікон, ва ўсякім разе ў шмат якіх славянскіх народаў, дзе выключная роля класікаў у стварэнні літаратурнай мовы прызнаецца. Зыходзячы з гэтага, слоўнік не прэтэндуе на статус нарматыўнага, хутчэй гэта «нарматызуючы» від выдання. Аўтар слоўніка займае ў большасці выпадкаў талерантную пазіцыю ў адносінах да існуючай традыцыі прадстаўлення ў такіх слоўніках моўных фактаў і з'яў, хаця яны не заўсёды адпавядаюць аўтарскаму імкненню да большай сістэмнасці і ўпарадкаванасці. Слоўнік захоўвае пераемнасць з такога тыпу выданнямі, і перш за ўсё са «Слоўнікам сучаснай беларускай мовы» пад рэдакцыяй М. Бірылы, які пакладзены ў аснову новага дапоўненага выдання[1]. У працяг гэтай традыцыі ў рэцэнзуемым слоўніку шырока ўжываюцца паметы-тлумачэнні. Разам з тым унесены патрэбныя карэктывы і выпраўлены недахопы, якія выявіліся на працягу шматгадовага выкарыстання названага слоўніка. У прыватнасці, у новы слоўнік не ўключана звыш 200 памылкова зафіксаваных у слоўніку пад рэдакцыяй М. Бірылы лексем, спіс якіх варта было б змясціць у дадатку. У новым слоўніку прапануецца больш строгі падыход да напісання складаных слоў, асабліва адносна неапраўданага пашырэння на гэтыя словы акання, што прыводзіць да страты сувязі з зыходнымі лексемамі, зноў жа шляхам адсылкі да больш карэктнага варыянта, напрыклад, «бетанапомпа гл. бетонапомпа». Такі падыход можна патлумачыць пашырэннем на гэтыя словы т.зв. дадатковага націску. Выпраўлены выпадкі непажаданай аманіміі кампанентаў складаных слоў, якая нярэдка грунтуецца на неразуменні іх этымалагічна адрознай прыроды (радыё- і радые-, бі+а- і бія- і пад.). Зразумела, што ў слоўнік унесены неабходныя ўдакладненні ў сувязі з прынятымі на дзяржаўным узроўні новымі патрабаваннямі правапісу.

Станоўчай рысай даведніка з'яўляецца паўната прадстаўлення граматычнай характарыстыкі слова, аб'яднанай у пэўныя граматычныя і акцэнтныя тыпы, чаго не было ў яго папярэднікаў. У гэтым плане аўтар слоўніка арыентуецца на міжнародную традыцыю, якая

Слоўнік адлюстроўвае наяўны стан сучаснай мовы, а не з'яўляецца рэалізацыяй інтуітыўных крытэрыяў і суб'ектыўных уяўленняў

[1] Бірыла, М. Слоўнік сучаснай беларускай мовы. — Мінск : Беларуская навука, 2012.

## У новым слоўніку прапануецца больш строгі падыход да напісання складаных слоў

ўжо замацавалася ў такога тыпу выданнях. Пры гэтым спецыяльная ўвага звяртаецца на перыферыйныя з'явы, якія цяжка паддаюцца тыпізацыі. Усё гэта дазваляе атрымаць для кожнага слова ўзорную парадыгму з адлюстраваннем альтэрнатыўных (архаічных і інавацыйных) варыянтаў. Сістэма памет дае магчымасць аднесці кожнае слова да той ці іншай сферы ўжывання, адрозніваючы агульнаўжывальную лексіку ад спецыяльнай. Разам з тым слоўнік пазбягае залішняй «занармалізаванасці», адкінуўшы неўласцівыя прыродзе беларускай мовы паметы «абл.» і «дыял.», якія былі механічна перанесены з рускай мовы, што належыць да т.зв. «царкоўнаславянскай» традыцыі фарміравання славянскіх літаратурных моў, дзе супрацьпастаўленне «кніжнага» і «народнага» мела на працягу гісторыі істотнае значэнне. Для сучаснай беларускай мовы, як для адносна маладой літаратурнай мовы, што належыць да іншай літаратурнамоўнай традыцыі, гэтае супрацьпастаўленне не мае прынцыповага характару. Калісьці для літаратурнай мовы такога тыпу сербскі рэфарматар Вук Караджыч сцвярджаў, што ў яе можа мець доступ народная лексіка з усёй тэрыторыі функцыянавання. У гэтай сувязі аўтар слоўніка заняў кампрамісную пазіцыю, пазначыўшы некаторыя з такіх лексем зорачкай. Прагматычны падыход патрабаваў таксама абмежаваць у слоўніку колькасны аб'ём спецыяльнай лексікі, пакінуўшы за яго межамі вузкаспецыяльную тэрміналогію, якая ў большасці падобных слоўнікаў займае больш за палову ўсіх лексем. Гэта з'ўляецца непазбежнай неабходнасцю сучаснай дыферэнцыяцыі агульнанароднай мовы, у якой вылучаецца *асноўны код* і *спецыялізаваныя падкоды*, што абслугоўваюць асобныя сферы чалавечай дзейнасці.

У сувязі з адсутнасцю для беларускай мовы слоўніка-тэзаўруса накшталт літоўскага і харвацкага, дзе прадстаўлена ўся зафіксаваная лексіка і яе значэнні, узнікае неабходнасць для некаторых менш ужывальных слоў, як і для амонімаў, даць кароткія тлумачэнні ў дужках, што ў пэўным сэнсе абцяжарвае слоўнік, аднак, па названых прычынах, мае сэнс. І ў гэтым плане слоўнік кампенсуе адсутнасць такіх тэзаўрусаў, бо падае даволі значны індэкс зафіксаваных слоў. Існуе таксама праблема выбару асноўнага варыянта гутарковых (дыялектных па паходжанні) слоў, адлюстраваных у тэкстах у некалькіх варыянтах. Аднак гэтыя праблемы вынікаюць з характару слоўніка, які грунтуецца на рэальнай тэкставай базе.

Гэтая кароткая рэцэнзія датычыць разгляду асноўных характарыстык і канцэпцыі нядаўна выдадзенага невялікім накладам слоўніка. Але ёсць надзея на хуткае перавыданне. Грунтоўны разгляд яго яшчэ наперадзе, але ўжо цяпер пры знаёмстве са слоўнікам у асяроддзі лінгвістаў і карыстальнікаў узнікаюць пытанні адносна пэўных форм. Існуе меркаванне, што яны тэарэтычна магчымыя, аднак усё ж недастаткова дакументаваныя. Захоплены сістэматызацыяй, аўтар часам не звяртае ўвагі на т.зв. дэфектныя ці нестандартныя парадыгмы. Так, ужо ў 30-я гады некаторыя лінгвісты дапускалі варыянтнасць асноў у склонавых формах назоўніка *шаша:* Н. мн. *шóсы,* Р. мн. *шóсаў*, якія падаюцца больш рэальнымі, чым прыведзеная ў слоўніку форма Р. мн. *шашэй.* Паколькі гэта аўтарскі слоўнік, то непазбежна ўзнікнуць пытанні адносна неўключэння ў яго пэўных дастаткова вядомых слоў. Так, прапанаваны яшчэ Вацлавам Ластоўскім тэрмін *чэляс* для назваў частак цела даволі шырока апошнім часам прадстаўлены ў мастацкай літаратуры, праўда, у некалькі звужаным значэнні, па нейкай прычыне не трапіў у слоўнік (магчыма, аўтар слоўніка палічыў яго вульгарызмам). Але поўнаму слоўніку, як паказвае практыка іншых моў, «пурытанскія» падыходы не пасуюць. Вядома, такога тыпу заўвагі не зніжаюць вартасці зробленага.

Такім чынам, «Вялікі слоўнік беларускай мовы», які на пачатковым этапе стварэння насіў назву «Граматычна-арфаграфічны слоўнік сучаснай беларускай мовы», уяўляе арыгінальны даведнік універсальнага тыпу, у якім падаецца граматычная, стылістычная, акцэнтуацыйная і арфаграфічная інфармацыя адносна значнай па аб'ёме колькасці слоў (каля 223 тыс.), ужыванне якіх у вусным маўленні і пісьмовых тэкстах пацвярджаецца фіксацыяй у рэпрэзентацыйнай электроннай базе. Яго публікацыя дае ўяўленне пра сучасны стан беларускай мовы і спрыяе ўпарадкаванню яе структуры і ўжывання.

*Яўген ГАРАДНІЦКІ*

# ПАЭЗІЯ ДРАМАТУРГА

У плеядзе магутных мастацкіх талентаў, якія ажыццяўлялі ў першай палове мінулага стагоддзя культурны прарыў беларускай нацыі, свеціць і зорка Уладзіслава Галубка, творцы яскравага, самабытнага, шматграннага. Ён належыць да таго пакалення, якому выпала ўзводзіць падмурак новай беларускай культуры, спалучаць у сваёй творчасці асновы народнай эстэтыкі, уласцівасці народнага мастацкага генію з уяўленнямі і перспектывамі новага часу, высокімі патрабаваннямі да прафесійнага мастацтва.

«Культурны выбух», калі карыстацца тэрміналогіяй Юрыя Лотмана, гэта з'ява гістарычна заканамерная, ён вынікае з мноства ўзаемазвязаных, абумоўленых гістарычнай неабходнасцю прычын. Мабыць, менавіта такой гістарычнай заканамернасцю, патрабаваннямі самога часу, можна патлумачыць феномен надзвычайнай «шчыльнасці» шэрагаў таленавіцейшых творчых асоб, якім проста самім лёсам беларускай нацыянальнай культуры было суджана, прадвызначана нарадзіцца менавіта тады, калі ў іх узнікла найбольшая патрэба.

1882 год — незвычайны для беларускай культуры. У гэты год нарадзіліся два яе геніі Янка Купала і Якуб Колас. І як быццам такога супадзення было яшчэ мала — у гэты ж год прыйшоў на свет і Уладзіслаў Галубок. Ён нарадзіўся на месяц з нечым раней за Купалу, 3 мая (па новаму стылю 15 мая).

Галубок — псеўданім Уладзіслава Іосіфавіча Голуба, які трохі змяніў сваё прозвішча, каб яно яшчэ больш адпавядала народнаму складу мыслення, таму тыпу светаўспрымання, для якога характэрны асабліва замілаваныя, пяшчотныя адносіны да ўсяго існага.

Уладзіслаў Галубок адносіцца да той катэгорыі творцаў, якія вызначаюцца мастацкай усеахопнасцю, спалучэннем разнастайных талентаў. У гэтым сэнсе Галубок з'яўляецца фенаменальным. Драматург, рэжысёр, акцёр, празаік, паэт, мастак. Такая шматстайнасць напрамкаў творчай рэалізацыі асобы сустракаецца даволі рэдка. Асабліва калі ўлічыць, што ў кожнай з гэтых сфер Галубок здолеў зрабіць многае. Мог бы і значна больш, ды, на жаль, наш гістарычны лёс быў нялітасцівы і да гэтага беларускага самародка.

Уклад Галубка ў развіццё беларускага тэатральнага мастацтва першай паловы XX стагоддзя агульнапрызнаны і грунтоўна даследаваны. Тут яго талент праявіўся найбольш яскрава і поўна. Мастацкія дасягненні Галубка-драматурга, тэатральнага дзеяча ў нейкай ступені засланяюць сабой іншыя праявы яго самабытнага таленту, бурлівай, неўтаймоўнай творчай натуры.

А пачынаў Галубок як паэт.

Паэтычная спадчына творцы невялікая па аб'ёме. Яна складаецца ўсяго з шасці вершаваных твораў. Пішуцца, вядома, нават цэлыя манаграфіі пра адзін толькі верш. Але ў такім выпадку абавязкова паўстае неабходнасць уключэння такога твора ў шырокі кантэкст як творчасці дадзенага аўтара, так і пэўнай літаратурнай эпохі.

Што датычыцца вершаў Галубка, то яны трывала ўпісаны ў літаратурны кантэкст свайго часу. У прадмове да самага грунтоўнага і рэпрэзентатыўнага на сёння выдання твораў пісьменніка С. Лаўшук выразна расставіў акцэнты. «Дакастрычніцкая творчасць Галубка, — адзначае ён, — строга вытрымана ў рэчышчы нашаніўскай паэты-

**На паэтыцы вершаваных твораў Галубка проста не магла не адбіцца пэўным чынам тая акалічнасць, што іх аўтар быў не толькі паэтам**

**Так экспрэсіўна, некалькімі характэрнымі штрыхамі напісаць слоўны партрэт чалавека, у якім бы выразна выявіўся яго ўнутраны духоўны свет, можа толькі мастак з немалым творчым патэнцыялам**

кі». І далей даследчык творчасці выдатнага майстра заўважае адносна вершаў, якія належаць да нашаніўскага перыяду і друкаваліся ў славутай беларускай газеце з 1908 па 1913 год, што яны «ўспрымаліся тагачасным чытачом песнямі жальбы, але не адчаю».

Так, для вершаў Галубка характэрны агульны для нашаніўскай паэзіі пафас сацыяльнай салідарнасці з беларускім селянінам, жаданне мастацкім словам падтрымаць яго ў жыццёвых выпрабаваннях. С. Лаўшук звяртае ўвагу на тое, што Галубок адносіўся да іншага асяроддзя, што для яго, патомнага прадстаўніка рабочага класа, выбар адрасата і разам з тым героя быў матываваны перш за ўсё літаратурнай традыцыяй.

Сапраўды, для Галубка-паэта мастацкія традыцыі дэмакратычнага кірунку, аўтарытэт папярэднікаў мелі выключна істотнае значэнне. Разам з тым важна падкрэсліць, што ў яго вершах выяўляюцца адзнакі індывідуальнага паэтычнага стылю, выразна абазначаецца не толькі грамадзянская, але і эстэтычная пазіцыя аўтара.

Для таго, каб належным чынам ацаніць мастацкую адметнасць паэтычнай часткі літаратурнага даробка Галубка, неабходна ўлічваць своеасаблівасць і маштаб яго творчай асобы. Як нам уяўляецца, з агульнай стылёвай плыні нашаніўскай паэзіі яго творы вылучае перш за ўсё шырыня мастацкага кругагляду аўтара. На паэтыцы вершаваных твораў Галубка проста не магла не адбіцца пэўным чынам тая акалічнасць, што іх аўтар быў не толькі паэтам.

Варта згадаць яшчэ і пра захапленне Галубка музыкай. Яно аказала несумненны ўплыў не толькі на яго тэатральную творчасць, але і на паэзію. Музыка і выяўленчае мастацтва — гэта сферы найбольш блізкія паэзіі. У творах кожнага сапраўднага паэта мае істотнае значэнне і музычны лад, меладыйная інтанацыя вершаванага радка, і яго графічная аформленасць.

Для рытміка-інтанацыйнай арганізацыі вершаваных твораў Галубка характэрны гарманічная ўпарадкаванасць, выразная структураванасць. Кожны са створаных ім вершаў вызначаецца адметнасцю гучання, натуральнасцю выяўлення аўтарскага голасу. Гучанне верша, яго інтанацыя адпавядаюць той мастацкай задачы, якая стаіць перад аўтарам у данясенні свайго роздуму і пачуццяў да адрасата. Верш Галубка ў залежнасці ад гэтага прымае форму непасрэднага звароту або аўтарскай медытацыі, «замалёўкі з натуры» або маналога героя. Уся гэта разнастайнасць выражэння паэтычнага зместу ўвасабляецца ў межах традыцыйнай сілаба-тонікі.

У паэзіі Галубка ўступаюць у своеасаблівы дыялог два сілаба-танічныя метры: ямб і амфібрахій. Яны прадстаўлены рознымі варыянтамі памераў: чатырохстопны амфібрахій змяняецца двухстопным, чатырохстопны ямб — чатырох-трохстопным. Кожны з дадзеных вершаваных памераў звязаны з інтанацыйнай дамінантай і асноўнай тэмай твора. Найбольш традыцыйны па сваіх фармальных прыкметах першы з апублікаваных вершаў — «Доля мужыка» (1908). Як бачым, і назва гэтага твора знаходзіцца ў рэчышчы мастацкай традыцыі. Дадзены верш напісаны чатырохстопным ямбам, мае самую распаўсюджаную перакрыжаваную рыфмоўку.

Доля мужыка прадстаўлена ў вершы ў яскравай прадметнай увасобленасці, у красамоўных дэталях і падрабязнасцях. Жахлівы малюнак крайняй галечы, які пададзены ў творы, — гэта тое, што ўбачана насамрэч аўтарам, што ён выносіць на агульны агляд і суд. Верш успрымаецца як сведчанне эпохі, дакумент часу. Апавядальная інтанацыя верша разлічана на выкліканне асаблівага даверу ў рэцыпіента, таму тут вельмі дарэчы

**Дыстанцыя паміж аўтарскай пазіцыяй і кругаглядам героя ў вершах Галубка, як і ва ўсёй тагачаснай паэзіі, невялікая і часта яна нават амаль непрыкметная**

такая вершаваная форма, якая асацыіруецца з устойлівай паэтычнай традыцыяй, закладзенай яшчэ ў XIX стагоддзі.

Адчуваецца ў вершах Галубка таксама і прыкметны ўплыў паэтыкі сучаснікаў, у першую чаргу Янкі Купалы. І гэта натуральна, паколькі блізкімі былі не толькі погляды паэтаў на рэчаіснасць, але і спосабы яе мастацкага асваення. Размераная рытміка чатырохстопнага амфібрахія ў вершах Галубка «Чакай, браце!..» (1908), «Сярмяжнік» (1911) выдатна перадае няспешную плынь роздуму над лёсам мужыка. З аналітычнай праніклівасцю аўтар імкнецца знайсці адказы на самыя важкія, балючыя і злабадзённыя пытанні. Іх, гэтых пытанняў, набіраецца багата:

Скажы мне, сярмяжнік!
Скажы мне, маркотны!
Адкуль ты? Адкуль ты? З нядоляй сваей
Чаму век снуешся пуцінай гаротнай,
Чаму ты ўсіх чыста бядней і цямней?
Ці ты нарадзіўся ў такую часіну,
Ці кару якую зняволен адбыць?
Ці можа хто чары такія накінуў
І мучышся вечна — ні ў чым не ручыць.

Аўтарская рэфлексія, якая засяроджана на такіх няпростых, і, па сутнасці, рытарычных пытаннях, разгортваецца ў форме дыялога з адрасатам верша. Ён жа, адрасат, з’яўляецца і героем твора. Галубок плённа развівае традыцыйную для беларускай паэзіі лінію суаднясення адрасата і героя. Той, каму прызначаецца аўтарскае пасланне, да каго звяртаецца паэт, з’яўляецца ў той жа час і героем твора. Гэта і яго голас уплятаецца ў агульную маўленчую плынь, надаючы ёй індывідуальныя адзнакі. *«Накінуць чары», «ручыць»* — выразы, якія могуць быць аднесены перш за ўсё да моўнай карціны свету героя.

Наогул жа дыстанцыя паміж аўтарскай пазіцыяй і кругаглядам героя ў вершах Галубка, як і ва ўсёй тагачаснай паэзіі, невялікая і часта яна нават амаль непрыкметная. У вершы «Забытая хатка» (1908) вобраз старога, які пакінута дажывае свай гаротны век, падаецца ў вонкавым успрыманні, у аб’ектыўнай абмалёўцы апавядальнікам, і, разам з тым, ён быццам раствараецца ў калектыўнай народнай свядомасці, у архетыповым уяўленні пра адзінокую старасць. Апавядаемы жыццяпіс дзеда блізкі да таго, што і як ён сам мог бы думаць пра сваё мінулае («Калісьці быў ён молад, // Дуж быў, як той леў... <...>Жыццё прамінула, // Як сон той вясной...»). У вершы выразнай змястоўнай дамінантай выступае візуальна ўспрымаемая выява, якая спалучае ў сабе знешняе з унутраным, псіхалагічна абумоўленым:

Сядзіць скачанеўшы,
Сагнуты дугой,
Не піўшы, не еўшы,
З нямою душой...

Так экспрэсіўна, некалькімі характэрнымі штрыхамі напісаць слоўны партрэт чалавека, у якім бы выразна выявіўся яго ўнутраны духоўны свет, можа толькі мастак з немалым творчым патэнцыялам. І зноў жа звернем увагу на шчыльную знітаванасць у тэксце аўтарскага, індывідуальнага і народнага, агульнага светаўспрымання. ***«З нямою душой»*** — гэта, безумоўна, аўтарская паэтычная знаходка, але так выказацца пра нябогу мог бы і чалавек з народнай гушчы. Спагада, спачуванне, уласцівыя народнай самасвядомасці, чуюцца тут за гэтай метафарай. Галубок, як і іншыя пачынальнікі новага этапу ў станаўленні беларускай літаратуры XX стагоддзя, быў звязаны радаводнай ніццю са стыхіяй народнага жыцця. Таму яе выяўленне адбываецца як бы знутры. І ў той жа час у творах адчувальна прысутнасць асабовага пачатку з яго ўсвядомленай увагай да сферы не толькі сацыяльнага, але і эстэтычнага.

Асаблівае месца сярод вершаў Галубка займае «Будучыня». Створаны ў 1912 годзе, ён вылучаецца як сваёй энергічнай рытмікай, так і звязанай з ёю настраёвасцю — выяўленым пафасам жыццетварэння, упэўненасці ў стваральных сілах народа. Будучыня асацыіруецца з самым трывалым і надзейным грунтам, на якім яна толькі можа паўстаць — з творчай, настойлівай і натхнёнай

Будучыня асацыіруецца з самым трывалым і надзейным грунтам, на якім яна толькі можа паўстаць — з творчай, настойлівай і натхнёнай супольнай працай

супольнай працай. Мэта гэтай цяжкай, але неабходнай працы самая высокая — будаўніцтва ***дома***, які, з'яўляючыся сімвалічным вобразам, увасабляе ў дадзеным выпадку ўсю паўнату нацыянальнага быцця.

Рэалістычна апісаўшы ў вершах «Доля мужыка» і «Забытая хатка» занядбаную хаціну бедняка, у новым вершы Галубок звяртаецца да зусім іншай манеры мастацкага выражэння — да сімвалічнай паэтыкі. Гэтага вымагаў перш за ўсё сам прадмет выяўлення, якой паўставала новая, нязнаная раней рэальнасць. Хоць у вершы «Будучыня» ўсе пабуджальныя матывы скіраваны ў прадчуваемы заўтрашні дзень, аднак на першым плане якраз тое, што адбываецца цяпер, у дадзены момант. Паколькі ідэя твора заключаецца ў сцвярджэнні важнасці для будучыні якраз ажыццяўляемага сёння. Ні ў адным з іншых вершаў Галубка няма такой дынамічнай, прасякнутай напружаным дзеяннем і рухам, выявы.

Кіпіць работа, плыве пот,
І крык і гул, як гром;
Туды, сюды снуе народ.
Будуюць новы дом.

Дынамізм выяўляемага падкрэсліваецца рытмічнай арганізацыяй верша. Нават акцэнтны зрух метрычнай схемы ямба ў першым радку не замаруджвае ўзятага тэмпу, а толькі надае яму большую важкасць. Цікавай асаблівасцю рытмічнага малюнка верша з'яўляецца тое, што амаль усе ямбічныя стопы супадаюць тут з асобнымі словамі. Адсюль такі выразны, чаканны лад гучання. Ён яшчэ больш акцэнтуецца рэфрэнным характарам радкоў, якімі завяршаюцца строфы.

Верш «Будучыня» асабліва выразна паказвае, што перад Галубком як паэтам адкрываліся даволі значныя мастацкія перспектывы. Свой шматгранны, самавіты талент ён мог раскрыць у дастатковай меры і на паэтычнай ніве. Ды паклікаў за сабой яго вялікасць Тэатр.

Зрэшты, здольнасці вершатворцы не аказаліся лішнімі і ў драматургічнай дзейнасці Галубка. Гаворачы пра паэзію драматурга, не варта забываць пра тое, што ў яго п'есах даволі значная колькасць вершаваных уставак — песень, якія выконваюць героі.

## Нават акцэнтны зрух метрычнай схемы ямба ў першым радку не замаруджвае ўзятага тэмпу, а толькі надае яму большую важкасць

У гэтым сінтэтычным жанры аднолькава запатрабаванымі аказаліся як валоданне вершаванай тэхнікай, так і майстэрства стылізацыі.

Выдатным прыкладам выкарыстання аўтарам магчымасцей вершаванага слова ў драматычным тэксце з'яўляецца камедыя «Пісаравы імяніны» (1917). Тут прамаўляе ў рыфму, віншуючы свайго гаспадара пана пісара, нават вартаўнік Панас, персанаж, традыцыйны для камедыйнага жанру, вобраз хітраватага слугі, які іграе ролю прастака. У яго віншаванні (у якім і такое пажаданне ёсць: «каб пан на небе быў земскім начальнікам»), як і ва ўсіх яго паводзінах, за вонкававай лаяльнасцю праглядвае даволі здзеклівая іронія.

Віншаванне Панасам імянінніка стылёва адпавядае характару гэтага персанажа, у той жа час яно вытрымана ў традыцыйнай манеры віншаванняў сялянамі сваіх паноў. Гэта экспромт, які, разам з тым, грунтуецца на ўстойлівай сістэме народна-паэтычных сродкаў выразнасці, пра што сведчаць яго фразеалогія, сінтаксічныя канструкцыі.

Стылізавана, але зусім у іншым ключы, віншаванне настаўніка. «Вучыцель» наогул віншуе пісара два разы і абодва ў вершаванай форме, хоць у першым выпадку мова віншавання набліжана да празаічнай. Настаўнік проста гаворыць «у рыфму», карыстаючыся традыцыйнымі формамі «віншавальнай» рыторыкі.

Другі ж выпадак уяўляе большую цікавасць, паколькі тут навідавоку адыход ад вусных этыкетных формул да спробы выказаць сваю павагу гаспадару дома менавіта «літаратурна». Аднак даволі дзіўным чынам рэалізуе сваё жаданне віншавальнік. Першыя два радкі ўвогуле адпавядаюць стылю вакхічнай, застольнай паэзіі («Вып'ем мы чарку, забудзем пра гора, // Засмягшыя губы хоць чуць прамачым...»),

> **Мяркуючы па ўсім, герой знаёмы з нашанiўскай паэзiяй. Іншая справа, наколькi сур'ёзна ён можа ўнiкнуць у яе**

хоць згадка пра гора i дысануе ў нейкiм сэнсе з агульнай танальнасцю. Але затым нечакана тэма мяняецца, набываючы зусiм iншае гучанне.

Годзе нам млецi у здзеку, ў пакоры.
І так ўжо досыць, век цэлы маўчым.
Дзе там пра шчасце i долю нам дбаці,
Няскора нам гэта яшчэ дачакаць...

Гэтыя радкi можна было б палiчыць ледзь не за цытацыю нашанiўскай публiцыстычна арыентаванай лiрыкi, калi б не iх супярэчлiвасць, кантраснае спалучэнне нязгоды з iснуючым станам рэчаў з бязвольным, згоднiцкiм настроем. Верш настаўнiка заканчваецца тым жа самым матывам, якiм i пачаўся: «Бяда, недастаткi цягам у хаце, // Вып'ем, так неяк лягчэй гараваць».

Перад намi даволi эклектычны «твор», у якiм мэта i сродкi не маюць памiж сабой лагiчнай сувязi. Вiдавочна, што галоўнае, чым кiраваўся яго стваральнiк, гэта жаданне выказаць прапанову выпiць на пiсаравых iмянiнах. Дзеля гэтага ён выкарыстаў найбольш вядомыя яму формы паэтычнага выражэння, якiя ён палiчыў прыдатнымi ў дадзенай сiтуацыi. Мяркуючы па ўсiм, герой знаёмы з нашанiўскай паэзiяй. Іншая справа, наколькi сур'ёзна ён можа ўнiкнуць у яе. Камiчны эфект дасягаецца Галубком якраз пры выяўленнi несупадзення настрояў i iнтарэсаў сельскiх «вярхоў» з пафасам дэмакратычна i нацыянальна арыентаванай тагачаснай беларускай паэзii, знешнiя прыкметы якой у нейкай ступенi знаходзяць адлюстраванне ў вершаваным опусе «вучыцеля».

Камiчнае ўспрыманне выклiкаецца яшчэ i тым, што ў сваёй сканцэнтраванасцi на тэме балявання аўтар вiншавання не заўважае сутнаснай неадпаведнасцi складзенага iм тэксту рэальнай сiтуацыi, у якой ён яго зачытвае. Кантраснасць гэтай неадпаведнасцi ўзмацняецца рэплiкай героя, якой ён заканчвае сваё вiншаванне: «Так вып'ем за паважаных нашых гасцей, жыць i радавацца. Ур-ра!».

Уключаныя ў агульны тэкст п'есы, вершаваныя маналогi ўяўляюць сабой, такiм чынам, выразныя характарыстыкi дзеючых асоб, выражаюць iх пункт гледжання, светапогляд, эстэтычныя прыярытэты. У пэўным сэнсе гэта творы ў творы.

Вадэвiльныя куплеты i народныя песнi, аўтарскiя вершаваныя ўстаўкi i тэксты, якiя прыпiсваюцца героям, — гэта разнастайнасць прысутнасцi паэзii ў драматычных творах Галубка сведчыць пра блiзкасць слыннаму драматургу паэтычнага спосабу мастацкага выражэння, пра тое, што паэтычнае, празаiчнае i драматызаванае слова ў яго творчасцi былi ў суладдзi, у сваю чаргу ўваходзячы ў яшчэ больш шырокi абсяг цэласнага ў сваёй аснове i надзвычай шматграннага мастацкага свету аўтара.



Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

# ВІДАВОЧНАЕ

## АЎТАНОМНАСЦЬ І ЦЫТАВАННЕ

Апублікаваны літаратурны твор ад пачатку — нерухомы. Гэта не рэч у сабе, непазнавальная *a priori*, але ў той жа час рэч, аўтаномная ад свядомасці крытыка, ад свядомасці чытача наогул.

Аўтаномнасць твора паходзіць ад прыроды мовы. Твор — гэта выказванне, завершанае маўленчае цэлае. Кожнае прыпадабненне да адзінкі выказвання будзе адно цытаваннем яго, гэта значыць, плагіятам, паўторам, паралеллю. Усе выпадкі апошніх закладаюць асновы традыцыі. У ёй адзінка выказвання, прынятая за эталон, вяршыню іерархіі — вар'іруецца, змяняецца і, часам, (а менавіта з надыходам эпохі постмадэрну) — падлягае дэфармацыі і дэканструкцыі.

## БЕЛАРУСКІЯ ВАРЫЯЦЫІ СТАЛІНСКАЙ ОДЫ

Адкрыўшы падшыўку газеты «ЛіМ» за 1940 год, «між страніц старых пажоўклых» можна натрапіць на вершы Наталлі Арсенневай, якая пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР апынулася спачатку ў лагеры, а пасля была вернута на радзіму. Вядома кожнаму, што Арсеннева і ў самых надзвычайных сітуацыях захоўвала сваё паэтычнае пакліканне, і таму магла пісаць вершы пра Сталіна, не здраджваючы свайму стылю. Верш «Усе словы здаюцца малымі» нідзе не перадрукоўваўся з таго часу, таму будзе не лішнім працытаваць яго цалкам.

Сонца колам чырвоным зачапіла за сосны.
Вечар тчэ на снягах ніткай шэраю кросны,
І здаецца ўсё сёння серабраным і сінім
У марозным, пушыстым, густым павуцінні.

Так хачу я тварыць... і каб ведала словы,
Словы-чары найлепшыя з людскае мовы, —
Я злажыла б грымотны, магутны, ўрачысты
Гімн аб Сталіне мудрым, вялікім і чыстым.

Словы, словы! Не рвіцеся недзе ў бязмежжа,
І не тайце ў прасторах блакітных і снежных.
Словы — ўзлётныя, дзіўныя, вольныя дзеці!
Спойце песню аб ім, Найбольшым на свеце!

Ці ж не ён нам да шчасця прастуе дарогу?
Ці ж не ён нас вядзе па шляху перамогаў?
Ці ж не ён творыць праўду натхнёна і смела?
І ці ж думка ягонае знае прадзелы?

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Не, ўсе словы здаюцца пустымі, малымі.
Ўсё не тымі, што хочуць прарвацца і лынуць,
Не пад сілу мне гімн аб Настаўніку светлым.
Не злажыць мне у рытмах магутных прывета...
Так скажу толькі шчыра і проста, ўсё роўна,
Што люблю цябе, Сталін, і я невымоўна.

Зразумела, што, пішучы гэтыя і падобныя вершы, Арсеннева выконвае сацыяльную замову. Аднак у той жа час яна вырашае ў канкрэтным творы канкрэтную паэтычную задачу. Не буду чытаць тут нешта між радкоў, бо гэта не мая метода. І хочацца шчыльней прыгледзецца да метады самой Арсенневай-«сталіністкі». Пішу ў двукоссі, бо прыгадваю адпаведныя вершы Восіпа Мандэльштама, Барыса Пастарнака і сітуацыю, у якой гэтыя творы былі напісаны.

Як паказвае гэты працытаваны верш, аўтарка выкарыстоўвае вядомы яшчэ з антычнасці прыём «адмовы ад аповеду» («не пад сілу мне гімн»), спалучаны з чатырма рытарычнымі запытаннямі. Можна ўбачыць у гэтым нежаданне гаварыць і апісваць адрасата — Іосіфа Вісарыёнавіча.

У той жа час ясна, што аўтарка ідзе, так бы мовіць, «апафатычным» шляхам. Гэта сцвярджэнне праз адмаўленне, таксама вядомы рытарычны прыём. І ён абсалютна натуральны для оды. Задачы, якія ставіць сабе Арсеннева, яна выконвае бліскуча.

Ясная справа, заўзятары «наук о духе» падзяляліся на тых, хто хацеў схавацца і хто хавацца не хацеў. Відавочна, што сярод старых навукоўцаў першых было значна больш, чым другіх

Іншая справа, што тут яна ўваходзіць у супярэчнасць з афіцыйнай адычнасцю.

Калі браць сталінскія оды Купалы, то яны, безумоўна, не арыентаваны на традыцыі еўрапейскай рыторыкі, а адсылаюць да фалькларызму славянскага сярэднявечча (не лішне тут будзе згадаць «Слова аб палку Ігаравым» і купалаўскі яго пераклад; наогул, каб адчуць напоўніцу Купалаву «прафальклоранасць», лепш за ўсё прачытаць ягоную прамову на вечарыне 15-годдзя літаратурнай дзейнасці, запісаную Лёсікам).

Купала і Арсеннева ідуць тут па розных дарогах, але трымаючы адно аднаго за руку.

## «У РОЖКІ СА СТАРЫМІ»

Вядомая ў 1920-я гады гісторыя пра тое, як маладыя бум-бам-маладнякоўцы нахабствавалі ў адносінах да старэйшых літаратараў, на мой суб'ектыўны погляд, не стаяла на месцы, а патроху развівалася і ў літаратурнай навуцы. Калі справа не даходзіла да пытанняў палітычных, тое ішло ёй, навуцы, толькі на карысць. Але ад пытанняў палітычных з цягам часу не стала куды хавацца, што і спарадзіла пэўныя дыскусіі.

Ясная справа, заўзятары «наук о духе» падзяляліся на тых, хто хацеў схавацца і хто хавацца не хацеў. Відавочна, што сярод старых навукоўцаў першых было значна больш, чым другіх. З маладымі — наадварот. Бедныя прафесары Замоцін, Барычэўскі, Піятуховіч ад артыкула да артыкула станавіліся ўсё больш лаяльнымі, але гэтым паказвалі толькі тое, што сапраўды лаяльнымі яны ніколі не стануць, а будуць толькі рухацца ў гэтым напрамку. Што ўладу не задавальняла. Партыі хацелася цэнтралізацыі ва ўсім. Ніякіх рухаў і права-левых ухілаў. Адна генеральная лінія. Вось гэтую лінію «старыя» ўлавіць ніяк не маглі, у адрозненне ад маладых, якія на яе сталі ледзь не адначасова з тым, як навучыліся хадзіць. Фактычна, гэта была іх рэлігія, яны нібыта праходзілі абрад ініцыяцыі, у выніку чаго патраплялі «ўнутр» і маглі лёгка і свабодна арыентавацца ў тым, што так прагна і марна хацелі зразумець немаладыя прафесары.

Бендэ ў параўнанні з гэтымі маладымі зухамі быў толькі «кароткачасовым даждджом, месцамі навальніца». Хіба што сама ягоная метода захрасла ў мазгах вельмі моцна і ў нейкім сэнсе бралася за эталон.

## ЛІРЫКА І КАНТЭКСТ

Па сутнасці, лірыка з'яўляецца безкантэкставай, калі, вядома, паэт не бярэ сабе за мэту адлюстраваць вельмі пэўны спосаб мыслення, загадзя абмяжоўваючы сябе контурамі ўяўленай паэтыкі. Можна было б і зганіць падобны спосаб, калі б нацыянальная лірыка не мела такой вострай патрэбы ва ўпарадкаванні: хаос рамантычнай традыцыі, расцярушаная адукацыя паэтаў, усюдыіснасць вясковага меласу — даліся ў знакі.

Інэрцыйнае развіццё лірыкі ў нармальных умовах перарываецца спробамі неакласічнага рэнесансу: уводзіцца канон у некананічнае поле. Здараецца, што гэты канон выглядае як сапраўдны «воін у полі», fool on the hill, і хутка знікае. Тым не менш якраз гэты fool on the hill, а не процьма «інэрцыйнікаў», становіцца арыентырам; часцей менавіта ён каталізуе новую традыцыю.

## САЦЫЯЛЬНАСЦЬ І МЕТАФІЗІКА

Калі падзяліць лірыку на дзве гурмы: 1) заснаваную на *перадачы* паведамлення і 2) заснаваную на *атрыманні* паведамлення, — то можна лічыць, што найноўшая лірыка, прыдбаўшы новыя семантыка-стылістычныя фігуры, вярнулася да таго тыпу выказвання, які панаваў у сацыяльнай лірыцы СССР.

Мусіць, адбылося гэта таму, што сама сацыяльнасць як з'ява ўсё яшчэ застаецца актуальнай.

Апалагеты Разанава, Бабкова, Мінкіна — вымушаны пачакаць. Іх «перабудова» яшчэ вернецца, калі сацыяльнасць вычарпаецца.

## ТРЫ СПАКУСЫ КРЫТЫКА

1. Не чытаць.
2. Не пісаць.
3. Не думаць.

## ПОЛЮСНАСЦЬ БАГДАНОВІЧА

Вось піша Луцкевіч, што «Багдановіч — паэт паўтонаў», «паўтоны ў фарбах, у гуках, у перажываннях — вось асноўная рыса творчасці Максіма Багдановіча», «яго ролю ў беларускай паэзіі можна прыраўнаваць да ролі таго, хто ўвёў у музыку паўтоны, хто на іх збудаваў новую гармонію. У аснову свае гармоніі Багдановіч паклаў лад мінорны: Ён іграе на бемолях». А я думаю, што гэта чарговы крытычны прэ-тэзіс, думка, пад якую шукаецца грунт.

Як на маё чытанне «Вянка», Багдановіч якраз граў на чыстых тонах, прычым на антытэзах. І будучым беларускім структуралістам тут вялікае поле для дзейнасці. Скажам, цыкл «Старая Беларусь» цалкам збудаваны на гэтых антытэзах (верх/ніз). Важна, што Багдановіч не вышуквае паўтоны, а наадварот імкнецца паказаць полюснасць. Іншымі словамі, ён аперыруе чыстымі катэгорыямі эстэтыкі («высокае/нізкае», «прыўкраснае/ пачварнае») і падпарадкоўвае іх альбо логіцы адзінкавага твора, альбо логіцы цэлага цыкла.

Нават калі ўзяць вядомы перадсмяротны верш:

> Ў краіне светлай, дзе я ўміраю,
> У белым доме, ля сіняй бухты,
> Я не самотны, я кнігу маю
> З друкарні пана Марціна Кухты.

Тут кропка біфуркацыі знаходзіцца на лініі цэзуры: «светлай» — «ўміраю»; «белы» — «сіняй» (Чорнае мора); «самотны» (пакінутасць, не-ўключанасць) — «маю» (прымыканне, далучанасць). Чацвёрты радок нечакана выяўляецца падсумаваннем: не факт часавы — смерць, не факт прасторы — чарнаморская Ялта, а надчасавая далучанасць да кнігі, да беларускага культуратворства, з'яўляецца для смяротна хворага Багдановіча галоўным у момант напісання верша.

## АПРАЎДАННЕ ЯСЕНІНШЧЫНЫ

Чытаючы нарыс Сцяпана Александровіча пра Аляксея Коршака — пра тое, як апошні з маленства, боса-гола-вясковага, вышукваў кніжачкі паэзіі, чытаў прагна — я раптам падумаў, што надта гэта жорстка і дужа проста — вінаваціць тагачасную паэзію, 1920-х, у «ясеніншчыне», перайманнях, запазычаннях.

Адчуць традыцыю — якую-кольвек! — гэта ўжо дасягненне і немалое. Чаго тое каштавала юнакам-вяскоўцам, якія высілкі прыкладаліся, — толькі таму пакаленню вядома. І трэба быць хіба толькі ўдзячным тым хлопчыкам і дзяўчынкам, што стварылі пэўны *слой,* а маглі толькі наплявузгаць дзве прыгаршчы вершаванай лускі: гэта таксама здаралася.

## БЭНДЭ

Ён стаў сімвалам, навязаным праз Лужаніна і Сачанку. А насамрэч такіх, як ён, было некалькі дзясяткаў чалавек — прынамсі з таго, што апублікавана. Пра неапублікаваныя даносы я наогул маўчу, бо іх, пэўна, было ў разы больш. І гэтыя людзі пасля зрабілі ўсё магчымае, каб «перавесці стрэлкі» на Нэдбэ-Апанасовіча, дэманізаваць яго, зрабіць такую сабе «культасобіну», якую лёгка выкрываць, наваліўшыся. Як праблема літаратуразнаўства — каму гэта было выгадна і дзякуючы каму адбылося?

## ПАСТКІ ДЛЯ КРЫТЫКА

Размаўлялі, памятаю, неяк з Андрэем Федарэнкам. Я меў неасцярожнасць зрабіць у чарговым аглядзе колькі заўваг да ягонага новага аповеду. Федарэнка на сённяшні дзень адзін з лепшых майстраў апавядання, упэўнены, і гэты твор таксама быў на вышы-

Важна, што Багдановіч не вышуквае паўтоны, а наадварот імкнецца паказаць полюснасць. Іншымі словамі, ён аперыруе чыстымі катэгорыямі эстэтыкі

ні. Але я найбольш цаню навелу «Пеля», якая, думаю, *ужо засталася*. Пра гэта і сказаў: «Пеля», маўляў, лепш. Спадар Андрэй уплішчыў мяне: «Ты мысліш, як Дубавец».

Мусіць, ён хацеў мяне гэтым зачапіць. Але атрымаўся, як на маё гледзішча, камплімент.

Учора ўвечары да позняй ночы перагортваў падшыўку адноўленай «Нашай нівы» — знайшоў яе гады тры таму пры засяленні ў чарговы інтэрнацкі пакой — на антрэсолях (ад самага першага нумара да 20-га недзе). Думаў над «Дзённікам прыватнага чалавека», перачытаў «Гісторыю ката» Глобуса.

І вось што падумалася. Калі сёння прамаўляюць слова «крытыка», то падсвядома прыгадваюць тагачаснага Дубаўца. Чаму? Бо ён вывеў крытыку з галіновых рамак (якімі, дарэчы, валодаў выдатна) у рэчышча свабоднага мыслення. Калі сёння прамаўляюць «крытыка», то трызняць філасофіяй у крытыцы. Але ў тым і загваздка, што калі крытыку рынуцца ў філасофію, то адно пэўны час будзе цікава займацца ўласна крытыкай. Урэшце, дарога мыслення адвядзе ад літаратуры да больш абстрактных (чыстае мыслярства) ці, наадварот, да больш канкрэтных рэчаў (публіцыстыка альбо навука). Балансаваць вельмі складана. Тым не менш за той кароткі прамежак часу (2-я палова 1980-х — пачатак 1990-х гадоў) Дубавец паспеў даць прыклад гэтага балансу.

Дыяментавыя дарогі крытыкі, такім чынам, ёсць дарогі мыслення. Галоўнае — не згубіць пры гэтым аб'ект увагі...

## ЭПІКОН

Тое, што сённяшняя беларуская проза знаходзіцца ў квадры рамантычнага светаадчування, непасрэдна адлюстроўвае сацыяльную сітуацыю расцятасці, дзе магчымасць дыялога абмежавана, асоба пазіцыянуе адасобленасць, па-за структурнасць. Гэта не сказаць каб бяда, але гэта праўда. Класічны эпас (Коласа, напрыклад) аб'ядноўвае, лучыць самою роўнасцю героіка-сюжэтнага ладу. Нават калі ўласна сітуацыя — трагедыйная (як у Чорнага), то ўсё роўна героі дзейнічаюць *у адным полі* па пэўных правілах, у той час, калі ў рамантычнага героя адзінае поле прыцягнення — свядомасць аўтара, якая часта злучаецца з пратаганістам і не дапускае іншых трактовак і меркаванняў. На тле абсалютнай свабоды, такім чынам, вырастае татальны дыктат і расцятасць, дзе мы — выспы, вяршыні гор, паміж якімі — халодныя прорвы.

## З ГІСТОРЫІ САМАПРЭЗЕНТАЦЫІ

Сапраўдным літаратурным чынам для XIX стагоддзя можна лічыць публікацыю твора (вельмі моцная часопісная культура).

Для XX — выхад кнігі. На памежжы вякоў кніга нават сакралізавалася (прыгадайце структурна-цэласныя зборнікі Іванава, Брусава, Мандэльштама, Пастарнака, Багдановіча, Купалы).

Цяпер, з усімі «выгодамі» інтэрнэту, гэтыя два прыярытэты змагаюцца за права першынства. Апублікаваць вельмі лёгка. Выдаць кнігу — пачэсна. Такім чынам, твор сёння актуалізуецца праз інтэрнэт, але сакралізуецца толькі праз кнігу.

У той жа час назіраецца адыход да ранейшай — вуснай культуры, калі новыя творы перш, як апублікавацца, чытаюцца ў вузкім коле прыхільнікаў. Гэтая традыцыя сягае ў самую глыбокую архаіку. Можа, якраз да архаікі мы і набліжаемся?

## З НІЧОГА — У НІШТО

Вучоныя мужы кажуць пра паступовае падпаўзанне лірыкі (і літаратуры наогул) да асабовасці.

Звонку — ўглыб.

Ці пра набліжэнне да паняцця асобы. Спачатку было пранікненне «я» ў лірыку, пасля — пераход ад выключэння да нормы.

Мне ўяўляецца павольнае набліжэнне да люстэрка. Мільгаценне... абрысы... поўны рост... застаўся адзін твар... І ўсё бліжэй ды бліжэй.

Цяпер, мабыць, доўжыцца стан расплюснутага аб шкляную паверхню люстэрка твару — скрыўлены рот, пляскаты нос, дурны выгляд.

Што далей, калі прымаць гэтую «дыялектыку»?

— Маўчанне.



***З** гэтага нумара часопіс «Маладосць» распачынае праекты, прымеркаваныя да 60-годдзя выдання. Першы з іх утрымлівае ў сабе працяг «Дзённікавых нататак» Уладзіміра Дамашэвіча (такім чынам мы зазіраем у «Маладосць» 25-гадовай даўнасці) і суправаджаецца ўспамінамі сведкаў, меркаваннямі сучаснікаў, а таксама каментарыямі самога Уладзіміра Максімавіча. Ліпеньскія нататкі чытайце, вобразна кажучы, праз шкельца ўспамінаў іх аўтара.*

*Уладзімір ДАМАШЭВІЧ*

# ДЗЁННІКАВЫЯ НАТАТКІ*

**1 ліпеня, серада, 1987 год**

Вось і паўгода няма, як адзін дзень праляцела. Учора сонца села за чысты далягляд, а пасля, праз кароткі час, выйшла цёмная палоса. Вось з яе і пачаўся ноччу пад раніцу дождж, і лье цяпер, як з вядра, ужо 11 гадзін. Наш канал перапоўнены з берагамі. А жахалі такія маланкі, такі гром гучаў, праўда, далекавата ад нашага дома, што я даўно такіх маланак не бачыў.

Цяпер увесь час, як устану, пакуль сяду за стол, у думках лаюся з шавіністамі, даказваю ім, што яны парушаюць ленінскія нормы нацыянальнай палітыкі, адкрыта і скрыта праводзяць вялікадзяржаўную шавіністычную лінію на поўнае вынішчэнне беларускай мовы, абвінавачваюць усіх, хто з гэтым змагаецца, у месніцтве, у звычайным ці агалцелым нацыяналізме. Ва ўсякім разе, шавіністы лаюць нас таксама, як мы іх, мо яшчэ болей, да таго ж у іх ёсць рычагі, якіх няма ў нас. У нас адзінае выратаванне — гэта галоснасць, публічнасць, яны яе і баяцца, як чорт ладану, і робяць усё, каб праўда не выходзіла наверх. І ўжо ўсе тыя, што падпісвалі ліст Гарбачову пасля выступлення Сакалова, узяты пад нагляд, ужо скрозь правяраюцца іх асабістыя справы — шукаюць каранёў «нацыяналізму». Па старой методзе: лягчэй ліквідаваць таго, хто паказвае на недахопы, чым самі недахопы.



*Уладзімір Дамашэвіч*
*вядзе свае дзённікі і сёння.*

Да таго ж яны не лічаць, што гэта «недахоп» — наадварот, гэта іх дасягненне, яны ўклалі ў яго ўсю сваю душу. Яны нават не разумеюць, што яны шавіністы, ім здаецца, што яны інтэрнацыяналісты.

А татарскі паэт Туфан Міннулін таксама ў «Літгазеце» пісаў: «...У нас говорят: чело-

* Працяг. Пачатак у № 1—6 за 2008 г.

век, который забыл язык родной матери, не может уважать язык другой матери».

Хацелася б адказаць усім нашым мясцовым шавіністам, якія гавораць пра росквіт нацыянальнай культуры ад імя беларускага народа: ад імя якога народа вы прамаўляеце, калі вы не гаворыце самі на мове гэтага народа? Хіба народ паверыць у вашу шчырасць, хіба ён паверыць, што вы нешта робіце для яго дабра? Не, вы робіце толькі для свайго дабра, толькі для таго, каб жыць спакойна, спакойна сядзець у сваіх высокіх крэслах і рабіць усё, што скажуць вам па тэлефоне. Але трэба спадзявацца, што і па тэлефоне вам скажуць не тое, што гаварылі дагэтуль. Гандаль нацыянальным скарбам, такім, як мова, культура, гісторыя, — павінен скончыцца. Інакш рэвалюцыя страціць свой вялікі сэнс. Інакш яна рабілася не для народа, а для кучкі перараджэнцаў, якія самі не хочуць нічога рабіць для народа, а прадаюць яго нацыянальнае багацце, купляючы за гэта свой дабрабыт.

На рабоце было некалькі званкоў — ад Дакутовіча, пытаўся пра аповесць, ад Няхая — пытаўся пра апавяданні.

Цікава, як прайшоў партсход і як выступіў Пячэннікаў?

**2 ліпеня, чацвер**

Недзе ў 12 ночы пачалася навальніца, ды такая, што яшчэ свет не бачыў: маланкі, грамы без канца, ды такія, што калі блізка, дык нібы разрываецца снарад — з трэскам, рэзка і гучна, на высокай ноце, а калі далёка, то басавіта, раскаціста і гулка, нібы коціцца пустая вялізная бочка па бруку.

Навальніца бушавала мо гадзіну ці болей, я стаміўся то расплюшчваць, то заплюшчваць вочы ад маланак, і заснуў.

Зранку трохі пачытаў — дачытаў апавяданне Юркевіча (слабое зусім, хоць матэрыял цікавы ў аснове), потым паехаў у Дом літаратара, аплаціў і забраў пуцёўкі ў «Іслач», заплаціў узносы ў літфондзе, забраў заказ на 5 руб. і яшчэ махнуў дадому, перакусіў — і на працу.

Сёння аформіў паперы на водпуск, здаў у бухгалтэрыю, сказалі, што заўтра могуць быць грошы.

З аўтараў заходзіў Праўдзін, цяпер ён будзе ў літаратуры Дубінчык, прозвішча па матцы, ад Праўдзіна я яго адгаварыў, надта з прэтэнзіяй, ды і ад Фанвізіна, ды і рускае, а ён беларускі празаік.

Яшчэ заходзіў Зайцаў, пагаварылі пра яго першыя раздзелы да вялікай гістарычнай рэчы, якую ён яшчэ не скончыў — нешта пра час паўстання Кастуся Каліноўскага.

Пасля я хадзіў да дзяўчат у «Звязду», занёс два апавяданні, яны мяне прасілі — нашых маладых празаікаў: Шалкевіча і Дубінчыка-Праўдзіна. Мо і надрукуюць, пабачым. З Жалязоўскай пагаварылі пра яе Анатоля, мо ён згодзіцца ісці на працу ў Дом літаратара, бо якраз там патрэбен чалавек такога складу, як ён.

Пасля работы заязджаў яшчэ ў Дом літаратара, хацеў бачыць Зуёнка, але не знайшоў, зазірнуў да Гілевіча. Пагаварылі менавіта пра Жалязоўскага, яшчэ пра нашы агульныя літаратурныя клопаты. У мяне такое адчуванне, што яму, Гілевічу, цяпер вельмі цяжка, як, дарэчы, нам усім, хто думае пра далейшы лёс нашай культуры, літаратуры, мовы, нашага народа.

**3 ліпеня, пятніца**

Трохі пахаладнела, неба праяснілася, мо дождж і ўляжацца, дасць людзям узяць сена.

Зранку пазваніў у літфонд, сказаў Надзее Пятроўне Зуб, што Рапановіч не можа ехаць, што яго фактычна не пускаюць дактары — не даюць даведкі пра стан здароўя.

На рабоце было неяк мітусліва і неспакойна — пыталіся Дайнеку, а ён недзе знік — з панядзелка ў адпачынку, грошы яму ўжо выплацілі. А мне сказалі ў панядзелак. Бо добра, што мы едзем у аўторак, а каб у панядзелак?

Пазваніў Карпеку, павіншаваў яго са святам вызвалення Мінска і Беларусі ад нямецкіх захопнікаў. Для яго гэта сапраўды дзень памятны, бо ён быў на валаску ад смерці — уцёк з лагера і не ведаў, куды дзецца ў горадзе.

Яшчэ пазваніў Клімянковым — палкоўнік хворы, дактароў не хоча прызнаваць, прымае толькі таблеткі ад дыябету. Заўтра трэба схадзіць, сёння ніяк не выйдзе.

З аўтараў званіў Нічыпаровіч, пытаўся пра аповесць, але павіншаваў мяне з водпускам. Быў Юркевіч, пагаварылі пра яго апавя-

данне, узяў на дапрацоўку, мо што і выйдзе. У яго ўжо шмат было такога, вось не можа чалавек давесці да кандыцыі, хоць плач.

Грачанікаў быў засмучаны весткаю, што ў «Знамени юности» будзе надрукавана гутарка Ул. Арлова з журналістам Навумчыкам ці як яго — пра маладых, іх поспехі, іх цяжкасці. Як іх крыўдзяць, як не пускаюць, як абразаюць, што ён салідарны з Сідарэвічам у яго крытычным пафасе супроць «Маладосці». Горка пасмяяліся — вось вам, работнікі «Маладосці», падзяка ад маладых навапалачан! Што рабілі для іх добра — гэта само сабой, а вось дзе недзе падкарацілі, падправілі ці вярнулі назад — тут ужо трагедыя! Яны пішуць такую класіку, а мы іх не разумеем! Старыя, адсталыя!

Вечарам глядзелі па тэле адкрыццё індыйскага фестывалю ў Маскве. Цікава!

**4 ліпеня, субота**

Сёння мо першы летні дзень будзе добры, сонца з самага ранку, і ветру няма, неба даволі чыстае, толькі сям-там плаваюць невысокія аблокі. На дзень планаў шмат, але пабачым, як яны збудуцца. У Мінску, у горадзе, шмат святочных мерапрыемстваў — у парках, на возеры, на праспекце Машэрава, як і летась.

Я паехаў да Клімянковых, даўно не быў, толькі пазваньваў, тым больш, што палкоўнік хворы.

І праўда, хворы, і цяжка, мо нават безнадзейна. З ложка не ўстае, нічога не есць, прымае толькі адны таблеткі ад дыябету. Дактароў не прызнае, «хуткую» просіць не выклікаць. Відаць, ужо чакае канца. У сябе ў пакоі, дзе ён ляжыць, просіць не затрымлівацца, адсылае тут жа. Мы толькі павіталіся, ён застагнаў, заплакаў, папрасіў, каб мы выйшлі. Пасядзеў з Марыяй Кліменцеўнай з гадзіну, яна расказвала пра сваё гора, пра тое, як пакутуе муж і яна з ім разам. Ужо два тыдні, спачатку прыязджала «хуткая», давалі ўкол ад болю, а праз якіх пяць гадзін ён зноў пачынаў крычаць ад болю, зноў трэба было выклікаць. Тады ён сказаў: «Не трэба дактароў, абыдуся без іх». І цяпер не хоча нават пра іх успамінаць. Вельмі сушыць яму ў роце, п’е ўзвар з чарнасліву.

Развітаўся я з цяжкім сэрцам: ці ўбачымся яшчэ? Нядаўна памёр іх сусед ад рака

***«Я ПРАЦАВАЎ У “МАЛАДОСЦІ” ДВАЦЦАЦЬ ГОД»***

***— Прыйшоў, калі мне было 45, думаў, што стары ўжо, у «Маладосць» не ўпішуся. Але потым — нічога. Маладыя празаікі здаліся мне такімі цікавымі, дасведчанымі і адукаванымі, што правіць у некаторых асабліва не было чаго: яны прыносілі рэчы амаль што гатовыя да друку. Анатоль Казлоў тады пачынаў, Андрэй Федарэнка… Іншымі словамі, працаваць было цікава.***

***«ПА МОВЕ, УВОГУЛЕ, ПРАВАК БЫЛО НЯШМАТ…»***

***— …хоць у ёй было многа ці дыялектызмаў, ці канцылярызмаў. Дыялектызмы, калі яны ў меру, то яшчэ нічога: трошкі прарэдзіць, каб не кідаліся вельмі ў вочы, — і добра. У мове герояў яны якраз не шкодзяць, а вось у аўтарскай — не заўсёды да месца. Па сюжэце і вобразах правак патрабавалася больш. Але я асабіста ніколі не казаў таму, хто дрэнна пісаў, каб кідаў пісаць. Хай піша, думаў. Невядома яшчэ, што атрымаецца далей. Не ўсе адразу падаюцца мэтрамі, іншым патрэбен доўгі шлях вучобы. Галоўнае ў любым выпадку — вынік.***

***З РАЗМОВЫ З УЛАДЗІМІРАМ ДАМАШЭВІЧАМ:***

***— У вашым дзённіку часта ўзгадваецца гульня ў шахматы. Ствараецца ўражанне, што рэдакцыя была тады нечым накшталт клуба. Пісьменнікі-рэдактары перакідваліся ў шахматы ў чаканні аўтараў?***

***— Не, якраз з імі, аўтарамі. Гэта аўтары прыходзілі і спакушалі рэдактараў пагуляць. Іван Капыловіч, напрыклад, вельмі любіў пагуляць у шахматы з Дайнекам.***

***— І ў гэты ж час абмяркоўваліся творы? Ці гэта было немагчымым?***

***— Ну чаму? Гэта ж гульня была такая: двое гулялі, а астатнія каменціравалі ці жартавалі. Але не гулялі мы з дзвюх да шасці, не. Шахматны турнір пачынаўся недзе напрыканцы дня, калі хутка дадому. Гэта быў добры спосаб праветрыць мазгі…***



*Алег Лойка, Тамара Самойлава і Уладзімір Дамашэвіч, студэнты II курса БДУ. 23 красавіка 1951 года — за два гады да сваарэння часопіса «Маладосць».*

лёгкіх, але паміраў спакойна, задыхнуўся — і ўсё. Перад канцом папрасіў дзве лыжкі піва, потым сказаў, каб усе выйшлі...

Ад Клімянковых зазірнуў яшчэ да дзяцей, потым паехаў дадому. Больш нікуды не захацелася ні ісці, ні ехаць.

Пачытаў яшчэ «ЛіМ», добрыя, глыбокія вершы ў Жэні Янішчыц.

**6 ліпеня, панядзелак**

Дзень прайшоў у зборах, у дробных клопатах. Ездзіў у магазіны, хоць нічога не купіў, апроч раменьчыка да гадзінніка — у ЦУМе. Народу там цьма, купляюць усё, што трапіць пад руку, асабліва шмат купляюць канцтавараў — школьнікам.

Заходзіў у Дом друку, пастаяў паўгадзіны ў чарзе, пакуль атрымаў адпускныя. Стаяў разам з Падневічам, Пархутам, Сузіным, Гардзеем, потым падышоў яшчэ Санько, казаў, што прынясе дапрацаваную аповесць.

Бачыў на рабоце Ждановіча, Янішчыц, Грачанікава. Ждановіч дзяжурыў, казаў, што ў 10.10 нейкі строгі жаночы голас правяраў дзяжурнага па тэлефоне.

Янішчыц паказвала «Аганёк», там цікавы артыкул пра Раскольнікава, марака і дыпламата, які потым з Францыі пісаў Сталіну сярдзітыя лісты, называў яго так, як ён таго заслугоўваў.

Потым у горадзе я купіў гэты «Аганёк», пачытаю.

Ездзіў у Дом літаратара, папрасіў, каб на выпадак, калі мяне будуць пытаць Клімянковы, мне паведамілі ў «Іслач», каб я змог прыехаць — на выпадак бяды.

Бачыў Гігевіча, потым разам прайшліся. Аказваецца, сёння хавалі Кастуся Губарэвіча, вечная яму памяць.

Гігевіч ішоў у «Дом кнігі» па нейкіх справах, а я дайшоў да вуліцы Янкі Купалы да Опернага тэатра, гаварылі пра нашы саюзныя, пісьменніцкія справы.

Вярнуўся дадому як звычайна, у 17 гадзін. Якраз Галя гаварыла па тэлефоне з Марыяй Вадап'янавай, маёю цёткаю. Цётцы, апроч хваробы, яшчэ адзін удар: Вадап'янаў падаў на развод! Прычын шмат, як ён кажа. Але кідаць хворага чалавека — гэта надта жорстка. Гэта тое, што біць ляжачага.

Вечарам вазіў Філю да Толі і Галі — хай пабудзе сабачка пару тыдняў, пакуль прыедзе Алесь.

**7 ліпеня, аўторак**

З самага ранку сталі збірацца ў дарогу. Назбіралася сумак, пакункаў, што не хапала рук. Ледзь дайшлі да прыпынку. Як на зло, ні аднаго таксі. Увогуле можна было заказаць, але мы паспадзяваліся на шчасце. Аднак жа давялося сесці на аўтобус, пасля на метро. Не спазніліся, але стаміліся, покуль усё прыцягнулі да Дома літаратара. Было два аўтобусікі, мы ехалі з барадатым шафёрам, грубаватым рэзкім хлопцам, які то кагосьці высаджваў, то кагосьці браў, пакуль выбраліся з горада, а потым яшчэ заязджаў ля Заслаўя на запраўку, высадзіў нас на размінку. Але нічога, мы цярплівыя. Праз паўтары гадзіны прыехалі. Тут набіраецца цэлы ўзвод сваіх хлопцаў: Кусянкоў, Рубанаў, Шупенька, Клышка, а тут ужо жывуць — Аўрамчык, Грахоўскі, Скарынкін, Чамярыцкі, Прыходзька. Так што не засумуеш. Сёння нічога не рабіў, да абеду займаліся пакоем, прыбіралі пасцелі, раскладалі свае рэчы, якіх набралі процьму, але яшчэ і таго і таго не хапае, а тут ужо і полудзень: 14 гадзін. Папалуднавалі не кепска, калі ўсё з'ядаць, то можна растлусцець. Сядзім за 16-м сталом, разам з жанчынай з Ленінграда, яна з хлопчыкам, відаць, унукам, Германам, чарнявенькім, гадоў дзесяці-дванаццаці.

Аўрамчыка яшчэ не бачыў, жонка казала, што паехаў у Мінск на сустрэчу з нейкім таварышам, шахцёрам з Данбаса.

Пасля полудня хадзілі з Галяй каля рэчкі, па лесе вакол дома, у лесе цудоўна, і яшчэ не горача.

Нумар наш 21, у двух вымярэннях ці ўзроўнях, спальня на другім, а кабінет са сталом на трэцім. Вокнамі пазірае як-быццам на поўдзень, так што сонца і цяпла будзе хапаць. Пагода сёння таксама неблагая, ціха, сонца, гудзе трохі дарога, але шум-гул аднастайны, так што цярпець можна.

**8 ліпеня, серада**

Спалася добра, хоць і на свежым месцы. Сніў нейкія сны, але ўсе пазабываўся, як толькі ўстаў.

Сняданне тут у дзевяць, так што з нашым рэжымам няма разбежкі. Паснедалі надта тлуста, усё немагчыма з'есці, каб не аб'есціся. Як так будзе далей, то я тут стану рэкардсменам па вазе, а Галю дык пераганю, гэта факт.

Пасля снядання прайшліся да дарогі з Шупенькам і Кусянковым, пагаварылі пра Раскольнікава, пра яго лісты Сталіну, што бачыў ён Сталіна навылёт.

Учора хлопцы спраўлялі Купалле, скакалі цераз агонь, а мы з Галяй праваронілі, не далучыліся да масы. Учора ж якраз быў дзень нараджэння Янкі Купалы, 105 год дзядзьку Янку. Вялікая дата!

І сёння павесілі аб'яву, што 12-га будзе свята паэзіі на радзіме Янкі Купалы ў Вязынцы, будзе экскурсія, і мы паедзем. Нават спыталася экскурсаводка ці культработнік, мо я хачу выступіць, тады мяне павязуць бясплатна. Вось якая прывілея. Але, відаць, паеду за плату, хай выступаюць паэты.

Прыязджаюць усё новыя людзі — Пянкрат, Казбярук з сям'ёю, прыязджаюць смуглаватыя людзі з Таджыкістана, Азербайджана. Дом наш робіцца сапраўды інтэрнацыянальны.

Сёння ўзяўся за працу, нешта трохі пісаў, не ведаю, як потым гэта будзе ўспрымацца, бо адразу ўсё здаецца так, а пасля гучыць па-іншаму — або лепш, або горш, і тут нічога не папішаш. Трэба ўвайсці ў рытм, набраць вышыню, і тады мо пойдзе лепш, а я зусім адключыўся — роўна два гады, як не браўся за работу над аповесцю пра свайго дзядзьку Паўла. Калі што добрае напішу, гэта будзе яму мой помнік, бо ён заслужыў яго, асабліва ў тым сэнсе, што выхаваў мяне. Без яго мяне не было б як грамадзяніна, як патрыёта, як свядомага беларуса.

Вечарам трохі спрачаліся — Грахоўскі, Клышка, я, Шупенька, Кусянкоў, потым падышоў Ул. Няфёд. Грахоўскі гаварыў пра факты трыццаць сёмага года, як забілі Чарвякова. Няфёд расказваў, як прыехаў на працу ў 1940 годзе ў Мінск.

**9 ліпеня, чацвер**

Сёння ўстаў у сем гадзін, зрабіў зарадку. Галя выходзіла на прыроду, хадзіла-бегала, агітавала і мяне, але я не паддаўся.

Пасля снядання выйшлі на «размінку» — перад уваходам на лаўцы пасядзелі, пагаманілі: Шупенька, Прыходзька, Кусянкоў, Рубанаў і я. Пра культ асобы, як усё рабілася, чаму выраслі такія людзі. І як закон, усё ўпіраецца ў іх, маржоў. Куды ні кінь, яны

ўсюды варылі кашу, а мы яе расхлёбвалі. Калі і цяпер нам, праўдзівей, там у Маскве не ўдасца ачысціць ад іх атмасферу, нічога добрага не выйдзе, бо заваляць любую, нават самую мудрую і геніяльную справу.

Шупенька расказаў пра мульцік з ракетамі — як не ўздымаліся ракеты ў амерыканцаў, усё нешта заядала. А потым у нас — як згубілася нейкая гайка. Галоўныя героі — Картэр і Брэжнеў. Як Брэжнеў прышпіліў сабе зорку за праяўлены гераізм.

За гэты час, хоць не збіраўся выступаць на свяце паэзіі ў Вязынцы, прыдумаў некалькі слоў на ўсякі выпадак.

Купалава мова, Купалава слова гучыць, як звон вечавы. Ні вырваць з карэннем, ні знішчыць цябе, Купалава слова, не зможа ніхто. Ты будзеш нам зоркай, якая вядзе нас да мэты. А мэта ў кожнага народа адна — жыць вечна, пакуль будзе жыць наша зямля, пакуль застануцца на ёй жывыя людзі.

Ніхто мо і не думаў, што Купалавы словы, Купалавы вершы сёння зноў загучаць надзённа, як надзённа яны гучалі амаль сто гадоў таму, калі Янка Купала пісаў:

Чаго вам хочацца, панове,
Які вас выклікаў прымус
Забіць трывогу аб той мове,
Якой азваўся беларус?
Чаму вам дзіка яго мова?
Паверце, вашай ён не ўкраў!
Сваё ён толькі ўспомніў слова,
З якім радзіўся, падрастаў.

Або ў другім вершы:

Я не для вас, паны, о не,
Падняць скібіну слова рвуся
На запусцелым дзірване
Маёй старонкі Беларусі.
Я не для вас, паны, о не!

Лепш і не скажаш!

Яшчэ можна дадаць: Купала меў на ўвазе тых паноў, што жылі ў Варшаве, у Маскве. Як ні дзіўна, цяпер гэтыя паны жывуць у Мінску!

Надвор'е сёння сапсулася, зранку былі хмары, а пасля абеду пачаўся дожджык, праўда, маленькі, ціхі, ветру ні кроплі.

Сядзеў і пісаў, скончыў 17-ы раздзел. Атрымаўся надта агульны, без дэталяў, толькі ўражанні чалавека, які сядзіць у няволі, толькі яго ўнутраны свет, яго перажыванні і ўспаміны.

Пасля вячэры затрымаўся з Грахоўскім, Казберуком, падыходзіў Клышка. Зноў гаварылі пра ахвяры культу. Грахоўскі шмат пра гэта ўсё ведае, дарэмна ён не запіша, каб быў рукапіс. Нп., ад яго толькі я даведаўся, што і Хомчанка быў узяты разам з усімі, быў недзе ў высылцы на Далёкім Усходзе, ці не ў Камсамольску-на-Амуры, сядзелі разам з Дарожным. Дарожны пісаў вершы, а Хомчанка пад сваім прозвішчам (ён быў расканваіраваны) друкаваў, а ганарар аддаваў Дарожнаму. Ведае і пра Дзеркача-Зміёнка, яго дачка тут, у Доме творчасці, мы сядзім з ёю за адным сталом, з унукам Германам Саксам.

Грахоўскі расказваў, як яму рабілі вочную стаўку з Зарэцкім, як зрабілі інсцэніроўку, пасадзілі яго разам з сям'ёю за банкетны стол, сказалі, што Зарэцкі раскаяўся, а вораг, які раскаяўся, ужо не страшны. А вось вы, Грахоўскі, не хочаце пакаяцца, прызнаць сябе вінаватым...

Расказваў пра Бярозкіна і Кучара, пра Масея Сяднёва, за што яго ўзялі: прачытаў уголас верш Коласа: «Канстытуцыю далі, адчынілі дзверы...» Тады расфарміравалі іх цэлы курс на педфаку.

Казбярук расказваў, як пісаў скаргу на Саўку і як яна трапіла на разбор да яго ў рукі, і што каб не варушыў справы, то і заглохла б яна (пра Гаруна, ці што?).

**11 ліпеня, субота**

Учора позна леглі спаць, моладзь паліла камін, нарабілі дыму, ледзь не дайшло да панікі.

Сёння надвор'е таксама абяцае быць неважнецкім, па небе паўзуць хмары, халаднавата.

Думаў зранку пайсці ў бібліятэку, але яна закрыта на выхадныя.

Галя збіралася ў Мінск, але зноў адчувае сябе не надта добра, пабаялася. Ёй патрэбна шмат цяпла, тады яна жыве.

Дзень быў халаднаваты, прайшоў невялікі дожджык недзе ў полудзень, не пацяплела.

Пасля абеду трохі прагуляўся, трохі пагаварыў — стаялі ля выхада Грахоўскі, Клышка, Рубанаў, Кусянкоў, Прыходзька. Нешта гаварылі пра мецэнацтва Сталіна, якія ён мог выкідваць конікі — як мог пагладзіць і як уджаліць да смерці — чым ён толькі кіраваўся? Грахоўскі расказаў, як

хавалі Ул. Сасюру, якія на яго былі ганенні. Як Малышка на пахаванні закаціў магутную прамову, аж ледзь не пападалі з трыбуны тадышнія кіраўнікі Украіны. Пасля ў газеце Малышкавай прамовы не змясцілі, а нп., Ісаева ад Масквы, Грахоўскага ад Беларусі — далі.

Клышка расказаў, як грамілі зборнік Рыльскага на нейкім пасяджэнні. Раптам уваходзіць пасыльны, перадае паперу. З прэзідыума чытаюць гэтую паперу, а там рэкамендацыя Сталіна Рыльскаму для ўступлення ў партыю. Тыя, што білі Рыльскага, не ведалі пасля, як каяцца.

Грахоўскі нешта шмат гаварыў пра Левіна, былога дырэктара літфонда да вайны, ды, здаецца, і пасля вайны, таго, што «з'еў абед наркама». Дзіўна, што ў гэтым нашым літфондзе Левіны ды Алеры толькі і пасвіліся, беларусу ні аднаму не маглі даручыць такога важнага паста!

**12 ліпеня, нядзеля**

Устаў у 7 гадзін. Зранку быў малочны туман, падступаў ад рэчкі і лугу да самых вокнаў, сосны стаялі як у забеленай вадзе, здаваліся гусцейшымі, чым звычайна: нібы яны падвоіліся.

Пасля снядання мы, экскурсанты, паехалі ў Вязынку, усяго 20 чалавек. Галя засталася, яна яшчэ не ў форме.

Прыехалі ў 11 гадзін, ужо шмат было народу, на стаянках поўна машын. Ад ЦК былі Антановіч, Бутэвіч, быў міністр культуры Міхневіч, ад Саюза пісьменнікаў Максім Танк, Гілевіч, Зуёнак, паэты Вярцінскі, Барадулін, Камейша, Міклашэўскі, Емяльянаў, Янішчыц, Аколава.

Уступнае слова сказаў Гілевіч, ён і вёў усю праграму, гаварыў добра і вёў добра. Першаму даў слова Максіму Танку, ён прачытаў два ці тры вершы агульнага плану. Лужанін дзяліўся ўспамінамі, але таксама агульнымі. Якраз лепшыя вершы былі ў маладзейшых — Казіка Камейшы, Міклашэўскага, Емяльянава, Грачанікава, Янішчыц і Аколавай. Чытаў яшчэ Мечыслаў Шаховіч. Пад канец літаратурнай часткі сакратар Маладзечанскага райкама гаварыў пра спаборніцтва, пра передавікоў і ўручаў пераходныя сцягі. Бачыў Прыму, бачыў Содаля, яны казалі пра пастанову, надрукаваную ў «ЛіМе» — нешта пра беларускую мову, нешта як-быццам добрае для нас. Гэта ўсё было добра, цудоўна — быў добры гандаль кнігамі, сувенірамі, напіткамі і стравамі, палатак і латкоў процьма. Шмат прыехала мастацкіх калектываў, прыехалі нават «Песняры» з новаю праграмай, хадзілі самадзейныя артысты, сярод іх пан Быкоўскі і Несцерка, Паўлінка ды іншыя (Несцерка як народны тып, відаць, таму яго прынялі ў Купалаву сям'ю). — Крыніцкі і Пустарэвіч.

Але... Барыс Сачанка сказаў мне навіну, ад якой у мяне ў вачах усе фарбы пабляклі: памёр Міхась Ярош. Як гром з яснага неба — не так даўно яго бачыў, праўда, здалёк. А тут раптам з чалавекам трагедыя. Ад чаго, ад якога? Здаецца, ён вельмі не скардзіўся на здароўе, быў працавіты, цягавіты. Яго бацька пражыў недзе каля васьмідзесяці, а ён — не дажыў да шасцідзесяці. Палепшала жыццё! Ці мы самі сабе яго робім? Так, ён любіў чарку, магчыма, печань у яго была не ў парадку, бо колер твару ў яго быў зямлісты. Ды, мне здаецца, ён ніколі па-людску не адпачываў, нп., як яўрэі, не дрыжаў за сваё здароўе. Хоць увогуле на апетыт не скардзіўся, яшчэ памятаю гэта са студэнцкіх гадоў.

Эх, Міхась! Не разлічыў ты сваіх сіл на дыстанцыі! Здаецца, мы некалі заспрачаліся з табою, і ты гаварыў, што дажывеш да 2000-га года. І хто каму прайграў, ужо няважна. Аднак жа шкада цябе, браце! Ты мне памагаў не толькі тым, што пазычаў грошы, яшчэ са студэнцкіх год, — але і сваім характарам: упартасцю, цягавітасцю, вернасцю сваёй ідэі і любові да Беларусі, пра якую ты ніколі не крычаў, але яна жыла ў цябе ў сэрцы, і ў пэўную хвіліну праяўлялася смела. Усе памятаюць факт, калі ты, браце Міхась, на вачах вялізнай акадэмічнай аўдыторыі спытаўся ў старшыні камітэта бяспекі ці ў яго намесніка, чаму ён гаворыць з імі не па-беларуску. З таго часу прайшло гадоў дваццаць, а не шмат хто з нас нават у час перабудовы асмеліцца задаць такое пытанне высокаму начальству, як нядаўна на партыйным сходзе ў Саюзе пісьменнікаў, дзе Пячэннікаў выступаў па-руску. І партыйныя ніхто не сказаў яму ў вочы, што ён мог бы перад беларускімі пісьменнікамі выступаць і па-беларуску. А беспартыйны Міхась Ярош



*Вось так працавалася.
Здымак зроблены за рабочым сталом
у выдавецтве «Мастацкая літаратура».*

дваццаць год таму не пабаяўся спытаць, а праўдзівей, сказаць: што ж гэта вы, начальнікі, выракаецеся роднае мовы?

Працавіты даследчык творчасці Янкі Купалы, ты памёр, браце Міхась, у купалаўскія дні. Як бы з Купалавай песняй на вуснах. Хай табе сніцца Беларусь!

**13 ліпеня, панядзелак**

Сёння быў доўгі і цяжкі дзень. Цяжка ён пачаўся яшчэ ўчора вечарам, калі недзе ў 10 гадзін, пасля праграмы «Час», нечакана за шахматамі ў вестыбюлі памёр наш госць з Эстоніі, які прыехаў у Дом творчасці — Скульскі, вядомы ў Эстоніі паэт. Ён быў тут з жонкаю і ўнучкай. Усе былі наструненыя, асабліва жанчыны. У вестыбюлі, накрыты прасцінаю з галавою, ляжаў нежывы чалавек. Гэта і страшна, і нязвыкла, што ні кажы. Праўда, яму было 75.

А Міхась Ярош не дажыў да пенсіі. Вось я пасля снядання ўжо збіраўся ехаць у Мінск, як мне перадалі званок па тэлефоне, што адбудзецца грамадзянская паніхіда па Міхасю Ярошу. Як пасля высветлілася, гэта званіў Віктар Каваленка. Казаў, што званіў ён і Алегу Лойку, але таго не было дома.

Я доўга чакаў аўтобуса, даехаў спачатку да Ракава, а пасля сеў на шчучынскі аўтобус, касірка выпісала білет у перапоўнены аўтобус, паколькі я еxаў на пахаванне.

У Мінску я быў у 11, пакуль з’ездзіў дадому, пераапрануўся — ужо і 12. А, як на зло, таксі ля дома не было, ехаў аўтобусам і ў метро. Гэта фактычна тое самае па часе. Псіхалагічна — чым бліжэй да Дома літаратара, тым большае мяне агортвае хваляванне. Думаю, што скажу, бо мне трэба сказаць слова абавязкова...

Недзе ў 13 гадзін пачалася паніхіда. Казько адкрываў і вёў. Гаварылі Каваленка — ад інстытута, Гардзіцкі — ад СП, а я ад грамадскасці, як зямляк і сябра. Год назад я гаварыў на пахаванні Арсеня Быкоўскага ў Смаргонях. А тут мне было цяжэй — нешта сціскала горла, наварочваліся слёзы, рабіў перапынкі, каб справіцца з голасам, які ўвесь час зрываўся. Душа плакала...

На могілках развітальнае слова сказаў Васіль Жураўлёў, яшчэ гаварыў Міхасёў брат Іван. Яны малайцы — прывезлі з Клецка васількоў, рамонкаў і ў мяшэчку клецкай зямлі на магілу брата.

З могілак заехалі проста на Мірашнічэнкі, дзе жывуць Ярошы, на жалобную вячэру. Таксама гаварылі шмат і вельмі цёпла пра Міхася: Казько, Гніламёдаў, Мушынскі, Каваленка, Гурэвіч, я таксама. Жонка Лёля расказвала, як у той вечар яна не змагла прыехаць з дачы, як чула яе душа, што будзе бяда. Суседзі па дачы не ўзялі яе ў Мінск, хоць ехалі назад толькі ўдваіх. Вось якія ёсць дробныя ўласнікі.

Яшчэ што: Міхась у чацвер падаў заяву на адпачынак і ноччу памёр — пайшоў у бестэрміновы адпачынак, як казаў Лаўшук. Гаварыў пасля трохі з Іванам, Міхасёвым братам. Вельмі стаў салідны чалавек. Гаварыў з Міхасёвым сынам Колем. Казаў, што канчае фантастычную аповесць ці раман. Мо і будзе літаратарам, як бацька, хоць працуе фізікам. Прыгожы хлопец, падобны да грэка ці італьянца — з такім характэрным носам без пераносся, з кучаравістымі чарнявымі валасамі.

Доўга развітваліся з Лёляй, жадалі ёй сіл і цярпення.

Я заехаў дадому, пераапрануўся.

З Мінска ў Іслач ехаў з Аўрамчыкам, ён нават узяў мне білет на івацэвіцкі аўтобус. Так што ў 20 гадзін мы былі тут. Галя ўзяла мне вячэру ў пакой.

«ЛіМ» і «Літгазету» яшчэ не чытаў, мо заўтра.

**14 ліпеня, аўторак**

Надвор'е і сёння нас не песціць, не грэе — на небе лятучыя хмары, калючы вецер, але хоць няма дажджу. Галя пасля снядання паехала ў Мінск, я яе праводзіў да Аксакаўшчыны, аўтобусаў ніякіх не было, мо і пайшла да Ракава, бо ішлі двое нашых, муж і жонка, і яна далучылася да іх. Я яшчэ трохі пахадзіў, потым пайшоў у свой 21-ы пакой, засеў за стол, нешта адразу цяжка сабрацца з думкамі, не выходзяць з галавы малюнкі пахавання Міхася — жалобны мітынг у Доме літаратара, паездка на могілкі, чаканне «чаргі» — цяпер і на той свет без чаргі не трапіш, — потым развітальнае слова, засыпанне-пахаванне. Стаіць у вачах невялікая магілка, застаўленая вянкамі і кветкамі, з абеліскам і партрэтам Міхася ўнізе. Вось што застаецца ад чалавека! То яшчэ добра, калі ён нешта значнае зрабіў. А як нічога? То нічога і не застанецца. Дык для чаго было жыць? Каб нарадзіць дзяцей? Для гэтага шмат розуму не трэба. Іншая рэч, што трэба розум і цярпенне, каб іх выхаваць сумленнымі і працавітымі людзьмі. Мо гэта і ёсць галоўная мэта чалавечага жыцця?

Пасля абеду заходзіў у бібліятэку, глядзеў «Літгазету», узяў № 2 «Полымя», прачытаю Бягуна пра спаленую Венеру.

У «ЛіМе» Букчына добра высцебалі, каб нашага брата, то праваліўся б праз зямлю. Ці не паўтараецца гісторыя: Бур'ян біў гадоў дваццаць усіх праваслаўных хрысціян, а цяпер пачынае размахвацца Букчын. Але час, здаецца, ужо не той.

Падборку вершаў змясціў Раман Тармола, ёсць некалькі неблагіх. Апошні куплет апошняга верша проста выдатны:

Запішыце ў «Чырвоную кнігу» радзіму,
Што вялікай была, а празвалі «малой»
За пустую недзе ля рэчкі хаціну
З цеплынёю былой, і з любоўю былой...

**15 ліпеня, серада**

Галя ўчора так і не прыехала, мо таму што пад вечар ішоў дождж, праўда, невялікі. Сёння зранку сонечна і неба чыстае, мо пойдзе на пагоду. Пасля снядання трохі пасталі ля пад'езда, паспрачаліся: Прыходзька, Клышка, Чамярыцкі, Кусянкоў, Рубанаў і я. Прыходзька ўспамінаў сваю вайну, казаў, што апрацаваў свае дзённікі ваеннага часу, набіраецца шмат. Пра ўзнагароды, пасля — пра рэабілітацыю, пра 37-ы год, пра Вышынскага, пра перайменаванне вуліц, гарадоў — што Горкі можа стаць Ніжнім Ноўгарадам, а Калінін — Цвер'ю, ужо ў «Літгазеце» пра гэта гавораць. Клышка не згодзен толькі з тым, што ў нас ёсць сіяністы і масоны. Мы да такога не дараслі!

У Маскве адбылася цікавая сустрэча Гарбачова з ідэалагічнымі работнікамі — газетнымі, радыё і тэле, з творчымі работнікамі. Зранку, у 9, я паслухаў паўгадзіны выступленне Гарбачова, цікавае, толькі вельмі шмат пра эканоміку, хоць для яго гэта не шмат. Што не трэба абвастраць адносіны, не трэба зводзіць асабістыя рахункі і г.д. Чамусьці гаварыў, што партыя нам патрэбна як галоўная кіруючая сіла. Што яна павінна ісці наперадзе падзей, узначальваць іх, а не плесціся ззаду.

Але ўсё не даслухаў, трэба будзе пачытаць. Пасля абеду хадзілі з Клышкам у бібліятэку, але была зачынена — з аб'явай, што паехала на камплектацыю.

Галя прыехала недзе ў гадзін 17, ледзь дабралася да Ракава, а тут таксама ледзь села — шмат народу. Званіла там Марыі — Вадап'янаў з ёю ўжо развёўся па ўсёй форме. Во які спрытны аказаўся дзядзька, адстаўны падпалкоўнік!

Пасля вячэры, недзе пасля дзесяці, хадзілі на вогнішча, раскладзенае малымі і падлеткамі на рэчцы. Набралася шмат людзей. Мы былі да паловы дванаццатай. Смешныя гульні і танцы, Шупенька іграў на баяне. Вялікае вогнішча — вельмі добры адпачынак ад нашага аднастайнага жыцця. Яшчэ нават пяклі бульбу, смажылі сала на рашэнчыках, нашы паўднёвыя госці частавалі перцам, гуркамі і балыком.

**16 ліпеня, чацвер**

Учора было нармальнае надвор'е, мо і сёння пратрымаецца, бо ноч выдалася халодная, а раніца сонечная. Пасля снядання хадзілі ў бібліятэку, прагледзелі газеты. Цікавая ўчарашняя літаратурка, трэба будзе пачытаць. Узяў трохі кніжак — Бялова, новага Зайцава «Побеждая — оглянись» і аднаго француза — пра замах на папу. Галя да таго ж яшчэ ўзяла кніжку з серыі «ЖЗЛ» пра Еўрыпіда — Ганчаровай. Відаць, цікавая

кніжка, прабег вачыма, ёсць цікавыя фота скульптуры тагачаснай Грэцыі («Бітва пад Фермапіламі», «Фемістокл»).

Па абедзе трохі сядзеў за сталом, закончыў трэці раздзел, г.зн. 19-ы. Калі так будзе ісці і далей, то да канца мо і закончу, пабачым. Па абедзе нічога не рабіў, у нас быў лазневы дзень, памыліся добра ў сваёй сядзячай ванне.

Заязджаў Алесь на веласіпедзе, знайшоў нас тут, трохі пасядзеў, пагаварыў. Яны з Таняй вярнуліся з Азоўскага мора, прабылі 14 дзён, было горача. Загарэлі, як чэрці. А тут у нас ужо мерзнуць пасля той гарачыні.

Пасля вячэры я рашыў трохі «размяцца», не пайшоў у свой кабінет. Сядзелі ў вестыбюлі, гаварылі з Тамарай Анатольеўнай, якая ўвесь час вяртаецца ў сваё мінулае. Казала, што на пачатку вайны бачыла ў Ленінградзе самога паганца Бэндэ. Але адвярнулася і прайшла міма — ён слухаў паведамленне па радыё недзе на плошчы.

Потым яшчэ пастаялі ў тамбуры перад уваходам, Клышка быў у форме і расказваў шмат цікавых здарэнняў з літаратурнага жыцця ў «Полымі» — пра Танка, Мележа.

Грахоўскі добра расказаў, як прыязджаў Еўтушэнка ў Беларусь і як ездзіў па родных мясцінах — недзе ў Акцябрскім раёне знайшоў сваю цётку ў вёсцы Хамічы. Як плакаў пасля, даваў ёй грошы, а яна не ўзяла. Гэта ўсё расказваў яму, Грахоўскаму, сам Макаёнак, які ездзіў тады разам на верталёце — з Еўтушэнкам, Матукоўскім і яшчэ некім.

**23 ліпеня, чацвер**

Галя зранку паехала з Германам у Валожын, а я застаўся адзін. Узяў у Грахоўскага часопіс «Аганёк», трэба будзе прачытаць гутарку з Чынгізам Айтматавым.

Сядзеў да абеду за сталом моцна, трохі праходжваўся. Не сказаць, каб ішло лёгка, але і няблага, адчуваецца, што ўвайшоў у форму. Цікава, што калі дзень працуецца добра, то на другі будзе ісці горш, арганізм як бы выдыхаецца, а потым робіць сабе перадышку. У адным рытме ісці кожны дзень немагчыма, можна выцягнуць ногі.

Шупенька сёння зранку развітаўся з намі, будзе без яго сумна.

Пасля абеду зноў засеў за стол, ішло няблага, пабачым толькі, што атрымалася, яшчэ трохі пачытаў Айтматава, ён проста наш прарок, якіх даўно не было. Як ён востра ўсё бачыць, якія вялікія робіць абагульненні. Як характарызуе нашы сферы жыцця, галіны — будаўніцтва, наш быт, транспарт, дарогі, гандаль, нашу «сакрэтнасць» — тут ён проста геній! А як аценіў эпізод з хлопцам спартсменам: проста і шчыра, глыбока. А асабліва мудра гаварыў пра нацыянальныя праблемы.

«Глядя на озеро, как оно мелеет, уменьшается, я вспоминаю еще об одном озере — это тоже святыня народная — языке. Если не впадают в язык новые мощные реки в виде новых поколений, если они не успевают осваивать родной язык, если для этого нет у них условий, нет необходимых детских учреждений, школ, то это тоже обмеление языка, это тоже если не экологическое, то, значит, национальное бедствие».

«Многие руководящие работники на местах боятся выступать на родном языке — поскольку бояться взаимного обвинения в национализме. А ведь суть не в том, на каком языке ты говоришь, а в том, о чем ты говоришь, в чем твоя мысль и идея…

Все понимают, что это именно так. Но тридцатые, сталинские годы по сей день сидят в печени, и потому каждый старается прежде всего обезопасить себя…»

«…До сих многие не понимают, какой огромный вред он (культ) причинил советскому обществу. Культ личности нанес невосполнимый, уродующий ущерб облику социализма. Слишком надолго мы оказались в капкане авторитарного режима, созданного Сталиным, и только теперь, почти через 35 лет после того как его не стало, начали освобождаться и выдавливать из себя рабов культа личности…»

«...К сожалению есть силы, которые в самом народе, и это часто бывает, отрицают сами себя. Они заняты самооговором. Я называю это национальным нигилизмом. Явление это такое же реакционное, как и сам национализм. А поскольку национальный нигилизм в прессе не упоминается, не осуждается и никаких нареканий на этот счет никто не слышит, то некоторые думают, что они играют в безнаказанную беспроиг-

рышную игру. Иные из таких “игроков” в корыстных целях себе создают ореол, сверхинтернационалистов».

«…Есть люди, которые много говорят о свободе, но ничего не делают. А мне кажется, что многие даже не представляют, что такое свобода. Иные думают, что свобода — это когда все позволительно, что в голову взбредет, то и делает, то и говорит. На самом деле это не так. Свобода — это обретение все новых духовных пространств, новая ступень в нравственном, социальном совершенствовании человека».

І ў канцы — цікавы ўспамін пра жарабца, які аб’еўся атрутнай травы. Цікава, што мясцовыя коні яе не елі, а рускі данчак гэтага не ведаў — і прапаў. Мараль — чужога не хапай. Спачатку паглядзі, як робяць тыя, што тут жывуць, павучыся. Вывучы мясцовую «мову». Нават без двукоссяў.

**24 ліпеня, пятніца**

Учора моцна шумелі ля рэчкі, палілі вогнішча. Галя да 12.45 глядзела тэлевізар. Я сядзеў у сваім кабінеце, не сумаваў. Трохі пасля пачытаў Зайцава, «Побеждая — оглянись». Яшчэ не магу сказаць, што за рэч. Фантазія ў чалавека багатая, але ж яна на нечым павінна грунтавацца. Відаць, меў чалавек нейкі багаты матэрыял, мо якія старадаўнія запіскі.

Пасля снядання зноў засеў за стол. Але сёння ішло горш, як учора. Пачаў 24-ы раздзел. Гродзенская турма. Пачатак вайны Германіі з Польшчай. Вызваленне. Час цікавы і складаны. Не ведаю, як выкручуся. Пабачым.

Была экскурсія ў Івянец, Галя збіралася, але не паехала. Баліць пята, раздушыла мазоль.

Па абедзе схадзіў у лес, выстругаў сабе яшчэ адну крывульку. Караткаватая, праўда. З сухога ядлоўцу, сухастою. Яшчэ бачыў у лесе дзве загатоўкі, трэба будзе зрабіць, мо каму падарую. Першы раз трапіў на суніцы, з’еў штук дваццаць. Лес цудоўны, адпачываць добра. Шмат хто з нашых у лесе чытае. Сядзіць сабе на пні і чытае.

Пасля абеду нешта пацягнула на сон. Аўрамчык казаў, што сёння магнітная бура. У Рубанава — праз Клышку, — узяў «Літгазету», кажуць, ёсць цікавыя матэ-

***«У РЭДАКЦЫІ ПРАЦАВАЛІ ЧАТЫРЫ ГАДЗІНЫ...»***

***— …з дзвюх да шасці. Гэта была выключна работа з аўтарамі, гутаркі па заўвагах. Праўкі ў рукапісы ўносіліся пераважна дома. Сядзець у рэдакцыі з дзевяці да шасці — я гэтага рэжыму не пакаштаваў. А цяпер у рэдакцыі — як у канцылярыі: прыраўнялі творчую работу да канторскай. Не ведаю, ці пайшло гэта на карысць літаратуры… Напэўна, не…***

***«ЗА ТОЙ ЧАС, ШТО ПРАЦАВАЎ У “МАЛАДОСЦІ”, Я ВЕЛЬМІ МАЛА НАПІСАЎ АСАБІСТАГА»***

***— Не было сіл. Я не крыўдаваў, але адчуваў, што большасць энергіі і сіл аддаю рэдакцыйнай справе. На сваю работу ў мяне былі выхадныя. Але за выхадныя не так шмат і зробіш. І замест таго, каб адпачываць, даводзілася працаваць. Між тым, для мяне добры адпачынак — гэта фізічная праца. Я рэдка калі бываў за морам-акіянам, часцей ездзіў або да сваіх бацькоў, або да жончыных. Вось там сапраўдны адпачынак для галавы. Ды і фізічны стан свой аднаўляеш. Калі такая праца ў ахвоту, яна заўсёды на карысць.***

***«ПІСЬМЕННІКІ — ЛЮДЗІ НЯРОЎНЫЯ»***

***— Бывае, адзін твор выдатны, а другі — слабенькі. На слабыя я гаварыў: «Вось гэта дапрацаваць, тут мову паправіць, тут вобраз узмацніць, каб не было адно толькі прозвішча». Добра памятаю аднаго аўтара. Ён спачатку апавяданні пісаў, потым аповесці, і быў даволі-такі пісучы, а герой у яго — толькі прозвішча і імя. А так — хто ён, што ён? Нейкі непрывязаны — ні да зямлі, ні да жыцця. І адбываліся ў мяне з аўтарам такія размовы: «Што гэта за герой? Вы ж не намалявалі яго. Ні носа яму не далі, ні рота, нічога абсалютна. Як жа яму жыць?..»***

***З РАЗМОВЫ З УЛАДЗІМІРАМ ДАМАШЭВІЧАМ:***

***— Калі параўнаць той час з гэтым і часопіс, у якім я працаваў, з цяперашнім, то, па-першае, зменшыўся аб'ём.***

***— І гэта наш, прабачце, асноўны галаўны боль.***

***— Гэта ўдар, вельмі цяжкі, і па літаратуры, і па культуры наогул.***

***— А якія суадносіны, калі ў прапорцыі, павінны быць паміж мастацкай часткай і публіцыстыкай ў такіх часопісах, як «Маладосць»?***

***— Асноўны змест заўсёды складалі проза і паэзія. А пасля ўжо — публіцыстыка і крытыка: некалькі рэцэнзій на кніжкі, некалькі атрыкулаў аглядальнага характару з выступленнем масцітых крытыкаў. Адным словам, часопіс павінен быць літаратурным, а не нейкай, ведаеце, каўбасой, набітай усім, чым заўгодна. Цяпер жа многа публіцыстыкі такога кшталту: раённыя і абласныя начальствы расказваюць пра сваю работу. Але гэта нецікава…***

рыялы. Зноў пра тога Аліева і міліцыянера, што выступіў супраць хабарніцтва. Аказваецца, нікога з тых, што яго судзілі і тэрарызавалі, не пакаралі. Некаторых нават павысілі.

Вечарам, у гадзін дзевяць, пайшоў дожджык. Роўны, ціхі і спорны. Гэта добра, бо ўжо даўно не было дажджу. У лесе суша вялікая. А цяпер мо пойдуць і грыбы.

Пасля абеду дапісаў 24-ы раздзел. Роўна два сшыткі. І там чатыры. Атрымліваецца — шмат. Але яшчэ не ўсё. Відаць, раздзелаў чатырох будзе мала, каб завяршыць стог. Але пабачым.

**27 ліпеня, панядзелак**

Зранку нібы паказвала на пагоду, потым зноў пайшоў дождж, а па абедзе лупіў вялікі, і нават з градам. Праўда, град падаў усяго хвілін пяць, не болей, але, відаць, на полі шкоды нарабіў. За дзень я нават не выйшаў на паветра.

Да абеду і пасля сядзеў на сваім крэсле, ішло няблага, скончыў 25-ы раздзел, пачаў 26-ы. Падзеі развіваюцца, іх вызваляюць, яны ўжо вольныя, наводзяць парадак у турме, вылоўліваюць наглядчыкаў і ўсякую нечысць.

Галоўнаю падзеяй дня быў вечар — сустрэча з Філіпавым, а з ім і прадстаўнікі блізкіх прафесій — яго жонка тэатразнаўца, працуе ў тэатральным інстытуце, яшчэ — з Ленінградскай філармоніі Ракава, яшчэ наш дыктар з тэлебачання Шаліхін. Усё ішло добра і цікава. Жонка Філіпава Каця (прозвішча не запомніў) расказала пра тое, як цяжка шукаць і рабіць артыстаў, асабліва добрых. Шаліхін іграў (ён, аказваецца, па прафесіі музыкант), Ракава прачытала пару гумарэсак, адну пра хулігана-тэлефаніста, які званіў штодня на кватэру і пытаўся Курачкіна, хоць там жыў Петушкоў (Людвік Ашкеназі), некалькі анекдотаў.

А Філіпаў зацьміў іх усіх. Ён здаецца нейкім несабраным, раскіданым, калі глядзіш на яго вось так, на зямлі, побач, а на сцэне ён ператвараецца ў бога, у Зеўса, грамавержца. Ён добра гаварыў пра свой Малы — вялікі — тэатр, дзе ён цяпер працуе, пра яго светлыя імёны, а потым прачытаў дзве рэчы — адну даволі пашлаватую, мяшчанскую, нейкага ленінградца. А вось Шукшына «Верую» — гэта такі сплаў золата і срэбра, што лепш і не прыдумаеш. Шэдэўр і выканання, і сэнсу.

**28 ліпеня, аўторак**

І сёння надвор'е ненадзейнае, хоць сонца зранку і паказалася. А пасля перыядычна находзілі хмары і пачынаўся дождж.

Я сядзеў увесь дзень над 26-м раздзелам і толькі па абедзе скончыў. Больш не буду брацца, трэба пару дзён адпачыць, бо галава як чыгун. Лепш трохі што пачытаю, узяў пару рукапісаў — Асташонка невялікую аповесць і Янеца з Ліды, вялікая рэч. Узяў сёння ў Грахоўскага «ЛіМ», трохі прагледзеў. Вялікае апавяданне Кусянкова, нешта ў «ЛіМе» ён стаў часта друкавацца. І заканчэнне нарыса Сіпакова пра Дзяргая. Во гэта, здаецца, вельмі-вельмі сучасны твор, у духу нашай перабудовы. Паказаны лёс сумленнага чалавека, сумленнага савецкага чалавека. І як з ім абыходзіліся ўсякія чынушы, папяровыя душы. Як яны яго душылі і думалі, што яны лепшыя за яго. А ён на зло ім не ламаўся, не прадаваўся, а жыў сумленна, а таму жыў цяжка, як і кожны сумленны чалавек жыве.

Вечарам Герман прынёс нам ліст ад Алесі, піша, што ў іх парадак. Сяргей паехаў на рыбу ў Тальку, яна з Анютай адпачывае тут, у Мінску. Праўдзівей, яна не ў адпачынку, пусцілі аднаго Сяргея. Нешта пра Іру і Сашу нічога не напісала. Вось такія пісьмы пішуць дзеці сваім бацькам. Прачытаеш — і нічога не даведаешся. Але галоўнае ясна: у іх поўны парадак. І то добра.

**30 ліпеня, чацвер**

Сёння ноччу сніў Валодзю Караткевіча і Дусю Лось. І так выразна іх бачыў, нешта мы гаварылі, і мне нічуць не было страшна, што яны нябожчыкі. Я, здаецца, гэта ведаю, а яны самі — не. Але бачыў я іх не разам, а паасобку, спачатку аднаго, пасля другога. А як прачнуўся, то і ўсё забылася — нічога не магу ўспомніць. Пабольвае трохі галава, як ад грыпу, ці мо яшчэ адзываецца атручванне, якое ўжо цягнецца каля тыдня.

Пасля снядання наткнуўся на сцэну — дырэктар на другім паверсе выгаворвае дзяжурнаму пры ўсіх тэхніках, што слаба сочыць за парадкам — дайшло да таго, што нехта з хуліганаў набурыў у кутку ля вазона. Сабралася трохі людзей, усе ўзбуджаны, даюць парады. А ясна адно — што дзеці не чуюць духу бацькоў, робяць што хочуць. Шумяць да гадзіны ночы і болей, а бацькі не ведаюць, дзе яны. Дырэктар кажа: калі гэта Дом творчасці, буду працаваць, а калі дом адпачынку — не буду.

Сёння трэба здаць кніжкі ў бібліятэку — адзіны важны клопат.

Па абедзе здаў, купіў білеты на заўтра на аўтобус, схадзілі з Галяй трохі прагуляліся. Напісалі падзяку ў кнігу водгукаў і пажаданняў. Людзей засталося мала, сёння паехалі некаторыя нават зранку, шмат едзе вечарам.

Узяўся чытаць Янеца з Ліды — нездарма ж я яго сюды прывёз.

Вечарам яшчэ хадзілі на Іслач, на высокім крутым беразе палілі вогнішча: Галя, Герман і я. Прабылі гадзіны дзве. Вельмі ціха, прыгожа і прыемна. У Дом творчасці ўжо вярталіся поначы.

**31 ліпеня, пятніца**

Усталі ў сем, усё склалі, хоць яно і было гатова. Набралася па тры пакеты на кожнага з нас. Але лёгкія, невялікія. Аўтобус быў няпоўны, месца хапала. З намі ад'язджаў Дзятлаў, разам даехалі да вакзала, тут пасадзілі сваіх ленінградцаў на таксі, самі таксама селі на матор, паехалі. На сутыкненні Ульянаўскай і Янкі Купалы, на самым Т-падобным месцы, на нашых вачах адбылася аварыя — «Волга» стукнула ў бок «Рафіку», які тут жа лёг на бок, пасыпалася шкло. Пасля вылезлі людзі — шафёр у прадраных джынсах і яшчэ адзін, маладыя, бледныя, як цені. Вадзіцель «Волгі» запісаў прозвішчы таксістаў, бо наш адразу спыніўся, і яшчэ адзін таксама, яго знаёмы.

Прыехалі дадому ў 11. Філя вельмі радаваўся, аж пускаў «слязу». Я яго вывеў гуляць, лётаў, як шалёны, і вельмі быў уважлівы да мяне — каб хаця не ўцёк ад яго. Потым схадзіў у магазін. Прадавалі зялёны гарошак у бляшанках. Людзі проста біліся, бралі па 10 і нават па 20 бляшанак, як перад канцом свету. Проста жах!

Па абедзе чытаў аповесць Асташонка «Незабудкі». Трохі па-вучнёўскаму, але ёсць і нешта сваё. Няма смеласці разгарнуць крылы да канца, няма адчування таго, што лепш паказваць — гэта ці гэта?

Заходзіў Алесь, трохі пабыў. Працу яму пакуль што не знайшлі, хоць у райкаме абяцалі — як толькі атрымаеш дыплом — адразу...





***Другі доўгатэрміновы праект, распачаты да 60-годдзя «Маладосці», прысвячаецца рэдактарам часопіса — прадстаўнікам не толькі розных гадоў, але і, так бы мовіць, кірункаў дзейнасці. Якімі былі ў жыцці тыя, чые імёны засталіся ў гісторыі літаратуры?***

# ПЕРШЫ

***Афіцыйныя звесткі пра жыццё і творчасць першага галоўнага рэдактара часопіса «Маладосць» можна прачытаць у афіцыйных крыніцах. Калі ж шаноўны чытач, раскрыўшы гэту старонку, захоча дачытаць да васілька, паведамім яму, што тут сабраны вольныя ўспаміны.***

## Таццяна ШАМЯКІНА: «ЯГО ПАВАЖАЛІ І ПА-ЧАЛАВЕЧЫ ЛЮБІЛІ»

«Мой бацька Іван Шамякін і Аляксей Кулакоўскі былі зусім розныя людзі, і тым не менш яны сябравалі. Іх сяброўства пачалося ў пачатку 50-х гадоў, калі яны жылі некаторы час у адной кватэры. Пасялілі іх разам, можна меркаваць, таму, што ў абодвух пісьменнікаў была аднолькавая колькасць дзяцей і літаральна аднаго ўзросту: у нас дзевяцігадовая Ліна, а ў Кулакоўскіх амаль такі ж Жэня, двухгадовыя Лёня і я, а ў 1950 годзе нарадзіліся — у Шамякіных Саша, у Кулакоўскіх Коля. У чатырохпакаёвай кватэры па вуліцы Карла Маркса, у старым даваенным доме адмысловай архітэктуры кожная сям'я мела па два пакоі. Вялікая кухня і вялікі калідор — агульныя. У кухні пліту патрэбна было тапіць дровамі, якія насілі з двара на пяты паверх. Бялізну сушылі на гарышчы, і яе аднойчы ўсю пакралі. Але тады такія нязручнасці абсалютна не адчуваліся. Умовы жыцця для сямей двух пісьменнікаў-ветэранаў можна было лічыць царскімі, бо тысячы людзей працягвалі жыць у бараках і не мелі ўвогуле ніякіх выгод.

Я жыцця ў камуналцы не памятаю. Але па ўспамінах маёй старэйшай сястры Ліны, жылі Кулакоўскія і Шамякіны літаральна адной сям'ёй, вельмі дружна і весела: сапраўды, з шасцю дзецьмі ў адной кватэры не засумуеш. Але і бацькі гэтых дзяцей былі маладыя і шчаслівыя: ўсё яшчэ ўражаныя нашай Перамогай, з верай, што жыццё будзе рабіцца ўсё лепшым і лепшым. Да празаікаў прыйшла першая літаратурная слава, а з ёй і дабрабыт: адмянілі карткі, і ў крамах было поўна прадуктаў; паступова куплялася мэбля, кніжныя шафы, рабочыя сталы, настольныя лямпы, гардзіны. Раней жылі на прыватных кватэрах, дзе нічога свайго не было.

Суседзі ніколі не сварыліся, нейкіх непаразуменняў не ўзнікала, хоць Аляксей Мікалаевіч — асоба зусім няпростая. Шамякіны — людзі надзвычай адкрытыя, непасрэдныя, вясёлыя — лічылі яго занудлівым, пры гэтым добрым і шчырым чалавекам. Па маіх, пазнейшых ужо ўражаннях, ён быў надзвычай стрыманы і, безумоўна, адрозніваўся манерай паводзін ад шумнага Макаёнка, самаіранічнага і смяшлівага Шамякіна.

У агульнай кватэры стаяў такі гармідар, што працаваць пісьменнікам аказвалася абсалютна немагчыма. Але абодва ніколі не прасілі дзяцей сціхнуць, не патрабавалі парадку і дысцыпліны — усё як ішло, так і ішло, — сваім натуральным шляхам. Шамякін прыстасаваўся пісаць па начах, а Кулакоўскі — на месцах працы, у рэдакцыях часопіса "Беларусь" і газеты "Літаратура і мастацтва". Калі ён узначаліў "Маладосць", мы ўжо раздзяліліся, атрымаўшы асобныя кватэры. Але сяброўства

захавалася. У 50—60-я гады сябры сустракаліся часта, ледзь не кожны дзень — адчувалася імкненне да чалавечых кантактаў, унутраная неабходнасць абмяркоўваць літаратурныя творы, палітычныя падзеі, дзяліцца ўласнымі пачуццямі.

Усталявалася кампанія з чатырох сяброў: Кулакоўскі — старэйшы на сем-восем гадоў за астатніх, і амаль аднагодкі Пятро Васілеўскі, Андрэй Макаёнак і Іван Шамякін. Проста фенаменальна ўсе розныя, а тым не менш... У нейкі перыяд Васілеўскі адышоў. Добра памятаю, што ў Шамякіна і Макаёнка Кулакоўскі — пастаянны аб'ект жартаў і розыгрышаў. На Каляды і 1 красавіка — дзень смеху — яго разыгрывалі абавязкова, тады без гэтага свята не лічылі святам; мой бацька і Андрэй Ягоравіч з вялікім задавальненнем прыдумлялі ўсё новыя жарты, безумоўна, бяскрыўдныя. Чамусьці яны былі ўпэўнены, што калі Аляксей Мікалаевіч сам жартаваць не схільны, то і гумару ён не разумее. На самай справе, мне здаецца, ён цудоўна ўсё разумеў, заўсёды пазнаваў тых, хто яму тэлефанаваў, у розных іпастасях, і проста падыгрываў малодшым сябрам, паблажліва за імі назіраючы: няхай, маўляў, забаўляюцца. Ён мудра разважаў, што людзі, тым больш творчыя людзі, — розныя, і ставіцца да іх неабходна адпаведна. Ды і малодшыя калегі, на самай справе, яго паважалі і па-чалавечы любілі.

Стрыманыя паводзіны Кулакоўскага, якога несправядліва лічылі дагматычным і па-чыноўніцку нецікавым, былі абумоўлены і жыццёвым вопытам, і нават статусам — доўгі час ён быў адказным сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі, таму адчуваў неабходнасць быць прыкладам для астатніх пісьменнікаў у прыстойнасці паводзін. А фарміраваўся ён у няпростых умовах жорсткіх 30-х гадоў, калі, відаць, і набыў стрыманасць і суровасць. Шамякін жа і Макаёнак да вайны былі яшчэ падлеткамі, юнакамі, нават палітычных працэсаў яны, па іх аповедах, практычна не заўважылі — не да таго было маладым. А ў вайну — перыяд сапраўднага фарміравання — усё было ўжо зусім інакш, і хоць час быў яшчэ больш суворы і трагічны, але ўсведамленне сябе пераможцамі, разуменне, што сваю галоўную жыццёвую місію яны выканалі годна, радасць Перамогі і адчуванне сваіх творчых магчымасцей рабіла іх вясёлымі і разняволенымі. Ды і прыродны тэмперамент, безумоўна, адыгрываў сваю ролю.

Мне Аляксей Мікалаевіч запомніўся чалавекам выключна інтэлігентным, сумленным і вартым самай глыбокай павагі. Так, быў ён "рэччу ў сабе", як і кожная неардынарная асоба. Мне нават у маладосці, а тым больш цяпер, здаецца, што быў ён не такі, якім здаваўся. У канцы жыцця адчуваў усё большую сваю адзіноту, часта тэлефанаваў майму бацьку, скардзіўся на хваробы. Яны гаварылі падоўгу і вельмі шчыра. Шамякін ставіўся да Кулакоўскага менавіта як да старэйшага калегі і сябра, з вялікай цеплынёй, усё больш шкадаваў і ўсяляк імкнуўся дапамагаць.

Мне заўсёды вельмі па-добраму ўспамінаецца Аляксей Мікалаевіч — знешне стрыманы і паважны, а ў душы — рамантык».

***УСПАМІНАЕ УЛАДЗІМІР ФЕДАСЕЕНКА:***

***— Я некалі выконваў абавязкі загадчыка аддзела друку ў ЦК камсамола. Гэта недзе 1950—51-ы год. Ну і памятаю, запрасілі Кулакоўскага на сустрэчу з моладдзю. Ехаць трэба было ў Маладзечна, дык ён усё непакоіўся, ці заказалі гасцініцу. Вялюгін тады яго паддзяваў для гумару: такая, маўляў, дробязнасць — сястра абмежаванасці. А Кулакоўскі менавіта такі быў чалавек. Расказваюць, як некалі ў бытнасць парторгам нешта на бюро райкама хацеў сказаць — і не, не падняўся і не выступіў: бо грабеньчык забыўся. Мо гэта і анекдот, але гэта ісціна. Кулакоўскі быў звышпедантычны.***

***Ці сястра, ці нейкая жанчына расказвала. Кажа: я да яго прыехала, а ён у гэты час у кабінеце працаваў, замкнуўшыся. Ён не выйшаў. Ніхто зайсці да яго не мае права, бо ён працуе. Гэта каб ніхто яго не турбаваў. Ну, мы гэта пра яго ведалі.***

***Кулакоўскі быў педантычны, так. Але я ведаю, што ён ваяваў. А ў тых яго «Дабрасельцах», з-за якіх ён быў зняты з пасады галоўнага рэдактара «Маладосці», нічога дурнога не мелася. Вось такія справы.***

**УСПАМІНЫ АЛЕСЯ ЖУКА**

«Першы рэдактар “Маладосці” нарадзіўся ў 1913 годзе ў вёсцы Кулакі Салігорскага раёна. Гэтая вёска ўжо даўно ўвайшла ў гарадскую рысу Салігорска, няма яе. Прайшоў праз усю вайну камандзірам узвода, потым камандаваў ротай. Быў тройчы паранены. Іван Шамякін расказваў, што камандаваў ён не простай ротай, а ротай штрафнікоў. І раненне на Львоўшчыне атрымаў не ў спіну, а ў грудзі. І калі ў нейкім там гумне, прыстасаваным пад шпіталь, мясцовы ксёндз абыходзіў параненых, капітан Кулакоўскі паклікаў яго да сябе. Гэта ўразіла мясцовых верніц, і хоць савецкіх яны недалюблівалі, але Кулакоўскага пачалі даглядаць, падкормліваць. І выхадзілі. Сам Аляксей Мікалаевіч не любіў пра гэта гаварыць».

* * *

— Я не ведаю, ці праўдзівая гэта гісторыя пра грабеньчык, але ў яго калі не зусім лысіна была, то вельмі сціплая прычоска. Расчэсваць, прабачце, асабліва не было чаго. Можа, проста прыдумалі такую хохму з-за яго педантычнасці. Ён заўсёды быў правільным чалавекам. Сапраўдным маралістам і камуністам.

* * *

— Калі Кулакоўскі працаваў дырэктарам музея Янкі Купалы, то абедаць ездзіў у Дом літаратара, у кафэ. Была ў яго машына. І ў кафэ ён меў сваё пастаяннае месца. А калі раптам заходзіў і бачыў, што нехта на гэтым месцы сядзіць, то або ў дзвярах таптаўся, або выходзіў на калідор і чакаў, пакуль месца не вызваліцца. Ён быў чалавекам сваіх звычак. І вось я аднойчы заходжу ў гэта кафэ. І бачу: сядзяць Валянцін Тарас з сябрамі. Вясёлай такой кампаніяй. Яны мне: давай, маўляў, сюды. Я сеў і не разумею, чаму яны такія вясёлыя. Аказалася, яны пасадзілі мяне на месца Кулакоўскага, спецыяльна, каб падражніцца. Але адчыніліся дзверы, Кулакоўскі паглядзеў на вясёлую кампанію, на мяне і падышоў да століка, сказаў: «Алеська, вось гэтыя абармоты цябе знарок сюды пасадзілі, бо яны ведаюць, што тут сяджу я. То ты, калі ласка, перасядзь на другое месца і мы з табой заадно пагаворым». Вось такі характар.

* * *

— Шамякін быў сем’янін вялікі, і Кулакоўскі быў вялікі сем’янін. І вось неяк Марыя Філатаўна кажа: «Слухайце, наш праведнік, я бачыла, ішоў у кінатэатр “Ракета” з маладой кабетай». Ён жанчын любіў, дарэчы. А жонка — мілая, харошая жанчынка — на той час у «Полымі» працавала. Ён для яе быў бог.

* * *

«У 1953 годзе стаў першым рэдактарам часопіса “Маладосць”. На гэты час ён быў ужо вядомы як пісьменнік: ім было выдадзена пяць празаічных кніг. Працаваў над першым раманам “Расстаёмся ненадоўга”. І ў гэты ж час напісаў аповесць “Дабрасельцы”. І надрукаваў яе ў сваім часопісе. Праўдзівая, гумарыстычная, напісаная выдатнаю сакаўною мовою, з яркімі адметнымі вобразамі пасляваеннага вясковага кіраўніцтва — сельсавецкага і калгаснага, ды і нават калгаснай кабылы па клічцы Кадрыліха — аповесць прыгожа адлюстроўвала пасляваенны ўклад вясковага жыцця. Але аповесць была без лакіроўшчыны. І атрымала “належную” ацэнку: яе абвясцілі ачарніцельскай, забароненай цэнзурай і, такім чынам, яна не аказала ўплыў на развіццё літаратурнага працэсу, а калі і аказала, то з адмоўным знакам — наўрад ці каму з пісьменнікаў захацелася б паўтарыць лёс Кулакоўскага, якога ад пагрому не ўратаваў ні літаратурны аўтарытэт, ні тое, што ім была зроблена літаратурная апрацоўка кнігі мемуараў “Людзі асобага складу” партыйнага лідара В. І. Казлова. Кулакоўскі быў вызвалены ад пасады рэдактара часопіса “Маладосць”.

Яго лёс праз нейкі час паўторыць яго наступнік на гэтай пасадзе Пімен Панчанка, які будзе звольнены з работы пасля надрукавання “Мёртвым не баліць” Васіля Быкава…»



# З ДЗЁННІКАЎ ЕЎДАКІІ ЛОСЬ

## *Лепельскае педвучылішча*
## *1945—1946 гады*

***Паважаны чытач!***

***Перад табою юнацкія дзённікі беларускай паэтэсы Еўдакіі Лось.***

***Гэтыя балючыя і ў той жа час светлыя радкі гавораць пра тое, як пракладвала свой шлях у жыццё, у вялікую літаратуру дзяўчына-беларуска, унучка селяніна-бедняка з глухой вёскі Старына, багатай працавітымі людзьмі і народнымі звычкамі.***

***Вельмі хацелася ёй вучыцца, спасцігаць невядомае, ісці ўдалеч, бачыць сапраўдных людзей, адчуваць дыханне роднай Беларусі.***

***Цяжкія гады выпалі на яе долю. Нарадзілася ў 1929 годзе, пасля — чатыры гады ваеннага ліхалецця, затым — пасляваенны час з плачам па загінулых на вайне родных і блізкіх. І, нарэшце, паўсядзённае змаганне за чалавечую годнасць, за мір і шчасце, за лепшую долю для беларуса.***

***Я прайшла з сястрой Дуняй увесь яе нядоўгі шлях, з маленства да апошняга ўздыху. Заўсёды адчувала клопат пра мяне і адказвала ёй удзячнасцю, добрымі справамі.***

***І цяпер, як і ў тыя далёкія гады, я іду з сястрой па шляху яе неспакойнага юнацтва, сэрцам адчуваю няўрымслівую натуру яе, багацце чалавечай душы.***

***Мінаюць гады. Вырастае новае пакаленне людзей. У іх іншыя погляды на веды, на адукацыю, на жыццёвы ўклад, на свабоду і шчасце.***

***Але я ўпэўнена, што новы чытач, уважлівы і зычлівы, прачытаўшы юнацкія дзённікі будучай паэтэсы Еўдакіі Лось, скажа: «Цудоўна жыла дзяўчына на зямлі! Мужна ішла па жыцці, шукаючы сваю зорку. І знайшла яе НАЗАЎСЁДЫ!»***

*Марыя Якаўлеўна ЯРАШЭВІЧ (ЛОСЬ)*

**27 кастрычніка 1945 года**

Яшчэ лежачы ў ложку, варушу мазгамі, падбіраючы патрэбныя словы верша, які задумала напісаць у насценгазету вучылішча. Назаву яго «Кастрычнік».

З’еўшы па кавалку нейкай купленай на рынку перапечкі, узяўшы посуд (для абедуюшкі), адыходзім на заняткі. Ужо каторы раз рыхтуюся адказваць педагогіку — не выклікаюць. І рускую літаратуру таксама. Аддалі «сшыткі» з дыктантамі... «Пяцёрка» радасная... А па чыстапісанні па кручках паставіў «Мішачка» «4» з плюсам. Адным словам — нешчаслівы дзень. А сёння здурнела ад дзяжурства. Больш не буду так. Аднаму: «Дзеразы прынясі», другому: «Лозунг дапішы»... трэцяму: «Пастарайся з рамачкай»... (чаму ўсё мне, а дзе ж іншыя?..)

Узялі 9 талонаў на капусту. Па 80 кап. кожны. Колькі грошай патрэбна, а з’ясі — і яшчэ б столькі. Ой, жыццё, жыццё!.. Толькі і дрыжы, каб чаго з’есці. А ці ж гэта павінна быць у галаве маладога чалавека?!

Ага, сёння даў Іваноў запрашальны білет на канцэрт. Маня пайшла ў лазню. А я з-за грошай засталася. Заўтра выхадны. Трэба занесці «боты» адрамантаваць, схадзіць бульбы сабраць на полі (калі яна там ёсць), урокі вывучыць і... на канцэрт!

**28 кастрычніка 1945 года**

Ну, дзень-гром! Прачнулася, аднесла ў рамонт «боты» і адправілася босай бульбу збіраць. Холадна было, а бульба мёрзлая. Вядро сабрала... І то добра. Прыйшоўшы, з’ела заціркі. Потым вывучыла ўсё. Потым

чытала «Я люблю» Аўдзеенкі. Гучная назва, а нічога, па сутнасці, няма. Пасля тапіла печку і грэла рукі, бо дужа змёрзла... Аддала за рамонт «ботаў» 15 рублёў, абулася і пайшла на канцэрт... А перад гэтым трапіла на кінакарціну «Чапаеў»...

Адправіла Маню на сцэну, сама сяджу з дзяўчатамі. Кругом публіка нішто. А Маня чуць у «пераплёт» не трапіла. Хор «змазалі» парадкам. П'еса «Мядзведзь» Чэхава — цудоўна! З танцаў — «Кабардзінка» ў выкананні Шчукі — дзівосна! Горш за ўсіх абрыдзеў І-оў — выскачка і толькі.

Усё было б добра, але ўкраў у мяне нехта маю сінюю хустку. Бяда жахлівая... Галава і... мароз ужо...

**29 кастрычніка 1945 года**

Пайшлі не еўшы — нечага. Не выклікалі ні па чым. Зрабіць вянок даручыла Люсі, Любе, Нюры. Выклікалі на пасяджэнне камітэта. Зацвердзілі групоргам. Спрачаліся, думалі, прадпрымалі... Прасіла Клаўдзя Мікалаеўна прыйсці дровы пілаваць... Але не змаглі ніяк... Ад такой непрыемнасці расплакалася… Гора, і дзе яму канец?

Насця Ганчарова — цудоўная дзяўчына! Прынесла хлеба кавалак, а я ёй намалявала ў сшытку заданне.

Во, забылася, дзядзька Васіль прыходзіў. Няпраўда, што Коля вярнуўся...

**30 кастрычніка 1945 года**

Ну, пагутару сама з сабой. Дзень пачаўся са спрэчкі з Маняй: яна не ідзе сёння (кажа, у другі раз) пілаваць дровы, даводзіць, што нічога не справімся зрабіць. І яна, аказалася, мела рацыю, праўда была на яе баку. Кожны дзень рыхтуюся, а не выклікаюць. Слава Богу, лозунг гатовы, і тры плакацікі далі для класа.

Аддала сакратару справы Цыбульскай і Барадаўкі аб уступленні ў камсамол. Памалу з каранямі ўрастаю ў гэтае жыццё, клапатлівае, беднае, але ўсё ж прыемнае і карыснае. Усё асабістае пакідаю на задні план. Атрымала капусту (яна крыху падгніўшая), пахлябалі і бягом да К. М. выконваць просьбу сваёй добрай настаўніцы. Добра папрацавалі, добра ў яе павячэралі за гэта. А найлепей за ўсё — пагутарылі ад душы, параіліся са старэйшым сябрам ды і прадпрынялі штосьці добрае. Якая высакародная душа ў Клаўдзі Мікалаеўны!..

**31 кастрычніка 1945 года**

Як і ўчора, пайшлі не снедаўшы. Толькі ўваходжу ў клас, а Міхаіл Кандрацьевіч (дырэктар) кажа: «Будзеш “камендантам” па перасяленні ў другую аўдыторыю». А пасля абняў, дзівак, і гаворыць: «Выдатніца наша... Малайчына, добрая слава аб табе ідзе!» Я адказваю: «Калі ўзяўся за гуж, не кажы, што не дужы». А ён: «Вось, вось, гэта па-мойму!» Перацягнулі сталы і лаўкі і размясціліся ля дзвярэй кабінета дырэктара.

На ўроках усе ходзяць, пацяшаешся міжвольна, смешна заўсёды. А па алгебры выклікаў П. К. — быццам снег на галаву. «Пяць» паставіў на новым месцы. Пытаюся ў М. К.:

— Ці доўга тут вучыцца будзем?

— Да Кастрычніка-свята.

— Ну, значыць, можна абсталёўвацца?

— Так, пэўна.

Прыбілі партрэт з вянком, тры плакаты. А ў 16 гадзін рэпетыцыя хору (запісалася). Прыйшла дамоў, павучыла і ўзялася «дыміць». Дождж пайшоў, гром прагрымеў і маланка бліпічэла...

**1 лістапада 1945 года**

Якое няшчасце ў К. М. — прапала карова! Згубілася недзе... Так шкада, як сваю. Няхай бы знайшлася.

І забаўнае жыццё на новым месцы! Зубы скаліш увесь дзень, хоць і млосна ад жадання есці.

На днях атрымала кіло цукерак. Вось будзе падарунак маме і Марусьцы! Па рускай літаратуры паставіў Барбарчык «5». Змагацца з усіх сіл, каб паменш «чацвёрак»! Паршывая адзнака... Таксама засмучаюся, быццам «двойкай».

Пачытала ўрокі, аформіла загаловак насценгазеты. Узяла чытаць «Жанчына ў народнай творчасці», спатрэбіцца...

**2 лістапада 1945 года**

Па прыродазнаўстве першай выклікалі. «Пяць». Па геаметрыі — таксама. Склала

спіс, сабрала па 10 кап. і атрымала хлебныя карткі. Нарэшце, з'явіўся хлеб! Прасіла адчайна Любоў Мікалаеўну і, дзякуй ёй, атрымала 3 кг на старую картку. Але што ж з яго? За раз бы з'еў!..

Маня атрымала 500 г цукерак. Пасля ўрокаў — рэпетыцыя. Дапісала верш і панесла на праверку А. А. Сапраўдны крытычны працэс прайшоў ён! І з пункта гледжання лірычнага, і па змесце, і па размеры, і па ўнутранай будове. Месцы два няўдалыя — выпраўлю. «Смела выступай з ім!» — сказала Антаніна Антонаўна. Запісала ў літаратурны гурток. Шмат чаго добрага параіла.

**3 лістапада 1945 года**

Панесліся, у пакоі пакінулі хаос — заспалі з Маняй. К. М. з'явілася на ўроках — знайшлася яе кароўка! І па педагогіцы «пяць» паставіла. Па алгебры пісалі пісьмовую работу. Рашыла. Хлеба кіло — што Бог паслаў! Заданне: «Як хочаш, а тры камсамольцы рыхтуй!» І гаварыла, і даказвала, і прасіла — ні адна не жадае ўступаць. З атрыманых цукерак сабралі з усіх па адной К. Н. Хоць гэтым дапамаглі. Верш аддала Пазняк у насценгазету вучылішча і Галькоўскай — у класную. Трэба расці, толькі ўверх, не гледзячы ні на што! Маня вымыла падлогу, зацягвае песні, лежачы, і кажа: «Навек запомніцца матыў "Эха"».

За сцяной дзяўчаты вядуць размову пра тое, у колькі год іх маці выходзілі замуж...

**4 лістапада 1945 года**

На двух апошніх уроках не была. Сёння нядзеля. А Маня дык зусім прапускае — сыходзіць з урокаў, кажа, што ў галаве кружыцца, нічога не чуе, што гаворыць выкладчык, у вачах цёмна... Відаць, і ў мяне тое ж самае... Вайна пакідае свае сляды на нашым здароўі...

Пабегалі па рынку, купілі «хлеба» за 7 руб. і за 10 руб. кавалачак чорнага мыла. Трэба ж будзе памыць усё, а то не адрозніць, што зямля, а што — ручнік (адной вадой не адмываецца нішто). Вось да чаго ўмовы давялі!.. Ну што за чалавек Клаўдзя Мікалаеўна?! Як родная, клапоціцца і душой хварэе за нас. Выпрасіла ў дырэктара нам кашолку бульбы, картку новую атаварылі (чаго нікому нельга дабіцца). І сама абяцала даць буханачку хлеба. Ці ж забудзеш калі ўсё гэта?! Ніколі!.. Вельмі цікава і весела праходзіць рэпетыцыя харгуртка. Чаго толькі не творыцца?! Заўтра выступаем. А надзець нечага… Цяпер буду пісаць свой верш да таго часу, пакуль не зацвердзіць райліт...

Разам з Маняй напішам артыкул у газету (раённую).

**5 лістапада 1945 года**

Зранку зноў пайшлі рэзаць дровы да К. М. і адпрацавалі чатыры ўрокі. Маня зусім не пайшла на заняткі, а я адсядзела пасля тры ўрокі. Справілася з работай і папрасілася дадому. Адпусціла класная (ва Ушачы, да мамы і Марусі). Ну а Маню Л. Н. — нізашто, баіцца, кажа: «Ідзі да Б. Я.» Гэты: «Ідзі да М. К.» А М. К. зусім не пусціў... Генеральная рэпетыцыя. Вечар. Зноў кіно захапіла — «Цётухна Чарлея». Урачыстая частка. Я выбрана ў прэзідыум. І такая радасць і гонар — мой верш «Пришёл Октябрь» зацвердзіў райліт. Прадэкламавала. Ну а Маня цудоўна выканала песню «Два друга» пад акампанемент Пазняк (з гітарай). Вельмі шкада, што дадому нельга. Ну што ж, скарымся лёсу...

**6 лістапада 1945 года**

Два ўрокі правучыліся, два — шагалі ўсім вучылішчам па вуліцах гарадка — трэніраваліся ў хадзьбе. Пасля ўбралі клас. Туды-сюды — і вечар зноў. Чытала верш. «Малайчына!» — грымела ў зале... А Маняй дык усе захоплены былі! Выдатна выконвала нумары, а сама такая прыгожая, сімпатычная! Вось як мяняе чалавека адзенне!.. А каб жа яно, гэтае адзенне, ды сваё ўласнае было?!

**7 лістапада 1945 года**

Учора ўсе намаганні і хітрасць прыклалі, але вырваліся ад «всевидящих глаз» дырэкцыі, звязалі хатулі, забілі дзверы цвіком у сваім «жилье» і, дай Бог ногі, паімчаліся дадому, да роднай мамы і сястры малодшай. Дарога, як заўсёды, свая, знаёмая. Сцямнела. Калі б не дагналі дзядзьку з возам, з вінтоўкай і пісталетам (з каторых ён паліў увесь час), не дайшлі б дадому, — заначавалі б

дзесьці. Страшна было ў лесе, праз які ідзе дарога ва Ушачы... Станіліся, што на нагах стаяць не маглі, але амаль усю дарогу спявалі песні. Нарэшце, заблішчэлі агні Ушачы! І такое глыбокае пачуццё ахапіла душу, што я ішла, а з вуснаў проста і спакойна ліліся словы верша... Нашы спалі. Узрадваліся. Мама — хутчэй за стол садзіць нас, налівае па чарачцы нейкага падабенства на віно, збірае сякія-такія «закускі», прыгатаваныя да свята і да нашага прыходу... Забраўшыся на печ, павялі гутарку пра жыццё, пра нашу будучыню... Мама працуе... Маруся вучыцца ў школе. Цяжка ім...

Танечка, родная і незнаёмая нам, з Кіраўскай вобласці, з Куршакова, якой Сяргейка некалі пісаў пісьмы з фронту, — прыслала пісьмо. Вось радасці! Пра мяне пытаецца, фота просіць, заве прыехаць да іх. Мабыць, і з’езджу ўлетку...

Сёння прагледзела прысланае ў пасылках (з воінскай часці, у якой ваяваў браток). Нічога, усё спатрэбіцца.

Харчуемся страх як добра! Тут замест хлеба даюць булку пшанічную па 1 руб. кілаграм, белая-белая. Пашыла тапачкі з анучак. Папяём, пагутарым, парадзімся, дапаможам па гаспадарцы (хоць і дужа беднай!). Шкада маму. Як яна б’ецца, якое ёй гора з намі!..

Хутка спаць, крыху падумаю над вершам...

**10 лістапада 1945 года**

Учора схадзіла ў сваю былую школу. Першае, што кінулася ў вочы па прыходзе ў клас, — гэта беспарадак, бескультурнасць. Якая вялікая розніца паміж школай і тэхнікумам, студэнтам і вучнем! У класе толькі два хлопцы. Аддала Е. М. пачытаць вершы. А верш «На родной огонёк» — зусім удалы, хоць крыху змагла выразіць пачуцці. Пісьмо маё ўсе настаўнікі чыталі і вучням расказвалі (з вучылішча пасылала). Сёння стаяла за хлебам, мыла адзежу, рэзала дровы, што прынеслі з лесу... Хацелася б заўтра пайсці ў Лепель, каб не прапусціць урокі, але не ўсё падрыхтавана. Маня з Маруськай спяваюць каля печкі (дровы сырыя, не гараць, яны дзьмуць на іх, падкладваюць штосьці сухое)...

**11 лістапада 1945 года**

Сон дрэнны бачыла. З 5 гадзін раніцы да адзінаццаці мёрзлі ў чарзе па хлеб. Стаяла побач з Алесем Антонавічам. Абяцаў даць падручнік. Атрымалі на траіх 6 кг хлеба (стаялі ўтраіх)... Як няўдала мама купіла на базары бацінкі Марусі. Зусім гнілыя, а заплаціла 300 руб. Што будзем рабіць зімою з абуткам? Хоць босай хадзі. Бот сама рамантавала. Усё ўжо складзена. Заўтра ідзём. Украінка, што жыве ў суседкі, кажа: «Далей у лес — больш дроў. Далей у свет — больш лепшага...» Па-мойму, бывае і інакш... Страшэнная ахвота чытаць... Няма часу. «Схапіла» ўвечары ўрыўкі з «Палескіх Рабінзонаў», «Похождений Кручинина» і іншыя. «Не на пользу книги читать, коли в них вершки брать» (прымаўка). «Взгляни на Неаполь, а потом умирай», — гавораць італьянцы пра гэты горад.

**13 лістапада 1945 года**

Учора выйшлі з дому з цёмным. Як на нашае гора, абледзянела ўся зямля — хоць раздзярыся на лёдзе! Маня як выйшла, так і «расцягнулася», падвярнула нагу і, вохкаючы, вярнулася. А я пайшла (мацней мая воля). І прыйшла гадзіны ў 4 вечара (45 кіламетраў). Сустрэла ў самым Лепелі хлопца з Ушач (Аніскевіч), Сярожу ведае.

У пакой страшна ўваходзіць... Ой, горачка-гора... Узяла абед — юшка з рыбай (крыху пахне гнілым). Гляджу — ідзе Маня з такім харошанькім лейтэнанцікам. Я выбегла насустрач ёй, зайшоў і хлопец. Заспяваў песню. Вучыўся раней у Мінскім музычным вучылішчы. Гэта яны сустрэліся выпадкова па дарозе з Ушачаў. Грэліся ля «буржуйкі», потым гутарылі пра рознае. Цікавы ён чалавек!

Пісьмо ад Георгія Мацвеевіча Загаруева. Дэмабілізаваўся, шчаслівы, застаўся жывы з вайны аднапалчанін братаў...

**14 лістапада 1945 года**

Пайшла на ўрокі. Па бел. літ. — «пяць» паставіў. Якім цікавым быў камсамольскі сход. Прэзідыум: Акунёў, Кандрацьеў, Іваноў і Лось. Першых два — завуч і дырэктар. Усё талковае, дзелавое, важнае. Цяпер думаю адно: чытаць, не зважаючы ні на што, літаратуру, газеты, болей працаваць...

Прачыталі лепельскія дзяўчаты ў 2-м «Г» «Моё начало» і вельмі горача адгукнуліся (гэта яны Мані казалі, думалі, што я і не ведаю).

Соні і Мані напісала вершы ў іх альбомы.

**15 лістапада 1945 года**

Гэтыя дні пакуль што нешта ядзім, у пакоі холад, прынясём у гарлачыку булён — замерзне да вечара. Па ізлажэнні — «5».

На свабодным уроку чытала даклад Молатава, на другім — дыктавала арыфметычныя правілы студэнткам. Пасля ўрокаў зноў працавалі над дакладам (2 главы). Латышаву ўвяла ў рэдкалегію. Напісаць устаў педвучылішча. Гаварыла Іванову аб Віннік. Прыказаў 5 чалавек у камсамол да 20-га. А нікога за вушы не ўцягнеш. Адным словам, за дзень трашчыць галава.

Маня піша дамоў пісьмо, каб прыслала мама даведку, а то вылічылі са стыпендыі за навучанне. Што рабіць з месцам жыхарства? Змёрзнеш жывым...

**16 лістапада 1945 года**

Клопаты, работа. А больш за ўсё — з уцягненнем у камсамол. Я ніколі-ніколі не перастану ганарыцца і не буду шкадаваць, што я — камсамолка.

Буду «сыпаць» пытанні ўступаючым. Эх, юнацтва! Хоць гора і нястача, але душа і розум стрэламі ўперад імчаць!..

Пісала дыктант па бел. мове. Зусім лёгкі, адну ўсё ж «уклеіла». Сем талонаў узялі. А Маня і іх група фатаграфаваліся.

Чытаю Лермантава. Сяджу адна, сон зліпае вочы. Маня спіць. Баюся павярнуцца, каб не разбудзіць, а то гвалт падыме за газу (ды і праўда ж, не будзе як урокі вывучыць без гэтай капцілкі).

Дамовілася з Віннікам наконт рамана «Любоў». Прачытаю.

З кватэрай нічога не атрымліваецца.

**19 лістапада 1945 года**

Учора — выхадны. Рабіла ўрокі, працавала над вершамі. Адзін верш і 6 радкоў напісала. З'елі па кавалачку хлеба (учора не елі яго) і пайшлі. Па бел. дыктанту — «5». Атрымала хлебныя карткі на ўсю групу. Далі нам капусту (крыху мёрзлая) і 2 кг хлеба (што і не снілася!). Дастала добрую кнігу «Похищение луны» Гамсахурдзія. Таўшчыня — чатыры пальцы.

А сёння спрабавала крыху запытаць сваіх уступаючых у камсамол аб палітыцы — нічога «ні ў зуб» не ведаюць. Заўтра сход. Аддала альбом Г. Л. Намалюе, напіша. Гэта ж будзе памяць, мабыць, на доўгія гады жыцця...

Маня зноў за газу вохкае і злуецца. Эх, каб было ўволю цяпла, святла, паперы — чорту галаву звярнула б!..

**20 лістапада 1945 года**

Тая ж абстаноўка. І на перапынках, і на ўроках, карыстаючыся кожнай хвілінай, чытаю. Па гісторыі — «5». На адным уроку дрыжыш, на другім — жартуеш і смяешся без канца.

Перачытвала альбомы дзяўчат — у некаторых ужо «поспехі»...

Даў даведку дырэктар на права жыхарства ў пакоі А. А. Можа, будзе цяплей.

Чытаю: «Калі хлопца шмат лаяць, — гэта малайчына хлопец!..», «Не такі сляпы, каб не адрозніць мачту карабля ад саломінкі, і не такі глухі, каб зблытаць мяўканне кошкі з рыканнем ільва...» (Гамсахурдзія).

**21 лістапада 1945 года**

Устала з цёмным. Варыла «суп». Хлеба няма, прынеслі капусту і хлябалі так. Холадна. Успамінаем дом. Хоць і там «не рай» (у разбітых снарадамі сценах), але не тое, што тут. Нічога не атрымліваецца з перасяленнем. Цікава: людзі, якія харчуюцца ўсім, за выключэннем «птушынага малака», жывуць у цяпле, вяселлі, багацці — атрымліваюць хваробы ад малакроўя...

**24 лістапада 1945 года**

Быў камітэт. Прымалі «маіх». Сход вучылішча. Вылучылі Міхаіла Кандрацьевіча ў члены ўчастковай выбарчай камісіі. Пачынаецца падрыхтоўка. У новым нумары газеты вучылішча красуецца маё імя. Ды як «распісалі»! Так вось і трэба рабіць у педагогіцы: калі хочаш, каб вучань быў лепшым, добра вучыўся і паводзіў сябе, — больш хвалі яго і нават узвысь. Так і я вось: на кожным кроку ўспамінаю словы з газеты —

«добра і чула адносіцца да таварышаў, сама вучыцца выдатна і ўсім дапамагае...» I калі б нават не хацелася так паступаць, — замучае свядомасць, што напісанае разыдзецца з сапраўднасцю. Л. Н. ад’язджае. З’явіўся новы гісторык.

Напісала верш. Па рус. дыктанту — «5». А вусны вучу зусім мала. Адпадае ахвота вучыць на пусты страўнік, бесперапынныя дрыжыкі. Не бачым хлеба. Падпісаў дырэктар дзве карткі, дык хлеба не пякуць. Няма дроў, газы, разваліліся на нагах «атопкі», няма рукавіц, бані, адзежы, паперы і іншага.

Хутка скончу чытаць «Похищение Луны». Ей Богу, з гэтай кнігі можна многаму навучыцца: і ў знаёмствах, і гулянках, аб адносінах хлопца да дзяўчыны і мужчыны да жанчыны; даведацца аб культуры, норавах і быце ўсходніх народаў; цікавая грузінская азбука. Дзякуй Клаве.

**25 лістапада 1945 года**

Выхадны. Маня ўсё ранне стаяла ў чарзе па хлеб, а я варыла зацірку з аржаной мукі (дала К. М.). Згубіла была ўжо ўсялякую надзею, як нечакана Маня нясе булку хлеба. Вось радасць! Цэлы тыдзень не елі. Затым схадзілі на базар. Усё трэба, а грошай няма. Купілі 6 цыбулін па 1 руб. штука — і ўсё... Прынеслі дзве палкі дроў, папрасілі пілы ў І. Я., распілавалі іх (палкі «сцягнулі» ў школьнай бакавушцы). Маня думае дадому схадзіць. Жыццё, жыццё... Нейкіх два месяцы прайшло, а гадамі здаліся...

**26 лістапада 1945 года**

Са страхам гляджу на зусім падраныя боты. А зіма ўступае ў свае правы. І не раз праклінаю сябе за тое, што не паслухала маму ў пакупцы ботаў яшчэ тады, калі атрымала 600 руб. (мне далі дапамогу, яна прыслала нам грошы). Холадна. І каб не замёрзнуць, прынялася за рознага роду «гімнастычныя практыкаванні».

Прыйшлі Саша і Валя, здзівіліся маёй худобе. Заўсёды адчуваю клопаты Клаўдзі Мікалаеўны. Я яшчэ не сустракала ў сваім жыцці такіх людзей. Ведай жа, дарагая! І маё сэрца не з каменя, і не такой я нарадзілася, каб забыць тваю дабрыню!

**28 лістапада 1945 года**

Сёння такая стратэгічная думка прыйшла да мяне, што ой-ёй-ёй! Не адкрыю нікому да верасня 1946 года...

Баліць горла і, наогул, нездарова...

Адзнак няма. Атрымалі выклік: звоніць мама з Ушач. Якраз сход быў камсамольскі, папрасілі дазволу, пабеглі на пошту і... чуем мамін голас. Шмат добрага сказала, клапоцíцца мама, усе сілы ўбівае на нашае выхаванне. І такое гарачае пачуццё авалодала сэрцамі, што ідзём і ўсклікваем: «Родная мамачка! Жыві многа-многа год, на радасць нам, на пацеху! Мы заўсёды з табой, дарагая!..»

Выбралі членам камітэта.

**29 лістапада 1945 года**

Прыйшлі і... гадзіны дзве распальвалі «дровы» ў печцы. Пракляла і жыццё, і людзей, і лёс...

Падумаць толькі: мне павысілі стыпендыю на 25 працэнтаў!

Заўтра «коцім» дамоў. Маня фота сваё ўзяла, нічога выйшла. Усё сабрана, толькі б дачакацца заўтрашняга дня. А ўрокі гэтак не хочацца прапускаць.

**2 снежня 1945 года**

Толькі што вярнуліся з дому. Туды паўдарогі ішлі, а палову — ехалі. Нарэшце, я абулася, крыху памылася. Мані не далі людзі (як заўсёды, начуюць у нашай халупе, знаёмыя, родныя).

Гора тут, дома. Як ні стараешся маўчаць, а маму ўсё роўна раскрыўдзіш. Здароўе слабае — ад дрэннага харчу, холаду, трывог за жыццё...

Здзівіла пісьмо капітана Недзікава... Ён — камандзір воінскай часці, дзе ваяваў Сяргейка. Расказвае аб ім, аб вайне, франтавых буднях...

**5 снежня 1945 года**

Дзень Канстытуцыі. Урокаў не было. Учора рус. літ. выкладаў «новенькі». Адразу бачна, што разумее і прыпаднесці можа ўмела. Такім чынам, скончылася бяздзейнасць, «барбаршчына», і пачалася «новая эра» ў нашай вучобе.

Вось ужо пераносімся на новае месца жыхарства. Прыклеілі карцінкі да сцяны,

заслалі койку, сяк-так зацеплілі печку (засталася пустая скрынка старога гаспадара, разламалі яе на дровы) і, здаецца, зусім падобна на жыллё. Проста дзіўна, што можна сядзець без «пальто» і курткі. Цяпер толькі бяда па дровах.

Стаім ля акна і хлябаем аўсяны суп. Нечакана, глянуўшы ў акно, я ўскрыкнула: «Ой, Маня! Карова наша згубленая ходзіць!» І кулем рынулася на вуліцу глядзець. Маня за мной. Так, гэта яна, наша Цялутка! Не ў сілах стрымаць слёзы — раву на ўвесь пакой... Шмат прыйшлося пахадзіць, пашукаць, але ўсё ж пазналі, хто яе цяперашні гаспадар: гэта Паліцай Марыя, жыве па вул. Дзяржынскага, 44. Ну, трымайся, фашыстка! Ужо гэта табе дарэмна не пройдзе! Няхай атрутай стане табе і тваім дзецям малако нашай кароўкі!

**6 снежня 1945 года**

Лічу дні, ці хутка тыдзень скончыцца. Сёння па аплікатуры «4» атрымала. Па маляванні паставіў С. — «4» і «5». Духоўна дзень пражыла добра. На абед давалі гарохавыя клёцкі, праўда, іх амаль не бачна ў гарлачы. Сход аб Канстытуцыі, даклад. Новы завуч, з выгляду — малайчына. Узяла «Вершы» Гейнэ. Няма святла, але ўрокі «зубамі і рукамі» ірвала — вывучыла.

З пакоя дзяўчат найшло шмат дыму. Яны ўжо «настаўніцы», урокі даюць. Якія цудоўныя вершы піша Гейнэ! Асабліва «Сновиденья», «Донна Клара» і інш.

**8 снежня 1945 года**

Сёння гэтак добра пачаўся вучэбны дзень! Новы настаўнік выклікаў па класіцызме. Так старалася адказаць! «Пяць» паставіў.

Але гора-злашчасце заўсёды стаіць за плячыма: украў нехта пальчаткі. Так шкада, становішча дурное: мароз, рукі голыя, а дзе возьмеш іх?.. «Знайшлі» палена дроў. Неяк раздабылі паўлітра газы. Засталося 30 руб.

**10 снежня 1945 года**

Сёння, ідучы ў сталоўку за абедам, «расцягнулася» ля самых ног каня з возам, разбіла гарлач і не паднялася... Доктар сказаў: слабасць ад недаядання...

Было сёння і добрае. Сам дырэктар Міхаіл Кандрацьевіч прыйшоў у пакой да нас з Маняй і заставіў напісаць заяву на прадукты. І вось мы атрымалі 4 кг гароху, 6 кг капусты, 500 г солі, 500 г масла! Але плаціць за гэта пазычалі грошы.

Чытаю шмат: Пушкіна, Горкага, С.-Шчадрына...

**12 снежня 1945 года**

Сёння выклікалі па ваенна-фізічнай падрыхтоўцы — «5». Пасяджэнне камітэта. Маня атрымала стыпендыю — 200 руб. (на другім курсе). Хлеба няма. Устанем — гароху ў кішэню і на ўрокі (дроў жа няма, каб яго зварыць). Запазычалі 30 руб. Сёння пісалі дыктант па рус. мове і атрымалі 3 кг мукі. Вельмі стамілася думка, усё блытаю...

**14 снежня 1945 года**

Новы настаўнік па мове казаў: «Я шмат вучыўся. І таксама было цяжка, але ніколі не гаварыў і не скажу, для чаго вучыўся. Так і вы выкарыстоўвайце хоць невялікую магчымасць атрымаць адукацыю...» І я прыходжу да вываду: трэба вучыцца, але вучыцца дрэнна ці пасрэдна — не па-мойму. Трэба «на выдатна»! Было б лепш, каб умовы жыцця былі хоць пасрэдныя. А то вось жыві, як салдаты ў грамадзянскую — не мыўшыся, у брудным усім, у холадзе, голадзе. Не гледзячы на гэта, сёння — «5» па педагогіцы. 25-га заканчваецца чвэрць. І я стараюся. Учора была нарада старастаў. Адпрасілася. Сабрала ўзносы, праверыла напісаны артыкул у газету. Чытаю «Солнечное утро». Слухаць, адказваць, іншым дапамагаць і г.д.

**15 снежня 1945 года**

Якімі доўгімі здаюцца дні, а нядзеля прыйдзе — не ўбачыш. Учора таксама пілавалі дровы ў К. М. Дала нам некалькі паленцаў распілаваць для сябе. Увечары зварылі зацірку з той мукі. Па бел. — «5». Усю ноч сны бачыла: быццам лятаю ў паветры, узмахну рукамі — і вышэй узлятаю, а за ногі чуць не злавіў нейкі ваенны. Потым, бачу ў сне, адзежу збірала, абутак — колькі многа!.. Прачнулася, устала і пайшла «шукаць» дроў (з Маняй), глядзім — на дарозе ляжыць прасціна. Паднялі. Чыя — невядома.

Змарылася. Рашыла алгебру.

**18 снежня 1945 года**

Канец чвэрці. Як бы не атрымаць дзе не трэба «чацвёрку»! Сёння па фізіцы і рус. мове — «5». Хоць бы вызвалілі ад старасты. Пры такіх умовах доўга не пражывеш, хвалююся за здароўе. «Дабыла» рукавіцы, а то ўжо скура на руках абмерзла.

Ад імя класа запрасіла дырэктара, завуча і К. М. сфатаграфавацца з намі. Згадзіліся.

Маня атрымала хлеба, я зварыла неяк капусты. З'елі чыста, але ў страўніку беспарадак.

**21 снежня 1945 года**

Ва ўсіх кантрольных нарабіла памылак. У вучылішчы пачалася партканферэнцыя, і таму нам няма ўвесь дзень спакою, ходзяць усюды... Зноў мяне «прыбіралі» ўсім класам. І зараз сяджу ў Любінай шапцы і Ларысіным паліто. Вохаюць, што я зусім змянілася, папрыгажэла...

«Питаемся» раз у дзень вадзічкай ад капусты мёрзлай. Хоць бы хутчэй канікулы!

**22 снежня 1945 года**

Ну што толькі сёння перажыта — нельга ні расказаць, ні апісаць! У вачах і без таго цёмна. Прыйшла на заняткі і ўпэўнілася, што... згублены камсамольскі білет. Як я толькі вытрывала дзень?! Калі б валасы былі чорныя, была б бачна сівізна. Не пайшла нават здымацца, хоць вельмі хацела раней. І самае галоўнае — трэба ісці на пленум райкама. Сядзела і баялася глядзець у твары людзям. На пленуме ўсё цікава было, шмат газет прагледзела.

Позна ўвечары, атрымаўшы талоны на вячэру ў гарадскую сталовую, прыходжу дамоў, а Маня падае мне мой білет. Гэта — навука на будучае. І вось мы з Маняй добра павячэралі: у сваёй сталовай 10 абедаў узялі і ў гарадской тры з'елі («абеды» амаль усе «змясціліся» ў нашых страўніках!). Праўда, дужа цяжка ад вадзяных «блюдаў» стала. Але задаволены гэтым заключным багатым харчам за дзень...

**23 снежня 1945 года**

Пахадзілі па базары. Купілі дзве шапкі за 170 руб., журавінаў дзве шклянкі. Увечары секлі дровы ў І. Я. Маня прынесла разам з сякерай ад І. Я. бульбы, морквы і качан капусты. Ёсць людзі свядомыя...

**24 снежня 1945 года**

Сяджу ў класе. Адказвае ўрок Шакіна. Барадаўка атрымала заўвагу за падказку. Галя сядзіць побач і малюе ў альбом, заглядваючы ў маю запісную. Колькі (зараз адабрала Казак ручку, папрасіла аловак у Галі) сілы кладу, каб уцягнуць у камсамол! Але вось ужо Чуклай піша заяву. Варошку таксама, мабыць, уламаю.

Хадзіла на медагляд разам з дзяўчатамі. Прызналі годнай у 1-ю групу на заняткі па фізкультуры. Я вельмі рада! Аднесла справы Іванову. Як гара з плячэй звалілася.

Зараз урок спеваў. Дзяўчаты «гарланяць» песню (а галасы зусім дрэнныя).

**25 снежня 1945 года**

Дзень прасядзела недарэмна — па арыфметыцы і геаграфіі — «5». Склала верш «Табе, юнак», які змешчаны ў газеце суседняй групы.

Гэта адказ аднаму выхваляку. А што там маўчаць!

На ўроку педагогікі атрымала 200 руб. стыпендыі (павышаная). Хлеба не атрымалі, хоць і сварыліся, і прасілі...

Канчаткова рашыла, што дамоў, ва Ушачы, пайду ў чацвер. Заўтра адбудзецца сход, фота сваё атрымаю і — «в путь-дорожку дальнюю»... А зараз вось папрацавала над «Недорослью» і «последую примеру Марии Яковлевны» — спаць.

**26 снежня 1945 года**

Хадзіла на рынак. Купіла кавалачак хлеба за 8 руб., «паклявала» і ўсё баялася, каб Маніну частку не з'есці.

Прасілася ў К. М., каб адпусціла дамоў — не пускае. Ну што ж! Сама пайду.

Расказала змест «Недоросля», па прыродзе — «5». Пахадзілі па магазінах з надзеяй купіць што-небудзь маме і Марусі, але нічога па сваіх грошах не знайшлі... Ісці прыйдзецца ў бурках. Шкада іх.

**28 снежня 1945 года**

І вось я — дома. Выйшлі ранкам з Лепеля, ідзём, цёмна яшчэ. У Старым Лепелі нас

узяла, на шчасце, спадарожная машына. У кабіне холадна было. У лесе Баркоўшчыны гадзіны дзве стаялі — машына пад гару забуксавала. Прыехалі, нарэшце.

І сёння, ой, якая радасць: прыехаў дзядзька Грыша! Не стрымаліся ад слёз ні я, ні Маня, ні мама! Які прыгожы, добры! Частавалі, чым маглі. Усё расказваў: і пра баявыя франтавыя паходы, і пра разлуку з роднымі, пра баі на варожай зямлі... Хоць адзін дарадчык ёсць у нас. Вось ужо гадзіна ночы, а мы ўсё сядзім і гутарым... Дзядзька Мані дае рэкамендацыю ў кандыдаты партыі. Мне раіць пісаць вершы і просіць прысылаць яму для кансультацыі. Шмат узнагарод мае... (ён да вайны быў дырэктарам сярэдняй школы).

**29 снежня 1945 года**

Толькі што закончыла пісьмо Тані (у Куршакова, Кіраўскай вобласці). Дзядзька паехаў дамоў. Як мяняецца жыццё і настрой! Зусім нядаўна мне было гэтак цяжка на сэрцы, што хоць плач. А зараз вось усё зрабіла, спяваю громка і ўвесь час стаяць у галаве вядомыя словы Маякоўскага: «Лет до ста расти нам без старости...» Я радуюся таму, што сяджу дома і яшчэ шмат дзён правяду тут; радуюся таму, што маю такога добрага дзядзьку Грышу, якім магу ганарыцца; радуюся і таму, што магу напісаць пісьмо Тані і Алене Іванаўне Хаустовым і атрымаць цёплы адказ; радуюся за Маруську, такую любімую ўсімі вучнямі і настаўнікамі ва Ушацкай школе; і, нарэшце, радуюся і ганаруся тым, што я маю права вучыцца, вучуся добра, магу хоць крыху развіваць свае здольнасці і талент (калі яны ёсць) і бачыць вынікі сваёй працы (хоць пакуль што зусім маленькія). Увечары пайду ў ДСК (дом сацкультуры), там будзе нейкі «бал» ці што іншае, пабуду, прыму ўдзел (прасілі ж са школы камсамольцы, ды я і сама рыхтавалася да сустрэчы са сваёй школай, напісала нават новыя вершыкі).

**31 снежня 1945 года**

Слухала даклад і была на танцпляцоўцы. Больш там нічога не было. Сёння з раніцы стаяла ў чарзе па хлеб і цукар. Затым напісала пісьмо Каці і ў Маскву, у Народны Камісарыят Абароны. У альбом перапісала вершы Георгія Мацвеевіча Загаруя аб смерці Сярожы і аб Радзіме. Увечары зноў пайшлі з Маняй у ДК, паслухалі другі даклад, пабылі на танцах (было моладзі больш, чым удзень, але сумна там усім, не было сапраўднага кіраўніка). А вось танцаваць буду вучыцца, іншы раз урокі не давучу...

**1 студзеня 1946 года**

Проста не верыцца, што наступіў Новы год — 1946!..

*Працяг будзе*





*Віктар МАЛЫШЧЫЦ*

# ЗОРКА ЗА ЗОРКАЙ

***Звычайным летнім днём 6 чэрвеня 2012 года на небе адбылася падзея, якую мы наўрад ці зможам яшчэ калі-небудзь убачыць, бо паўторыцца яна толькі ў снежні 2117-га. Праходжанне Венеры па дыску Сонца. Здавалася б, што такога незвычайнага: прайшла планета па Сонцы — і нічога не змянілася, ды і абарот вакол нашага дзённага свяціла яна робіць не за сотню гадоў. Але чамусьці астраномы ўсяго свету з нецярпеннем чакалі гэтай падзеі, спецыяльна ехалі і ляцелі ў месцы з сонечным надвор'ем, каб усяго толькі ўбачыць невялікі чорны дыск на фоне нашай зоркі.***

***З'ява гэтая, без перабольшвання, дазволіла нам дакладна зразумець маштабы Сусвету і зрабіць яшчэ шэраг цікавых адкрыццяў.***



## ПЕРШЫЯ НАЗІРАННІ

На адзін абарот вакол Сонца Венеры трэба сем з паловай месяцаў. Паколькі яна знаходзіцца да Сонца бліжэй, чым Зямля, то дзесьці кожныя паўтара года яна даганяе нашу планету і становіцца паміж Зямлёй і Сонцам, на адной з імі лініі. Астраномы называюць такое становішча планеты ніжнім злучэннем. Але арбіты, па якіх рухаюцца планеты, крыху нахіленыя адна адносна другой, і часцей за ўсё атрымліваецца, што Венера для назіральніка з Зямлі праходзіць ці крыху вышэй Сонца, ці крыху ніжэй. Патрапіць на сонечны дыск ёй удаецца толькі два разы на 120 год.

Першы раз астраномы прадказалі праход Венеры па дыску Сонца ў XVII стагоддзі. Разлікі выканаў Ёган Кеплер, выбітны астраном таго часу. Ён, як вядома, заклаў пачаткі нябеснай механікі — навукі, якая вывучае акрамя астатняга і рух планет вакол Сонца. Менавіта нябесная механіка дапамагла Кеплеру даведацца, што ў 1631 годзе еўрапейскія астраномы змогуць назіраць гэтую з'яву. Еўропа ўспрыняла навіну вельмі ўсцешана — толькі два-тры дзесяцігоддзі таму пачалі ствараацца першыя тэлескопы, якія дазволілі б правесці навуковыя назіранні. Аднак Кеплер не мог пахваліцца высокай дакладнасцю разлікаў — насамрэч на большай частцы Еўропы праходжанне Венеры назіраць было немагчыма.

Разлікі Кеплера ўдакладніў англійскі астраном Джэрэмі Хоракс. 4 снежня 1639 года ён з нецярпеннем чакаў з'явы. Згодна з разлікамі, Венера на дыску Сонца павінна была з'явіцца роўна ў 15.00. Але на гадзінніку было ўжо 15.10, кароткі зімовы дзень падыходзіў да свайго канца, а з'ява не пачыналася. Нарэшце ў 15.15 ён заўважыў, як адзін край Сонца атрымаў невялікую «ўмяціну», якая, пашыраючыся, праз некалькі хвілін ператварылася ў дыск планеты. Да заходу Сонца было яшчэ паўгадзіны, якія дазволілі вучонаму зрабіць вымярэнні і замалёўкі. Адначасова з Хораксам блізу Манчэсцера за Венерай на Сонцы назіраў і яго сябар Уільям Крабтры. Вынікі двух назіранняў дазволілі Хораксу ацаніць адлегласць ад Зямлі да Сонца. Ну, няхай вучоны крыху памыліўся, але ж ягоная ацэнка стала самай дакладнай на той час.

## ВЕНЕРА І АДЛЕГЛАСЦІ

Цікава, як вучоныя па Венеры вымяраюць адлегласць да Сонца? Яна, выражаная ў адлегласцях да Венеры, стала вядомай дзякуючы разлікам Ёгана Кеплера. Але звязаць гэтую адлегласць з зямнымі адзінкамі вымярэння вучоныя не маглі. На дапамогу прыйшоў метад паралакса.

Сутнасць у наступным. Пастаўце перад акном які-небудзь прадмет і паглядзіце на яго то левым, то правым вокам. Заўважце, для левага і правага вока відарысы гэтага прадмета знаходзяцца на фоне розных аб'ектаў на вуліцы. Так і з назіраннем за касмічнымі аб'ектамі: калі паглядзець з розных кропак Зямлі на Венеру, то яна будзе бачная ў розных месцах Сонца. Значыць, у кожным месцы нашай планеты сама з'ява пачнецца ў свой час. Ведаючы рознасць гэтага часу для дзвюх кропак, можна ацаніць адлегласць да планеты, а затым і да Сонца.

А веданне адлегласці да Сонца дазваляе дакладна вызначыць, як далёка ад нас знаходзяцца бліжэйшыя зоркі. Веданне адлегласці да блізкіх зорак дазваляе вызначыць адлегласць і да далёкіх. Далёкія зоркі падказваюць, як вызначыць адлегласць да бліжэйшых, а затым і да больш далёкіх галактык. Такім чынам, невялікая (у касмічных маштабах) адлегласць да Сонца дазваляе адчуць (калі гэта толькі магчыма) увесь маштаб бясконцага Сусвету!

Неабходнасць дакладна ведаць адлегласць да Сонца прывяла да маштабных назіранняў праходжання Венеры ў 1769 годзе. За планетай-суседкай назіралі і руская імператрыца Кацярына II, і вядомы матэматык Леанард Эйлер, і нават падарожнік Джэймс Кук, які спецыяльна для гэтага выправіўся на Таіці. Англія, Францыя і іншыя краіны стварылі каля паўтары сотні назіральных пунктаў па ўсім свеце, расійская Акадэмія навук разаслала сваіх вучоных па неабсяжных прасторах імперыі. І тут праходжанне Венеры па дыску Сонца адыграла сваю ролю не толькі ў астраноміі: усе экспедыцыі акрамя астранамічных назіранняў праводзілі даследаванні клімату, геаграфіі, расліннасці і жывёльнага свету мясцовасці, што дало моцны штуршок для самых розных навук.

## ВЯЛІКІ НЯЎДАЧНІК

Каб здзяйсняць падарожжы працягласцю больш як год (а на меншае разлічваць няма як), трэба быць аддадзеным навуцы цалкам. Тут нельга не прыгадаць экспедыцыю французскага астранома Гіёма Лежанціля — як прыклад неверагоднай няўдачнасці. Для назірання за праходжаннямі Венеры па Сонцы 1761 і 1769 гадоў Лежанціль накіраваўся ў індыйскі горад Пандзішэры. Горад гэты быў сталіцай французскіх уладанняў у Індыі і адной з самых паўднёвых кропак, адкуль можна было назіраць з'яву. Падарожжа зацягнулася, астраному прыйшлося доўга чакаць патрэбны карабель на востраве Іль дэ Франс у Індыйскім акіяне. Калі ўсё ж такі фрэгат наблізіўся да берага, капітан яго даведаўся, што горад захоплены англічанамі, а ягоная цытадэль зруйнавана дашчэнту. Капітан вырашыў праплыць некаторую частку шляху ўздоўж берагоў Індыі, але дазнаўся, што і там зямля захоплена. Прыйшлося вяртацца на Іль дэ Франс. З-за вялікіх адлегласцей і неспрыяльнага ветру 6 чэрвеня 1761 года Гіёму Лежанцілю давялося назіраць за Венерай на дыску Сонца проста з палубы карабля. І хоць назіранні ён правёў з высокай акуратнасцю, ён не змог дакладна вызначыць свае геаграфічныя каардынаты: карабель няспынна рухаўся, гайдаўся на хвалях, ды й маятнікавы гадзіннік, па якім вучоны вымяраў час, у марскіх умовах даваў не вельмі праўдзівыя паказанні.

Астраном вырашыў застацца ў гэтым рэгіёне на восем год, каб дачакацца наступнага праходжання Венеры. Чаканне ён бавіў даследаваннямі навакольнай мясцовасці: апісваў побыт і стравы абарыгенаў, збіраў калекцыю раслін і ракавін. Нарэшце ён зноў атрымаў шанец апынуцца ў Пандзішэры, дзе цэлы год вывучаў надвор'е і клімат. Прасцей кажучы, усё спрыяла астранамічным назі-



ранням. Спецыяльна для іх нават была пабудавана невялікая абсерваторыя. Але ноччу 6 чэрвеня 1769 года неба раптоўна зацягнулі хмары, якія разышліся толькі а дзевятай гадзіне, калі ўнікальная астранамічная з’ява ўжо скончылася. І астатнюю частку дня, як на здзек, Сонца свяціла на ясным небе.

Расчараваны няўдачай, Лежанціль накіраваўся назад у Францыю. Але дадому не даехала ўнікальная калекцыя, якую ён збіраў усе восем год. Больш таго, на радзіме яго прызналі загінулым, а жонка выйшла за іншага мужчыну. Тым не менш, астраном знайшоў у сабе сілы вярнуцца да нармальнага жыцця. Ён уладкаваўся на працу ў абсерваторыю, зноў ажаніўся, у яго з’явіліся дзеці і, самае галоўнае, была выдадзена кніга, у якой апісваліся ўсе яго падарожжы. Гэта кніга стала першым творам у Еўропе, адкуль людзі даведаліся пра краіны Індыйскага акіяна. «Падарожжа па Індыйскіх морах...» і да гэтага часу чытаюць з захапленнем як прыгодніцкі раман.

## ЭФЕКТ ЛАМАНОСАВА — ПАМЫЛКА ЦІ АДКРЫЦЦЁ?

Яшчэ адно незвычайнае адкрыццё было зроблена падчас праходжання Венеры ў 1761 годзе рускім вучоным Міхаілам Ламаносавым. Калі планета сыходзіла з дыска Сонца, на некаторы час спачатку паміж краем свяціла і Венерай узнікла перамычка ў выглядзе чорнай кроплі, а затым яна трансфарміравалася ў «пупыр» на краю сонечнага дыска. Вучоны адзначыў у сваіх запісах: гэта сведчыць пра тое, што Венера мае вялікую і шчыльную атмасферу, не меншую, чым у нашай планеты.

З таго часу падчас кожнага назірання праходжання Венеры да навуковых задач дадалася яшчэ і праблема назірання «эфекта Ламаносава», які б дазволіў вывучаць нашу суседнюю планету. Бяда была ў тым, што частка назіральнікаў бачыла гэты эфект выразна, другая ж частка, з якаснымі і магутнымі інструментамі, не бачыла нічога. Спрэчкі працягваюцца і па сёння. Напрыклад, у 2004 годзе Венеру на дыску Сонца ўдалося сфатаграфаваць самаму сучаснаму шведскаму сонечнаму тэлескопу, які паказаў, што апісаныя эфекты бачныя, але яны настолькі бляклыя, што наўрад ці маглі быць убачанымі ў сціплы інструмент Ламаносава. Пры гэтым аўтар назіраў з’яву ў просценькі аматарскі тэлескоп і таксама зафіксаваў з’яўленне «чорнай кроплі». Хутчэй за ўсё, убачаная Ламаносавым карціна была звязаная з няякаснай оптыкай і станам атмасферы, але нейкім чынам ён здолеў яе абсалютна правільна інтэрпрэтаваць, апярэдзіўшы час на стагоддзі.

## 6 ЧЭРВЕНЯ 2012 ГОДА

І ў цяперашні час назіранне за праходжаннямі Венеры па дыску Сонца мае навуковую вартасць. Напрыклад, сёлета з дапамогай гэтай з’явы астраномы правяралі схему даследавання атмасфер планет, якія абарочваюцца вакол іншых зорак. Але найбольшую цікавасць Венера на Сонцы ўяўляе для аматараў астраноміі, якіх па ўсім свеце мільёны.

...6 чэрвеня гэтага года ў Беларусі чакалася пахмурным і дажджлівым. Напярэдадні адзін цыклон змяняў другі, дзьмуў вецер, і нішто не нагадвала пра тое, што ўжо тыдзень як на двары лета. У гэтую ноч дзясяткі астраномаў-аматараў нашай краіны затоена сядзелі ля манітораў камп’ютараў, кожную хвіліну аднаўляючы несуцешны прагноз надвор’я. Адны ўжо загрузілі тэхнікай машыны, гатовыя выехаць у любую кропку Беларусі, іншыя трымалі пад рукой расклад начных цягнікоў...

Пасля апоўначы прадказанні сіноптыкаў сталі крыху больш аптымістычнымі, і астраномы рушылі ў ноч — хто ў Гродна і Ліду, хто ў палі пад Гомелем. Многія былі гатовы пераадолець любыя адлегласці: магчымасць убачыць рэдкую з’яву выпадала апошні раз у жыцці. І гадзіны начнога чакання былі ўзнагароджаны — у некаторых мясцінах Беларусі хмары разышліся на некалькі гадзін, дазволіўшы ўбачыць чорны дыск, у трыццаць разоў меншы за сонечны. Ён павольна перасоўваўся на фоне нашага дзённага свяціла. Спазненні на працу ці няяўкі на іспыты ва ўніверсітэце вартыя таго, каб убачыць велічную касмічную падзею.

Венера прабегла па Сонцы, але ж колькі яшчэ цікавых падзей будзе рыхтаваць для нас неба! Прычым самыя прыгожыя з іх не трэба чакаць гадамі: часцей любуйцеся зоркамі, і вы будзеце ўзнагароджаны яркімі метэорамі, незвычайнымі спадарожнікамі, палярнымі ззяннямі і проста небам, чароўным бяздонным акном у наш вялікі таямнічы Сусвет.

Ірына КЛІМКОВІЧ

# ТРАВІЦА БРАТ-СЯСТРЫЦА

***Як рэдкая і дзіўная з’ява ў прыродзе і грамадстве, блізняты заўсёды былі таямніцай, натхнялі на стварэнне міфаў і легенд. Блізняты-беларусы — не выключэнне. Асабліва ўражвалі шлюбныя звязы блізнят. Заведзена лічыць, што інцэст парушае пэўныя маральныя і этычныя нормы ў грамадстве, а таму асуджаецца і мае негатыўнае адценне. Але так было не заўсёды.***

## ТАЯМНІЧЫЯ БЛІЗНЯТЫ

Паводле міфаў і легенд, розныя народы ўспрымалі нараджэнне блізнят па-рознаму. Для адных гэта была шчаслівая з’ява, у такіх асяродках за імі замацоўвалася дадзенае ад нараджэння права карыстацца прыхільнасцю багоў, здатнасць прадказваць будучыню. Але часцей нараджэнне блізнят лічылі негатыўнай з’явай, небяспечнай «гульнёй» прыроды. Ёсць народы, дзе блізняты былі сведчаннем шлюбнай нявернасці з боку маці або наяўнасці нейкіх дэманічных якасцей у бацькі. У гэтым выпадку аднаго з блізнят закопвалі жыўцом у зямлю або прыдушвалі, а маці прымушалі прайсці рытуальнае ачышчэнне. Часам у такіх грамадствах адмаўляліся адразу ад усіх блізнят, а іх магло быць і больш за пару. Дзяцей саджалі ў корабы і кідалі ў ваду або адносілі на балота, пакідалі ў лесе на з’ядзенне дзікім звярам. У такім выпадку самі блізняты і іх бацькі ўспрымаліся як небяспечныя і незвычайныя істоты, іх баяліся і часта пазбаўлялі права жыць сярод супляменнікаў, выдалялі са свайго асяродка і прымушалі будаваць жытло ў бязлюдным месцы. Вытокі такіх паводзін можна знайсці ў вышэйшых прыматаў. У статку малпаў нараджэнне блізнят у самкі выклікае здзіўленне і агрэсію. Важак гоніць маці з дзіцянятамі ад статка і не дае ёй вярнуцца.




*Сузор’е Блізняты. Атлас Яна Гевелія.*

Дваістае стаўленне да блізнят і ў беларусаў. Прыкладам, вядома балада пра ўдаву і яе сыноў-блізнят (двайнюкоў, трайнюкоў), якіх яна, уклаўшы ў карабец, сплаўляе па Дунаі. Гэты сюжэт амаль дакладна паўтарае хецкі міф пра царыцу Канеса. Хецкая царыца таксама нарадзіла сыноў-блізнят — ажно трыццаць, і сплавіла іх у судне па рацэ.

У некаторых раёнах Палесся лічылі, што нараджэнне блізнят прыносіць радасць і нават прыбытак у гаспадарцы. Больш таго,



*Азірыс і Ізіда.*
*Эрмітаж, зала Старажытнага Егіпта.*

блізнят, а дакладней двойню, выкарыстоўвалі для абароны ад хвароб і прыродных стыхій: эпідэмій чумы, халеры, граду, сухменю... У гэтым выпадку праводзіўся абрад абворвання вёскі, які здзяйснялі блізняты-браты на блізнятах-валах або быках. У іншых рэгіёнах Палесся былі ўпэўнены, што «*блізняты ніколі не будуць жыць — адзін абавязкова памрэ*», або пры іх нараджэнні памрэ хтонебудзь з бацькоў. Па некаторых уяўленнях нашых продкаў, полавае супадзенне блізнят або наадварот, несупадзенне, рашуча ўплывае на іх лёс. Так, былі ўпэўнены, што пры нараджэнні рознаполавых дзяцей шчасця ім не будзе, яны абавязкова памруць, а нараджэнне аднаполавых абяцае ім доўгае і шчаслівае жыццё.

Калі беларусы Віцебшчыны знаходзілі ў жыце «спарыш» — падвойны колас, яны верылі, што хутка ў доме з'явяцца двайняты, а гэта кепска. Але калі спарыш аддаць авечцы, то блізняты народзяцца ў яе, а гэта ўжо прыбытак і багацце, затое ў гаспадароў іх не будзе ніколі. У той жа час, каб засцерагчыся ад нежаданых двайнят, у нашых продкаў існавала забарона для цяжарных жанчын ужываць у ежу што-небудзь падвойнае, да прыкладу, зрослыя плады або яйкі з двума жаўткамі.

Такія адмоўныя міфалагічныя ўяўленні наконт блізнят знайшлі сваё апраўданне ў павер'і беларусаў, што яны з'яўляюцца на свет у выніку іх зачацця напярэдадні Дзядоў, калі шлюбныя стасункі забараняліся. Іншымі словамі, у тыя дні, калі на зямлю з нябёсаў вярталіся нашы боскія продкі — «дзяды», і калі ўсе намаганні жывых павінны былі быць накіраваны на іх сустрэчу і ўшанаванне.

## КРОВАЗМЯШАЛЬНЫ ШЛЮБ ЯК НЕАБХОДНАСЦЬ

Ва ўяўленнях людзей з першабытным мысленнем ад адной жанчыны і аднаго мужчыны за адзін раз не можа нарадзіцца больш як адно дзіця. Таму бацькоўства другога дзіцёнка прыпісвалі духу, боству або татэмнай жывёліне. Так, згодна з уяўленнямі дагонаў, у кожнага чалавека ёсць свой блізнюк — жывёліна, а самі блізняты гэтага народа знаходзяцца ў цеснай сувязі са скарпіёнамі. У народаў Ніжняга Амура, чыё жыццё было звязана з тайгой, бацькам блізнят лічыўся «лясны чалавек» — мядзведзь. Дарэчы, культ блізнят і культ мядзведзя вельмі цесна звязаны, што тлумачыцца верай у сваяцтва людзей і мядзведзяў. Верылі, што маці блізнят зацяжарвала падчас сну, у якім апынаалася ў тайзе і кантактавала з маладым мядзведзем. А ў Судане, дзе і дагэтуль існуе блізнечны татэмізм, правадыр племені лічыцца блізнюком татэмнай жывёліны — ільва.

Такія вераванні былі характэрны для народаў, якія знаходзіліся на самым раннім этапе свайго развіцця — паляўнічым. Пазней, калі грамадства зрабілася аграрным, рэлігійныя погляды змяніліся. Змянілася і стаўленне да блізнят. Іх пачалі ўспрымаць як сімвал падвоенай урадлівасці, сакралізаваць і ўшаноўваць. Лічылі, што яны пасланцы Неба, сыны самога Сонца, што дзякуючы ім людзі навучыліся не толькі вырошчваць і збіраць ураджай, але і іншым прафесіям. Асабліва абагаўлялі шлюбныя зносіны паміж блізнятамі.

Людзі верылі, што і самі багі былі некалі

блізнятамі, роднымі братам і сястрой, а ад іх боскага шлюбу з'явіўся свет і ўсё, што яго напаўняе. Таму пацверджаннем шматлікія сусветныя міфы, дзе інцэст не падаецца як парушэнне пэўных норм паміж блізкімі родзічамі. Больш таго, вельмі часта ён успрымаецца як неабходная, а таму боская з'ява. Як да прыкладу, шлюб першапродкаў — прародзічаў усіх людзей, якія з'яўляліся не толькі братам і сястрою, народжанымі ад адной маці, але і адзінай парай у свеце.

У старажытным кітайскім міфе першымі багамі, якія далі жыццё людзям і жывёлам, былі блізняты, брат і сястра Фу-Сі і Нюй-Ва. А брат і сястра Яма і Ямі ў ведыйскай міфалогіі лічацца першымі людзьмі. Яма — сын Сонца і першы, хто памёр, таму ён уладар царства памерлых, лютае боства. Ягоная сястра-блізнюк — спадарожніца Ямі і ўвасабленне творчай энергіі брата. Іх шлюб даў пачатак чалавецтву. У егіпецкай міфалогіі боства Зямлі Геб з'яўляецца мужам і братам багіні Неба Нут. А іх дзеці-блізняты Азірыс і Ізіда былі першымі царом і царыцай Егіпта. Яны мудра кіравалі краінай, клапаціліся пра яе жыхароў. Азірыс навучыў людзей вырошчваць пшаніцу і ячмень, будаваць дамы, плавіць руду, рабіць посуд. У грэцкай міфалогіі Гера — сястра і жонка магутнага бога Зеўса. Яна не толькі галоўная алімпійская багіня, але і апякунка сямейнага агменю, законных шлюбаў. Прыкладаў шмат. Нават хрысціянская гісторыя «несвабодная» ад інцэсту — дзеці Адама і Евы былі роднымі сёстрамі-братамі, тым не менш браліся шлюбам адно з адным і таму з'яўляюцца прародзічамі ўсіх людзей на Зямлі. А пасля ўсясветнага патопу было і другое нараджэнне людзей, якія з'явіліся на свет у выніку шлюбу паміж выратаванымі ад пагібелі дзецьмі праведнага Ноя, яны на той час засталіся адзінымі на Зямлі людзьмі.

Такім чынам, інцэст у старажытным свеце меў сакральны сэнс, таму што менавіта ад такіх кровазмяшальных шлюбаў паміж багамі залежала нараджэнне людзей і другіх бостваў. Некаторыя даследчыкі міфаў нават увялі такія тэрміны, як «злачынны» і «незлачынны» інцэсты. Так, прыклады кровазмяшэння, неабходнага для засялення Зямлі — гэта прыклады «незлачыннага» інцэсту. Яму і надавалі сакральны сэнс. Таму ў старажытных грамадствах практыкаваліся магічныя рытуалы і абрады, прысвечаныя інцэсту — сакральнаму шлюбу паміж боствамі і людзьмі. Нешта падобнае адбывалася ў афрыканскіх плямёнах, калі там праводзілі ініцыяцыю пасвячэння падлеткаў у дарослых мужчын і жанчын. Дзяўчат і хлопцаў час ад часу зводзілі разам на рытуальную начную цырымонію, дзе пад гукі тамтамаў, узбуджаныя музыкай і танцамі, яны павінны былі шматкроць злучацца ў эратычным экстазе. Сярод маладых людзей сустракаліся і крэўныя сваякі — браты і сёстры, прычым як родныя, так і стрыечныя. У тыя часы падобная з'ява не лічылася нечым жахлівым, гэтыя эратычныя святы былі неад'емнай часткай жыцця і ўспрымаліся як норма.

Традыцыя інцэсту на працягу стагоддзяў шанавалася і ў асяродку ўладарных дынастый. І не дзіва — цары і імператары заўсёды лічыліся спадкаемцамі багоў, на якіх распаўсюджвалася іх боскае права. Так фараоны старажытнага Егіпта і вярхоўныя ўладары інкаў браліся шлюбам толькі з блізкімі сваякамі. Гэтага вымагалі і традыцыя,



*Гера і Зеўс. Барэльеф з храма Геры ў Сіцыліі 480—460 гг. да н.э.*



*Клеапатра і Пталемей.*
*Фрагмент роспісу з палаца Эль-Амарны.*

і нежаданне змешваць сваю боскую кроў з крывёю простых смяротных. Прыкладам, фараон Эхнатон і яго жонка, цудоўная Ніферціці, былі братам і сястрой, народжанымі ў адзін дзень. Гэта не перашкодзіла ім даць жыццё прыгожаму Тутанхамону. Мы ведаем з гісторыі пра сувязь Клеапатры з Цэзарам і Маркам Антоніем, але першапачаткова Клеапатра, згодна са старадаўнімі егіпецкімі традыцыямі, была жонкай свайго малодшага брата Пталемея, а калі той памёр, яе наступным мужам стаў другі брат, таксама Пталемей. Такім чынам захоўвалася чысціня дынастыі, а блакітная кроў не змешвалася са «староннімі». Пазней шлюб паміж братамі і сёстрамі стаў папулярным і сярод простага насельніцтва Егіпта, якое пераймала звычаі сваіх уладароў. А яшчэ археолагі знайшлі рэлігійныя тэксты, створаныя на пачатку нашай эры на тэрыторыі Ірана, яны ўслаўлялі сувязь паміж братам і сястрой як самую дасканалую форму шлюбных зносін. У Кітаі яшчэ да 20-х гадоў мінулага стагоддзя існаваў звычай адначасова з нараджэннем хлопчыка браць у сям'ю дзяўчынку і ўдачараць яе. Калі дзеці падрасталі, яны браліся шлюбам.

## «ЗЛАЧЫННЫ» ІНЦЭСТ

Але што дазволена багам і іх улюбёнцам, тое з'яўляецца табу для простых смяротных. Гэта пацвярджаюць і шматлікія міфы, дзе асновай сюжэта з'яўляецца «злачынны» інцэст. У такіх міфах і легендах ад героя не патрабуецца нічога асаблівага, яму як родапачынальніку зусім не трэба здзяйсняць **неабходны** кровазмяшальны шлюб, каб стварыць наноў свет або адрадзіць жыццё. Усё і так добра. Тым не менш, ён усё ж такі робіць недазволенае, каб паказаць сваю незвычайную сексуальную моц. Тады ягоныя дзеянні асуджаюцца і ўспрымаюцца як парушэнне заведзеных для ўсіх правіл і табу. І як вынік, за здзейсненае яго чакае пакаранне. Менавіта таму вельмі часта сустракаюцца міфы, дзе ў аснову сюжэта пакладзена выгнанне героя з грамадства, племені, сям'і, або вырашэнне ім невырашальных задач — каб «ачысціцца» ад грахоў.

Прыкладам, у балгарскай легендзе Сонца хоча ажаніцца са сваёю сястрой Зарніцай (ранішняя Венера), па іншым варыянце з Месяцам, а тая на сваёй сястры Вечарніцы (вечаровая Венера). Ранішняя і вячэрняя іпастасі Венеры — блізняты, брат і сястра. Тут мы бачым сюжэт «нябеснага вяселля», калі інцэст паміж блізнятамі аднесены да часу стварэння, і таму не асуджаецца. Але гэта адзіная ў славянскім фальклоры сітуацыя, калі інцэст успрымаецца нармальна і апраўдваецца. Сюжэты беларускага фальклору заўсёды трактуюць інцэст як злачынства і страшны грэх, якога ўсе імкнуцца пазбегнуць. А калі і дапускаюць, то па няведанні, што тлумачыцца трагічнымі і неспрыяльнымі абставінамі: брат і сястра, якія саграшылі па няведанні, сканчаюць жыццё самагубствам, часам іх пазбаўляе жыцця і сама маці. Так, у адной баладзе распавядаецца пра аднаго з дзевяці братоў — «*татарына*», які яшчэ ў юнацтве сышоў з дому і пайшоў служыць у татарскае войска. Неўзабаве ён сустракае дзяўчыну, бярэ яе гвалтам, а потым

высвятляецца, што гэта ягоная родная сястра. Іхняя маці ўдава, каб выправіць ганьбу, вырашае іх атруціць: «*Маці бяжыць із піўніцы, // Нясе ў руках дзве шкляніцы. // Ў правай руцэ — то та дачцэ, // Ў левай руцэ — то та сыну*». Пасля здзейсненага і пахавання «*сына пры касцёле*», а «*дачушкі ў чыстым полі*» яна раскайваецца: «*Што ж я бедна, нарабіла, // Дзеткі свае родны патруціла*». У іншым выпадку браты-разбойнікі, якія забілі швагра і зняславілі сястру, раскайваюцца і ператвараюцца ў вапну, каб потым людзі, выпальваючы вапну ў печах, агнём здымалі іх грахі і такім чынам ачышчалі.

У беларускіх баладах маральнае неўспрынянцце і асуджэнне інцэсту перадаецца праз стан прыроды: там, куды ідуць брат з сястрою — высыхаюць рэкі, у лесе ад іх збягаюць дзікія звяры, а на іх супляменнікаў насылаюцца розныя стыхійныя бедствы — град, залевы, крывавы дождж, паводка, сухмень. Некаторыя з'явы быццам папярэджваюць пра недапушчальнасць такога дзеяння: падчас вянчання брата з сястрою ў храме пачынаюць падаць абразы, вада ператвараецца ў кроў, Евангелле — у камень. Як пакаранне за грэх кровазмяшэння нараджаюцца хворыя і пакалечаныя дзеці, а то і ўвогуле розныя пярэваратні, ведзьмы, вупары. Цікава, што ў народзе з інцэстам звязана і паходжанне мацернай лаянкі. На Смаленшчыне існуе легенда пра тое, як Д'ябал спачатку падахвоціў аднаго чалавека на забойства бацькі, а потым — на жаніцьбу на сваёй маці (па іншым варыянце, на старэйшай сястры). З тых часоў і пачаў чалавек сварыцца, узгадваючы ў лаянцы імя маці, з тых часоў і «*пайшла па зямлі тая распуста*».

## САКРАЛЬНЫ ШЛЮБ АГНЮ І ВАДЫ

Тэма інцэсту асабліва характэрна для купальскага цыкла. Ёсць меркаванне, што падчас ігрышчаў на Купалле была дазволена поўная сексуальная свабода. Вядома, што час святкавання Купалля — час найвышэйшага росквіту прыроды. Таму інцэст падчас Купалля параўноўваўся з максімальнай урадлівасцю. Адна з купальскіх песень, прысвечаных інцэсту, распавядае пра паходжанне сіне-жоўтых кветак: *браткі*, *Іван ды Мар'я*, *брат-сястрыца*, *кветка плачу*. Гэта ўсё назвы адной і той жа кветкі, толькі ў розных славянскіх народаў. Такое шматназоўе гаворыць толькі пра шматлікасць пачуццяў і эмоцый, якія выклікае легенда-міф пра таямнічую кветку. Паводле міфа, па волі злога лёсу адбыўся інцэсны шлюб паміж братам і сястрой. Даведаўшыся пра сваё кроўнае сваяцтва, маладыя муж і жонка жахнуліся недапушчальнага граха і ператварыліся ў кветку: «*Пойдзем сястра ў поле, // Рассеемся травою: // З цябе будзе сіні цвет. // Будуць дзеўкі краскі рваць // І брата з сястрою памінаць: // Гэта тая травіца, // Што брацейка з сястрыцай*».

Гэты старажытны міф пра ўзнікненне незвычайных кветак натхніў Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча на стварэнне першай у новай беларускай літаратуры паэмы «Травіца брат-сястрыца». У паэме распавядаецца, як ліхая мачаха ўцякла са сваім палюбоўнікам-аканомам і звяла з сабою дачку мужа Алёнку. Праз некаторы час Алёнка пакахала сотніка Мірона. Маладыя людзі хацелі пабрацца шлюбам, але раптам высветлілася, што яны — брат і сястра. Закаханых, якія не перажылі такой весткі і загінулі, пахавалі ў адной магіле: «*Мірона ж Алёнку усе жалавалі, // У адной магіле родных пахавалі. // Да на той магіле вырасла травіца, // І людзі назвалі яе "Брат-сястрыца". // Дзеўкі ж маладзенькі траўку тую рвалі // І няшчасных песняй паміналі...*»



*Купальскія містэрыі.*

### Вялікае народнае свята не можа грунтавацца на сюжэце пра парушэнне родавых традыцый. Купальскі міф пра каханне брата і сястры варта разглядаць на ўзроўні святарскіх традыцый эпохі глыбіннага язычніцтва

Даследчыкі міфалогіі прааналізавалі фальклорны і абрадавы матэрыял усходніх славян і прыйшлі да высновы, што ў падмурку легенд, балад, павер’яў і купальскіх песень пра інцэст, у тым ліку і тэкстаў пра паходжанне кветкі браткі або Іван ды Мар’я, пакладзены архаічны блізнечны міф. Героямі міфа з’яўляюцца двое блізнят, адзін з якіх — Іван або Ян, звязаны з агнём і жыццём, а другі — Мар’я — з вадою і смерцю. Мы ведаем, што на Купалле нашы продкі з жыта звівалі своеасаблівую ляльку, якая сімвалізавала старажытную багіню матрыярхату. Багіню, якая ўтойвала ў сабе неабуджаныя сілы зямлі, звязаныя з Месяцам і вільгаццю. Называлі тую ляльку Мара або Марэна. Магчыма, так звалі і багіню. Што датычыць другога блізнюка — Яна або Івана, ён таксама невыпадковы на свяце. І яго сапраўднае імя зусім іншае, таму што ён увасабляе рысы светлага боства кахання, агню і спякотнага Сонца — Ярылы. І калі Марэна носьбітка жыватворнай вільгаці і жаночага пачатку, то ён — сонечнае цяпло, без якога немагчымы ніякі ўраджай.

Каб дамагчыся максімальнай урадлівасці зямлі, нашы продкі лічылі неабходным здзяйсненне нябеснага шлюбу паміж двума боствамі — Агню і Вады, Месяца і Сонца. Па старажытным індаеўрапейскім міфам, менавіта Сонца і Месяц з’яўляюцца тымі сакральнымі блізнятамі — братам і сястрой, ад шлюбнай сувязі якіх зарадзіўся ўвесь свет і жыццё ў ім. Старадаўнія беларусы таксама верылі, што на Купалу — свята расы, Сонца бярэцца шлюбам з Месяцам. Падчас гэтага свята людзі павінны былі паўтараць на зямлі тыя боскія зносіны, прыклад якім давалі нябёсы. Таму што Купалле — пераломны час дзеяння супрацьлеглых пачаткаў Прыроды, час зараджэння жыцця і гармоніі паміж імі. Менавіта ў гэты пераломны момант з хаосу жарсці, які сімвалізавалі купальскія ігрышчы, нараджалася гармонія жыцця. Невыпадкова саюзы, заключаныя на Купалле, лічыліся непарушнымі, нават калі адбываліся без дазволу бацькоў і родзічаў.

Сімвалам здзяйснення сакральнага шлюбу і была кветка, дзе жоўты колер сімвалізаваў агонь і жаніха, а сіні — ваду і нявесту. Такі самы сэнс меў і абрад скочвання падпаленага кола з гары ў ваду, у якім адлюстроўваўся шлюб паміж стыхіямі Агню і Вады, як сыход жарсці першага ў халодную вільгаць апошняй. Пазней, са зменай рэлігіі, боскі інцэст, які падчас Купалля сімвалізаваў шлюб Сонца і Месяца (Зарніцы), час першатварэння і ўспрымаўся як нармальная і апраўданая дзея, быў дыскрэдытаваны. Гэта прывяло да з’яўлення ў народнай традыцыі розных фальклорных сюжэтаў пра зямное каханне брата і сястры. Але гэта памылкова і не канструктыўна. Вядома, што ўсялякую ідэю можна ўспрымаць літаральна, а таму сэнсава скажонай. Вялікае народнае свята не можа грунтавацца на сюжэце пра парушэнне родавых традыцый. Купальскі міф пра каханне брата і сястры варта разглядаць на ўзроўні святарскіх традыцый эпохі глыбіннага язычніцтва.

А пакуль што мы можам толькі намагацца разгадаць тыя таямніцы і закадзіраваныя веды, якія стагоддзямі захоўваюцца ў міфах і паданнях нашых далёкіх продкаў. Гэта своеасаблівы банк дадзеных, дзе зберагаюцца нашы культурныя каштоўнасці і куды ўкладзена столькі пачуццяў, уражанняў і адчуванняў, што хопіць яшчэ не на адно пакаленне.



Мікола КАНДРАТАЎ

# КІРУНКІ ЖЫЦЦЯ АЛАІЗЫ ПАШКЕВІЧ

**Рак (♋) — чацвёрты па ліку знак Задыяка. Сімвалічным вобразам яго з'яўляецца Краб, што знаходзіцца каля крыніцы, з вялікімі клюшнямі і рыбіным хвастом. Іншы вобраз — краб верціцца на коле, якое служыць сімвалам абароны. Гэтыя сімвалічныя вобразы заклікаюць да аховы і захавання чысціні вытокаў, вяртання да каранёў. Ключавое слова Рака — дом. А кіраўніком з'яўляецца планета Месяц (☽), што сімвалізуе душу, маці, род, сям'ю, радзіму і адказвае за падсвядомасць, эмоцыі, успрымальнасць.**



*Алаіза Пашкевіч.*

Адна з пачынальніц навейшай беларускай літаратуры, вядомая пад псеўданімам Цётка, нарадзілася пад знакам Рака 3 ліпеня 1876 года ў вёсцы Пешчына недалёка ад Ліды ў дробнай шляхецкай сям'і. Магчымы час народзінаў — 21 гадзіна 37 хвілін. У касмаграме Алаізы Пашкевіч Рак з'яўляецца самым выдзеленым знакам — у яго акрамя Сонца (☉) трапілі яшчэ планеты Марс (♂) і Венера (♀). Вядома, што Сонца ў астралогіі звязана з духам чалавека. З'яўляючыся крыніцай і носьбітам творчага пачатку, яно вызначае індывідуальнасць, фарміруе наш розум і свядомасць, надзяляе вялікай жыццёвай энергіяй. У касмаграме Цёткі Сонца мае *каралеўскі* кармічны статус +7 балаў, што гаворыць пра магутны станоўчы патэнцыял, велізарныя творчыя схільнасці, дадзеныя ад нараджэння.

Калі ад Сонца праз цэнтр кола касмаграмы правесці рысу, яна падзеліць касмаграму на дзве паловы, а планеты ў ёй — на дзве групы. У астралогіі планеты, размешчаныя перад Сонцам, называюцца *заходнімі*, а пасля яго — *ўсходнімі*. Чалавек праяўляе вялікую актыўнасць у рэалізацыі сябе па функцыях усходніх планет. Аднак пры гэтым ён нібыта спяшаецца — паспець сябе рэалізаваць, паглядзець і паказаць, на што здольны. У адрозненне ад усходніх, заходнія планеты паказваюць на той досвед, які маецца ад нараджэння. Аднак гэтая самадастатковасць па функцыях заходніх планет можа часам прывесці да ляноты і бяздзейнасці.

Сярод кожнай з вышэйназваных груп планет ёсць галоўная планета, якая знаходзіцца бліжэй да Сонца. Планета, якая стаіць у касмаграме перад Сонцам пры руху па Задыяку па гадзіннікавай стрэлцы, называецца **Дарыфорый** альбо **Збраяносец**. Гэтая ўсходняя планета вызначае развіццё індывідуальнасці чалавека, паказвае кірунак рэалізацыі яго творчай энергіі. Пасрэдніцтвам Дарыфорыя наш дух надае сабе форму. Разам з тым Дарыфорый паказвае, у чым чалавек праяўляе сваю найбольшую творчую актыўнасць. Калі ўявіць Сонца на чале войска планет, то заходнія планеты складаюць штаб гэтага войска альбо ваенную раду, а ўсходнія — яго баявую частку, якой Сонца перадае ўласныя загады праз Дарыфорыя, як непасрэднага кіраўніка ваеннымі дзеяннямі.



*Касмаграма А. Пашкевіч.*

У касмаграме Алаізы Пашкевіч Дарыфорыем з'яўляецца планета Меркурый (☿), што сімвалізуе інтэлект, кантакт, мову, пісьмо, слова, інфармацыю, вучобу. Вось, аказваецца, чаму Алаіза з ранніх гадоў імкнулася да навучання і мела добрыя здольнасці. Адказны за гэта Меркурый у яе касмаграме мае высокі станоўчы патэнцыял +6 балаў. Названая акалічнасць абумовіла і тое, што для самарэалізацыі Пашкевіч абрала літаратуру. З 1902 года яна пачала складаць вершы, а ў 1906-м выйшлі дзве яе невялікія паэтычныя кнігі «Скрыпка беларуская» і «Хрэст на свабоду». Валодаючы шматгранным талентам, Цётка таксама выступала ў жанрах прозы і публіцыстыкі. Але ў прозе яна адчувала сябе паэткаю, выкарыстоўваючы паэтычныя спосабы і сродкі стварэння мастацкага вобраза.

Планета, якая стаіць у касмаграме адразу пасля Сонца пры руху па Задыяку па гадзіннікавай стрэлцы, называецца **Вознікам**. Яна з'яўляецца галоўнай для ўсіх заходніх планет. Вознік — паказнік таго, што чалавекам ужо нібыта адпрацавана, што ён лічыць пройдзеным этапам. Гэтая планета з'яўляецца стымулам для самасцвярджэння асобы, яе апорай і падставай. Яна ўмацоўвае дух чалавека, падсілкоўвае яго.

У касмаграме Цёткі Вознікам з'яўляецца Марс, які адказвае за волю, барацьбу, жарсць, актыўнасць у дасягненні мэты. Заўважым, што знаходжанне Марса ў знаку Рака характарызуецца як самае слабое ягонае становішча (*падзенне*). Аднак пры гэтым Марс у касмаграме паэткі меў станоўчы кармічны статус +3 балы і знаходзіўся ў злучэнні з рэтраграднай Венерай, што сімвалізуе каханне, прыгажосць, гармонію, матэрыяльны дабрабыт. Венера ў разглядаемай касмаграме мае таксама *каралеўскі* статус +7 балаў. Такая добрая і моцная Венера давала Алаізе знешнюю прыгажосць, але яе рэтраграднасць не дазваляла праяўляць актыўнасць у каханні. Аднак гэты недахоп меў кампенсацыю пры ўмове любові (♀) да Радзімы (♋). Знаходжанне Цёткі на Бацькаўшчыне альбо ва ўласным доме, у сваёй сям'і спрыяла яе смеласці і вялікай актыўнасці (па ♂ у ♋).

Заўважым таксама, што як прадстаўнік Рака, Алаіза Пашкевіч павінна была праяўляцца праз знак Стральца (♐) — праз традыцыі, грамадскую дзейнасць, бо ў апошнім знаходзілася планета Месяц, што кіруе Ракам. Стралец і абумовіў праяву будучай пісьменніцы ў ідэалагічным кірунку, яе ўключэнне ў палітычную барацьбу, а таксама вучобу паэткі ў замежжы, яе эмігранцкія і турыстычныя вандроўкі.

З біяграфіі Алаізы Пашкевіч можна пераканацца ў адпаведнасці яе жыццёвых кірункаў арыенцірам, пазначаным Дарыфорыем і Вознікам у касмаграме. Як сведчанне гэтага, можна прывесці словы Ірыны Багдановіч: «Творчасць была, бясспрэчна, галоўнай для Цёткі, тою сфераю, дзе найясней выяўлялася таямніца яе душы. Своеасаблівы стыль Цёткі шмат у чым тлумачыўся фальклорным паходжаннем яе паэтыкі, выпрацоўкай літаратурнага танічнага верша на аснове народнага вершаскладання. Цётка прыйшла ў беларускую паэзію, каб сцвердзіць уласнай творчасцю грамадзянскі абавязак песняра служыць нацыянальнаму, сацыяльнаму і духоўнаму абуджэнню сваёй Бацькаўшчыны. Рэвалюцыйны і нацыянальна-патрыятычны кірункі яе грамадскай і паэтычнай дзейнасці цесна лучыліся адно з адным, былі фактычна зліты, як два бакі адной справы».

Выдатную ролю Алаізы Пашкевіч у гісторыі беларускай культуры вобразна падсумаваў Мікола Ермаловіч: «Цётка як бы аб'ядноўвала ў сабе двух выдатных жанчын нашай старажытнасці: Рагнеду і Еўфрасінню Полацкую. Як першая, яна была барацьбітом за волю радзімы і, як другая — асветніцай свайго народу». 

# ЛІТАРАТУРНЫЯ МЯСЦІНЫ БЕЛАРУСІ*

## СЛУЦКІ РАЁН

**Вёска Старэва** Амговіцкага сельсавета

**Майхровіча Сцяпана** (21.6.1908—2.7.1981), літаратуразнаўца і крытыка, радзіма. Скончыў Мінскі педінстытут (1941). У 1944—1948 гг. — дырэктар Дзяржаўнага выдавецтва Беларусі, у 1951—1954 гг. — рэдактар Вучэбна-педагагічнага выдавецтва Беларусі, у 1959—1970 гг. — у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Аўтар «Нарыса беларускай літаратуры XIX ст.» (1957), «Нарыса гісторыі старажытнай беларускай літаратуры XIV—XV стст.» (1980), кніг, прысвечаных беларускім культурна-асветным дзеячам і пісьменнікам: «Янка Лучына» (1952), «В. І. Дунін-Марцінкевіч» (1955), «Максім Багдановіч: жыццё і творчасць» (1958), «Жизнь и творчество Ф. Богушевича» (1961), «Янка Брыль» (1961), «Георгій Скарына» (1966), «Слова аб палку Ігаравым» (1968), «Прыказкі і прымаўкі: Гістарычны нарыс» (1976), «Іван Шамякін» (1978). Пахаваны на Паўночных могілках у Мінску.

**Вёска Сярагі**, цэнтр сельсавета

**Падліпскай** (сапр. Янучок) **Зоі** (н. 7.10.1964), паэтэсы, радзіма. Вучылася ў СШ в. *Сярагі,* Мінскім, потым Слуцкім медвучылішчы (1983), Мінскім дзяржаўным педагагічным універсітэце (1994). Скончыла аспірантуру пры Беларускім педагагічным універсітэце (2003). Працавала ў дзіцячай паліклініцы г. Слуцка, выхавальніцай дзіцячага садка, настаўніцай беларускай мовы і літаратуры ў СШ № 10 г. Слуцка, аддзеле адукацыі Слуцкага райвыканкама. З 2001 г. жыве ў г. Мінску. Працавала ў Мінскім абласным інстытуце павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі, Нацыянальным інстытуце адукацыі, Мінскім гарадскім дзяржаўным інстытуце павышэння кваліфікацыі спецыялістаў адукацыі. З 2007 г. — галоўны інспектар упраўлення агульнай сярэдняй адукацыі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Беларуская мова і літаратура». Друкавацца пачала яшчэ школьніцай. Аўтар зборнікаў вершаў «Палон нябёсаў» (1998), «У вэлюме завей» (2005). Родным мясцінам прысвяціла вершы «Случчане», «Даруй», «Дай сілы, Бог», «Вітаю вясну», «Вяртайся да вытокаў», «Добры дзень, матуля», «Чужая…», «Паспець хаця б…», «Два клёнікі», «На выставе», «Дзве сцяжынкі», «Мая Айчына» і інш.

**Вёска Уздымач,** не існуе, месца знаходжання не ўстаноўлена

**Траяноўскага Аляксандра** (22.9.1925—18.3.2005), перакладчыка, крытыка, публіцыста, радзіма. Скончыў Маскоўскі гісторыка-архіўны інстытут (1959). З 1955 г. у газетах, у т.л. у 1962—82 гг. у газеце «Звязда», у 1983—86 гг. — намеснік рэдактара часопіса «Мастацтва Беларусі». Друкаваўся з 1955 г. Перакладаў з чэшскай, верхне- і ніжнелужыцкай,

* Працяг. Пачатак у № 10—12 за 2007 г., № 1—12 за 2008 г., № 1—10, 12 за 2009 г., № 1—7, 9—12 за 2010 г., № 1—11 за 2011 г., № 3, 4, 5 6 за 2012 г.

кашубскай, польскай, украінскай. Аўтар вершаў, літаратурна-крытычных артыкулаў і рэцэнзій, публіцыстычных артыкулаў.

**Вёска Ушаловічы** Бокшыцкага сельсавета

**Лазарука Міхаіла** (5.7.1926—14.11.2000), крытыка, літаратуразнаўца, педагога, радзіма. Акадэмік АПН Беларусі (1995). Скончыў Мінскі педінстытут (1951). З 1954 г. выкладаў у ім. З 1978 г. — у НДІ педагогікі (па 1990 г. дырэктар). Друкаваўся з 1949 г. Пісаў байкі. Аўтар прац «Пімен Панчанка» (1959), «Часу непадуладнае» (1981). Даследаваў беларускую паэму («Станаўленне беларускай паэмы», 1968; «Беларуская паэма ў другой палавіне XIX — пачатку XX ст.», 1970), пытанні гісторыі, тэорыі і методыкі выкладання літаратуры («Гісторыя літаратуры ў школе», 1967; «Уводзіны ў літаратуразнаўства», 1970, 2-е выд. 1982, з А. Ленсу; «Тэорыя літаратуры», 1971; «Слоўнік літаратуразнаўчых тэрмінаў», 1983, 2-е выд. 1996, з А. Ленсу; «Изучение русской литературы во взаимосвязи с белорусской», 1988, разам з В. Івашыным, А. Ленсу; «Навучанне і выхаванне творчасцю: Педагагічныя роздумы і пошукі, 1994). Адзін з аўтараў падручнікаў для сярэдняй школы і ВНУ. Жыў у Мінску.

**Вёска Чапліцы** Рачкавіцкага сельсавета

**Лобана Міколы** (14(27).10.1911—28.12.1984), пісьменніка, мовазнаўца, радзіма. Скончыў БДУ (1945). У 1944—1967 гг. і 1968—1975 гг. працаваў у Інстытуце мовазнаўства АН БССР, у 1967—1968 гг. — у Галоўнай рэдакцыі Беларускай энцыклапедыі. Друкаваўся з 1930 г. Заслужаны работнік культуры БССР (1974). Аўтар кніг «Іркуцянка» (1953), трылогіі «На парозе будучыні» (1961—1963), «Гарадок Устронь» (1967—1968), «Шэметы» (1981), «Пяць раніц тыдня» (1984, Літаратурная прэмія І. Мележа, 1985), выбраных твораў у 3-х тамах (1986). Адзін з укладальнікаў «Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» (1959), «Арфаграфічнага слоўніка» (з М. Суднікам, 1948, 5-е выд. 1982), «Руска-беларускага слоўніка» (1953), «Беларускага-рускага слоўніка» (1962). Кіраваў працай па стварэнні «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы» (т. 1—5, 1977—1984; рэдактар т. 1). На беларускую мову пераклаў (з Э. Агняцвет) «У людзях» М. Горкага і інш. Пахаваны на Паўночных могілках у Мінску.

На сустрэчы з настаўнікамі мясцовай школы быў **Дубоўка Уладзімір,** паэт, празаік, перакладчык, ураджэнец в. *Агароднікі* Пастаўскага р-на Віцебскай вобл. У сваёй прыгодніцкай аповесці для дзяцей «Жоўтая акацыя» аўтар хацеў назваць школу Чапліцкай, але назваў па аналогіі — Бацяноўскай, даў імёны героям такія ж, як і ў настаўнікаў гэтай школы.

## СМАЛЯВІЦКІ РАЁН

### ГОРАД СМАЛЯВІЧЫ

Вуліцы **А. Пушкіна, Л. Талстога.**
Раённая бібліятэка носіць імя **Максіма Багдановіча.**

Тут да вайны, у 1932 г. была філія Беларускай асацыяцыі калгасных пісьменнікаў. У верасні 1932 г. сюды прыязджаў **Андрэй Александровіч,** паэт, ураджэнец г. Мінска, з **Міколам Нікановічам**, пісьменнікам, ураджэнцам в. *Кляннік* гэтага ж р-на.

**Барсука Захара** (1915—1942), паэта, радзіма. Закончыў яўрэйскую школу ў Смалявічах, вучыўся на яўрэйскім аддзяленні літаратурнага факультэта Мінскага педагагічнага інстытута. Пасля заканчэння вучобы (1937) быў прызваны на вайсковую службу. Загінуў на фронце ў 1942-м. Пісаў на ідыш. Друкаваўся з 1931 г. у газетах «Юнгер ленінец», часопісе

«Штэрн» і некаторых іншых. У 1930-я гг. асобнымі выданнямі выйшлі яго кніжкі для дзяцей «Чалюскінцы», «Мамлакат». Вершы З. Барсука ўключаны ў зборнік «Лира» (М., 1985).

**Гарф Ганны** (сапр. Гарфункель Ганна; 12.8.1908 — ?), празаіка, радзіма. Скончыла МДУ імя М. Ламаносава ў 1931 г.

**Гірко Марата** (н. 6.2.1934), паэта, радзіма. Аўтар зборнікаў паэзіі «Усхваляванасць» (2007), «Абярэг» (2010). Жыве ў Мінску.

**Кацюшэнка Міхась,** пісьменнік, ураджэнец г. Мінска, дзіцячыя і юнацкія гады правёў у Смалявічах. Скончыў тут сярэднюю школу № 2 (1965).

**Панчанка Іван,** паэт, публіцыст, ураджэнец в. *Тарапаева* Прачысценскага р-на Смаленскай вобл. (Расія), працаваў карэктарам, загадчыкам аддзела пісем смалявіцкай раённай газеты «Ленінскі заклік». Жыве ў Смалявічах.

**Рунца Пятра** (5.4.1911—5.3.1997), пісьменніка, радзіма. Скончыў Камуністычны інстытут журналістыкі імя Кірава ў Мінску (1940). Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Працаваў у газеце «Піянер Беларусі», часопісе «Бярозка», на Беларускім радыё (1962—1971). Друкаваўся з 1932 г. Аўтар зборнікаў для дзяцей і пра дзяцей «У веснавыя дні» (1954), «Бярозавы конь» (1956), «Гіпсавая маска» (1958), «Заламаны ражок» (1971), «Алёшка-верхалаз» (1963), «Аб чым шэпчацца аер» (1966); кніг «Важнае заданне» (1968), «Белы васілёк» (1971), «Чалавек з крылатай фантазіяй» (1979), «Незвычайны збор» (1981), «Апошняе шчасце» (1984), «Незвычайны наведвальнік» (1985). Пераклаў паасобныя творы Дж. Радары, Ж. Грывы, Э. Эргле, А. Талвіра.

**Юдэлевіча Міхася** (20.4.1914—1941), драматурга, тэатральнага крытыка, радзіма. Нарадзіўся ў сям'і саматужніка. Пасля заканчэння сярэдняй школы ў Мінску (1929) працаваў рабочым у гуце. Быў акцёрам у Мінскім тэатры рабочай моладзі (1929—1931), студэнтам Дзяржаўнага інстытута мастацтва ў Маскве (1931—1935). У 1935—1940 гг. — супрацоўнік рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва», загадчык аддзела тэатра Упраўлення па справах мастацтва пры Саўнаркаме БССР. З 1940 г. у Савецкай Арміі, удзельнічаў у савецка-фінскай і ў Вялікай Айчыннай вайне. Загінуў у 1941 г. на фронце. Літаратурную працу пачаў у 1929 г. Выступаў у драматургіі. Адзін з аўтараў калектыўнай п'есы «Першы штандар» (апублікавана і пастаўлена ў 1930). У 1932 г. напісаў п'есу «Зямля гарыць», якая ставілася на радыё. Аўтар інсцэніроўкі «Як гартавалася сталь» М. Астроўскага (пастаўлена ў 1937 г.), лібрэта да оперы «Паўка Карчагін» (музыка П. Падкавырава, ставілася пасля вайны ў кансерваторыі як студэнцкі спектакль). Перакладаў на рускую мову асобныя творы беларускай драматургіі. Пісаў вершы, прыпеўкі, якія змяшчаліся ў перыядычным друку.

* * *

**Вёска Алесіна** Курганскага сельсавета

На будынку ***Верхменскай школы*** ў 1969 г. устаноўлена мемарыяльная дошка **Якубу Коласу,** які ў студзені-маі 1906 г. працаваў у Верхменскім народным вучылішчы. 11.10.1969 г. у школе адкрыты ***музей Якуба Коласа***. У фондах больш як 500 прадметаў, у т.л. каля 100 арыгінальных.

**Вёска Верхмень** Курганскага сельсавета

У Верхменскае народнае вучылішча за ўдзел у рэвалюцыйнай прапагандзе сярод сялян па загадзе мінскага губернатара П. Курлова з с. *Пінкавічы* Пінскага павета быў пераведзены малады настаўнік **Канстанцін Міцкевіч (Якуб Колас)**. Працаваў тут з 18 студзеня па

25 жніўня 1906 г. Быў звольнены з пасады за ўдзел у нелегальным настаўніцкім з'ездзе 9—10 ліпеня ў в. *Мікалаеўшчына* (цяпер Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл.).

У трылогіі «На ростанях» Верхмень апісана як Верхань. На старонках трылогіі з любоўю занатавана апісанне дарогі ад Смалявіч да Верхменя, само сяло, ваколіцы, урочышча Тумель, рэчка Уша (у трылогіі Уса), вадзяны млын, суседняе сяло Грабёнка (цяпер Чэрвеньскі р-н Мінскай вобл.). Шмат мясцовых жыхароў сталі героямі коласавага твора.

Школа пераведзена з в. Верхмень у суседнюю вёску *Алесіна*.

**Вёска Дуброва** Прылепскага сельсавета

**Дуброўскага Ігната** (сапр. Чарняўскі; 4.9.1906—11.12.2003), пісьменніка і вучонага, радзіма. Пасля школы з 1925 г. працаваў загадчыкам магазіна спажывецкай кааперацыі ў роднай вёсцы, справаводам сельсавета, потым загадчыкам аддзела, сакратаром РК ЛКСМБ у Астрашыцкім Гарадку. Скончыў БСГА (1931). У 1937—1941 гг. — навуковы супрацоўнік, у 1945—1976 гг. — загадчык сектара аграрных праблем Інстытута эканомікі НАН Беларусі. Першыя вершы апублікаваў у 1927 г. Аўтар зборнікаў апавяданняў «Радня» (1954), «Паўз самыя вокны» (1961), аповесцей «Зямля маладзее» (1952), «Зямныя вузлы» (1965), кніг нарысаў «Светлы шлях» (1959), «Да долі чалавечай» (1970), «Гамоніць Палессе» (1977), «На новыя кругі» (1980), «Час сеяць і час жаць» (1982), «Красна хата не толькі пірагамі» (1988), «Нялёгкі хлеб» (1990). Пачынальнік аналітычнага нарыса ў беларускай літаратуры.

**Юрэвіча Уладзіміра** (22.7.1916—18.2.2005), крытыка, празаіка, перакладчыка, радзіма. Скончыў Мінскі індустрыяльна-педагагічны тэхнікум (1934), будаўнічы факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута (1941). Адначасова вучыўся завочна на філалагічным факультэце БДУ (1939—1941). У 1932—1947 гг. працаваў дыктарам Беларускага радыё (у гады Вялікай Айчыннай вайны — радыёстанцыя «Савецкая Беларусь», Масква). У пасляваенныя гады загадваў аддзелам літаратурна-драматычнага вяшчання Беларускага радыё (1948—1951), быў галоўным рэдактарам мастацкага радыёвяшчання (1952—1954). Пасля працаваў уласным карэспандэнтам «Литературной газеты» па Беларускай ССР (1954—1959), адказным сакратаром часопіса «Маладосць» (1959—1970), дырэктарам Літаратурнага музея Янкі Купалы (1970—1972), палітычным аглядальнікам Беларускага тэлебачання (1972—1974), рэдактарам аддзела, членам рэдкалегіі часопіса «Коммунист Белоруссии» (1974—1979). З 1979 г. працаваў літкансультантам Саюза пісьменнікаў БССР, адказным сакратаром камітэта па Дзяржаўных прэміях БССР. На Беларускім радыё распачаў у 1963 г. штомесячную перадачу для школьнікаў — радыёклуб «Жывое слова», нязменны яго старшыня. Літаратурную дзейнасць пачаў ў 1942 г. з публіцыстычных і літаратуразнаўчых выступленняў на радыё. Друкуецца з 1949 г. Аўтар кніг літаратурнай крытыкі: «Слова і вобраз» (1961), «Шматгалоссе жыцця» (1965), «Погляд» (1974), «Абрысы» (1976); кніжак апавяданняў для дзяцей «Тараскавы турботы» (1966), «Дзе начуе сонца?» (1970), «Дожджык на колах» (1977), «Нястрашны страх» (1986). У яго літаратурным запісе выйшла дакументальная аповесць М. Новікава «Пять шагов жизни» (1970). Аўтар кніг «Янка Купала: нарыс жыцця і творчасці» (1983), «Мінск: учора, сёння, заўтра» (1982), «Слова жывое, роднае, гаваркое» (1992). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь (1994).

**Вёска Жажэлка** Жодзінскага сельсавета

**Сіняўскага Івана** (22.6.1919—15.9.2001), празаіка, радзіма. У 1944 г. бацькоў забілі фашысты за сувязь з партызанамі. Вучыўся ў Жажэлкаўскай пачатковай школе, потым у Смалявіцкай школе калгаснай моладзі, у Юраўскай сямігодцы, з 1934 г. — у Смалявіцкай СШ. Скончыў літаратурны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага (1941). З канца 1942 г. сувязны Смалявіцкага падпольнага райкама партыі, з красавіка 1943 г. — партызан атрада імя В. Чкалава ў брыгадзе «Смерць фашызму». Пасля вызвален-

ня Беларусі некалькі месяцаў працаваў інспектарам Смалявіцкага р-на, а затым прызваны ў Савецкую Армію. Удзельнічаў у баях за вызваленне Варшывы, у Памераніі, за ўзяцце Берліна. З 1946 г. працаваў дырэктарам Жажэлкаўскай сямігадовай школы, а з 1953 г. — выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры ў гэтай школе. З першым апавяданнем выступіў у друку ў 1940 г. Для дзяцей напісаў зборнікі апавяданняў «У навальніцу» (1949), «Новая школа» (1951), «Піянерскі гальштук» (1955), «Дабрадзейка» (1960), «Ой, рэчанька, рэчанька» (1962), «Марка» (1969) і аповесць «На правым флангу» (1964). Аўтар кніг: «Вернасць» (1971), «А вяселля не было» (1989), рамана «Дарога на Замлынне» (1980), аповесці «Сінія ночы» (1986). Жыў ў Жодзіне.

## ГОРАД ЖОДЗІНА

**Вуліцы М. Горкага, М. Крылова, А. Пушкіна.**

Тут у Навукова-даследчым інстытуце глебазнаўства ў 1961—1968 гг. працаваў батанікам пісьменнік **Мікола Корзун**, ураджэнец в. *Заўшыцы* Салігорскага р-на.

**Аркуша Алеся** (сапр. Козік, н. 28.5.1960), паэта, радзіма. Скончыў Жодзінскі палітэхнікум (1979) і Беларускі дзяржаўны інстытут народнай гаспадаркі (1987). З 1987 г. жыве ў Полацку. Уваходзіў у літаратурную суполку «Тутэйшыя». У 1993-м стварыў Таварыства Вольных Літаратараў. Выдаваў літаратурны альманах «Ксэракс Беларускі». Выдавец і галоўны рэдактар літаратурнага альманаха «Калосьсе». Старшыня арганізацыйнага камітэта літаратурнай прэміі «Гліняны Вялес». Аўтар каля дзесяці зборнікаў паэзіі і двух зборнікаў эсэістыкі: «Выпрабаванне развоем» (2000), «Аскепкі вялікага малюнку» (2007). Аўтар тэксту гімна горада Полацка і песень рок-гуртоў: «Мясцовы час», «KRAMA». Сталы аўтар тыднёвіка «Наша Ніва» і часопісаў «Arche», «Дзеяслоў». Жыве ў Полацку.

Тут жыве **Іван Сіняўскі,** празаік, ураджэнец в. *Жажэлка* гэтага ж р-на.

**Сіўчыкава Уладзіміра** (н. 3.5.1958), перакладчыка, празаіка, паэта, мастака, выдаўца, радзіма. Закончыў Мінскае мастацкае вучылішча імя А. Глебава (1977), БДУ (1986). Працаваў настаўнікам, мастаком-афарміцелем, адказным сакратаром часопіса «Бярозка». З 1992 г. узначальваў Беларускую асацыяцыю дэтэктыўнага, прыгодніцкага і палітычнага рамана (БАДППР), з 1994 г. — выдавецтва «Радыёла-плюс». Друкуецца з 1982 г. Аўтар кнігі вершаў «Адліга» (калектыўны зборнік «Лагодны прамень раніцы», 1988); кнігі апавяданняў і п’ес «Гульня ў тэстамант» (1992), зборніка прозы «Лісты да брата» (1998), кніг «Высакосны год» (2004), «Бювар» (2009). Уклаў шэраг альбомаў. Пераклаў з грузінскай мовы раман Н. Думбадзэ «Закон вечнасці» (1988). Жыве ў Мінску.

**Вёска Кляннік** Курганскага сельсавета

**Нікановіча Міколы** (2(15).4.1902 — кастр.1944), пісьменніка, радзіма. Вучыўся ў гімназіі ў г. Чэрвень. З 1921 г. настаўнічаў, з 1928 г. супрацоўнік газеты «Чырвоная змена». У 1933 г. рэпрэсіраваны (рэабілітаваны ў 1956 г.). Высланы за межы Беларусі. З 1933 г. працаваў у газеце «Уральский рабочий», «Советский Дон». У 1942 г. прызваны ў Чырвоную Армію. У кастрычніку 1944 г. прапаў без вестак у Чэхаславакіі. Друкаваўся з 1922 г. Аўтар зборнікаў апавяданняў «Золак» і «Радасць» (1926), «Крык працы» (1928), «Вясновы прамень» (1929), «Летнім днём: Выбранае» (1960), «Светлая даль: Апавяданні. Аповесці. Замалёўкі» (1985). У 1929 г. у газетах «Чырвоная змена» і «Савецкая Беларусь» апублікаваны ўрыўкі з раманаў «У дні барацьбы» і «Вяснянка», у 1931 г. у часопісе «Чырвоная Беларусь» — урывак з аповесці «Скарабея». На беларускую мову пераклаў аповесці «Ташкент — горад хлебны» А. Няверава, «Ударны атрад» А. Дончанкі, кнігу Е. Бурчэ «Прыгоды ў паветры».

**Вёска Прудзішча** Юр’еўскага сельсавета

**Кучара Алеся** (Айзік Евелевіч; 27.6.1910—9.7.1996), крытыка і драматурга, радзіма. Нарадзіўся ў сям'і служачага. Працоўны шлях пачаў у 1926 г. у Смалявіцкім райвыканкаме справаводам. У 1927—1929 гг. вучыўся ў Беларускім педагагічным тэхнікуме, у 1929—1932 гг. — студэнт БДУ, потым Вышэйшага педагагічнага інстытута ў Мінску. У 1932—1936 гг. працаваў у рэдакцыях рэспубліканскіх газет, на Беларускім радыё. Вучыўся ў Маскоўскім інстытуце гісторыі, філасофіі і літаратуры імя М. Чарнышэўскага. У 1938—1940 гг. — старшы выкладчык Мінскага педінстытута імя М. Горкага. У час Вялікай Айчыннай вайны — пісьменнік франтавых газет. З 1945 г. — намеснік галоўнага рэдактара газеты «Літаратура і мастацтва», з 1948 г. — загадчык аддзела ў рэдакцыі «Настаўніцкай газеты», з 1951 г. — рэдактар Дзяржаўнага выдавецтва БССР, з 1960 г. — літаратурны кансультант Саюза пісьменнікаў БССР. У 1960—1968 гг. — член сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі кінастудыі «Беларусьфільм». З рэцэнзіямі і крытычнымі артыкуламі выступаў з 1928 г. Аўтар кніг літаратурна-крытычных артыкулаў. У 1943 г. выдаў кнігу нарысаў «На партызанскай зямлі». Аўтар п'ес «Заложнікі» (1944), «Гэта было ў Мінску» (1949), «Неспакойныя сэрцы» (1952), сцэнарыяў мастацкіх фільмаў «Чырвонае лісце» (з А. Куляшовым, 1958), «Гадзіннік спыніўся апоўначы» (з М. Фігуроўскім, 1958), «Лісты да жывых» (1965), «Усходні калідор» (з В. Вінаградавым, 1968).

**Вёска Пятровічы,** цэнтр сельсавета

**Пякарскага Эдуарда** (13.10.1858—29.6.1934), мовазнаўца, фалькларыста, этнографа і географа, радзіма. Яго маці рана памерла, і дзіця выхоўвалася ў сям'і селяніна. Затым хлопчык жыў у цёткі ў Мінску, у стрыечнага дзеда ў палескім маёнтку Барбароў. Вучыўся ў Мазырскай гімназіі і адначасова зарабляў сабе на жыццё рэпетытарствам. Пазней пераехаў вучыцца ў Таганрогскую, затым Чарнігаўскую гімназіі. У 1877 г. паступіў у Харкаўскі ветэрынарны інстытут. Калі пачаліся студэнцкія хваляванні, а затым і арышты, Пякарскі здолеў схавацца. Завочна быў прыгавораны да 5 гадоў ссылкі на Поўнач. Працаваў на Тамбоўшчыне пісарам. У канцы 1878 г. стаў членам рэвалюцыйнага таварыства «Зямля і воля». У канцы 1880 г. арыштаваны ў Маскве і прыгавораны да 15 гадоў катаржных работ. Катаргу замянілі ссылкаю. У 1881 г. сасланы ў міжрэчча Таты і Алдана ў Якуціі. Складальнік слоўніка якуцкай мовы (1899), трох тамоў «Прыкладаў народнай літаратуры якутаў» на якуцкай мове. У 1905 г. пераехаў у Пецярбург. Памёр у Ленінградзе.

**Семяжона Язэпа** (сапр. Семяжонаў; 16.11.1914—16.8.1990), пісьменніка, радзіма. Закончыў Смілавіцкую сярэднюю школу (1930), Мінскі педінстытут (1938). Працаваў акцёрам у Трэцім беларускім дзяржаўным тэатры (1932—1934), настаўнікам у роднай вёсцы (1940—1941). Удзельнік савецка-фінскай і Вялікай Айчыннай войнаў. Выкладаў у Мінскім сувораўскім вучылішчы (1953—1960), БДУ (1961—1976), адначасова працаваў у часопісе «Беларусь» (1962—1967). Друкаваўся з 1931. Перакладаў з англійскай, венгерскай, італьянскай, польскай, румынскай, чэшскай, славацкай моў, моў народаў былога СССР. Выступаў у друку як крытык, гісторык і тэарэтык мастацкага перакладу. Я. Семяжону прысвечана кніга Ірыны Лапцёнак «Паэт-перакладчык Язэп Семяжон: адметнасць творчай індывідуальнасці» (Мінск, 2010).

**Вёска Юраўка** Курганскага сельсавета

**Сіняўскі Іван,** пісьменнік, ураджэнец в. *Жажэлка* гэтага ж р-на, вучыўся ў мясцовай сямігодцы.

***Дзмітрый КРЫВАШЭЙ, Адам МАЛЬДЗІС***

***Працяг у наступным нумары***

# Бярозка

№ 7/2012(1010)











**bjarozka@mail.ru**
**vk.com/club 34570145**



● **Верасок**

# Слова Купалы да творчасці кліча...



*Падчас майстар-класа з паэтэсай Галінай Каржанеўскай.*
Фота Рагнеда МАЛАХОЎСКАГА.

***У Лагойскім раёне адбыўся 8-ы семінар маладых паэтаў Міншчыны «Слова Купалы да творчасці кліча...», у якім прынялі ўдзел больш як 30 таленавітых аўтараў. Лепшыя творы, прадстаўленыя на семінары, — да ўвагі чытачоў «Бярозкі».***

## Танец

Зорку ўбачыць,
Ступіць на зямлю...
Думкі ветрам сухім
Скаланула.
Пальцам звонкія струны
Крануў —
Гукі тонкія сэрца пачула.
Недзе ў цемры ласкава святло
З тваім целам
У танцы сальецца.
Момант вечны:
Каханне, любоў
Уз’ядналоцца з рытмамі
Сэрца...

***Міхась БАЦЯН,***
***Валожынскі р-н***



* * *

А мне не трэба кветак дарагіх,
Букет язміну лепей са старонкі мілай.
І дома апынуцца, ля сваіх,
На той зямлі, што я заву Радзімай.

Мая радзіма — вёсачка мая.
І кожны тут каменьчык мне знаёмы...
Лагодзіць сэрца песня ручая,
Які кудысь спяшаецца нястомна.

У якой бы я дарозе ні была,
Чакайце вы мяне, матуля з татам,
У хаце, у якой калісь жыла,
Хай стане мой прыезд
Хоць невялічкім святам.

***Юлія АРЦЮХЕВІЧ,***
***Валожынскі р-н***

* * *

Не спяшайся.
Сядай. Памаўчы.
Мы не звязаны болей нічым:
Развязаўся ручнік вышываны,
Зажылі учарашнія раны,
Вочы згаслі, як сонца ўначы.
Пачакай. Пасядзім. Памаўчым.

Мне прыемна,
Сядзець проста так,
Не шукаць хвалявання адзнак,
Не чакаць
Ад цябе нават слоў.
Не пужаць тваім імем сяброў.

Ад сябе забіраю ключы.
Ты маўчыш.
Так і трэба. Маўчы.

***Наталля КУЗЬМІЧ,***
***Барысаўскі р-н***

* * *

Спяшалася знайсці Вас — не паспела.
Імкнулася забыць — і не змагла.
Вас прагнула душа. Яна сталела,
Ды позірк Ваш нязменным зберагла.

Я ведаю, што Вы — складаны ідал,
Што двухаблічны: шчасце і бяда.
Мая нястача, бездань, Атлантыда...
Вы ёсць. Хвіліна — зноўку пустата.

***Бажэна МАЦЮК,***
***Вілейскі р-н***

## Сэрца не стамляецца кахаць

Не крыві душой, прашу, не трэба —
Сэрца не стамляецца кахаць.
Бачыш, я паміж зямлёй і небам:
Сёння — жыць, а заўтра — паміраць?

Слоў таксама не кідай на вецер.
Вунь іх колькі парасло быллём.
Словы без кахання — проста смецце
Пад апалым лісцем і галлём.

Ссек пад корань мары і надзеі,
І, маўляў, жыві цяпер адна.
Птушкай сінякрылай быць хацела —
Неба адабраў і моц крыла.

Зноў тваё нясмелае каханне
Завяло ў тупік, гляджу у столь.
Ну, навошта гэтае расстанне:
Сёння — смутак, а назаўтра — боль?

І таму ты не крыві душою,
Дай дазвол мне крыху палятаць.
Нават паміж небам і зямлёю
Сэрца не павінна знаць спакою —
Сэрца не стамляецца кахаць...

***Алена НОВІК,***
***Дзяржынскі р-н***

## Пунктуацыя кахання

Позірк нясмелы...
Усмешка... Здзіўленне...
Гэта прыводзіць нас у захапленне!
Вусны зліваюцца воляю боскай,
І з нецярпеннем ставім мы
Коску.

Час паімчыцца, нібыта ўтрапёны,
Розум каханнем ужо замутнёны.
Тахкае сэрца, шалёна у скронь б'е...
Што ж, надышоў час паставіць
Двукроп'е.

Раднейшага ў свеце няма чалавека,
А шчасцю такому замала і веку.
Бач, штосьці таемнае шэпча
на вушка...
(Пра гэта не кажуць!)
Дужкі.

На змену пажару прыходзіць
здзіўленне,
Што нейкім часовым было
утрапенне.
Адзін аднаго пакідаем торопка,
Над «і», як заўжды, не расставіўшы
Кропкі.

*Алена СЯЛІЦКАЯ,*
*Дзяржынскі р-н*

## Маме

Спяшаешся гастрыць нажы,
Чакаеш доктара ў халаце.
На ампутацыю душы
Заўжды ідзеш, як крыўдзіш маці.

Ды застанецца ў сэрцы боль,
Не супакоіцца сумленне.
Гатовы лыжкай есці соль,
Але не вернецца імгненне.

Адзін стаіш сярод мяжы,
Няўтульна стала ў роднай хаце...
На ампутацыю душы
Ідзеш заўжды, як крыўдзіш маці.

*Зінаіда КІРНАЖЫЦКАЯ,*
*Клецкі р-н*

## Зязюля

Цёплы надвячорак
Голасам пачуццяў кліча,
І душа вылятае зязюляй,
Каб на тым, недалёкім
Ад вясніц узлеску,
Множыць — да хрыпаты —
Твае гады...

*Ігар КАНАНОВІЧ,*
*Клецкі р-н*

## Пра душу

Яна хацела звар'яцець,
Ды Бог сказаў, што так няможна.
Яна жадала ўсё паспець,
Ды лёс прамовіў: асцярожна!

Яна хацела шмат чаго,
Па сутнасці — нішчымна мала:
Сустрэць сярод людзей таго,
Каго у вечнасці чакала.

*Таццяна ТАМАШЭВІЧ,*
*Маладзечанскі р-н*

* * *

Ты не будзеш маім,
Я ведаю,
Бо і я ж сама не свая.
Я з трывогаю раніцай снедаю.
Разаслалася ў небе зямля.
На цябе зноў натраплю —



Спужаюся,
Быццам прывід ты, птушка — я.
Колу дзён я паціху скараюся,
Не змірылася памяць мая.

*Яна ВЛАДЫКА,*
*Маладзечанскі р-н*

## Ты недзе ёсць

Ты недзе ёсць — я ведаю дакладна.
І што б ні сталася пасля са мной,
Цябе я адшукаю, мой герой,
Абавязкова, нават неадкладна.

Ты недзе ёсць —
цябе б знайсці мне толькі,
Тады і дождж, і град — не перашкода.
Хай пройдзе месяц, хай паўгода —
Цябе пазнаю я ў людскім натоўпе.

*Вікторыя ЖЫЛЯКОВА,*
*Смалявіцкі р-н*

## Вандроўкі

Клічуць беларускія дарогі —
Зноў мы адпраўляемся ў вандроўку.
Пакідаем родныя парогі,
Каб знайсці дзе
Ведаў залатоўкі.

Рэчкі, курганы, палі, азёры...
Брэст, Гальшаны, Навагрудак, Ліда...
Клічуць нашы родныя прасторы,
Нашы сэрцы новаму адкрыты.

*Павел МІТАР,*
*Мінскі р-н*

* * *

Цябе па позірку пазнаю —
Адкрыеш сэрца для мяне.
Цябе да болю я кахаю...
І не баюся болю, не!

Табе даверуся папросту,
Аддам свой лёс тваім рукам.
Хоць часам будзеш нават злосным —
Усё да кропелькі аддам!

Дык уратуй маё каханне,
Не затушы агонь жыцця!
Бо праз маўклівае чаканне
Іду няспешна да Быцця.

*Вікторыя БЕПЕРШЧ,*
*Мядзельскі р-н*

## Май

Ён ледзь чутна ветрам адгамоніць,
Белым пухам у сады сыпне
І апошнім школьным перазвонам
У душы ўспаміны ўскалыхне...

Басанож па серабрыстых росах
Пахам бэзу пабяжыць удаль,
А вяночак жоўты вяне ў косах...
Май спраўляе свой апошні баль.

Загалосіць ліўнямі, заплача.
Гром аркестрам наганяе жаль.
Па маім дзяцінстве (не іначай!)
Май спраўляе свой апошні баль.

*Вольга ТРЫГУБОВІЧ,*
*Уздзенскі р-н*



**● Дынамік**

# World music разганяе хмары!

***«Дзікая мята», world music фестываль непадалёк ад Масквы, распачаў дажджлівы чэрвень. Там былі стракатыя дажджавікі, непрыемна пракмоклы абутак і хэдлайнер Горан Брэгавіч са славутым «Вясельна-пахавальным аркестрам». А яшчэ анімацыя Юрыя Нарштэйна і Хаяо Міядзакі з гадзіны да трох ночы, фестывальная вулачка разнастайнага, часам унікальнага хэнд-мэйда. Рукі балелі ад холаду, калі мы складвалі ў заплечнік нашу прамоклую палатку. І ўсё ж пяты фестываль «Дзікая мята» адбыўся! Цягам трох першых дзён лета.***

## Ставіцца з глыбокім разуменнем

«Дзікая мята» пазіцыянуе сябе як world music фестываль. World music — сучасная «заходняя» музыка, але з выкарыстаннем народных элементаў — традыцыйных інструментаў, народных тэкстаў або народнай манеры выканання.

Дзікая мята! Прыгожы вобраз. Пецярбургская спявачка Жэня Любіч, якая таксама там выступіла, разважала над назвай фестывалю: «Што такое дзікая мята? Гэта свежае паветра. Тут шмат гуртоў, якія знаходзяцца ў андэграўндзе. І вельмі здорава, што фестываль прасоўвае такую музыку. Дае нейкі новы смак! Wild у перакладзе з англійскай мовы не толькі дзікі, а яшчэ і нейкі вельмі класны, новы, цікавы».




*Бас-гітарыст Уча Гугунава.*

Прадзюсар «Мяты» Андрэй Клюкін асоба невыпадковая: ён аддана, з любоўю служыць стыхіі музыкі. «Мне падабаецца, калі да world music ставяцца з глыбокім разуменнем, — заўважае на прэс-канферэнцыі спадар Клюкін. — Гурты “Дзікай мяты” не папсовыя, іх няма на радыё, але гэта не псуе настрой музыкантаў, пісаць усялякую бязглуздзіцу яны не пачынаюць».

Сёлета выступіла 50 гуртоў з самых розных краін. (Праўда, на жаль, выканаўцаў з Беларусі не было). Ніно Катамадзэ (Грузія)



і Goran Bregovich (Сербія) — гэта, бясспрэчна, імёны! А яшчэ пазітыўныя ўкраінцы SunSay (ф'южн-фанк-рэгі-гурт, заснаваны Андрэем Запарожцам, былым вакалістам славутага гурта 5'nizza), аўтарытэтная Іна Жэланая, Billy's Band, які атрымаў мянушку «піцерскі фальклор»... Была і далёкая, стылёвая, загадкавая Еўропа: Doppel bock (Швейцарыя), Budzillus (Германія)...



*Ніно Катамадзэ ў экспрэсіўным танцы.*

Любяць, чакаюць на «Дзікай мяце» рускіх этнаэлектроншчыкаў «Івана Купалу», што працуюць з фальклорам 70—80-х гадоў. Адгукаецца Андрэй Клюкін пра гэты калектыў з вялікай любоўю: «Я нядаўна пачаў з Лёшам шмат праз скайп кантактаваць (Аляксей Румянцаў — сэмплер і клавішнік — **К. Б.**), і зразумеў, наколькі ён музычна эрудыраваны чалавек! Тое, што робіць "Іван Купала", вельмі прадумана, выразна, магутна. Лёша ўсё робіць, глыбока разумеючы сваю працу».

«Іван Купала» распачалі граць пад дажджом. Але ж і ў дажджавіках публіка радавалася, танчыла. Вакалісткі ў прыгожых народных строях выпраменьваюць дабрыню, захапляюць сваім гарманічным народным танцам. А потым музыканты падбадзёрылі публіку карагоды вадзіць — і стала яшчэ больш радасна! Слухачы былі ўдзячны музыкантам. А музыканты ў сваю чаргу выказвалі ўдзячнасць публіцы за ўвагу і падтрымку. А яшчэ «Іван Купала» абяцалі разагнаць дождж — і ён сапраўды скончыўся!

## Этнасвет!

Ужо другі раз фестываль «Дзікая мята» шчасліва выбухае на тэрыторыі этнаграфічнага парка «Этнасвет» паблізу вёскі Пятрова на паўночным усходзе Калужскай вобласці.

А што ж такое «Этнасвет»? Гэта этнадвары шматлікіх краін свету, якія праз свае культуры імкнуцца перадаць унікальнасць сваіх народаў. 52 этнадвары, 260 тысяч квадратных метраў. «Этнасвет» быў заснаваны Русланам Байрамавым пры дапамозе дабрачыннага фонду «Дыялог культур — адзіны свет». Стварэнне этнаграфічнага парку — справа руплівая: праект плануецца завяршыць толькі ў 2020 годзе.

Мы і не чакалі, што шпацыр па квартале Вуліц Свету прыемна паглыне нас, знішчыць адчуванне часу і прымусіць забыцца нават на музычныя сцэны «Дзікай мяты».

...У холе, распачынаючы квартал Вуліц Свету, размясціла сваю прадукцыю «Музыка для ёгі і медытацыі». «Ом мані падме хум», — спявае з калонак




*Прадзюсар фестывалю Андрэй Клюкін.*

тыбецкую мантру папулярная нямецкая эзатэрычная спявачка Дэва Прэмал. І я думаю пра тое, што фестываль — выдатная пляцоўка, каб адчуць дух нашага часу. Спярша Вуліцы Міру ўспрымаюцца досыць спакойна. Дамы Аўстрыі, Германіі, Японіі, Інданэзіі… «Падумаеш! Людзям — абы хлеба і відовішч!» — думка з адценнямі скептыцызму.

У доме Кітая, з ярка-чырвонага дрэва, пабачылі майстра каліграфіі Сін Сіна. За пэўную цану ён напіша на лёгкай рысавай паперы ваша імя. Чырвоныя кітайскія ліхтарыкі вісяць над Сін Сінам, традыцыйны кітайскі жывапіс — за яго спінай. Гарманічнымі, дзіўнымі рухамі Сін Сін лёгка танчыць пэндзлем па рысавай паперы, ствараючы нейкія магічныя, мудрагелістыя іерогліфы. Быць кітайскім каліёграфам — гэта значыць 80 тысяч знакаў ведаць!

А побач з домам Кітая — дом Японіі. Якога-небудзь японскага чараўніка тут не было. А была палічка з арыгамі. Гірлянда папяровых жураўлікаў на ўваходзе: блакітны жураўлік, лагодна-жоўты, лагодна-зялёны… У галаву прыходзіць думка пра сілу дэталі.

Лёгкае жытло Інданэзіі — з бамбукавых палачак. А мексіканскі дом — дыхтоўны, каменны. Аўстралійская дамоўка — шэрая, з саламяна-гліняным дахам. Сцены яе распісаны прымітыўным абарыгенскім жывапісам. А вось і Еўропа. У аўстрыйскім жытле — арыстакратычная еўрапейская альтанка. А Нідэрланды — гэта нацыянальная кафля, еўрапейскія вітражныя дзверцы і, чамусьці, більярдны стол.

Паступова першасны скептыцызм змяняецца



*Рускі фольк-гурт «Іван Купала».*



радасцю — ад таго, што свет такі вялікі і розны.

Магчыма, квартал Вуліц Свету выглядае ў нечым занадта паверхневым, схематычным, недапрацаваным. Скажам, пасадзілі майстра лозапляцення ў Чэхіі, толькі таму што там месца вольнае. Насупраць аб’яднанай Украіны-Беларусі (вясковая хаціна з кошыкам, сурвэткамі і незразумелай лялечкай з ануч!) — Францыя: шляхетныя кветкі на падваконні, карціны Манэ і Сезана. А Малдова — танны бутафорскі вінаград ды бочкі для віна. Прадказальныя нацыяльныя стрэрэатыпы! І ўсё ж... Квартал Вуліц Свету нас паглынуў і захапіў. І, спадзяёмся, у будучыні чароўная стракатая вулачка «Этнасвету» яшчэ ўдасканаліцца.



*Арганізатары фестывалю паклапаціліся, каб у гасцей не вымаклі ногі.*

## «Мята» — не алкафэст!

Аматары «Дзікай мяты» цэняць гэта свята за ўтульную атмасферу і адсутнасць п’яных. А прыязджаюць сюды людзі самага рознага ўзросту — і дзевяцігадовыя з бацькамі, і тыя, каму за сорак...

Даша: «Гэты неверагодны “Этнасвет”, пра які мне ўжо столькі разоў казалі сябры! Маленькія крамкі з хэнд-мэйд-рэчамі — проста цудоўна!»

Рыгор: «Уражанні вельмі яркія! Такія мерапрыемствы немагчыма сапсаваць ні дажджом, ні іншымі абставінамі. Калі столькі цудоўных, добрых, адкрытых людзей збіраюцца ў адным месцы — гэта заўжды кайф!»

Фестываль — гэта яшчэ і люстэрка грамадства, адлюстраванне яго плыняў і інтарэсаў. Шматлікія музычныя рускія фестывалі пераплятаюцца з эзатэрыкай і псіхалогіяй. «Дзікая мята» — не толькі музыка, але і майстар-класы: «Трансавае гарлавое дыханне», «Жаночыя энергетычныя практыкі», «Вандраванне ў мінулыя жыцці»... А таксама майстар-клас па вегетарыянскім харчаванні, па вырабе лялек з ануч і па стварэнні кветак з палімернай гліны. І багата ўсяго іншага!

***Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ,***
*фота Галіны ХРЫПАЧОВАЙ*

► **Магілёўскі раённы камітэт БРСМ**
► **Магілёўскі райвыканкам**
► **Часопіс «Маладосць»**
► **Газета «Прыдняпроўская ніва»**

# «Гартаючы мінулага старонкі...»

***Конкурс на лепшае сачыненне пра самую адметную кнігу ў дамашняй бібліятэцы***

## Святло далёкай зоркі




Халодны вясновы вечар... З-за грамавой хвалі зноў адключылі электрычнасць, і таму ва ўсім доме запалены свечы. Загадкавая атмасфера чагосьці недасягальнага і ў той жа час блізкага, роднага... Я сяджу за сваім старэнькім пісьмовым сталом і перагортваю парэпаныя, пажаўцелыя ад часу старонкі кнігі Міхаіла Мікалаевіча Загоскіна «Аскольдова могила. Повѣсть временъ Владимира Перваго». Цвёрды пераплёт малочна-карычневага колеру з ілюстрацыяй да самага яркага эпізода рамана, зробленай мастаком Уладзімірам Пчолiным у год выдання твора — 1902, інтрыгуе. Колькі дзён працы, колькі начэй без сну, колькі намаганняў розуму вылітыя ў дробным маскоўскім тыпаграфічным шрыфце таварыства І. Д. Сыціна!

Пяром фіялетавых чарніл зроблены старыя пазнакі. Магчыма, гэта мой прапрадзядуля Кірыл Усікаў, 1881 года нараджэння, не раз перачытваў эпізоды, якія асабліва хвалявалі яго. А вылучаныя цытаты, я думаю, вельмі хацелася яму запомніць. «Иной совѣтуетъ для того, чтобъ вѣрнѣе погубить легковѣрнаго, который полагается на его совѣсть», — чытаеш і пагаджаешся з адкрыццём мудрасці аўтара.

Сюжэт разгортваецца на фоне асноўнай праблемы той эпохі — барацьбы паганства, што ўжо аджывае, з новай рэлігіяй, якая перамагае, — хрысціянствам. На гэты канфлікт накладваецца і яшчэ адзін канфлікт — дынастычны. У ім удзельнічаюць таемныя прыхільнікі Аскольда і Дзіра — старажытнарускіх князёў, якія былі даўно звергнуты. З гэтым змаганнем і звязаны лёсы княжага дружынніка высакароднага Усяслава і яго каханай Надзеі, галоўных герояў рамана.



Прабіраюся праз сівы туман стагоддзяў, — і перада мной раскрываюцца карціны мінулых часоў. Ува ўсёй прыгажосці сваёй, выгінаючыся па стромых берагах прывольнага Дняпра, з'яўляецца старажытная сталіца зямлі рускай — вялікі Кіеў, стольны горад. Я ўслухоўваюся ў спевы прарочых салаўёў Уладзіміра — натхнёных баянаў старажытнасці, углядаюся ў вясёлыя карагоды рускіх дзяўчат, што скачуць пад ценем дубоў альбо пры святле агнёў. Паглыбляюся ў тыя аддаленыя часы Расіі, калі, не асветленая яшчэ святлом праваслаўя, яна прыносіла крывавыя ахвяры свайму Перуну. Калі ў дрымучых лясах перагукваліся лесуны і чутны быў рогат хітрых русалак. Калі ў буйныя восеньскія ночы на вяршыні Кучынскай гары збіраліся чараўнікі, пярэваратні і злыя вядзьмаркі, і, купаючыся ў ранішнім тумане, дурэлі вёрткія пачвары. Калі слава князя становіцца ўласнасцю яго народа, а магутны Уладзімір Святаслававіч — шаноўным уладаром свайго часу.

Гістарычны раман захоплівае не толькі яркім казачна-фантастычным каларытам, але і багатым фальклорным матэрыялам, што акрыляе розум і сэрца пачуццём любові да свету, чалавецтва.

Гартаючы старонкі кнігі, я ў думках прабягаю па старонках жыцця свайго прапрадзеда. На жаль, знаёмства з ім толькі завочнае, выбудаванае з успамінаў бабулі і расповедаў мамы. Кірыл Аўрамавіч умеў чытаць і пісаць, вучыўся ў прыходскай школе адзін год і некалькі месяцаў. Кінуў вучобу пасля таго, як бацька ляпнуў яго лінейкай па галаве за нявыкананы ўрок па Закону Божаму, але гэта не прыпыніла яго, а толькі ўзмацніла імкненне да ведаў.

«Аскольдова могила» — гэта наша сямейная рэліквія, частачка жыцця, гісторыі сям'і, каштоўная спадчына. Яна не «памерла» на кніжнай паліцы, а займае ганаровае месца ў нашым старажытным куфры. Здараецца па вечарах, калі ўсе мы збіраемся разам, куфар ажывае: зноў і зноў спасцігаем радаслоўную, фатаграфіі, старыя газеты, рукапісы...

Дагарае свечка... У глыбокай сінечы цёмнага неба запаліліся зоркі. Дзесьці там, далёка, гарыць зорка душы майго прапрадзеда. І святло яе заўжды асвятляць будзе жыццё шматлікіх пакаленняў нашага роду.

*Станіслаў ПЕТРУСЁЎ, 9 клас, Кадзінская СШ*

## 500 пакутлівых старонак



Тэма Вялікай Айчыннай вайны — незвычайная, бо напісана пра вайну так шмат, што не хопіць і цэлай кнігі, каб узгадаць адны толькі назвы твораў. Незвычайная, бо ніколі не перастане хваляваць людзей, вярэдзячы старыя раны. Незвычайная, бо памяць і гісторыя ў ёй злучыліся ў адно. Сучасныя маладыя людзі не ведаюць і не хочуць вайны. Але яе не хацелі і тыя, хто паміраў, не думаючы пра смерць, пра тое, што не ўбачаць больш ні сонца, ні травы, ні лісця, ні сваіх дзяцей.

Чым далей ад нас вайна, тым больш усведамляем мы веліч народнага подзвігу. І тым больш — кошт перамогі. Узгадваецца першае паведамленне пра вынікі вайны: сем мільёнаў загінулых. Потым з'явіцца ўжо іншая лічба: дваццаць мільёнаў. І зусім нядаўна... дваццаць сем мільёнаў! А колькі скалечаных, зламаных жыццяў! Колькі шчасцяў, што не адбыліся, дзяцей, што не нарадзіліся! Колькі слёз матуль і татаў, удоў і сірот было праліта!

Вядома, у нашай памяці нішто не забыта, і ніхто не забыты.

У маёй сям'і ёсць унікальная кніга «Судовы працэс па справе аб злачынствах, здзейсненых нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў Беларускай ССР». Унікальнасць яе ў тым, што напісана яна ў студзені 1946 года адразу па гарачых слядах вайны. А была выдадзена ў 1947 годзе ў Мінску Дзяржаўным выдавецтвам БССР.

Кніга вельмі дарагая для нашай сям'і, бо гэта памяць пра нашага героя, нашага прадзядулю, які прайшоў усю вайну. Але як трапіла яна да яго, мы і па сёння не ведаем. Сама па сабе кніга парэпаная, і мяккі пераплёт не дазволіў захаваць яе ў добрым стане, бо многія гады яе перадавалі з рук у рукі. Уся наша сям'я з вялікім інтарэсам чытала гэтую гістарычную праўду жыцця. Там апісваецца судовы працэс над нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Няма ні грама мастацкай фантазіі, а толькі рэальныя факты, рэальныя людзі: генерал-лейтэнант германскай арміі Рыхтэр Іяган Георг, генерал-маёр паліцыі Герф Эбергад, былы генерал-маёр германскай арміі Эрдмансдорф Готфрыд Генрых... Увесь спіс абвінавачаных складае 20 чалавек. І абвінавачваліся яны ў тым, што ўсталявалі для савецкіх грамадзян на акупаванай тэрыторыі Беларусі невыносна цяжкі рэжым, што называўся імі «новым парадкам» — рэжым арганізаваных злачынстваў, масавага знішчэння і рабавання насельніцтва.

З кнігі мы даведваемся, што па іх віне мірныя савецкія грамадзяне дзясяткамі тысяч заключаліся ў лагеры разам са сваімі сем'ямі без суда і ўсялякага вызначэння тэрмінаў пакарання. Умовы змяшчэння ў лагерах — голад, холад, непасільная праца, пабоі і катаванні — былі разлічаны на тое, каб давесці ўсіх заключаных да смерці, а таму шэраг лагераў атрымаў назву «лагеры смерці».

Нямецка-фашысцкія злачынцы, у тым ліку і абвінавачаныя па гэтай справе, ужывалі розныя сродкі для забойства савецкіх грамадзян.

Акрамя расстрэлаў, павешанняў, спалення жывымі, фашысцкія садысты праводзілі задушэнні савецкіх людзей у адмыслова абсталяваных газавых машынах — «душагубках». У кнізе дакладна ўказаны ўсе дыялогі, паказанні абвінавачаных. Яна складаецца з пяцісот старонак, на якіх дакладна апісаны ўсе жахлівыя падрабязнасці катавання і забойства мірных жыхароў Беларусі.

Калі чытаеш, сэрца застывае ад жаху, а на вочы наварочваюцца слёзы. «Гес Франц Карл, унтэр-афіцэр частак СС, у снежні 1941 года асабіста ўдзельнічаў у расстрэле 100 хворых чалавек Мінскага гарадскога шпіталя і 250 мірных савецкіх грамадзян, заключаных у турму».

«Гетрых Алаіз Кельян, калі быў салдатам у канцы студзеня 1943 года ў складзе батальёна прымаў удзел у расстрэле 10 000 савецкіх ваеннапалонных, што ўтрымліваліся ў лагеры "Масюкоўшчына", які размяшчаецца ў раёне станцыі Мінск-Таварная».

«У маі 1944 года па загадзе Эрдмандсдорфа загадалі пазбавіць харчавання ўсё насельніцтва горада Магілёва з тым, каб пад пагрозай галоднай смерці пры-

мусіць працаваць яго на будаўніцтве ўмацаванага раёна». І такімі жорсткімі падзеямі насычана ўся кніга.

Багата ўсяго можа зрабіць чалавек, калі ён ведае, у імя чаго і за што ён змагаецца. Тэма трагічнага лёсу савецкіх людзей ніколі не будзе вычарпана ў літаратуры. Чалавечая памяць хавае ў сабе досвед кожнага. «Памяць супрацьстаіць знічтажальнай моцы часу», — сказаў Дзмітрый Ліхачоў. Няхай жа гэтая памяць і досвед вучаць нас дабрыні, міралюбству, чалавечнасці. І няхай ніхто з нас не забудзе, хто і як змагаўся за нашу свабоду і шчасце.

*Антаніна СКУРАТ, 9 клас, Сухараўская СШ*

## І божая ласка сышла на мяне...

Я частая госця ў сям'і Пагужэльскіх. Усё проста: яны мае суседзі. І бабулю Машу я памятаю з ранняга дзяцінства. Яна добрая, але вельмі строгая. Ёй 81 год. Але што мяне ўражвае: крыжаванкі разгадвае, як арэхі лузае. І бібліятэка ў яе сур'ёзная сабрана. Не бабуля, а жывая энцыклапедыя. «Вельмі любіла чытаць мая мама, — узгадвае Марыя Канстанцінаўна, — і гэтую любоў мне перадала».



— 220 —

baniu tego serca najsłodszego wiernie wytrwało w miłości Twojej aż do końca, aż na wieki. Amen.

(Modlitwa druga i Litania jak wyżej)

...

Ojciec św. Grzegorz XVI dnia 4 sierpnia 1837 roku.

WIELKI TYDZIEŃ.

Godzina Adoracyi

przed Najświętszym Sakramentem

w Wielki Czwartek.

Jest to bardzo pożyteczne, a nawet potrzebne dla dobra duszy, aby wierni coraz bardziej pobudzeni byli do dziękczynienia Panu naszemu Jezusowi Chrystusowi za ustanowienie Najświętszego Sakramentu, zwłaszcza w te dni, kiedy Kościół św. obchodzi pamiątkę tej przenajdostojniejszej tajemnicy.

Вось аднойчы я звярнула ўвагу на неверагодную кнігу. Па шчырасці, я яе раней і не заўважала. Руку працягнула — ды мяне па руцэ стукнулі. «Бач ты, спрытная якая!» — прабурчала бабуля. Але, бачачы непадробны інтарэс у маіх вачах, змяніла гнеў на літасць. Ашчадна — не, нават не ашчадна, а нейк неверагодна лагодна — яна ўзяла кнігу ў рукі. «З ёй кладуся спаць, з ёй дзень сустракаю. Гэта малітоўнік, — тлумачыць яна. Шырыня гэтай кніжкі — восем сантыметраў, таўшчыня — два з паловай, даўжыня — дванаццаць з паловай. Старонак у гэтай мудрай кніжцы трыста чатырнаццаць. Трымаю яе на далоні і адчуваю, што божая ласка сыходзіць на мяне. Карычневы пераплёт месцамі зусім парэпаны, бо год выдання 1906! Падумаць страшна: тады яшчэ не было на свеце нават самой уладальніцы бабулі Машы! Усе староначкі акантаваныя пазалотай. Ува ўсім прагледжваецца самае ахайнае абыходжанне з малітоўнікам. Ён напісаны на польскай мове. Выдадзены ў 1906 годзе ў горадзе Познань. «Я каталічка, і ўсе мае сваякі па мамінай лініі католікі, — адказвае на маё неагучанае пытанне Марыя Канстанцінаўна. — Малітоўнік атрымала мая бабуля Ганна Камінская, потым мая мама Паліна Феліксаўна, а потым я». Вось гэта спадчына! Я ўяўляла, як нехта моліцца пра сваіх дзяцей, а кагосьці благаслаўлялі ў апошні шлях.

Неверагодна, але цэлая гісторыя даўжынёю ў 106 гадоў захавана Марыяй Пагужэльскай. Гэта заслугоўвае пашаны перад гэтай мудрай жанчынай.

*Моніка БОТЭ, 8 клас, Цішоўскай СШ*



# Прыгодніцкі раман, напісаны школьніцай




***Уяўляеце, калі Ксеніі Шталенковай было ўсяго дванаццаць-шаснаццаць гадоў, яна напісала самы сапраўдны прыгодніцкі раман! І вось цяпер, у дзевятнаццаць, выдала кніжку.***

***У рамане «Адваротны бок люстра» дзеянне адбываецца ў XVI стагоддзі. 15-гадовая Бася трапляе ў мінулае, дзе сустракаецца з 17-гадовым Міхалам. Перад тым, як вярнуцца назад, у наш час, дзяўчынка паспявае закахацца і папрысутнічаць на каранацыі Барбары Радзівіл.***

На прэзентацыю сваёй кніжкі «Бярозку» маладая пісьменніца не забылася запрасіць. Бо менавіта ўвесну 2010 года ў нашым часопісе быў надрукаваны пачатак яе рамана.

— Мне здаецца, што я з таго часу зусім не змянілася. Больш ведаў, канешне, з узростам стала, але, мне здаецца, што характар такі ж.

**— І які ў цябе характар?**

— Гэта пытанне больш да сяброў. Я не канфліктная. Мне падабаецца мець стасункі з людзьмі.

**— А якія мастацкія творы фарміравалі твой характар? Якія пісьменнікі? Якая музыка?**

— Напэўна, на той час найбольшае ўздзеянне аказаў Вітаўт Чаропка, яго «Уладары Вялікага княства». Ён мне даў і любоў да гісторыі, і да беларускай мовы. А музыка? Музыку я люблю розную: ад блюза, джаза да Pink Floyd. Што яшчэ? Мабыць, нейкія стужкі прыгодніцкія. Фільм «Уладар пярсцёнкаў» мяне і па сёння захапляе. Мне нядаўна настаўнік нават поўную версію падараваў. Там жа яшчэ героі такія станоўчыя — і гэта дапамагло мне сваіх герояў такімі станоўчымі, гераічнымі зрабіць.

**— У цябе добрая беларуская мова… Сёння далёка не ўсе маладыя людзі ўвогуле ведаюць беларускую мову.**

— Гэта быў сапраўды складаны працэс. Бо я пачынала пісаць на рускай мове. Трэба было і да слоўнікаў звяртацца, і да твораў Уладзіміра Караткевіча. У яго шмат ёсць цікавых, адметных слоў. Я люблю беларускую мову! У кожнага беларускамоўнага чалавека нейкі свой слоўнік мовы — і гэта займальна.

**— Ты захапляешся гісторыяй роднай зямлі. Але ж спецыяльнасць абрала зусім іншую — візуальны дызайн і медыя…**

— Гэта, канешне, сюрпрызам было для ўсіх. Ніхто не чакаў, што я паступлю на такую спецыяльнасць! Чакалі, што фізіка ці хімія будзе. У школе я вельмі захаплялася гэтымі прадметамі. Хімія для мяне была нечым творчым. Матэматыку любіла. Увогуле, вучыцца ў школе было цікава. Але працягваць тое, што там было, не захацелася. І я вырашыла змяніць профіль і паступіць на дызайн. Але мне здаецца, што сфера дызайну — гэта шырокае поле. І гісторыя, і мастацтва, і псіхалогія, і нават літаратура маюць да яго дачыненне.

**— А калі ты ўвогуле пачала пісаць мастацкія творы?**

— Недзе гадоў у сем. Памятаю, нейкія апавяданні пра жывёл пісала. А ўжо ў пятым класе прыйшла ідэя з раманам. Нам далі такое заданне ў школе: напісаць апавяданне або пачатак рамана. З гэтага і пачалася гісторыя маёй кніжкі «Адваротны бок люстра».

**— А няма адчування, што вырастаеш з прыгодніцкага жанру?**

— Трохі ёсць. Але вось мае героі… Яны ўсё ж маладзейшыя за мяне. Ды і я люблю сваіх герояў, ужо прызвычаілася да іх.

**— Што будзе ў наступных кніжках?**

— Таксама прыгоды. Але ў другой часцы будзе больш сучаснасці, і дзеянне будзе адбывацца ў часе бліжэйшым да нашага.

**— Цікава, як была арганізавана праца над раманам?**

— Гэта было складана. Спачатку я пачынала ў сшытку нешта пісаць. Потым адчула, што сшытка мала, і вырашыла пісаць за камп'ютарам. І справа такім чынам хутчэй пайшла, бо друкую я не так марудна, як пішу. Самая ж актыўная праца была ў 15 гадоў. Улетку, за месяц, я ўсё асноўнае напісала.

**— А як прыйшло ўсведамленне, што гэты твор варты таго, каб стаць кніжкай?**

— Гэта была мая мара. Я спадзявалася на кніжку з самага пачатку.

**— Многія людзі і падлеткі недаацэньваюць сябе…**

— Так, у мяне таксама часам была заніжаная самаацэнка. Здавалася, што нешта не такое ўжо і добрае пішу. Але бацькі казалі: «Чаму б і не? Спрабуй далей!» Потым сябры падтрымалі. Казалі: «А калі ўжо ў вокладцы можна будзе пабачыць?» Таму, дзякуючы падтрымцы блізкіх людзей, верылася, што твор варты таго, каб стаць кнігай.

**— Калі пішаш з самага дзяцінства, то гэта, напэўна, сур'ёзны занятак для цябе? Ці плануеш надалей рэалізоўвацца як пісьменнік?**

— Так, усё ж хочацца далей пісаць. Гэта сапраўды цікава! Мяне так і цягне нешта напісаць… Але часу цяпер не хапае. Бо я ж яшчэ ва ўніверсітэце вучуся, і шмат часу займае вучоба.

**— Акрамя прыгодніцкага рамана, у якіх жанрах ты б яшчэ хацела сябе паспрабаваць?**

— Рэалістычнасць, апісанне штодзённасці падабаецца. А яшчэ думала calісьці дэтэктыў напісаць.

**— Цяпер можна пачуць пра смерць жанру рамана. Людзі сталі менш чытаць…**

— Ну, я спадзяюся, што раман як жанр не загіне і будзе працягваць сваё жыццё.

**— Можаш пералічыць кніжкі, якія прачытала за апошні час?**

— Увесь час адбірае ўніверсітэт — цяпер мала чытаю. Прачытала не так даўно «Баўдаліна» Умберта Эка. Гэта раман пра хлуса, які захапляўся сваёй хлуснёй і верыў у яе. Я ўвогуле люблю Умберта Эка! Ён вельмі цікава пераплятае гістычныя факты. Лічу, што яго асоба не можа не натхніць. І гісторык, і грамадскі дзеяч, і літаратар. Можна намагацца дацягнуцца да яго ўзроўню — і ўсё роўна не атрымаецца. Ён мой ідэал акадэмічнага і літаратурнага складу. Прачытала ў арыгінале «Ганарлівасць і прадузятасць». Вельмі спадабалася гэтая кніга!

**— А як змяняюцца з гадамі творчасць і стаўленне да творчасці?**

— Пачалі з'яўляцца рэалістычныя ідэі. Стала больш самаіроніі. Не трэба ні да жыцця, ні да сваёй творчасці ставіцца сур'ёзна! Няма такога, каб вось узяў і дасягнуў нечага! Мы развіваемся ўвесь час.

***Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ***

**● Нам цікава!**

# Што ж лецейка водарнае падаруе?

***Лета, лецейка, лецечка! Цудоўная часіна, калі ўсю ноч можна кніжку чытаць і музыку слухаць, а на світанку пайсці гуляць па горадзе пустэльным. Можна падарожнічаць (калі не ў Крым, дык у беларускія замкі), фатаграфаваць. Расфарбаваць акрылавай фарбай цішотку. Запрасіць сяброў у вёску. Сушыць «гарбатныя» зёлкі на зіму. Збіраць ягады і прыгатаваць з іх сочыва, каб потым, шэрай зімою, падараваць каму-небудзь слоік з гэтым самым радасна-летнім сочывам…***

***Цудоўны час, каб жыць творча!***

***«Бярозцы» стала цікава, якія свае задумы рэалізуюць беларускія школьнікі. Дзесяцікласнікі мінскага ліцэя № 2 дзеляцца з намі сваімі планамі на лета.***

Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ

**Паліна Вярбіцкая:**

— Паеду на рэчку Вілію на паўтара тыдня з нашым ліцэйскім настаўнікам па фізкультуры. Гітару возьмем. Галоўнае, каб добрае надвор’е было! Потым вярнуся ў горад, буду гуляць, адпачываць з сябрамі. Потым хачу з’ездзіць да бабулі, якая жыве на Нарачы. Там буду купацца, адпачываць, чытаць. Цяпер у літаратурным класе нас без справы не пакінуць! Збіраюся яшчэ рыхтавацца да паступлення ў лінгвістычны ўніверсітэт.

**Саша Грабко:**

— Хачу трапіць на канцэрт Red Hot Chili Peppers у Кіеве, разам са сваімі кіеўскімі і мінскімі сябрамі. Пасля гэтага я яшчэ ў Кіеве пабуду. На лецішча з’езджу. Хачу папрацаваць. Толькі не хацела б флаеры раздаваць! І — на мора з сябрамі. У Балгарыю.

**Вітольд Глушыцкі:**

— Я збіраюся шмат чытаць. Мне гэта падабаецца і патрэбна, каб павышаць свой інтэлект. Я звычайна ўлетку ў Мінску застаюся, нікуды не езджу. Напэўна, гэта наша мама прывіла нам любоў да горада. Раней хадзілі на вуліцу з сябрамі, але потым гэта перастала падабацца. На вуліцы ўсялякія не вельмі добрыя людзі трапляюцца… Таму мы з братам пачалі заставацца дома і нешта чытаць. «Байцоўскі клуб» Чака Паланіка хачу ўлетку прачытаць...

# Любімы Стары Пруд, ці Як добра ў бабулінай вёсцы



У нашай краіне незлічоная колькасць вёсак. І назвы ў іх розныя, часам такія цікавыя і загадкавыя: Васількі, Клінок, Парэчча... У кожнай вёсачкі — свая гісторыя і свае традыцыі.

Выбяру, аднак, са шматлікага спісу адну невялічкую вёску, якая мне добра знаёма. Мы з бацькамі колькі ўжо гадоў прыязджаем сюды адпачываць летам і кожны раз знаходзімся ў добрым настроі. Вёсачка наша мае назву Стары Пруд. Знаходзіцца яна за пятнаццаць кіламетраў ад горада Чэрвеня. Не скажу, што яна вельмі вялікая, але маленькай яе лічыць таксама нельга. Некалькі вуліц са звычайнымі назвамі: Савецкая, Берагавая, 60 гадоў Кастрычніка, Партызанская, Маладзёжная. З усіх бакоў — лес, у якім і ягад, і грыбоў хапае ўсім.

Даўным-даўно каля нашай вёскі працякала шырокая і глыбокая рэчка, на якой стаяў млын. Верагодна, ад гэтага такая назва ў нашага Старога Пруда. Аднак цяпер ад глыбокай калісьці ракі засталася невялічкая — усяго па калена — рэчанька Уса. Затое за некалькі метраў ад яе знаходзіцца маленькае выкапанае возера. У летні гарачы дзень так хораша асвяжыцца ў халаднаватай яго вадзічцы! А затым — у рэчку, у ледзяную ваду... Бррр!

У вёсцы працуе сельскі клуб, у якім ёсць бібліятэка, і ўвогуле, там кожны можа знайсці сабе занятак па інтарэсах. А для аматараў патанчыць і павесяліцца — калі ласка, заходзьце на дыскатэку!

У нашым Старым Прудзе вялікая колькасць маляўнічых месцаў, дзе без фотаапарата проста нельга прайсці. Якія цудоўныя тут надвячоркі і світанкі!..

Прыемна бавіць вольны час вечарам на вуліцы. Свежае паветра, птушыны спеў, сонечнае святло — вось што прыносіць нам сапраўднае задавальненне.

Гэта праўда, што ў вёсцы летам у сто разоў лепш, чым у горадзе. Шпацыр на свежым паветры з лёгкасцю заменіць прагляд тэлевізара ці бясконцыя вячоркі за камп'ютарам. Што датычыць мяне, я не люблю быць у горадзе, калі прыйшлі летнія канікулы!

*Мар'яна ЯЦЭВІЧ,*
*16 гадоў, Мінск*




● **Дынамік**

# Быццам крычыць шэптам

R.Small — такі творчы псеўданім прыдумаў сабе таленавіты музыкант з Маладзечна Кірыл Насякайла. У 11 гадоў ён напісаў першую песню, а ў маі 2009 года ўжо выступіў у вядомым маладзечанскім клубе «Магніт». Праўда, гэтае выступленне R.Small лічыць не зусім удалым:

— Гэта быў джаз-рэп. Тады мы з прыяцелем Сяргеем дрэнна выступілі, таму што былі яшчэ зусім «зялёнымі», неспрактыкаванымі. Як той казаў, першы блін камяком. Аднак песня атрымалася «сакавітая»!

Потым пазнаёміліся з гуртом «Інверсія», пасябравалі і пачалі выступаць разам. Да іх далучыліся яшчэ некалькі знаёмых музыкантаў. Ну, не мог жа такі вялікі гурт з сямі чалавек ніяк не называцца! Назва калектыву прыйшла адразу — Sake Music, што ў перакладзе з англійскай мовы азначае «дзеля музыкі».

Неўзаметку падкралася ідэя стварыць аматарскую студыю. Яе сабралі дома ў Кірыла. Sake Music запісаў некалькі трэкаў.

Так Sake Music сталі жаданымі гасцямі ў мінскім клубе Fabrikue. Пазней хлопцы ўсвядомілі, што кожны з удзельнікаў гурта хоча рэалізавацца ў сваім кірунку, часам погляды хлопцаў на музыку разыходзіліся. І неўзабаве былых удзельнікаў Sake Music стала аб’ядноўваць толькі агульная студыя.

У маі 2010-га Кірыл прадставіў свой першы альбом «Пра сябе».

— Гэта расповед пра маё жыццё ў 14 трэках… Можа быць, хтосьці пазнае сябе ў гэтых песнях, — апісвае свой альбом юны музыкант.

Праз год у клубе «Магніт» R.Small прадставіў другі альбом «Эквілібрыўм» (у перакладзе з лацінскай — «раўнавага»). Альбом сапраўды атрымаўся гарманічным. У ім зліваюцца песні з восеньска-зімовым і вяснова-летнім настроем, тым самым ствараючы так званы эквілібрыўм.

Некалькі трэкаў Кірыла праслухалі мае знаёмыя, і ўсе сышліся ў меркаваннях: «Ён — таленавіты хлопец!» Кожны адзначыў, што яго песні прасякнуты каласальнай энергіяй. У некаторыя моманты забываеш дыхаць ад таго, як пранікнёна гучыць голас хлопца. Ён быццам крычыць шэптам.

На пытанне, як нараджаюцца песні, Кірыл адказаў проста:

— У мяне няма ніякай музычнай адукацыі! Спачатку я пішу музыку на камп’ютары, а потым тэкст. Лепшыя трэкі атрымліваюцца ў часы эмацыйнага ўздыму. Хаця апошні альбом я напісаў, задаўшыся мэтай.

Акрамя запалу да музыкі, Кірыл захапляецца графіці і гуляе ў баскетбол. Нядаўна R.Small пасябраваў з музыкантамі-аднадумцамі, і цяпер яны жадаюць запісаць разам некалькі трэкаў, ужо з жывой музыкай.

А пазней Кірыл зноў запіша свой асабісты альбом. І зноў непаўторны…

*Ганна ФІЛІСТОВІЧ, 15 гадоў, Маладзечна*

# Ларыса, Рарыса, Лаліса

Мы самі выбіраем сяброў ці нам пасылае іх лёс? Не ведаю...

Так атрымалася, што ў розныя перыяды жыцця я сябравала з рознымі людзьмі. І са шматлікімі з іх, на жаль, страціла сувязь. Але я ніколі не забуду сваю першую сяброўку Юлю, з якой мы жылі ў адным доме, на адным паверсе, за сценкай адна ад адной. Менавіта дзякуючы ёй маё дзяцінства было такім яркім і незабыўным. Мы правялі разам усе пяць гадоў, што жылі ў адным доме.

Як ні дзіўна, Юлі заўсёды больш падабаліся мае рэчы, а мне — яе. Таму кожны раз мы мяняліся ў пад'ездзе адзежай, перш чым ісці гуляць. Мы былі аднолькавага росту, з аднолькавым колерам валасоў, і нашы мамы, гледзячы з акна, часам блыталі нас.

У нас была лялька Ларыса, хаця звалі мы яе па-рознаму. Я называла яе Рарысай, а Юля — Лалісай. І з-за гэтага мы часта спрачаліся. А яшчэ ў нас былі сябры Улад і Ян, якія таксама жылі ў нашым доме. Мы заўсёды гулялі ў вяселле: Юля і Ян былі сведкамі, а Улад і я — жаніхом і нявестай.

Але, калі мне было шэсць гадоў, мы з бацькамі пераехалі ў іншы канец горада. Увосень я пайшла ў школу. Усё змянілася, надышло новае жыццё. Нашы з Юляй шляхі разышліся, і мы страцілі сувязь.

Нядаўна мы выпадкова сустрэліся. Гэта была вельмі нечаканая і радасная сустрэча. Юля вельмі змянілася, вырасла. Як жа доўга я не бачыла яе! У маёй памяці ўсплылі цёплыя ўспаміны, але, ведаеце, мне захацелася плакаць. Здавалася, быццам яшчэ ўчора нам было па пяць гадоў, учора мы бегалі па двары, учора гулялі з Ларысай. А сёння — ужо чужыя. Мы ўспомнілі мінулае, а затым наступіла няёмкае маўчанне... Дзіўнае пачуццё. З такім родным, здавалася б, чалавекам няма пра што пагаварыць. У той жа дзень я вырашыла вярнуцца ў двор, дзе мы правялі дзяцінства. Ён вельмі змяніўся: дрэвы ссеклі, плот перафарбавалі, пад'езды адрамантавалі. Усё тут чужое, і нічога не нагадвае пра тое, што я калісьці тут жыла.

Раней я не разумела, як важна захаваць тое, што сапраўды дорага. Не забывайце сваіх сяброў!..

***Настасся ГОРБАТ,***
***15 гадоў, Маладзечна***



